МІХАСЬ
АМЯЛІШКА

# Гучыць наш хор

*Аб дзейнасці Гродзенскага хору беларускай духоўнай музыкі «Бацькаўшчына»*

Мінск
«Кнігазбор»
2009

УДК 784.1.077 (476.6)
ББК 85.314 (4Беи)
А61

Прадмовы
А. М. Белакоза, Я. К. Петрашэвіча

**Амялішка, М. В.**

А61 Гучыць наш хор : аб дзейнасці Гродзенскага хору беларускай духоўнай музыкі «Бацькаўшчына» / Міхась Амялішка; прадм. А. М. Белакоза, Я. К. Петрашэвіча. — Мінск : Кнігазбор, 2009. — 176 с.

ISBN 978-985-6930-52-5.

У гэтай кнізе апавядаецца пра дзейнасць гарадзенскага хору беларускай духоўнай музыкі, «Бацькаўшчына», які быў створаны ў 1991 годзе дзякуючы намаганням сяброў грамадскай арганізацыі «Паходня». За апошнія васямнаццаць гадоў сваёй валанцёрскай дзейнасці аматарскі хор пад кіраўніцтвам хормайстра Веры Кунцэвіч правёў каля трох сотняў канцэртаў у Беларусі і за яе межамі.

**УДК 784.1.077 (476.6)**
**ББК 85.314 (4Беи)**

**ISBN 978-985-6930-52-5**



Славім Бога на нябёсах,
А на зямлі сцвярджаем мір.

## *Гучыць наш хор «Бацькаўшчына»*

Мне часта даводзілася чуць беларускія патрыятычныя песні ў выкананні хору «Бацькаўшчына».

Заўсёды і прысутных, і мяне хвалявала прафесійнае выкананне нашых патрыятычных песень. Яны гучалі і ў Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі, і на магіле дзеда Ларысы Геніюш, праваслаўнага верніка Паўла Францавіча Міклашэвіча, і перад вучнямі Гудзевіцкай сярэдняй школы, і каля помніка князю Вітаўту ў Гародні, на ўшанаваннях нашых беларускіх патрыётаў.

Лічу, што нарыс «Гучыць наш хор» Міхася Васільевіча Амялішкі мае вялікае пазнавальнае і патрыятычнае значэнне, а таксама важны для ўвекавечання таго, што зроблена гэтым хорам за 15 гадоў яго дзейнасці.

Гэты твор з цікавасцю будзе ўспрыняты беларускім патрыятычным грамадствам. Ён зацікавіць і ўніятаў, і праваслаўных, і каталікоў.

Хоць у асноўным дзейнасць хору звязана з каталіцкай і ўніяцкай канфесіямі, аднак тут распавядаецца і пра выступленне хору ў праваслаўнай царкве Каложы (Гародня). У храмах цэркваў мястэчка Парэчча, Турэц і іншых.

Некаторыя вершы ўдзельнікаў маюць недапрацоўкі, але ж гэта творы аматараў. Патрыятычнасць гэтых вершаў дае ім права гучаць для шырокай аўдыторыі.

Спадар Амялішка ў сваім творы паказаў значэнне хору ў выхаванні беларускага патрыятызму, які так заўзята выбіваўся з нас каталіцкім касцёлам і праваслаўнай царквой. А ён, гэты патрыятызм, так патрэбен для нашага хворага на манкуртызм, нігілізм ды рэнегатызм грамадства.

Я ўдзячны сп. Амялішку за тую вялікую працу, якую ён уклаў у стварэнне хору «Бацькаўшчына», і напісанне нарыса.

І хор, і нарыс — агульнабеларускае дасягненне нашай культуры.

*Алесь Белакоз*
*11 студзеня 2007, вёска Гудзевічы*

# Тут калектыў, сям'я адзіна…

Тут калектыў, сям'я адзіна,
Адзіны подых і пагляд,
Тут адчуваеш, як Радзіма
Свой пашырае далягляд.

*Ю. Сіткевіч*

Кожны народ мае свой менталітэт: сваю культуру, мову, традыцыі, духоўныя творы, у тым ліку і музычныя.

Хор «Бацькаўшчына» ў Гародні, якім ужо на працягу пятнаццаці гадоў кіруе спадарыня Вера Кунцэвіч, — гэта скарбніца беларушчыны, у якую яна разам са сваімі паплечнікамі ўклала цяпло сваёй душы. І тое дорыць упэўненасць, радасць, захапленне…

Хор Бацькаўшчына і яго кіраўнічка — адзінае цэлае. Дзякуючы яе нястомнай, кіпучай энергіі быў створаны хор. Увесь час ён удасканальваецца і пульсуе, пашырае і папаўняе рэпертуар, з'яўляецца мнагапланавым. Вызначыў свой асноўны напрамак у творчай дзейнасці — гістарычны каляндарна-абрадавы.

У паэта Юрыя Сіткевіча, былога ўдзельніка хору, ёсць радкі, якія трапна характарызуюць творчую атмасферу калектыву і з'яўляюцца музычнай візітоўкай:

Акорды музыкі духоўнай
Ўладараць намі у цішы.
Гучыць наш хор, і так цудоўна,
Бы льецца спеў з глыбіні душы.

Чытачу, спадзяемся, будзе цікава даведацца, як сталела «Бацькаўшчына», прабіваючыся, нібыта той парастак, цераз цяжкасці і нягоды.

Мацавалася зладжанасць і духоўнасць гурта, набываўся непаўторны стыль.

Хор «Бацькаўшчына» — гэта актыўная падрыхтоўчая і канцэртная дзейнасць, удзел у фестывалях і рэлігійных службах, нацыянальных каляндарна-абрадавых святах, такіх як Вялікдзень, Купалле, Калядкі, Дзяды.

Хор «Бацькаўшчына» шануе выбітных асобаў Беларусі: кампазітараў Міколу Куліковіча-Шчаглова, Міколу Равенскага, гісторыка Міхася Ткачова, паэтаў Гродзеншчыны Апанаса Цыхуна, Ларысу Геніюш і іншых.

Хор «Бацькаўшчына» — мастацкі гурт, чый стройны голас чуваць ня толькі ў многіх мясцінах Беларусі. З канцэртамі ён ездзіў у Польшчу, Украіну, Літву, Данію, Нямеччыну, Францыю… Тут дарэчы будзе сказаць

і пра аўтара зборніка Міхася Амялішку, які стаяў ля вытокаў стварэння хору. Так і просяцца ўдзячныя паэтычныя радкі на яго адрас:

Сустракае ветлаю усмешкай,
Дорыць нам рукі сваёй цяпло.
Беларусі волат — Міхась Амялішка,
Вам ад нас пашана і паклон.

У рэпертуары хору ёсць і мае творы. Я падараваў іх творчым людзям ад чыстага сэрца. І калектыў адказаў шчырай падзякай, выканаў іх на высокім узроўні. Гэта песні «Пабласлаўлёнае імгненне» на словы Ю. Сіткевіча, «Замак Мірскі — волі калыска», калядкі і купалінкі на мае словы з нотамі. Маю надзею, што наш творчы саюз будзе мацавацца і надалей. Думаю, што зборнік «Гучыць наш хор» дазволіць нам не толькі фрагментарна прасачыць шлях росту, станаўлення і сталасці калектыву, але і наталіць смагу духоўнасці каля самой жыватворнай крыніцы хору «Бацькаўшчына».

*Яўген Петрашэвіч,*
*кампазітар*



*Прысвячаю светлай памяці маёй жонкі Ліліі, самага блізкага мне сябра, актыўнай ўдзельніцы хору «Бацькаўшчына»*

## Гісторыя ўзнікнення нацыянальнага хору ў Гародні

Былая супрацоўніца музея рэлігіі Вікторыя Тарасевіч паведаміла мне:

— З таго часу, як я пачала вывучаць гісторыю рэлігіі беларусаў, я даведалася, што беларусы поўнасцю адлучаны ад сваёй рэлігійнай спадчыны, у прыватнасці, ад аўтэнтычнай духоўнай музыкі і спеваў, а гэта ўсё роўна што згубіць душу.

Прыналежнасць беларусаў да некалькіх хрысціянскіх канфесій — да праваслаўнай, каталіцкай у двух абрадах (рыма-каталіцкай і грэка-каталіцкай) і пратэстанцкай — драматычным чынам спрыяла і спрыяе дасюль таму, што беларусы (бадай, у большасці) не разумеюць, што культурныя набыткі ў галіне духоўнай музыкі (усіх канфесій) належаць у роўнай ступені агульнай беларускай культуры і спадчыне.

Што адбылося, да прыкладу, у беларускай праваслаўнай царкве?

З часоў прыняцця хрысціянства на агульнай візантыйскай аснове пачалі складвацца своеасаблівыя рысы царкоўнага мастацтва, прынамсі ў музыцы, на якую, натуральна, пачаў уплываць родны, уласцівы беларусам мелас.

Да XVI стагоддзя поўнасцю склаліся свае, уласцівыя беларускай праваслаўнай царкве распевы (Супрасльскі, Віленскі, Мірскі і шмат яшчэ якія), што складалі адметнасць нашай царквы. Трэба таксама ўлічыць і пазалітургічныя спевы, якія ствараліся і самім народам, і прафесійнымі кампазітарамі. Па архіўных звестках нам вядомы нават імёны некаторых кампазітараў, якія цяпер поўнасцю забытыя.

Уніяцкая царква вельмі беражліва, ахайна прадоўжыла музычную традыцыю заходнерускай праваслаўнай царквы. Але сталася так, што з забаронай уніі ў 1839 годзе было адкінута ўсё назапашанае царквой з моманту яе ўзнікнення ў X ст., у тым ліку і музыка. Перавод у праваслаўе азначаў увядзенне расійскай сінадальнай практыкі ва ўсім — архітэктуры, абразах, літургічных спевах. Забараняліся таксама пазалітургічныя, народ-

ныя, па сутнасці духоўныя песні, асабліва якія ўзніклі ва ўлонні ўніяцкай царквы.

Пазней яны былі сабраны ў немалой колькасці этнографамі, да прыкладу, Кіркорам.

А я моцна хацела, каб беларускі народ і астатні свет уведалі, што стварыў беларус-праваслаўны, беларус-каталік, беларус-пратэстант у галіне духоўнай музыкі, каб вярнуўся да сябе, любіў і шанаваў сваё, створанае за тысячу год. Вось чаму і ўзнік хор.

У Савецкай Беларусі рабілася ўсё, каб знішчыць рэлігію і абмежаваць карыстанне беларускай мовай. Аб гэтым сведчаць факты разбурэння храмаў і закрыццё беларускіх школ. Да таго часу, калі ў Менску ўзнік нацыянальны клуб «Талака», у Гародні «Паходня», у Гомелі «Талака» і г. д., у Беларусі не было амаль ніводнай школы, якая б дзейнічала цалкам на беларускай мове. Кампартыя СССР уважліва сачыла і дазваляла беларусам толькі тое, што яна лічыла не супярэчлівым яе ідэалогіі. Так, беларусам не дазвалялася спяваць патрыятычныя песні, бо іх лічылі нацыяналістычнымі.

За выкананне песні-гімна Макара Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» карныя органы бальшавікоў арыштоўвалі спевакоў, судзілі і адпраўлялі ў ГУЛАГ. Акрамя патрыятычных песень, пры Саветах забаранялася выконваць духоўныя песні ў клубах і на адкрытых пляцоўках. Таму кампазітары, якія складалі такія творы, вымушаны былі пры спрыяльных умовах выязджаць, уцякаць ад «савецкага раю» на Захад і там складаць свае Боскія творы. Такі лёс напаткаў Міколу Равенскага, Міколу Куліковіча-Шчаглова, паэтку Наталлю Арсенневу і шмат іншых. А тыя, хто не з’ехаў, трапілі ў ГУЛАГ. Напрыклад, Ларысу Геніюш і яе мужа за патрыятычную дзейнасць рэжым Сталіна засудзіў на 25 гадоў папраўчых лагераў. Свае пакуты Л. Геніюш апісала ў кнізе «Споведзь».

Калі пры Гарбачове пачалася «перабудова», прыйшло разуменне, што далей так жыць нельга. КПСС паступова трацiла сваю ўладу, а ў сувязі з гэтым яе ідэалагічныя ўстаноўкі гублялі сваю сілу. Аднак трэба зазначыць, што адыход ад бальшавіцкай ідэалогіі адбываўся не імгненна, а расцягнуўся на дзесяцігоддзі. Нягледзячы на тое, што адбылося за апошнія гады, ужо загамаваць, вярнуцца да камуністычнай ідэалогіі і яе татальнага адсочвання наўрад ці магчыма.

Неабходнасць мець нацыянальны хор пры клубе «Паходня» ўзнікла амаль што з моманту яго арганізацыі (1986 год). Аднак спатрэбілася пяць гадоў, каб нарадзіўся духоўны хор «Бацькаўшчына».

У пачатку лета 1988 года нас, сяброў клуба, запрасілі на паездку ў Друскенікі, каб наведаць магілу пачынальніка беларускай літаратуры Яна Чачота. Па дамоўленасці прэзідэнта клуба прафесара Міхася Ткачова з літоўскімі сябрамі мы сабраліся ў паездку.

Толькі што пачалося лета. Стаяла сонечнае надвор'е. На небе ні адной хмурынкі, адцвіў бэз. Каштаны, якія «плылі» нам насустрач, толькі што скінулі свае бела-ружовыя пялёсткі, прыкрыўшы зямлю пад сабой. Сям-там былі бачны невялікія кусты язміну, яны мелі колер свежа збітага ў сялянскай бойцы масла. Таму, відавочна, невыпадкова язмін у некаторых рэгіёнах называюць маслёнкай. Лістота дрэў у гэтую пару набыла насычаны цёмна-зялёны колер. Настала чарга росквіту іншых дрэў: каліны, рабіны, белай і жоўтай акацыі. Да мяжы мінаем вёскі: Грандзічы, Зарыцу, Гожу і Крынічнае. А пасля аж да самай літоўскай граніцы плыве нам насустрач сасновы лес з невялікай прымессю бярэзін, асін, рабін і падлеску.

Прыехалі на мяжу з Літоўскай ССР, дзе сябры-літоўцы сустракалі нас патрыятычнымі песнямі на сваёй нацыянальнай мове. Мы ж, сябры клуба «Паходня», не маглі адказаць ім спевамі на сваёй мове, таму што не мелі свайго ўласнага нацыянальнага хору. Гэты выпадак падказаў нам: рыхтуйцеся, знаходзьце сваю спадчыну песень, стварайце свой нацыянальны хор, каб надалей не было сорамна за наша няўмельства перад людзьмі і Богам. Гэтая сустрэча падштурхнула кіраўніцтва клуба звярнуцца да спецыялістаў, каб з пахаднянцаў арганізаваць беларускі нацыянальны хор.

Першым такім спецыялістам, да якога звярнуўся прэзідэнт клуба «Паходня» прафесар Міхась Ткачоў, быў Алесь Лойка — кіраўнік ансамбля «Гарадніца». Ён правёў некалькі рэпетыцый з сябрамі клуба летам 1990 года. Я быў удзельнікам гэтых пробных рэпетыцый і памятаю, што яны праз нейкі час былі прыпынены — сп. Лойка не захацеў з намі займацца, відавочна, палічыў, што з пахаднянцаў немагчыма ўтварыць хор.

Летам 1991 года мы рыхталіся ў паездку для ўшанавання гадавіны смерці Ларысы Геніюш у Зэльву. Сябрам «Паходні» прапанавалі развучыць песню Яўгена Петрашэвіча на словы Л. Геніюш «Зэльва — наш гарадок». Рэпетыцыі праводзіў сам аўтар. У дзень паездкі Я. Петрашэвіч захварэў. Хор застаўся без дырыжора.

Вікторыя Тарасевіч, супрацоўніца музея Максіма Багдановіча, разумела, што для паспяховага правядзення імшы на беларускай мове неабходна мецца хор духоўнай музыкі. Яна звярнулася да знаёмай выкладчыцы фартэпіяна Наталлі Валчковіч з тым, каб яна дапамагла ёй знайсці спецыяліста, які б змог у Гародні ўзначаліць такі хор. Спн. Валчковіч прапанавала Веры Кунцэвіч, выкладчыцы спеваў музпедвучылішча:

— Мяне заўсёды цікавіла багатая, амаль забытая музычная спадчына нашых беларускіх кампазітараў М. Равенскага, М. Куліковіча-Шчаглова, Бутомы і іншых, — адказала спн. Вера. — Яны стваралі велічныя творы духоўнай музыкі. Таму я не супраць такой цікавай прапановы і паспрабую арганізаваць такі хор.

# *Пачынальнікі хору «Бацькаўшчына»*

У канцы лістапада 1991 года групу сяброў «Паходні» — М. Амялішку, І. Лапеху, С. Маразевіч, Ю. Тарасевіча, В. Парфёненка і Н. Шаставіцкую — спадарыня Вікторыя Тарасевіч запрасіла на рэпетыцыю ў музпедвучылішча (цяпер гэтае вучылішча завецца педагагічным каледжам). Там нас ветліва сустрэла Вера Кунцэвіч, і мы разам пайшлі ў адзін з класаў. Вучылішча было перапоўнена навучэнцамі: мы не адразу знайшлі свабоднае месца для сустрэчы.

Запрошаныя на арганізацыйны сход занялі адну з аўдыторый на другім паверсе. Спн. Вера пасля таго, як мы ўселіся, адрэкамендавалася:

— Завуць мяне Вера Васільеўна. Працую выкладчыцай спеваў. Сёння на наш сход запрошаны прадстаўнікі гістарычнага клуба «Паходня» і студэнткі нашага вучылішча з тым, каб арганізаваць упершыню ў Гародні хор беларускай духоўнай музыкі.

Беларуская духоўная музыка захоўваецца да сёння ў царкоўных і касцельных архівах, запасніках бібліятэк — як дзяржаўных, так і прыватных. І нам належыць знайсці партытуры гэтых песень і дабіцца таго, каб яны загучалі ў нашым будучым хоры. Акрамя таго, нам неабходна атрымаць творы беларускіх кампазітараў, якія эмігрыравалі за межы нашай краіны і там стваралі свае музычныя шэдэўры. Вось коратка праграма работы хору. А зараз мы мусім вырашыць арганізацыйныя пытанні, каб хор пачаў сваю дзейнасць. Нам у першую чаргу неабходна выбраць старшыню хору.

— Паважаная спн. Вера, мне ў 1950-х гадах давялося, бяўшы студэнтам, удзельнічаць у хоры педагагічнага інстытута Гародні, там я выконваў ролю старшыні, магу ўзяць на сябе такі абавязак і ў нашым хоры, — прапанаваў я.

З гэтай прапановай усе пагадзіліся.

— Другое пытанне, якое належыць нам вырашыць, — працягвала спн. Вера, — дамовіцца, на якой мове мы будзем весці нашы рэпетыцыі.

І тады слова зноў папрасіў я.

— Лагічным будзе весці нашы рэпетыцыі на нацыянальнай беларускай мове, таму што песні, якія мы збіраемся выконваць, у сваёй большасці напісаны менавіта па-беларуску.

Пярэчанняў ад прысутных не паступіла, і была прынята прапанова паступова выкарыстоўваць пад час рэпетыцый беларускую мову.

— З 25 снежня пачынаюцца каталіцкія Каляды, — працягвала спн. Вера, — а з 7 студзеня праваслаўныя, і нам неабходна ў першую чаргу падрыхтаваць калядныя песні да гэтага тэрміну. На наступнай рэпетыцыі распрацаваць сцэнарый калядак і аднавіць традыцыю калядавання па хатах. Таму ўжо сёння пачнём рэпетыцыю. Але перш за ўсё мушу паведаміць вам, што рыхтуюся стаць маці і ў будучым годзе пайду ў дэкрэтны адпа-

чынак. На гэты час прызначу на сваё месца хормайстра, які будзе весці з вамі рэпетыцыі. А зараз прапаную, каб не губляць часу, пачаць рэпетыцыю — развучыць песню кампазітара Міколы Равенскага «Магутны Божа», напісаную на словы Наталлі Арсенневай.

Развучваннем гэтай велічнай песні-гімна закончылася першая рэпетыцыя новастворанага хору, які пазней атрымаў назву «Бацькаўшчына».

На другую рэпетыцыю студэнткі музпедвучылішча не прыйшлі. Узнікла пытанне: як нам існаваць, калі ў хоры амаль што няма жанчын? А якія адносіны будуць да нас з боку адміністрацыі вучылішча? Не зважаючы на гэтыя складанасці, мы пачалі запрашаць да ўдзелу ў хоры не толькі сяброў клуба, але і тых, хто любіць песню, не цураецца беларускай мовы і мае музычныя здольнасці. На наступныя рэпетыцыі да нас прыйшлі мая жонка Лілія і выкладчык фізікі Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута Юрый Сіткевіч. Пабываўшы на адной рэпетыцыі, яны вырашылі, што іх узрост не спрыяе плённай працы хору, і на наступную рэпетыцыю не прыйшлі. Аднак пазней яны да нас вярнуліся. У гэты цяжкі час станаўлення хору як калектыву я параіў спн. Веры звярнуцца да клуба «Паходня», каб пашырыць склад хору. Яна пагадзілася і папрасіла мяне схадзіць на бліжэйшы сход клуба.

На чарговым паседжанні «Паходні» вырашана: даўкамплектаваць хор сябрамі клуба і перанесці рэпетыцыі ў ГДК. Старшыня «Паходні» сп. Аркадзь Жукоўскі падтрымліваў хор, спрыяў яго рабоце.

Пачаліся рэпетыцыі на новым месцы. На іх прыйшлі ўдзельнікі хору і сябры клуба. Мастацкі кіраўнік Вера Васільеўна запрашала ўсіх спяваць у хоры і нават не правярала музычных здольнасцяў асобы, а разважала: хочаш спяваць — заставайся. Яна спадзявалася, і не без падставы, што ўдзельнік хору сам вырашыць — здольны ён спяваць ці не. Таму на рэпетыцыі пачала хадзіць значная частка сяброў «Паходні». Былі тут студэнты ўніверсітэта Наталля Маліноўская, Таня Галубовіч, Людміла Палякова, Кацярына Адамчук, Алег Заяц, Ігар Лапеха, Галіна Плаўская, Юрый Тарасевіч; навуковыя супрацоўнікі Мікалай Таранда, Святлана Маразевіч, эканаміст Ніна Шаставіцкая; пенсіянеры Міхась Амялішка, Лізавета Ганец, Алесь Талерчык, Пётр Башко; інжынеры Кастусь Жынь, Андрэй Ваўчак, Анатоль Варкулевіч. Пазней некаторыя, што прыйшлі тады, пакінулі хор па тых ці іншых прычынах, а на іх месцы з'явіліся новыя.

Быў канец снежня 1991 года. Па прапанове спн. Веры пачалі паскорана развучваць калядныя творы. З цыкла гэтых песень загучалі «Неба і зямля», пачутая мною яшчэ ў 1930-я гады на польскай мове, «Ой на моры, моры», «Учора звячора», «Ціхая ноч» і інш. Распрацоўвалі сцэнарый калядак — працавалі над тымі песнямі, якія знаходзіла наша спн. Вера ў запасніках бібліятэк і ў знаёмых. Да каталіцкіх свят мы ўжо былі падрыхтаваныя.

# *Першыя калядаванні і канцэрты*

Каляды мы пачалі спевамі ля праваслаўнага сабора і музея Элізы Ажэшкі. Нашы спевы выклікалі зацікаўленасць гараджан. Яны былі здзіўлены нашай смеласцю, таму што ў Гародні амаль 52 гады такога не назіралася. Пры саветах калядаванне забаранялася. А тут раптам з’явіліся смельчакі, якія так прыгожа спяваюць калядныя песні. Пачаліся кантакты харыстаў з прахожымі. Некаторыя з іх цікавіліся, як далучыцца да нас і спяваць разам з намі. Менавіта ў той час у хор прыйшла супрацоўніца дзіцячай установы Людміла Еслікава, якая нейкі час наведвала рэпетыцыі, удзельнічала ў канцэртах і пакінула хор па сямейных абставінах. Вось такія харысты, нягледзячы на тое, што з намі спявалі непрацяглы час, зрабілі свой унёсак у станаўленне хору ў цэлым.

Калядаванне па асабістым запрашэнні ўпершыню мы праводзілі ў спадарства Маліноўскіх на каталіцкія Каляды па вуліцы Цаглянай за рэчкай Гараднічанкай. Сустракалі невялікую групу калядоўшчыкаў гаспадары шчыра і ветліва, і мы кожны год на Каляды не мінаем іх хаты.

На праваслаўныя Каляды 1992 года нас запрасілі выступіць з канцэртам у 7-м вучылішчы па вуліцы Дзяржынскага перад навучэнцамі і супрацоўнікамі. Па дарозе ў тралейбусе мы пачалі спяваць калядкі-шчадроўкі. Пасажыры, якія ехалі з намі, былі здзіўлены незвычайнай падзеяй. І калі мы заспявалі калядку «Учора звячора», дзе ёсць такія словы: «Каляду нам дайце, дайце, не шкадуйце», дык адзін з пасажыраў так расчуліўся, што аддаў нам пакунак піражкоў.

Выступіць з каляднай праграмай на праваслаўныя святы нас запрасілі Тамара і Алесь Талерчыкі з вуліцы Каліноўскага. У іх прысутнічалі дачка з мужам і ўнучкамі. Група харыстаў разыгрывала каляднную інсцэніроўку. Былі тут каза, мядзведзь, зайцы, ролі іх выконвалі нашы лепшыя харысты па адпаведным сцэнарыі. Пазней група калядоўшчыкаў выступала па вуліцы Соламавай у спадарства Зыльковых, дзе нас прымалі як самых дарагіх гасцей. З гэтага часу ў Гародні ўзнавілася традыцыя калядавання пасля бальшавіцкага застою.

Мастацкі кіраўнік спн. Вера ў канцы лютага пайшла ў дэкрэтны адпачынак і нарадзіла сына. Кіраваць намі ў якасці хармайстра прызначыла харыстку Святлану Высоцкую, выкладчыцу музыкі і спеваў адной з гарадзенскіх школ. Яна некалькі гадоў таму атрымала ў Менску вышэйшую музычную адукацыю на аддзяленні класічнай музыкі. Спн. Вера пазнаёміла Высоцкую з планам велікоднага цыкла песень, які яна скрупулёзна выконвала. Рэпетыцыі хора ў маі 1992 года прыйшлося перавесці ў іншае месца, таму што мы заміналі ансамблю «Нёман» праводзіць ягоныя рэпетыцыі. Харыст Кастусь Жынь прапанаваў перанесці заняткі хору ў канцэртную залу «Гроднаэнерга» па праспекце Касманаўтаў. Пачалася праца ў новым месцы,

дзе былі спрыяльныя ўмовы — піяніна на сцэне дапамагала дырыжорам. Аднак нас не задавальняла тое, што новае месца заняткаў было значна аддалена ад цэнтра горада, і складаны пераход па лабірынтах памяшкання «Гроднаэнерга». Не зважаючы на гэтыя дробязі, хор пашыраўся. Прыходзілі новыя ўдзельнікі. Ішло нармальнае развіццё творчага калектыву — мы раслі колькасна і якасна. Пачалася падрыхтоўка велікоднай праграмы. Наш хормайстар была добрым знатаком сваёй справы. Дэталёва выконвала ўсю праграму, якую яна атрымала ад нашага мастацкага кіраўніка. Пры ёй развучылі песні: «Вялік святы», «Хрыста, прыйшоўшага з нябёс…», велікодныя напевы «Хрыстос уваскрос з мёртвых» і інш.

Велікодную песню «Вялік святы нам дзень настаў…» я ўпершыню пачуў у 30-я гады XX ст., у сваім далёкім дзяцінстве, калі пад нашу хату, а гэта было ў вёсцы Бортнікі Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, рэгулярна раз на год у першы дзень Вялікадня ноччу прыходзілі вясковыя валачобнікі з гармонікам. Пачыналі поклічам: «Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос!» І пад гармонік спявалі: «Вялік святы нам дзень настаў, са славай з гробу зазіяў…» І так песня доўжылася 10–15 хвілін і налічвала не менш як 15 куплетаў. Усіх я зараз не памятаю. У песні апавядалася аб крыжовых пакутах Хрыста: як Ён быў асуджаны Понціем Пілатам на смерць, укрыжаваны побач з двума разбойнікамі, памёр на крыжы, пахаваны і на трэці дзень уваскрос.

Пасля спеваў маці выносіла валачобнікам пачастункі: яйкі, вяндліну, сала, хлеб і інш. І яны адыходзілі да суседняга хутара. Такое дзейства адбывалася з году ў год, пакуль у наш край не прыйшлі Саветы. Яны змагаліся за тое, каб вынішчыць веру ў Бога сярод грамадства, лічылі рэлігію опіумам для народа і забаранялі рэлігійную абраднасць, асабліва сярод навучэнцаў, дзяцей. Штогод адміністрацыяй любога тыпу школ вучням на Каляды і Вялікдзень забаранялася пакідаць школу. І ўсё гэта рабілася, каб вучні не ехалі да бацькоў і разам з імі не святкавалі. Каб адвучыць дзяцей ад рэлігіі, у гэтыя вялікія хрысціянскія святы адміністратары арганізоўвалі розныя спартыўныя мерапрыемствы, ладзілі канцэрты народных песень з такім падборам іх тэкстаў, каб яны не напаміналі ім Бога. Катэгарычна вучням забаранялася наведваць царкву…

Велікодную праграму ў красавіку вырашылі праверыць на гучанне ў царкве. Дамовіліся з адміністрацыяй Музея рэлігіі, які размяшчаўся ў той час у адрэстаўраванай царкве насупраць Новага замка. Пробны канцэрт адбыўся. Мы ўпэўніліся, і гэта пацвердзілі супрацоўнікі музея, што гучанне падрыхтаваных твораў на ўзроўні патрабаванняў.

Першы канцэрт з велікоднай праграмай адбыўся ў 120-м вучылішчы па вул. Курчатава. Запрасіла нас выхавацелька гэтай установы Ганна Барысік. Канцэрт навучэнцы вучылішча высока ацанілі, нехта нават выказаў здзіўленне: «Ого! Вы спяваеце як у царкве!» На наступную рэпетыцыю

хору Ганна Барысік прыйшла і ўлілася ў наш калектыў. Акрамя выхаваўчай работы ў вучылішчы, яна выкладала там беларускую мову і літаратуру. Пазней прывяла ў хор свайго мужа Аляксандра — выкладчыка нямецкай мовы Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута. Яны разам з хорам спявалі некалькі гадоў і ў сакавіку 1994 года пакінулі яго ў сувязі з сямейнымі складанасцямі. Мы ўдзячны ім за своечасовую дапамогу хору ў часы яго станаўлення. Спадарыня Ганна дапамагала нам не толькі спевамі ў партыі сапрана, але як спецыяліст-беларусіст уносіла неабходныя карэктывы пры засваенні харыстамі літаратурнай беларускай мовы.

Прыкметны след у нашым хоры пакінуў Пётр Башко. Ён прыйшоў у хор на пачатку 1992 года і быў актыўным харыстам барытонавай партыі да канца жыцця. Нягледзячы на свой узрост, а яму ў той час было больш як 76 гадоў, не звяртаючы ўвагі на ўсе жыццёвыя складанасці побыту, хваробы, Пётр Башко актыўна прымаў удзел ва ўсіх нашых канцэртных праграмах. Ён не толькі цудоўна спяваў, але і станоўча уплываў на тых харыстаў, якія фальшыва спявалі, перадаваў свой багаты жыццёвы вопыт. Светлая яму памяць. Смерць яго была першай незваротнай стратай нашага хору.

Значную ролю ў хоры «Бацькаўшчына» адыгралі спадарства Вера і Аляксандр Быкоўскія. Спачатку ў хор прыйшла Вера — летам 1992-га. Яе выпадкова сустрэла ў аўтобусе мая жонка Ліля. Пазнаёміліся. Ліля коратка расказала ёй, што існуе хор духоўнай музыкі, і запрасіла прыйсці на рэпетыцыю. Вера рэгулярна пачала наведваць хор і была адной з вядучых у партыі сапрана. Праз паўгода ў хор далучыўся яе муж Аляксандр. Ён выдатна ўпісаўся ў тэнаровую партыю. Разам з Быкоўскімі мы ўдзельнічалі ў многіх паездках з канцэртамі, у тым ліку ў першым Магілёўскім фестывалі духоўнай музыкі «Магутны Божа» ў 1993 годзе. Сп. Аляксандр у 1996 годзе пабываў разам з хорам у Даніі і запомніўся не толькі як выдатны выканаўца сваёй партыі, але і як грамадскі дзеяч. Ён паспрыяў пераходу рэпетыцый хору ў Дом прафсаюзаў, дапамагаў кваліфікаванымі парадамі ў рашэнні нашых гаспадарчых і асабістых праблем.

Значны ўнёсак у паспяховую дзейнасць хору зроблены Юрыем Тарасевічам. Ён таленавіты інжынер у галіне камп'ютарызацыі, мае добрыя музычныя здольнасці. Спачатку спяваў у тэнаровай партыі, а калі пасталеў — перайшоў у барытоны. Гэты чалавек з гумарам адносіцца да ўсялякіх спраў. Ён нацыянальна свядомая асоба, шчыра аддадзены адраджэнню Беларусі. Яго беларускасць і адданасць сваёй радзіме, мове выяўляліся не толькі ў спяванні беларускіх песень, але і ў тым, што ён першым са студэнтаў ГрДУ абараніў дыплом па спецыяльнасці на беларускай мове. Адыход Юрася ад хору адбываўся паступова. У яго пераважалі навуковыя інтарэсы. Хор у ягонай асобе страціў аднаго з вядучых выканаўцаў, і, відаць, назаўсёды. Ён дапамагаў хору і пасля таго, як яго пакінуў. На нашым дзесяцігадовым юбілеі па яго ініцыятыве зроблены цудоўны падарунак

харыстам — нотныя сшыткі, якія, што называецца, на апошнім навукова-тэхнічным узроўні дазваляюць захоўваць ноты кожнаму харысту.

У хор, з самага пачатку яго заснавання, па маім персанальным запрашэнні, прыйшоў мой лепшы сябра Юрый Сіткевіч. Ён меў неблагія музычныя здольнасці. Спяваў сем гадоў у басовай партыі. Мы з ім разам вучыліся ў Гродзенскім педінстытуце на фізіка-матэматычным факультэце. У інстытут Юрый прыйшоў на год пазней за мяне. Скончыў з дыпломам выдатніка ў 1954 годзе і быў накіраваны выкладчыкам фізікі ў вёску Сабакінцы (цяпер Першамайская, Шчучынскага раёна). Яго не пакінулі выкладчыкам педінстытута таму, што ягоны бацька адбываў пакаранне ў ГУЛАГу як «вораг народа». Праз два гады Юрыя перавялі ў Скідзельскую СШ выкладчыкам фізікі — туды, дзе я пачынаў сваю працоўную дзейнасць у 1953/54 навучальным годзе. Юрый — таленавіты выкладчык фізікі. Ягоны бацька пачаў працаваць настаўнікам з царскіх часоў. Настаўнічаў нават тады, калі сям’я Сіткевічаў была ў бежанстве ў Крыме. Вярнуўшыся на радзіму, Васіль Сіткевіч працягваў вучыць дзяцей пры ўсіх уладах: палякаx, першых Саветах, пры немцах. У 1944 годзе быў незаконна рэпрэсаваны. Прабыў у ГУЛАГу звыш дзесяці гадоў. Мне давялося сустрэцца з ім у мястэчку Азёры. У той час Юрый працаваў выкладчыкам фізікі мясцовай школы. Пасля ўсіх пакут Васіль Сіткевіч захварэў, і неўзабаве яго не стала. Пахаваны гэты пакутнік на радзіме ў вёсцы Раўкі. Сыну ўдалося зберагчы бацькоўскі дом. Летам уся сям’я выкарыстоўвае яго як летнік.

Юрый валодаў не толькі сваёй спецыяльнасцю. Гэта быў усебакова адораны ад прыроды чалавек. У 2005 годзе ён пакінуў гэты свет. Беларускае грамадства, я ўпэўнены, у асобе Сіткевіча страціла вучонага, які мог бы стаць вядомым фізікам Беларусі і атрымаць усе вышэйшыя вучоныя званні. Чаму ён гэтага не дасягнуў? Гэта тлумачыцца тым, што ягоны бацька беспадстаўна бальшавікамі быў прызнаны ворагам народу, арыштаваны і прысуджаны да пасялення ў ГУЛАГу. Сыну «ворага народа» Юрыю Сіткевічу быў закрыты шлях у навуку.

Пра Ю. Сіткевіча можна сказаць, што ён і фізік, і лірык. Нам, харыстам, хто з ім спяваў працяглы час, добра вядома яго хобі — складанне вершаў. На мой погляд, напісанне вершаў Юрыю ўдаецца лёгка таму, што яму ад прыроды Богам дадзены паэтычны дар. Ён заўсёды гатовы скласці верш на заказ і ў той жа час напісаць твор глыбокага грамадскага гучання. У якасці такога твора лічу неабходным прывесці верш «Бацьку», напісаны ў пачатку 1997 года.

Я не магу чытаць без слёз
Таго, што напісаў калісьці.
Верш на паперу перанёс
І бацьку адаслаў у лісце.

Ад родных ніў далёка нёс
Свой цяжкі крыж тады мой тата.
ГУЛАГ яму назначыў лёс,
А сэрца рвалася дахаты.

Я верш той цалкам прывяду.
На стыль Вы не звяртайце ўвагі,
У чатырнаццаць год каму
Хапае мудрасці, развагі?

«О папа, папа, дорогой мой,
Зачем тебе жить в одиночке?
Приедь, приедь скорей домой
И приласкай свойго сыночка.

Тогда прижмусь к груди твоей,
Как прижимался я когда-то,
И дорогих слов дорожей
Шептать я буду слово “Тата”.

І ў тыя доўгія гады
Мо ў боце, можа за падкладкай
Ад шмону і другой бяды
Бярог рэліквію мой татка.

(Мець трэба смеласць і адвагу,
Каб, не зважаючы на шмон,
Што часта ладзіўся ў ГУЛАГу,
Мог зберагчы лісточак ён.)

У куфарку драўляным мо,
Ці можа ў лагерным бушлаце
Прывёз той вершык ён дамоў
І захаваў у роднай хаце.

Пра верш забыўся я тады,
Не ўспамінаў аб ім і тата.
Мог верш прапасці назаўжды,
Як многае прапала з хаты.

Лісток зжаўцелы з вершам тым
Сярод папер праз паўстагоддзя
Я адшукаў. І зноў заныў
Той боль, ніколі што не пройдзе.

Даўно ўжо скроні ў сівізне,
І маю я гадоў багата,
Аднак дагэтуль чуцен мне
Той крык душы дзіцячай: «Тата!»

Вершы, напісаныя ім, пакуль што не надрукаваныя. У мяне няма сумнення, што ягоныя паэтычныя творы будуць калісьці апублікаваныя. Юрый пагадзіўся са мной, каб вершы, датычныя хору «Бацькаўшчына», былі ўключаны ў гэтыя ўспаміны. Тым больш, што само найменне нарыса «Гучыць наш хор» узята з верша Юрыя, па матывах якога напісаны кампазітарам Яўгенам Петрашэвічам аднайменны музычны твор, які ахвяраваны нашаму калектыву да дзесяцігадовага юбілею і з поспехам выконваецца на нашых канцэртах.

На апошнім юбілейным канцэрце мы пачулі з вуснаў Сіткевіча два вершы, якія аўтар прысвяціў хору. У зале прысутнічаў вядомы літаратурны крытык — прафесар Гарадзенскага універсітэта Аляксей Пяткевіч. Ён даў высокую ацэнку творам Ю. Сіткевіча. Наш мастацкі кіраўнік Вера Кунцэвіч і ўсе, хто з ім спяваў разам, з цеплынёй ставяцца да Юрыя таму, што ён сваімі гумарыстычнымі вершамі, іх трапным паэтычным словам стварае нашым юбілярам і ўсім прысутным добры настрой.

У 1998 годзе Юрый цяжка захварэў і, на жаль, пакінуў хор. Сувязей з намі не перарываў — заўсёды адгукнуўся на нашы запрашэнні і пісаў свае новыя творы. Па прапанове спн. Веры і з адабрэння калектыву хору Ю. Сіткевіч у 1993 годзе быў прэміраваны каштоўным падарункам — гадзіннікам з выявай «Пагоні» на Магілёўскім фестывалі «Магутны Божа» ў намінацыі «За беларускасць».

Яскравым прыкладам таго, як бальшавіцкая сістэма калечыла душы маладых таленавітых навучэнцаў, можам лічыць лёс Алеся Мікалаевіча Белакоза — дырэктара Гудзевіцкага этнаграфічнага музея ў Мастоўскім раёне. Мы не адзін раз выязджалі туды з канцэртамі як на Каляды, так і на Купалле, якое там заўсёды прыгожа абстаўлялася, праводзілася на высокім мастацкім узроўні. Пасля канцэртаў, з якімі мы выступалі ў Гудзевічах, сп. Белакоз знаёміў нас з багатай экспазіцыяй музея, з тымі дзеячамі паэзіі і літаратуры, якія нарадзіліся ў цудоўным краі Панямоння. Я лічу, што экспазіцыя музея ў Гудзевічах — адна з багацейшых не толькі ў Гродзенскай вобласці, але і ў Беларусі.

У прыватнай гутарцы А. Белакоз расказаў мне пра свае юначыя гады. У 1947 годзе Алесь, вучань Ваўкавыскай сярэдняй школы, атрымаў атэстат сталасці і вырашыў набыць спецыяльнасць лекара. Ён паехаў у Менск, каб здзейсніць сваю мару. Уступныя экзамены ў Мінскі медычны інстытут здаў на «выдатна», аднак у лік студэнтаў не быў залічаны, таму што ягоны бацька пры Польшчы ездзіў у Амерыку, каб зарабіць грошы ды купіць зямлю, а значыць, быў «ворагам народа». І гэта нягледзячы на тое, што афіцыйна бальшавіцкая прапаганда трубіла на ўвесь свет, што сын за бацьку не нясе ніякай адказнасці. Такіх фактаў парушэння правоў вучняў, у якіх бацькі незаконна рэпрэсаваныя, было столькі, колькі было загнана бацькоў у ГУЛАГ. А. Белакоз урэшце завочна закончыў педінстытут. Стаў

спецыялістам па беларускай мове і літаратуры. Працаваў і настаўнікам, і завучам Гудзевіцкай школы. У 1987 годзе яму прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры БССР. Ён арганізаваў пры Гудзевіцкай школе літаратурна-краязнаўчы музей і пры ім аддзел народнай медыцыны. Ягоная мара стаць лекарам здзейснілася — зараз у музей едуць людзі з усёй Беларусі, і не толькі каб пазнаёміцца з цікавымі этнаграфічнымі матэрыяламі, але і каб падлячыцца крамянёвай вадой, меднымі пласцінамі і іншымі сродкамі народнай медыцыны, якія рэкамендуе народны лекар А. Белакоз. Калі афіцыйная медыцына аказваецца бяссільнай пры лячэнні ракавых пухлін, то за лячэнне бярэцца Белакоз. Ён на асабістым прыкладзе даказаў, што ёсць сродкі народнай медыцыны, якія садзейнічаюць лячэнню гэтай страшнай хваробы. А цяпер уявіце, якіх бы поспехаў дасягнула афіцыйная медыцына, калі б у свой час Алесь атрымаў добрую медычную адукацыю. Бальшавікі заўсёды крытыкавалі прадпрымальных амерыканцаў за пераманьванне маладых таленавітых людзей (як тады называлі «купля мазгоў») з іншых краін. Янкі разумелі, што далейшы навуковы прагрэс залежыць ад маладых талентаў, а не ад таго, хто ў іх бацькі і чым яны займаліся ў мінулым. Як можна было разумець такую крытыку, калі бальшавіцкая сістэма душыла свае таленты сваёй ідэалогіяй? Не давала ім магчымасці атрымаць па душы адукацыю і прыносіць карысць сваёй радзіме.

У маі 1992 года па просьбе Віктара Шалкевіча хор спешна пачаў рыхтаваць канцэрт з рэпертуарам патрыятычных песень, каб выступіць у Доме афіцэраў у гонар Кастуся Каліноўскага. Гэта быў першы канцэрт, на якім прысутнічала начальства абласнога маштабу. І выступленне было няўдалым, таму што, як кажа прыказка, першы блін сабаку. Відаць, рыхтавалі ў асноўным духоўныя песні, а патрыятычныя наспех. І ўсё ж такі мы заявілі пра сябе, што гатовы спяваць і патрыятычныя.

## *Вяртанне ў хор мастацкага кіраўніка*

У канцы мая 1992 года наш хормайстар спн. Святлана Высоцкая заявіла, што яна адмаўляецца быць хормайстрам таму, што рыхтуецца стаць маці. Неабходна было тэрмінова знайсці замену спн. Высоцкай. Гэту навіну я вымушаны быў паведаміць спадарыні Веры. Яна ў той час з дзіцём была ў шпіталі. Спн. Вера прыняла даволі складанае асабістае рашэнне: вярнуцца ў хор і працягваць рэпетыцыі. Яна, як кажуць, прыйшла з карабля на баль — са шпіталю, і рэпетыцыі не прыпыняліся. За гэты, можна сказаць, гераічны ўчынак мы яе любім і паважаем. І вось у такі складаны час на дапамогу хору і асабіста спн. Веры прыйшла Сафія Трафімаўна Вераб’ёва-Дольская. Яна ахвяравала сваім вольным часам — няньчыла сына спн. Веры Алёшу. У той час, калі песні гучалі ў канцэртнай зале «Гроднаэнерга», на

вуліцы за вакном сядзела з Алёшам спн. Сафія. Мы за разуменне нашых складанасцей і бескарысную ахвярнасць заўсёды рады вітаць яе ў нас на нашых канцэртах, персанальных вечарынах.

У чэрвені 1992 года мы атрымалі просьбу ад падпалкоўніка Станіслава Судніка, які ў той час быў на чале воінскай адзінкі ў горадзе Масты, запісаць на касету беларускі нацыянальны гімн часоў Слуцкага збройнага чыну: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…» — з тым, каб пад музыку гімна ягоныя жаўнеры маглі прыняць прысягу на вернасць Беларусі. Песня-гімн у выкананні хору «Бацькаўшчына» своечасова запісана на аўдыёкасету карэспандэнтам Міхасём Дубравіным і адвезена ў Масты сп. Станіславу Судніку.

## Хор «Бацькаўшчына» спявае па-беларуску ў фарным касцёле Гародні

Працягвалася праца калектыву над песнямі духоўнага зместу. Спн. Вера атрымала запрашэнне ад беларускай каталіцкай суполкі падрыхтаваць хор для спеваў пад час святой імшы на беларускай мове. Пачаць імшу ўпершыню па-беларуску ў Фарным касцёле планавалася ў кастрычніку. Увесь гэты час хор «Бацькаўшчына» рыхтаваў рэпертуар — выконваў просьбу спн. Вікторыі Тарасевіч і ксяндза Анатоля Маркоўскага.

4 кастрычніка 1992 года хор «Бацькаўшчына» ўпершыню пачаў спевы ў Гародні ў Малой Базіліцы (Фарным касцёле), якія суправаджалі святую імшу. Ад гэтага дня кожную нядзелю а 15-й гадзіне пачыналася імша на беларускай мове. Удзельнікі хору прыходзілі на хоры Фарнага касцёла і спявалі кананічныя песні-малітвы, якія звычайна заканчваліся рэлігійным гімнам «Магутны Божа» пад акампанемент арганіста Бруна Тэрмена.

Беларусь — шматканфесійная краіна. У Вялікім Княстве Літоўскім жыло да 80 % беларусаў (тады іх звалі літвінамі), а на захадзе да 90 % належалі да грэка-каталіцкага веравызнання, а працей іх называлі ўніятамі. Грэка-каталіцкая царква царскімі ўладамі была забаронена, таму што яна складала канкурэнцыю праваслаўю і, акрамя таго, падпарадкоўвалася Ватыкану. Пасля закрыцця ўніяцкай царквы на прасторах царскай імперыі частка жыхароў — больш адукаваная (шляхта і іншыя) — перайшла ў каталіцтва, а неадукаваныя сяляне ў сваёй большасці пад прымусам жандараў перайшлі «добраахвотна» ў праваслаўе. З таго часу прайшло больш як 170 гадоў, змянілася больш як шэсць пакаленняў, і амаль ніхто з нашчадкаў ад сваіх бацькоў не чуў аб тым, што іх продкі ў першай палове XIX стагоддзя былі ўніятамі, што большасць цэркваў і кляштараў належалі грэка-каталіцкай царкве. Калі мы здзіўляемся з незвычайнай архітэктуры праваслаўных

цэркваў у нашым рэгіёне, то часта не ведаем, што яны перарobленыя праваслаўнымі з былых уніяцкіх цэркваў.

І вось у Фарным касцёле пачалася штотыднёвая імша па-беларуску. Невялікая частка католікаў, якія раней лічылі сябе палякамі, пачалі хадзіць на імшу, якая адпраўлялася па-беларуску, таму што на гэтай мове яны штодзённа размаўляюць у сваёй сям'і. Іх дзяды і прадзеды ўжывалі яе заўсёды. Гэтыя людзі паступова прыходзяць да разумення таго, што яны беларусы, а вера іх каталіцкая. Разуменне прыхаджанамі-каталікамі, што яны беларусы, прыходзіць не раптоўна. Асіміляцыя каталікоў-беларусаў адбывалася так: калі ты каталік, дык палякі лічылі, што ты абавязкова паляк. І большасць каталікоў, якія хадзілі ў касцёл, — а імша там адбывалася толькі на польскай мове, — паступова пачыналі лічыць сябе палякамі. Калі мне давялося ў 2002 годзе пабываць на беларускай імшы, то я заўважыў, што колькасць прыхаджан павялічылася за апошні час у пяць разоў.

1992 год заканчваўся. Хор кожную нядзелю наведваў беларускамоўную імшу. Нашы спевы рабіліся ўсё больш дасканалымі, расло майстэрства выканання. Прыхаджане ў гутарцы з намі гаварылі аб тым, што ім падабаюцца нашы спевы. Да нас спрыяльна ставіўся ксёндз Анатоль Маркоўскі. Мы ўсім хорам пасля імшы прыходзілі ў закрысце на Божае Нараджэнне і Уваскрашэнне Хрыстова і там выступалі з невялікімі канцэртамі спецыяльна ў гонар святароў, віншавалі са святамі.

Да нас на рэпетыцыі прыходзіў ксёндз Анатоль. Мы разам абмяркоўвалі нашы планы. У мяне і па сёння захаваліся некаторыя партытуры рэлігійных песень, якія прапанаваў нам святар.

У склад хору «Бацькаўшчына» ўваходзілі прадстаўнікі розных рэлігійных канфесій. Большасць з іх былі праваслаўнымі. Другое месца займалі рыма-каталікі і грэка-каталікі, і адзінкі — пратэстанты. За ўвесь час удзелу хору ў каталіцкай імшы Фарнага касцёла паміж харыстамі на рэлігійнай аснове непаразуменняў не ўзнікала.

Усю восень і снежань 1992 года хор працягваў сваю працу над удасканальваннем раней засвоеных і развучваннем іншых твораў.

Значнай падзеяй у гэты час было тое, што да нас у хор прыйшла былая настаўніца спн. Веры Галіна Данілевіч і пагадзілася выконваць ролю хормайстра на грамадскіх пачатках — дапамагала сваёй былой вучаніцы. Спн. Галіна, па словах нашага мастацкага кіраўніка, была найлепшым хормайстрам за ўсе часы работы хора «Бацькаўшчына». На жаль, яна выконвала ўзятыя на сябе абавязкі толькі да сакавіка 1994 года.

Прыходзілі новыя ўдзельнікі: Марыя Саковіч, Інга Рышкевіч, Таццяна Сапажэнкава, Юля Халько, Марына Станчык, Алег Альфяровіч. Сярод іх вылучалася Марыя Саковіч. Яна атрымала добрую музычную падрыхтоўку. Мае выдатныя прыродныя дадзеныя: моцны альт, багаты тэмбр і выдатны музычны слых. Аднак яе больш за ўсё цікавілі менавіта народныя песні, беларускі фальклор. І яна, праспяваўшы ў нас нейкі час, пайшла ад нас. А зараз яна вядучая салістка ансамбля «Гасцінец».

З абноўленай каляднай праграмай выступалі пасля імшы перад вернікамі па просьбе ксяндза Анатоля на пляцоўцы насупраць алтара.

Па персанальных заяўках калядавалі ў каталікоў спадарства Маліноўскіх, а ў пачатку студзеня 1993 года ў праваслаўных сем'ях: Барысікаў, Зылькових і Талерчыкаў.

Вельмі плённым быў надышоўшы Новы год. Пасля Каляд рэпетыцыі праводзіліся рэгулярна. У хор вярнуўся тэнар Віктар Парфёненка, які і зараз, па магчымасці, прымае ўдзел у хоры — не толькі як харыст, але і як арганізатар паездак хору за межы горада і рэспублікі.

У сакавіку 1993 года хор выступіў з адмысловай праграмай патрыятычных песень. Упершыню прагучала песня «Маналог паўстанцкага каня», якую напісаў і выконваў С. Сокалаў-Воюш. Канцэрт быў прысвечаны 75-годдзю БНР.

## «Бацькаўшчына» едзе на пілігрымку ў Будслаў

На наступнай рэпетыцыі спн. Вера паведаміла нам, што ёсць магчымасць прыняць удзел у фестывалі «Магутны Божа», які адбудзецца ў Магілёве ў ліпені. Пасля абмеркаванняў прынялі рашэнне: рыхтаваць праграму да паездкі на фестываль. У красавіку прыйшлі да нас Наталля Сіманава і Людміла Кухарава і ўліліся ў партыю сапрана.

У гэты час ішла інтэнсіўная падрыхтоўка велікоднай праграмы, з якой мы выступалі перад удзельнікамі клуба «Паходня» пад час святкавання Уваскрасення Хрыстова. На 18 мая было запланавана выступленне на канцэртнай пляцоўцы парку імя Ж. Э. Жылібера з велікоднымі песнямі.

Пачаліся рэпетыцыі па падрыхтоўцы да фестывалю «Магутны Божа» і працягваўся кожную нядзелю ўдзел у святой імшы Фарнага касцёла.

Ксёндз Анатоль арганізаваў паездку на пілігрымку 2 ліпеня ў мястэчка Будслаў, дзе ў касцёле знаходзіцца цудатворны абраз Маці Божай Будслаўскай. У паездку быў запрошаны наш хор. Яму даручана спяваць на імшы, якую адпраўляў біскуп Казімір Свёнтак на беларускай мове. У канцы імшы біскуп паведаміў прысутным, што рашэннем Ватыкана Будслаўскаму касцёлу нададзены тытул Малой Базілікі. Хор, акрамя таго, прымаў удзел са спевамі ў традыцыйным шэсці. Пасля ўдзелу ў імшы, па просьбе прыхаджан, выступілі з невялікім канцэртам у касцёле перад цудатворным абразам Маці Божай Будслаўскай.

Скончылася свята. Мы едзем у Гародню разам са святаром Анатолем і законніцамі-пілігрымкамі ў адным аўтобусе, і, каб не губляць час — а хору належала 3 ліпеня выступаць з канцэртам на Купаллі, — спадарыня Вера пачала падрыхтоўку да канцэрту купальскіх песень. Законніцам гэта не спадабалася — яны лічылі, што пасля такой падзеі непрыстойна спяваць

купальскія песні. Яны пачалі выказваць сваё незадавальненне. Тады ксёндз Анатоль зрабіў ім слушную заўвагу:

— Песні, якія гучаць, — фальклор, і ён мае права на існаванне.

Пасля чаго законніцы супакоіліся, а мы працягвалі рэпетыцыю. Вярнуліся ў Гародню, калі сонца садзілася за гарызонт.

## *Хор «Бацькаўшчына» арганізуе Купалле*

Купалле ў Гародні «пахаднянцы» пачалі арганізоўваць у часы гарбачоўскай перабудовы ў 1988 годзе па прапанове і пры актыўным удзеле прэзідэнта клуба прафесара Міхася Ткачова. Усімі падрыхтоўчымі работамі кіраваў сп. Аркадзь Жукоўскі. Пад яго кіраўніцтвам была прывезена розная атрыбутыка, неабходная для выканання абрадавых дзеяў. Сцэнарый Купалля рыхтаваў таксама ён. Сп. Жукоўскі ў той час быў галоўным інжынерам гродзенскага рачнога порта — меў шырокія магчымасці абставіць купальскае свята на лепшым узроўні. Днём, задоўга да пачатку святочных мерапрыемстваў, была выбрана пляцоўка ў Румлёўскім парку за Нёманам, на якой паставілі палатку з усім неабходным для правядзення Купалля, дзе размясцілі ўдзельнікаў інсцэніроўкі, вогнішча.

Купальскае свята пачалося з заходам сонца: на лодцы з дружынай прыехаў князь Купаліш (гэта быў кіраўнік клуба «Паходня» сп. Таранда), выбралі сярод прысутных прыгожую дзяўчыну, якая выконвала ролю Купалінкі. Былі тут і «цёмныя сілы», якія вялі барацьбу з князем і Купалінкай.

На свяце прысутнічалі запрошаныя артысты Львоўскага тэатра імя М. Занькавецкай. Яны ў той час былі на гастролях у Гародні і прыўнеслі свой украінскі нацыянальны каларыт сваімі песнямі.

Свята прайшло цікава: тэатралізаваная дзея была досыць маляўнічай. Усе ўдзельнікі імправізацыі былі апрануты ў шыкоўныя касцюмы, што, безумоўна, уражвала гасцей і ў першую чаргу дзяцей. Купальскае свята пачалося, калі было запалена вогнішча. Пасля гучалі да самага ранняя беларускія і ўкраінскія песні. У чатыры гадзіны раніцы ўся грамада з вяночкамі ішла да Нёмана і пускала іх на ваду, каб яны плылі па рацэ. У гэты час надвор’е было цудоўным, а відовішча — незвычайным: вяночкі з запаленымі свечкамі плылі цугам, і доўга мы глядзелі за іх парадам, пакуль яны не зніклі за паваротам Нёмана. Сярод нас знайшліся смельчакі, якія распраналіся і плавалі ў рацэ на вачах грамады.

Свята скончылася а шостай гадзіне раніцы з пачаткам руху транспарту. Пляцоўка апусцела. Упершыню на Купаллі выкарыстоўвалася гістарычная нацыянальная сімволіка: бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. І гэта ўсё адбывалася ў савецкія часы. Улады Гародні не маглі не рэагаваць на та-

кую падзею — яны выставілі шыхт міліцыянтаў, якія стаялі на адлегласці 20 метраў ад купальскай пляцоўкі амаль усю ноч. Я не заўважаў, каб хтосьці з іх падыходзіў да пахаднянцаў і даваў указанні, што нам належыць рабіць і як сябе паводзіць. У наступныя два гады на тым жа месцы Купалле паспяхова паўтаралася, а калі кіраўніцтва клуба змянілася, то святкаванне чамусьці больш не праводзілася.

У 1993 годзе ініцыятыву арганізацыі Купалля ўзяў на сябе хор «Бацькаўшчына». Месца правядзення Купалля было зменена. Ад ранейшага мы адмовіліся, таму што яно размяшчалася на стромым беразе Нёмана, пад'ехаць на машыне ў непагадзь да пляцоўкі было амаль немагчыма. Па маёй прапанове вырашылі: праводзіць Купалле ва ўрочышчы Кукалі вёскі Зарыца. Новае месца адрозніваецца ад ранейшага тым, што там правы бераг Нёмана спадзісты. Да яго лёгка падысці і нават пад'ехаць у любое надвор'е. Тут жа на адлегласці 20 метраў ад ракі ўтворана прыродай пляцоўка-плато, на якой можна размясціць каля 300 чалавек, а ў цэнтры — вогнішча.

Ад дарогі, што цягнецца ўздоўж Нёмана, крута спускаемся да пляцоўкі, якая нагадвае амфітэатр, зарослы травой. На вузкай паласе паміж ракой і лесам, на ўсход ад ракі, пабудаваны ў 1980-я гады летнікі таварыства «Прынёманскае» і да іх падведзена электралінія. З гаспадарамі гэтых забудоў можна заўсёды дамовіцца: забяспечыць святлом, пітной вадой і нават месцам адпачынку ўдзельнікам купальскай імпрэзы. Адзіны недахоп урочышча Кукалі — тое, што яно знаходзіцца на адлегласці 10 кіламетраў ад цэнтра горада. Аднак, як вядома, да Зарыцы курсіруе з невялікім інтэрвалам гарадскі аўтобус, на якім за 15 хвілін можна даехаць да горада. Прыязджаючым на купальскае свята, неабходна пераадолець два кіламетры ад Зарыцы пешшу, каб апынуцца ў Кукалях.

Атрымаўшы неабходныя інструкцыі, першая група харыстаў і гасцей дабіралася 3 ліпеня ў канцы працоўнага дня да купальскай пляцоўкі. Мы дамовіліся з рэдактарам газеты «Пагоня», што ён забяспечыць дастаўку сталых удзельнікаў Купалля мікрааўтобусамі.

Тыя, хто мае летнікі ля купальскай пляцоўкі, звычайна ад прыпынку ў Зарыцы ідуць на поўнач па шашы, затым паварочваюць на палявую дарогу, якая пятляючы даводзіць нас да лесу. Адтуль да ракі трэба ісці па дарозе да сасновага лесу з прымессю бяроз. Далей справа ад дарогі вузкая палоска ворнай зямлі, а вышэй на ўзгорку — лес; дзялянка ворыва пераходзіць у луг, а далей гай з алешыны, бярозы, арэшніку; па левы бок ад дарогі круты схіл, а ўнізе яго крынічка сцюдзёнай празрыстай вады; на поўначы шырокая паласа сенакосу, а за ім — паласа ворнай зямлі. На захадзе некалькі хутароў, якія належаць да вёскі Зарыца.

Пачынаючы з гэтага месца ўздоўж дарогі ранняй вясной сінеюць пралескі, і іх так шмат, што яны нагадваюць нерукатворны блакітны дыван, які цягнецца абапал дарогі на дзясяткі метраў. Дарога пятляе, і ад яе

адгаліноўваюцца ў розных напрамках іншыя. І калі звярнуць ад галоўнай, то можна заблудзіцца і не знайсці купальскую пляцоўку. Ідзём па асноўнай дарозе, а злева і справа — сасновы лес, які перасякаюць бярозавыя пасадкі, нагадваючы з птушынага палёту белыя стужкі, уплеценыя ў гіганцкую зялёную галаву. І памеры гэтай галавы — ад шашы Гродна–Каўнас да ракі Нёман. І калі ідзеш летнім сонечным днём па гэтай дарозе, то цябе чаруюць лясныя краскі, квітнеючыя кусты, пахі, настоеныя на водарах лесу. І ўся гэтая прыгажосць дапаўняецца многагалоссем розных птушыных песень. Спевы іх асаблівай моцы і прыгажосці дасягаюць са з’яўленнем цяпла, калі ў канцы красавіка і пачатку мая шыракалістыя дрэвы пачынаюць спрэс пакрывацца ранняй і такой прыемнай воку зелянінай. На ляснoй сцэне ў гэты час з’яўляюцца такія зоркі птушынага супольніцтва, як салавей і зязюля. Іх спевы зачароўваюць усіх, хто трапляе ў мясціны, што мяжуюць з ракой, возерам ці балотам, і доўжацца амаль да канца чэрвеня. І рэзка абрываюцца, калі маладое пакаленне — птушаняты — пакідае свае гнёзды: наступае «журботная пара».

Лясныя гукі ў пагодны дзень не абмяжоўваюцца спевамі птушак: лес повен гудзеннем пчол, чмялёў, аваднёў, камароў і іншых істот. Ідзеш і ўспамінаеш, што гэтыя гукі, пачутыя чалавекам-творцам, нараджаюць музычныя шэдэўры. Мне заўсёды ўспамінаецца, калі я чую гудзенне чмяля ў палёце, цудоўны твор кампазітара М. Рымскага-Корсакава, які так і завецца — «Палёт чмяля».

І вось з гэтымі цудоўнымі ўражаннямі неўзабаве трапляеш у масіў забудоў-летнікаў таварыства «Прынёманскае», якое атрымала назву Рачны масіў. Належыць яно пераважна супрацоўнікам цяперашняга Гродзенскага аграрнага ўніверсітэта. Сярод летнікаў ёсць і мой. Менавіта на гэтым месцы былі хутары, якія мелі назву Кукалі. Я з дзясятак гадоў таму працаваў выкладчыкам фізікі гэтай установы, і мне, як і ўсім жадаючым, выдзелілі кавалак зямлі, дзе і пабудаваў уласны летнік. Кукалі як паселішча знікла пасля таго, як былі арганізаваны калгасы. Жыхароў перасялілі ў вёску Грандзічы, а паэтычная назва Кукалі пакуль што захоўваецца ў памяці людзей. З майго пункту гледжання, было б разумным пакінуць назву Кукалі за тым паселішчам, якое пабудавана на гэтым месцы і мае назву Рачны масіў.

На свята прыйшлі спецыяльна запрошаныя і жыхары летнікаў таварыства «Прынёманскае».

У той час, калі мы прыйшлі на купальскую пляцоўку, надвор’е было не з лепшых — ліў з перапынкамі дробны дождж. І як толькі ён дасягаў найбольшай моцы, харысты і госці ратаваліся ў маім летніку, а калі сціхаў — падрыхтоўвалі вогнішча. Дровы былі мокрыя, іх цяжка было запаліць. Толькі тады, калі падлілі бензіну, яны загарэліся. Лодку князю Купалішу ўзялі ў суседа — хутараніна Ясенчука — напракат. На заходзе

сонца жаночая група хору разам з усёй грамадой ішла на бераг ракі сустракаць князя Купаліша, які з дружынай плыў на лодцы па Нёмане. Жанчыны сустракалі «князя» песнямі. Ён зыходзіў на бераг і з дружынай набліжаўся да вогнішча, зачытваў зварот да ўдзельнікаў свята і выбіраў сярод грамады самую прыгожую дзяўчыну Купалінку.

Дрэннае надвор’е прымусіла наш канцэрт духоўнай музыкі правесці не каля вогнішча, а ў маім летніку. Слухачам і харыстам было цяжка: дваццаціметровая зала летніка была не толькі напоўнена, а перапоўнена жадаючымі пачуць спевы хору і схавацца ад дажджу. Людзі сядзелі хто дзе: на тахце, падлозе, лесвіцы, якая вядзе на мансарду, падваконнях. Песні слухачам спадабаліся. Яны прасілі нас праводзіць Купалле на гэтым месцы кожны год.

Пасля поўначы надвор’е стала больш спрыяльным для выканання праграмы. У гэты час аматары адправіліся шукаць купальскую кветку, і калі яе «знайшлі», то асноўная маса гасцей паехала дахаты на мікрааўтобусах. Другая частка гасцей і харыстаў засталася, каб выканаць усю праграму Купалля: танцавалі пад баян, спявалі розныя песні, вялі размовы, глядзелі на шугаючае полымя.

Харысты, мае сыны і дачка са сваімі сем’ямі распалілі другое невялікае вогнішча на тэрыторыі летніка і вакол яго ладзілі гульні, песні, пакуль не пачало світаць.

У чатыры гадзіны спн. Вера сабрала групу харыстаў і ўсіх жадаючых, і яны з падрыхтаванымі вянкамі і замацаванымі на іх свечкамі, з песнямі «Ой, рана на Івана», «Купалінка» рушылі на бераг Нёмана. Дзяўчаты, загадваючы свае жаданні, пад гукі песень запалілі свечкі і апусцілі вянкі на ваду. Хто бачыў гэтае відовішча хоць раз, дык ніколі не забудзе яго. Уявіце: у паўзмроку, калі толькі пачынае на ўсходзе днець, па Нёмане ланцужком плывуць вяночкі з палаючымі свечкамі, а вакол стаіць такая цішыня, толькі ў прастору ляцяць гукі песні «Ой, рана на Івана…». У гэты час большасць жыхароў навакольных вёсак і летнікаў спяць і не сустракаюцца з гэтым цудам. Вянкі паплылі, а хтосьці з хлапцоў распранаецца, кідаецца ў ваду і плыве за імі.

На заканчэнне купальскага свята стыхійна ля вогнішча ўзнік канцэрт. Вызначыліся сваімі цудоўнымі спевамі наш мастацкі кіраўнік Вера Кунцэвіч (альт), хормайстар ансамбля «Нёман» Ірына Давыдзенка (сапрана) і Марыя Саковіч (альт) з таварыства сляпых. Яны працяглы час ад душы спявалі свае ўлюбёныя песні — ды так прыгожа, што нават на высокакваліфікаваных канцэртах такой прыгажосці гучанне не заўсёды можна пачуць. І ўсё гэта адбывалася ў начной цішы на беразе хуткацечнай ракі.

Загадзя я на сваім лецішчы падрыхтаваў цэлую капу духмянага сена, спадзеючыся, што хто-небудзь з прысутных пажадае адпачыць пасля бяссоннай ночы. Са свайго юнацтва памятаю, што для мяне, калі летам я

быў на канікулах у сваіх бацькоў, лепшага адпачынку не было, чым сон на сене ў адрыне, .

Самы велічны момант у купальскую ноч — калі запальваецца вогнішча. Усёачышчальная сіла агню вядома была нашым продкам здаўна, і таму невыпадкова, што вогнішча абрана ў якасці галоўнага святочнага рытуалу. Калі паглядзець на шугаючае на некалькі метраў увысь полымя, то пабачым палёт іскрынак, якія ў нашым зроку пакідаюць бліскучыя траекторыі на нейкую долю секунды. Усе прысутныя былі зачараваныя гэтым відовішчам. Вакол вогнішча ўсе танцуюць і спяваюць, ладзяць розныя гульні і нават конкурсы, і ўсё гэта ў адпаведнасці з праграмай, якая загадзя рыхтавалася.

Купальскае вогнішча падрыхтаваў наш харыст, майстар у такіх справах, Ігар Лапеха. Для вогнішча падбіраюцца з сухіх сасновых дрэваў слупы аднолькавай даўжыні 1,5–2 метры. Адны канцы іх размяшчаюць па крузе радыусам у 1 метр, а другія абапіраюць на слуп даўжынёй 2–3 метры. Па баках круга і ў крузе кладуць сухія галіны дрэў. Такая канструкцыя нагадвае збудаванне, падобнае на печ, у якой ёсць комін: узнікае цяга, якая дапамагае полымю падымацца ўвысь — утвараць усю прыгажосць купальскага вогнішча. На вышыні 2–3 метраў паралельна гарызонту прымацоўваецца сімвалічнае драўлянае кола з каляровымі стужкамі, прывязанымі да вобада (у нас яго змайстраваў з лазы харыст Аляксандр Гашко). Шугаючае полымя паступова апальвае слуп, і кола, падгарэўшы, пачынае падаць, выклікаючы эмацыянальны ўсплёск у прысутных, і асабліва ў дзяцей. У гэты момант мы павінны быць пільнымі, каб камусьці з прысутных яно не ўпала на галаву. Другая з’ява, якая патрабуе пільнасці прысутных — падзенне цэнтральнага слупа. Калі бакавыя слупы падгарэлі і паваліліся, то праз нейкі час цэнтральны падгарае настолькі, што пачынае падаць, і трэба быць уважлівымі, каб ён кагосьці не зачапіў. Вогнішча гарыць, і прысутныя падтрымліваюць яго загадзя нарыхтаваным сухастоем. А вакол агню ідуць гульні. І калі інтэнсіўнасць полымя памяншаецца, маладыя смельчакі пачынаюць скакаць праз вогнішча. Успамінаецца: на першым Купаллі ў 1988 годзе ва ўрочышчы Румлёва прэзідэнт клуба «Паходня» Міхась Ткачоў паказаў прыклад моладзі — скокнуў праз вогнішча, калі яно дагарала, чаго мы, удзельнікі больш сталага ўзросту, не маглі сабе дазволіць. На мой погляд, кожны ўдзельнік Купалля апынаецца ў нязвыклых акалічнасцях — адыходзіць ад штодзённасці. Мы можам уявіць сабе, як нашы далёкія продкі ў самую цудоўную пару года, калі Сонца дасягае найбольшай вышыні на небасхіле, а дзень — найвялікшай працягласці, ушаноўвалі наша нябеснае свяціла. Гэта яны рабілі, каб падзякаваць яму за энергію, неабходную ўсяму жывому на зямлі. Сцэнарый свята шліфаваўся стагоддзі, а можа, нават і тысячагоддзі. Прымусіць адмовіцца ад яго, чаго на працягу ўладарання дабіваліся бальшавікі на прасторах савецкай імперыі, не ўдалося.

Што тычыцца выбару дня святкавання Купалля, то, на маю думку, было б ідэальным выбраць вечар і ноч з 21 па 22 чэрвеня. У той жа час гэтая дата не заўсёды супадае з суботнім днём. Прызначэнне даты Купалля — не дзяржаўная і нават не царкоўная справа. Каталікі прызначаюць дзень купальскага свята ў адну з субот паміж 21 чэрвеня і 7 ліпеня, а праваслаўныя выбіраюць Купальскую ноч з 6 на 7 ліпеня.

## Паездка на фестываль «Магутны Божа» ў Магілёў

Мінула Купалле. Хор пачаў падрыхтоўку да фестывалю «Магутны Божа». Заставалася сем дзён да ад'езду ў Магілёў. І гэты час спн. Вера прапанавала выкарыстаць як мага эфектыўней. Гэта абавязвала харыстаў хадзіць на рэпетыцыі амаль кожны дзень. Усе ўдзельнікі адчувалі, што будзе рэальная падзея. Хто хацеў ехаць — вымушаны быў адкласці свае асабістыя справы і рэгулярна хадзіць спяваць столькі разоў, колькі неабходна для засваення конкурснай праграмы.

У паездку падрыхтаваліся 26 харыстаў, і 11 ліпеня аўтобусам мы выправіліся ў Магілёў.

А 18 гадзіне пад'ехалі да Магілёва. Распыталі ў магіляўчан, як карацей нам дабрацца да касцёла Святога Станіслава, дзе знаходзіўся аргкамітэт фестывалю. Неўзабаве спыніліся на пляцоўцы ля касцёла. Заходзім у касцёл, адтуль нас накіроўваюць у інтэрнат вучылішча № 44, навучэнцы якога выехалі на канікулы. У інтэрнаце мы праводзім рэпетыцыі, сходы і асабістыя вечарыны. Аўтобус стала абслугоўваў нашых харыстаў: вазіў у касцёл і ў сталоўку. У касцёле мы прысутнічалі на імшы, праводзілі рэпетыцыі, слухалі спевы іншых калектываў, выступалі на конкурсе і знаёміліся з унутраным яго ўбранствам. Касцёл у той час знаходзіўся на рэстаўрацыі пасля бальшавіцкага глумлення над ім. Рэстаўрацыяй фрэсак займаўся вядомы ў Беларусі мастак Алесь Пушкін.

Ранкам 12 ліпеня прысутнічалі на імшы ў касцёле, а ў другой палове дня сустракалі пілігрымаў, якія пешшу прыйшлі з розных гарадоў Расіі. Пры сустрэчы спявалі разам духоўныя песні, у тым ліку рэлігійны гімн «Абба Ойча», знаёміліся, абменьваліся адрасамі і засвойвалі новыя невядомыя нам песні. Цікавым аказаўся моладзевы гурт з г. Вінніцы, які прыгожа выконваў духоўную песню ў сучасных рытмах на англійскай мове «Somebody's knocking at your door»*. У песні гаворыцца: калі мы молім Хрыста аб сваіх патрэбах, то ён прыходзіць да нас, стукае ў дзверы

* Нехта стукае ў твае дзверы (*англ.*).

і дапамагае нам. Песня настолькі спадабалася нашаму калектыву, што мы шмат разоў выконвалі яе на канцэртах і нават зараз не забываем.

Калі мы ішлі ў касцёл, то на прыступках яго нас часта ветліва сустракаў пробашч Уладзіслаў Блін, цікавіўся нашымі патрэбамі. Там жа праходзілі рэпетыцыі ўдзельнікаў фестывалю. З цікаўнасцю слухалі, ацэньвалі. У той час нам больш за ўсё падабаліся спевы Маладзечанскага хору духоўнай музыкі пад кіраўніцтвам сп. Шута і капэла з Полацку (дырыжор спн. Жукава).

Увечары ў Палацы піянераў удзельнічалі ў зводным хоры, якім кіраваў прафесар В. Роўда. Усе прысутныя выконвалі гімн «Магутны Божа».

Перад сном рыхтаваліся ў інтэрнаце да конкурснага выступлення.

13 ліпеня быў дзень рэпетыцый, і праводзіліся яны як у інтэрнаце, так і ў касцёле.

14 ліпеня хор праводзіў генеральную рэпетыцыю ў касцёле.

Усім удзельнікам фестывалю аргкамітэт выдаў карткі, якія прымацоўваліся да штрыфеля курткі; на іх мы павінны былі напісаць сваё прозвішча, імя, а таксама які калектыў мы прадстаўляем. Такая форма знаёмства даўно прынята на Захадзе. Мы ўпершыню з ёю сустрэліся менавіта ў Магілёве. Гледзячы на нас, некаторыя магіляўчане пры сустрэчы, у аўтобусе, выказвалі сваё незадавальненне — бурчэлі: «Панаехалі сюды розныя палякі!» Відавочна, таму, што фестываль быў арганізаваны каталікамі. А ў Магілёве большасць насельніцтва праваслаўныя, значная частка з іх атэісты. Тым больш, што прайшло ўсяго два гады, як у Беларусі не ўладарылі бальшавікі, якія лічылі рэлігію як штосьці супярэчлівае іх ідэалогіі. Таму храмы ўсіх канфесій у большасці былі закрываліся, перадаваліся: пад клубы, склады штучных угнаенняў, зернясховішчы і нават пад цэхі прамысловых прадпрыемстваў. З храмаў трактарамі здымалі крыжы і званы. Такім чынам бальшавікі спадзяваліся выкараніць веру ў Бога ў людскіх душах. І мы бачым: не паспела рухнуць камуністычная ўлада, як паўсюдна пачала адраджацца вера ў Бога — храмы пераходзяць тым, каму яны належалі. Вернікі і духавенства сталі аднаўляць святыні: рэстаўрыраваць фрэскі, іконы, вяртаць званы. У цэрквы пачала вяртацца ўся атрыбутыка, неабходная для адпраўлення набажэнства. І мы былі сведкамі рэстаўрацыі фрэсак касцёла св. Станіслава ў Магілёве пасля бальшавіцкага глумлення. У нашу бытнасць рэстаўрацыя фрэсак была прыпынена, а калі мы ад’ехалі, працягвалася.

15 ліпеня наш хор выступіў з конкурснай праграмай у касцёле, размясціўшыся насупраць алтара, а па баках стаялі будаўнічыя рыштаванні. Пачатак канцэрта прызначаны на 12 гадзін. Перад гэтай падзеяй мы з самага ранку прыехалі ў касцёл і праводзілі рэпетыцыю ў адмысловым пакоі. Перад такім адказным выступленнем хваляванне агарнула ўсіх харыстаў і асабіста кіраўніка хору спн. Веру. Калі пачаўся канцэрт, перад першай

песняй яна дала тон, але харысты не ўсе яго пачулі, відаць, ад хвалявання. Зразумела, якасць выканання была не на ўзроўні. Затое астатнія творы былі выкананы прыстойна. Хор «Бацькаўшчына» быў прэміраваны дыпломам і каштоўнымі падарункамі. Журы адзначыла, што дыплом і падарункі выдзелены хору ў намінацыі «За выкананне твораў на беларускай мове».

Пасля конкурсу хор быў запрошаны выступіць з канцэртам на прэзентацыі мастацкай выставы. А 18 гадзіне таго ж дня ўдзельнічалі ў канцэрце, які адбыўся ў ГДК г. Магілёва. Канцэртам кіраваў праф. В. Роўда — старшыня журы. Заключнай песняй канцэрта гучаў рэлігійны гімн «Магутны Божа». Яго выконвалі ўсе ўдзельнікі фестывалю.

16 ліпеня зранку мы прысутнічалі на конкурсных выступленнях іншых калектываў.

17 ліпеня наш хор быў запрошаны святаром В. Блінам прыняць удзел у суправаджэнні імшы касцёла св. Станіслава. Усе мы падняліся на хоры касцёла і спявалі тыя кананічныя песні, якія звычайна выконвалі ў Фарным касцёле — Малой Базіліцы г. Гродна.

Вечарам таго ж дня быў гала-канцэрт у Доме піянераў, на якім падвялі вынікі конкурсу. Першае месца атрымаў Мінскі абласны хор пад кіраўніцтвам Шута. А другое — Полацкі хор, якім кіравала спн. Жукава. Закончыўся гала-канцэрт а дзявятай гадзіне вечара. На канцэрце, які вяла дыктар Цэнтральнага тэлебачання Зінаіда Бандарэнка, выступілі пераможцы конкурсу. Абвесткамі кіраваў вядомы оперны спявак Віктар Скарабагатаў — сябар журы конкурсу.

Позна вечарам вярнуліся ў інтэрнат і на заканчэнне арганізавалі сумесную вечарыну. На гэтым мерапрыемстве былі ўручаны падарункі тым харыстам, якіх вырашыў адзначыць наш аргкамітэт. Гадзіннікі з выявай «Пагоні» былі прэзентаваны Веры Кунцэвіч як мастацкаму кіраўніку, Юрыю Сіткевічу і мне як старшыні хору. Дыплом вырашана пакінуць на захоўванні ў нашай Веры. Вечарына скончылася спевамі песень, якія кожны мог выканаць па асабістым жаданні.

Раніцай 18 ліпеня належала як мага раней ад'ехаць дахаты. Выехалі прыкладна а 9 гадзіне. Каб хутчэй прабягаў час, стыхійна пачыналі спяваць любімыя песні. На кароткіх прыпынках Ю. Сіткевіч рабіў фотаздымкі. У Гародню прыехалі а 18 гадзіне.

Так скончылася наша першае значнае падарожжа з канцэртамі за межы нашага горада. Гэта дало хору «Бацькаўшчына» магчымасць выйсці на рэспубліканскі ўзровень і атрымаць сваю першую значную ўзнагароду — дыплом, што прынесла нашаму калектыву многае. Нас пачалі запрашаць з канцэртамі духоўнай музыкі не толькі ў Гародні, а і па ўсёй рэспубліцы.

Працягвалі спяваць на імшы Фарнага касцёла на працягу ліпеня і жніўня, а ў верасні пачаліся рэпетыцыі новага сезона.

# Сустрэча хору ў Вільні з Папам Янам Паўлам II

Святар Фарнага касцёла Анатоль Маркоўскі прапанаваў хору паехаць разам з гарадзенскімі пілігрымамі на сустрэчу з Папам Янам Паўлам II у Вільню. Дабіраліся мы туды цягніком. Адправіліся ад вакзала да запланаванага месца сустрэчы пешшу і ішлі не менш як гадзіну часу. І калі мы прыйшлі на цэнтральны стадыён Вільні, дык ён быў запоўнены пілігрымамі. Нам, гарадзенцам, быў выдзелены спецыяльны сектар, дзе мы і размясціліся. Надвор'е 5 верасня было не з лепшых. З захаду наплывалі дажджавыя аблокі і з невялікімі перапынкамі палівалі нас так, што тыя, хто не меў парасона, прамакалі, як кажуць, да ніткі. Самым прадбачлівым сярод нас аказаўся наш старэйшы харыст Пётр Сцяпанавіч Башко. Ён акрамя добрага парасона ўзяў з сабою складанае крэселка і, калі пачынаўся моцны дождж, сядаў на сваё прыстасаванне і прыкрываўся парасонам. Астатнія яму маглі толькі пазайздросціць. Калі Пятру Сцяпанавічу надакучвала сядзець у сваёй «хаце», то ён па чарзе прапаноўваў адпачыць камусьці іншаму з нашых больш сталых жанчын. Праблема была ў тым, што чакаць пачатку давялося не менш як дзве гадзіны, а сама сустрэча доўжылася таксама столькі ж. І выстаяць пад дажджом чатыры гадзіны было складана.

І вось урэшце з'явіўся картэж аўтамабіляў са спецыяльным аўто, кабіна якога, змайстраваная з куленепрабівальнага празрыстага матэрыялу, з усіх бакоў і зверху прыкрывала Папу Яна Паўла II. Ён стаяў у гэтай кабіне і вітаў усіх прысутных. Праязджаў ад нашага сектара на адлегласці не больш за дзесяць метраў. Калі Папа з'явіўся на стадыёне, то ўсе прысутныя віталі яго воплескамі. Аўтамабіль урэшце прыпыніўся каля цэнтральнай трыбуны. Папа звярнуўся да прысутных на розных мовах: літоўскай, рускай, польскай, беларускай — на ўсіх мовах дзяржаў-суседзяў Літвы. Скончылася прывітальнае выступленне Папы. Пачалася дзвюхгадзінная імша, якую ён адпраўляў на літоўскай мове з фрагментарным выкарыстаннем лацінскай.

Перад канцом імшы надвор'е палепшылася, дождж прыпыніўся. Картэж аўтамабіляў з вышэйшым духавенствам ад'язджаў у сваю рэзідэнцыю. На яго шляху гарадзенскія пілігрымы расцягнулі палотнішча, на якім было напісана запрашэнне Папу Яну Паўлу II наведаць Беларусь.

Наша спн. Вера ў час чакання пачатку сустрэчы пагутарыла з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Вільні. Яны прапанавалі нам спачатку пайсці ў Цэнтр беларускай культуры недалёка ад вежы Гедыміна, каб адпачыць там і падсілкавацца, а пасля прыняць удзел у імшы касцёла, якую будзе весці на беларускай мове святар Анатоль Маркоўскі. Хор і ўсе тыя, хто быў з намі, пешшу пайшлі ў Цэнтр беларускай культуры. Там нас сустрэлі ветліва, прыгатавалі нам гарбату і каву. Адпачыўшы, мы рушылі ў

касцёл Святога Мікалая. Пасля кароткага знаёмства з касцёлам наш ксёндз Анатоль прапанаваў нам падняцца на хоры і спяваць на беларускай мове кананічныя творы імшы, якія мы звычайна выконвалі ў Гародні. Нам усім было пачэсна прыняць удзел у імшы такога славутага касцёла. На імшы прысутнічалі вядомыя дзеячы Вільні — Лявон Луцкевіч, Хведар Нюнька і іншыя. У канцы мы выканалі некалькі духоўных песень, якія звычайна выконваем на канцэртах. Усе прысутныя цёпла нас віншавалі за выкананне духоўных песень на роднай мове. Запрашалі часцей іх наведваць.

Скончыліся сустрэчы з віленчукамі. Мы ішлі на вакзал, дзе чакалі цягніка, каб ехаць у Гародню.

8 верасня хор быў запрошаны выступіць з патрыятычнымі песнямі з нагоды святкавання Дня вайсковай славы. Гэтае свята пачалі святкаваць пасля таго, як гісторыкі даведаліся, што ў 1514 годзе камандуючы войскамі Вялікага Княства Літоўскага князь Астрожскі на рацэ Крапіўне пад Воршай разбіў войскі маскоўцаў, якія па колькасці ўтрая пераўзыходзілі армію Астрожскага. Менавіта дзень 8 верасня прапанаваны дэмакратамі лічыць святам вайсковай славы беларусаў. У гонар гэтага дня яны ладзяць святочныя прамовы, якія заканчваюцца канцэртамі, народнымі гуляннямі ў месцах нашага славутага мінулага. У Гародні такім месцам лічыцца помнік «Пагоня на Грунвальд», усталяваны ў гонар ваяроў, загінулых у Грунвальдскай бітве. Трэба зазначыць, што афіцыйныя ўлады пакуль што не ўхвалілі гэты дзень. Яны святкуюць дзень вайскоўцаў, зацверджаны бальшавікамі. І вось 8 верасня 1993 года хор «Бацькаўшчына» размясціўся ля вышэйзгаданага помніка з канцэртам. Прагучалі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Пагоня», «О Беларусь, мая шыпшына» і іншыя. Пасля нас выступілі барды. Свята доўжылася некалькі гадзін. Усе прысутныя засталіся задаволенымі не толькі тым, што праслухалі музычныя патрыятычныя творы, але і тым, што яны даведаліся пра слаўную бітву пад Воршай. Святкаванне дня вайсковай славы праводзілася кожны год, нягледзячы на забароны афіцыйных уладаў.

## *Хор запрошаны на адкрыццё памятнай дошкі Міхасю Ткачову*

У канцы кастрычніка 1993 года хор удзельнічаў у адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў гонар Міхася Ткачова на доме, у якім ён жыў у той час, калі працаваў прафесарам гісторыі Гродзенскага ўніверсітэта. Міхась Ткачоў акрамя працоўных абавязкаў па спецыяльнасці выконваў не меншую працу на грамадскіх пачатках. Ён быў адным з заснавальнікаў вядомага гістарычнага клуба «Паходня» і заставаўся яго прэзідэнтам да той пары,

пакуль не з’ехаў у Менск. Гэта быў чалавек незвычайнай эрудыцыі. Ягоныя лекцыі па гісторыі Беларусі збіралі столькі слухачоў, што яны не маглі змясціцца ў аўдыторыі. Пасяджэнне клуба «Паходня» кожны тыдзень праходзіла вельмі цікава і прыносіла слухачам шмат новага з гісторыі нашага краю, невядомага раней. І вось ля дома, дзе жыў Міхась Ткачоў, нядзельным ранкам сабралася група знаёмых і сяброў «Паходні», каб адкрыць дошку ў гонар таленавітага гісторыка і грамадскага дзеяча. На гэтую падзею былі запрошаны хор «Бацькаўшчына» і святар Каложскай царквы. Святар асвяціў дошку па-беларуску. З прамовамі выступілі З. Пазняк, А. Мілінкевіч і іншыя. Яны падкрэслілі тое, што зрабіў для нас і нашчадкаў Міхась Ткачоў за свой кароткі жыццёвы шлях. Гаварылі пра яго незвычайныя здольнасці і ўменне данесці людзям тыя гістарычныя звесткі, якія замоўчваліся на працягу стагоддзяў. У канцы хор праспяваў некалькі духоўных песень. У гэты ж дзень удзельнікі хору «Бацькаўшчына» былі запрошаны ў ГДК, дзе за сталом сустрэліся з З. Пазняком. У прыватнай размове спн. Вера пачула ад яго высокую ацэнку спеваў нашага калектыву. Ён выказаў падзяку нам за тыя песні, якія ўшаноўвалі памяць вядомага дзеяча беларускай сацыял-дэмакратыі.

Міхасю Ткачову прысвяціў свой верш наш паэт-харыст Юрый Сіткевіч.

## *Памяці Ткачова*

Светя другим, сгораю сам.

*У. Высоцкі*

Ён рана ад нас адышоў,
Згарэў, запаліўшы паходню,
Славуты гісторык Ткачоў.
Смуткуе ў жалобе Гародня.

Паходняю ён асвяціў
Мінуўшчыны нашай цямніцы,
Руінамі замкаў вадзіў
І іх раскрываў таямніцы.

Вучоны-энцыклапедыст,
Усе мы прызнаць тое мусім,
Ён волат, ён лепшы саліст
У хоры сыноў Беларусі.

Не гасне хай, свеціць усім,
Калі на то воля Гасподня,

Агеньчык, запалены ім,
Стваральнікам клуба «Паходня».

13 лістапада 1994 года хор выступіў з канцэртам патрыятычных песень з нагоды гадавіны Слуцкага збройнага чыну, які ўзнік супраць бальшавікоў на Случчыне ў час грамадзянскай вайны. Паўстанне пацярпела паразу. Тыя, хто застаўся ў жывых, перайшлі польскую мяжу і палякамі былі раззброены. Дата Збройнага чыну штогод ушаноўваецца патрыётамі Беларусі як на месцах, дзе адбываліся сечы, так і за межамі нашай краіны, дзе жывуць нашчадкі тых, хто вёў баі супраць бальшавізму. З тымі, хто ўдзельнічаў у паўстанні і не з’ехаў у свой час за межы рэспублікі, карныя аддзелы ГПУ жорстка расправіліся: іх арыштоўвалі, катавалі і адпраўлялі на новабудоўлі камунізму як ворагаў народа. Праслед паўстанцаў адбываўся ў Беларусі і праз 10–20 гадоў: як толькі НКУС даведваўся, што хтосьці прымаў актыўны ўдзел у Слуцкім паўстанні і жыве на тэрыторыі, якая зараз захоплена ўладай СССР, то былога паўстанца арыштоўвалі. Вядомы паэт Макар Краўцоў, які нарадзіўся на Скідзельшчыне, быў арыштаваны і ў 1940 годзе закатаваны ў Беластоцкай турме за тое, што ён удзельнічаў у паўстанні і напісаў верш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…». На словы верша кампазітар У. Тэраўскі напісаў музыку, і музычны твор стаў гімнам паўстанцаў (гэты гімн хор «Бацькаўшчына» развучыў і неаднаразова выконваў на сваіх канцэртах). Гэтага бальшавікі ніяк не маглі дараваць Краўцову, таму і пазбавілі яго жыцця. Трэба зазначыць, што НКУС жорстка праўляўся з тымі людзьмі, хто адкрыта выказваў свае погляды, якія не супадалі з афіцыйнымі. Калі Вільня ў 1944 годзе была вызвалена ад нямецкіх акупантаў, вядомы драматург Францішак Аляхновіч, пабываўшы ў ГУЛАГу ў 1930-я гады, быў абменены бальшавікамі на Браніслава Тарашкевіча, які быў вязнем польскай дэфензівы. Відавочцы сцвярджаюць, што калі Б. Тарашкевіч ішоў праз абменны пункт на савецка-польскай мяжы ў Негарэлым да Саветаў, а насустрач яму ў Польшчу ішоў Ф. Аляхновіч, то Тарашкевіч, павітаўшы яго, сказаў:

— Дарагі мой Францішак, а куды ты ідзеш?

На ягоную спачувальную заўвагу Ф. Аляхновіч не адказаў, таму што зразумеў: яго сябра знаходзіцца пад уплывам бальшавіцкай прапаганды і не ведае, які лёс яго чакае ў Саветах.

Ф. Аляхновіч перайшоў мяжу, пасяліўся ў Вільні і апісаў сваё жыццё ў ГУЛАГу ў кнізе «У кіпцюрох ГПУ», за што быў забіты падасланымі агентамі НКУС у часы вызвалення Вільні ад нямецкіх акупантаў.

19 лістапада 1994 года ў лялечным тэатры Гародні адбыўся першы гарадскі фальклорны фестываль, у якім прыняў удзел хор «Бацькаўшчына». Рашэннем журы хор атрымаў дыплом.

# Калядкі і канцэрты ў 1993–1994 гадах

Заканчваўся 1993 год. У снежні працягвалі рыхтавацца да калядных канцэртаў. Нашы харысткі, настаўніцы 29-й школы Юля Халько і Марына Станчык, запрасілі хор «Бацькаўшчына» выступіць з канцэртам духоўнай музыкі. Тут мы ўпершыню ў Гародні спявалі перад вучнямі на беларускай мове, і ўвесь канцэрт складаўся з духоўных музычных твораў. Яшчэ тры гады таму такога канцэрта ніхто б не дазволіў. І калі б ён адбыўся, то дырэктару школы давялося б пакінуць сваю пасаду. Аднак настaлі новыя часы, і адносіны да рэлігіі змяніліся. Кіраўнікі горада пачалі размову аб выкладанні асноў рэлігіі ў школах. Першае выступленне хору з духоўнымі песнямі пасля шматгадовага афіцыйнага здзеку з рэлігіі сведчыла аб тым, што наступілі новыя часы. Настаўнікі і вучні слухалі нашы спевы з цікавасцю і здзіўляліся незвычайнаму канцэрту, якога раней яны ніколі не чулі. Сярод настаўнікаў былі і такія, якія не ўспрымалі перамен — новых адносін да рэлігіі. Аднак у цэлым нашы песні аўдыторыі спадабаліся — слухачы аддзячылі нам моцнымі воплескамі.

25 снежня — вялікае свята Нараджэння Хрыста, і ў гэты дзень а 15 гадзіне хор удзельнічае ў святой імшы гарадзенскага Фарнага касцёла, а ў канцы імшы спускаемся і выстройваемся перад святым алтаром — выступаем з канцэртам калядных песень. Вечарам таго ж дня ідзём усім хорам калядаваць да спадарства Маліноўскіх. Гаспадары прапануюць нам падняцца на другі паверх дома. Распранаемся. А нам ужо падрыхтаваны пачастунак. Сядаем за стол. Частуемся і пачынаем спяваць калядныя песні. Калядаванне доўжыцца не менш за гадзіну. На адыход жадаем гасцінным гаспадарам, каб у іхняй хаце ўсё было добра — спяваем адыходную песню «Многае лета» і развітваемся.

7 студзеня новага 1994 года па запрашэнні праваслаўнага святара айца Аляксандра ўпершыню наш хор выступіў з канцэртам духоўнай музыкі на беларускай мове ў праваслаўнай царкве Каложы. Прыхаджане слухалі калядкі і цікавіліся ў нас, ці прыйдзем мы спяваць на іншыя святы. Трэба падкрэсліць смеласць айца Аляксандра, які пасля абедні, што адбылася на стараславянскай мове, дазволіў выступіць нам. Пасля гэтага канцэрта ўсталяваліся добрыя стасункі паміж хорам і духавенствам старажытнай царквы Гарадзеншчыны. Каложа зараз знаходзіцца ў паўаварыйным стане: правы бераг Нёмана падмываецца і пагражае паўночнай частцы царквы, якая засталася цэлай пасля першай разрухі ў XIX ст. Абмяркоўваліся розныя праекты выратавання гэтай старажытнай святыні Беларусі, і па сённяшні грунтоўная рэстаўрацыя яе не праведзена. Калі заходзіш у памяшканне царквы, то бачыш сляды былых катаклізмаў, асабліва ў той частцы храма, якая побач з берагам Нёмана. Ля сцен Каложы пахаваны вядомы князь Давыд Гарадзенскі, славуты ваявода і абаронца Гародні, Наваградка, Ліды

і іншых гарадоў нашага краю ад нападу крыжакоў. Каля храма ў пачатку 90-х гадоў XX ст. удзячныя нашчадкі ўсталявалі камень з дошкай, на якой напісана, што гэта — помнік ваярам, што змагаліся і перамаглі крыжакоў у Грунвальдскай бітве. Ён атрымаў назву «Пагоня на Грунвальд». З захаду ад яго зроблена асфальтаваная пляцоўка, на якой, пачынаючы з 1991 года, дэмакратычныя сілы ладзяць канцэрты ў нацыянальныя святы. Гэтае месца нам, патрыётам, стала святым, шанаваным кожным свядомым беларусам. Хто ўпершыню прыязджае ў Гародню, лічыць неабходным наведаць Каложу і помнік «Пагоня на Грунвальд». Зараз у Каложы раз на месяц адбываецца абедня на беларускай мове. У 2003 годзе ля сцен храма гарадзенскія дэмакраты ўсталявалі камень-валун з прымацаванай да яго металічнай дошкай з надпісам: «Князю Давыду Гарадзенскаму ад удзячных нашчадкаў».

Вечарам 7 студзеня 1994 года хор «Бацькаўшчына» ўдзельнічаў у святочнай каляднай праграме ў СШ № 22. Разам з намі святкавалі настаўнікі і вучні пад кіраўніцтвам дырэктара школы Ганны Аляксандраўны Зыльковай. Усім тэатральным дзействам кіравалі спн. Вера і дырэктарка школы Г. А. Зылькова. І выступленне хору — калядныя песні — спалучаліся з тэатралізаванымі дзеямі вучняў і настаўнікаў. Было весела, працаваў «шведскі стол». Харысты знаёміліся з калектывам настаўнікаў і іх сем'ямі. Святочная вечарына працягвалася да 23 гадзіны вечара. Усе прысутныя былі задаволены незвычайнымі нумарамі калядак, якіх яны раней не чулі ў сценах сваёй школы.

9 студзеня хор з нагоды Божага Нараджэння выступіў у лялечным тэатры. І выступленне пачалося песняй «Нова радасць стала, яка не бывала», якая ўслаўляе Хрыстова Нараджэнне. Мелодыя песні ўзрушвае кожнага слухача цудам нараджэння Бога-чалавека. Песня нарадзілася на беларуска-ўкраінскім памежжы Брэсцкай вобласці. У тэксце ўжываюцца словы палескай гаворкі. І калі гучыць гэтая песня, то яна нагадвае слухачам і выканаўцам шырокую Палескую раўніну, якая раскінулася на поўдні нашай радзімы; успамінаецца цудоўны край і той цуд, які адбыўся на радзіме Хрыста.

23 студзеня ксёндз Анатоль запрасіў нас схадзіць у абласны шпіталь і павіншаваць хворых каталікоў са святам Божага Нараджэння. І вось мы сабраліся ў зале аднаго з карпусоў шпіталя, куды прыйшлі хворыя, каб паслухаць ксяндза Анатоля і канцэрт духоўнай музыкі хору «Бацькаўшчына». Хворыя прыйшлі на сустрэчу з намі ў прамежку паміж лячэбнымі працэдурамі і былі задаволены пачутымі песнямі, выкананымі на беларускай мове. Святар павіншаваў прысутных з Калядамі, пажадаў хуткага выздараўлення хворым. Падзякаваў нам ад свайго імя і ад прысутных хворых за канцэрт і пажадаў нам поспехаў у нашай канцэртнай дзейнасці дзеля адраджэння духоўнасці.

У пачатку 1994 года хор «Бацькаўшчына» не меў сталага рэпетыцыйнага памяшкання. Развучванне новых песень часова адбывалася на Савецкай вуліцы ў памяшканні рэдакцыі газеты «Пагоня», галоўным рэдактарам і выдаўцом якой быў Мікола Маркевіч.

Вядома, што ў Менску ў 20-я гады мінулага стагоддзя тэатральнымі дзеячамі І. Буйніцкім і іншымі заснавана так званая «Беларуская хатка». Там за кубачкам гарбаты ці кавы збіралася тагачасная беларуская інтэлігенцыя. Яе наведвалі Янка Купала, Якуб Колас і многія пачынаючыя літаратары і людзі, неабыякавыя да адраджэнскага руху. Калі ў канцы дваццатых гадоў пачаліся рэпрэсіі супраць нацдэмаў, то дзейнасць «Беларускай хаткі» была прыпынена да канца 1980-х гадоў і адрадзілася са з'яўленнем Рэспублікі Беларусь. Многім вядомым людзям не толькі з Беларусі, але і з замежжа ўдалося яе наведаць. Па ініцыятыве спн. Тамары Талерчык у Гародні на ўзор менскай «Беларускай хаткі» 20 студзеня 1994 года адчыняецца «Гасцёўня» ў адным з пакояў рэдакцыі газеты «Пагоня». На адкрыццё быў запрошаны хор. За спецыяльна падрыхтаваным сталом мы вялі цікавыя гутаркі, частаваліся і спявалі патрыятычныя і духоўныя песні. Тут жа 8 сакавіка віншавалі нашых сябровак-харыстак з Міжнародным жаночым днём, спявалі ім «Многае лета» і дарылі падарункі. Неўзабаве ўлады сілавым спосабам выселілі рэдакцыю газеты ў менш прэстыжнае месца на вуліцу Карла Маркса — і «Гасцёўня» прыпыніла сваю дзейнасць.

Рашэннем Вярхоўнага Савета ў 1994 годзе прызначаны выбары прэзідэнта. На выбарах перамог А. Р. Лукашэнка. Ён узяў у свае рукі абавязкі вярхоўнай выканаўчай улады.

З 24 сакавіка 1994 года хор пачаў свае рэпетыцыі ў памяшканнях беларускай філалогіі ўніверсітэта. У гэты час у якасці харысткі да нас прыйшла загадчыца бібліятэкі ўніверсітэта Надзея Емяльянчык. Каб мець сталы дазвол на рэпетыцыі хору ў памяшканнях універсітэта, я схадзіў да рэктара і прасіў яго аб гэтым. Заява была задаволена, і мы з таго часу маем сталае месца нашых рэпетыцый. Надзея Емяльянчык дазволіла нам усе нашы мерапрыемствы, у тым ліку і рэпетыцыі, праводзіць у чытальнай зале бібліятэкі. І мы там працяглы час плённа ладзілі ўсе свае рэпетыцыі, нацыянальныя святы, віншавалі харыстаў з днём нараджэння, праводзілі сходы, на якіх вырашалі ўсе свае пытанні. У чытальнай зале быў бадай што самы плённы перыяд працы хору ў першым дзесяцігоддзі. Калі Надзея Емяльянчык па асабістых справах пакінула хор, то большасць рэпетыцый праходзілі ў аўдыторыі № 3 філалагічнага факультэта.

У канцы вясны мы святкавалі Уваскрашэнне Хрыста, і да гэтага вялікага свята хор, як заўжды, падрыхтаваў адмысловую канцэртную велікодную праграму. У Фарным касцёле імша пачыналася песняй «Вялік святы нам дзень настаў…» пад акампанемент арганіста Бруна Тэрмена. Акрамя традыцыйных песень па сцэнарыі імшы выконвалі 2–3 песні з рэпертуару нашага

канцэрта. Імша заканчвалася рэлігійным гімнам «Магутны Божа». Пасля святар рабіў аб'яву, што зараз перад прыхаджанамі выступіць з велікодным канцэртам хор «Бацькаўшчына». Мы па пакручастай лесвіцы спускаемся ўніз, з дазволу святара размяшчаемся паўкругам перад алтаром і пачынаем велікодны канцэрт, які доўжыцца хвілін сорак. Канцэрт закончаны. Да нас падыходзіць святар і віншуе са святам, выказвае падзяку за цудоўнае выкананне духоўных песень. Пасля ідзём у закрысце, віншуем святароў і ўсіх прысутных з Уваскрасеннем Хрыста. Святары ў адказ віншуюць кожнага харыста і дзеляцца з намі аплаткамі.

## Паездка ў Жыровічы. Май 1994 года

19 мая 1994 года пры падтрымцы спонсара М. Маркевіча хор наведаў вядомую святыню Гарадзеншчыны вёску Жыровічы Слонімскага раёна. Там кожны год святкуецца з'яўленне вобраза Божай Маці Жыровіцкай у ноч з 19 на 20 мая.

Прыязджаем у Слонім а другой палове дня на камфартабельным аўтобусе і затрымліваемся ў цэнтры, на плошчы. Знаёмімся з гістарычнымі мясцінамі горада: разбуранай сінагогай і замкавым комплексам былых магнатаў Агінскіх, якія прыйшлі ў заняпад. Аб усіх гэтых сведках нашай гісторыі распавядае наш сталы гід-аматар харыст Ігар Лапеха. Ён заўжды, калі мы едзем у новыя мясціны, знаёміць жадаючых харыстаў з цікавымі гістарычнымі помнікамі і не толькі з тымі, якія захаваліся, але і з тымі, што пераўтварыліся ў руіны. Ад былых палацаў засталіся сляды — іх падмуркі. І такіх мясцін, на жаль, мы маем зараз значна больш, чым ацалелых. Яны зніклі не толькі ад разбуральных бітваў, часцяком наведваўшых наш край, але і ад таго, што замкі будаваліся з дрэва — лёгкаўзгаральнага матэрыялу. Напрыклад, адзін з прыгажэйшых у былым Вялікім Княстве Літоўскім драўляны замак у Варончы Карэліцкага раёна быў лёгка спалены партызанамі ў 1943 годзе. Такі лёс у тым жа годзе напаткаў драўляны замак у вёсцы Вольнай Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці і шмат іншых архітэктурных шэдэўраў. Той, хто іх нішчыў, не задумваўся, якую каштоўнасць для нашчадкаў будуць мець гэтыя сведкі мінулага, нашай гісторыі. Вядома, што ўсялякае збудаванне з цягам часу без належнага дагляду старэе, патрабуе абнаўлення, а праз нейкі час і абавязковага капітальнага рамонту, замены тых дэталяў канструкцый, якія адслужылі свой тэрмін. І калі не выконваць гэтых патрабаванняў своечасова, то любое збудаванне пачынае паступова разбурацца. Я ў дзяцінстве назіраў, як без догляду знікаў вялізны, як мне ў той час здавалася, дом базыльянскага кляштара ля Вальнянскай царквы і толькі таму, што ён заставаўся без рамонту на працягу амаль цэлага стагоддзя. Зараз ад той забудовы, акрамя

падмурка, нічога не бачна. Вось такія ўспаміны ўзніклі ў мяне, калі мы ехалі ў Жыровічы.

Калі да нашай мэты заставалася з паўдзясятка кіламетраў, мы на гарызонце заўважылі прыгожае відовішча: незвычайна многа прыгожых купалаў некалькіх цэркваў, якія нагадвалі аб тым, што мы пад’язджаем да Жыровіч. Мясцовасць, дзе пабудаваны святыні, пагоркавая, таму і заўважаем купалы храмаў здалёк. І мне ўспомніліся пачутыя ў юнацтве аповеды вернікаў, што ў гэтыя дні пілігрымы з розных месцаў не адно стагоддзе ідуць пешшу да храма, у якім захоўваецца ікона Божай Маці Жыровіцкай, каб пакланіцца ёй, памаліцца, прыняць удзел ва ўсіх святочных набажэнствах.

Мы прыехалі з паўночнага боку мястэчка і прыпыніліся перад домам, у якім толькі што пачалі сяліцца студэнты праваслаўнай семінарыі. Мінула толькі 3 гады, як рухнула савецкая ўлада і праваслаўная царква атрымала дазвол адчыніць у Жыровічах праваслаўную семінарыю. Цэлы комплекс цэркваў і памяшканняў быў пабудаваны ўніятамі ў 1470 годзе, а ў 1846 годзе ўказам цара незаконна перададзены праваслаўнай епархіі. Новыя ўлады Беларусі так і не вярнулі ўніятам былую іх маёмасць. Праўда пакуль што не перамагла.

Усю ноч у галоўным храме будуць ісці маленні. Нашаму хору кіраўніцтва сабора дазволіла выступіць з канцэртам у начны час — а першай гадзіне ночы. А зараз усім можна заняцца сваімі справамі: пазнаёміцца з архітэктурнымі асаблівасцямі гэтых велічных храмаў, схадзіць да знаёмых, прагуляцца да крынічкі са святой вадой, адпачыць на лаўках ля ўваходу ў галоўны сабор.

Да вечара заставалася некалькі гадзін, і мы пайшлі знаёміцца з мястэчкам, падзяліўшыся на групы па інтарэсах. Наша група наведала знаёмага супрацоўніка тэхнікума механізацыі, зайшлі ў ягоную кватэру. Ён запрасіў нас пры спрыяльных умовах прыехаць у Жыровічы і выступіць перад студэнтамі тэхнікума з канцэртам духоўнай музыкі. Другая група пайшла знаёміцца з архітэктурай цэркваў. Маладзейшыя схадзілі да крынічкі па святую ваду. А іншыя адпачывалі ў аўтобусе. Былі і такія, што сядзелі на лаўках ля царквы і змагаліся з камарамі.

Вечарэла. Надыходзіла ноч. Пілігрымаў, у тым ліку і нас, запрасілі на вячэру. Мы ідзём, а насустрач Уладыка Філарэт, вітае нас: «Христос воскресе!», а мы адказваем па-беларуску: «Сапраўды ўваскрос!»

Падсілкаваўшыся, цікавімся: як мы будзем начаваць? Спн. Вера растлумачыла:

— Пасля канцэрта ў другой палове ночы ўсе вернуцца ў аўтобус, і кожны будзе адпачываць, седзячы на сваім месцы да раніцы, жадаючым ёсць магчымасць правесці ўсяночную ў саборы і маліцца разам з пілігрымамі да світання.

А першай гадзіне ночы пераапранаемся і ідзём у сабор, размяшчаемся ля галоўнага алтара і пачынаем спяваць духоўныя песні. І вось дзесьці ў сярэдзіне канцэрта падыходзіць да спн. Веры святар-распарадчык і кажа, каб мы заканчвалі спевы. Здарылася гэта пасля таго, як мы праспявалі песню «Дай, добры Божа, зару і сонца бачыць…». Пазней высветлілася, што гэтая песня — малітва, якую спяваюць уніяты ў сваіх цэрквах, і цяперашняе кіраўніцтва храма, калісьці пабудаванага грэка-каталікамі, вырашыла, што мы спецыяльна прыехалі, каб прапагандаваць ідэі ўніяцтва. Таму і не дазволіла давесці канцэрт да канца.

Усе хрысціянскія канфесіі аднолькава ставяцца да галоўнай малітвы «Ойча наш». Тэкст яе перакладзены на многія нацыянальныя мовы, кампазітары, кожны па-свойму, напісалі музыку на словы гэтай малітвы. На стараславянскай мове мы выконваем яго пераважна ў праваслаўных храмах (кампазітар А. Дубенскі), у каталіцкіх гучыць на музыку М. Куліковіча-Шчаглова і г. д. Чаму ж іншыя песні-малітвы ў праваслаўных выклікаюць адмоўныя адносіны?

Ноч правялі ў аўтобусе. Незвычайны адпачынак і падазронае стаўленне святара-распарадчыка да песні-малітвы сапсавалі нам настрой. Зразумела, што нам у гэты заезд выступіць зноў у саборы не ўдасца, аднак спн. Вера вырашыла: хор павінен выступіць на пляцоўцы ля сабора і праспяваць тыя песні, якія нам не дазволілі выканаць ноччу.

Ранкам удзельнікі свята сабраліся ў саборы, ля ўваходу ў галоўную святыню, і чакалі цэнтральнай падзеі — прыезду прэм’ер-міністра В. Кебіча. Чакаць давялося доўга, па маіх назіраннях, не менш як дзве гадзіны. І вось у гэты прамежак часу мы на пляцоўцы ля царквы праспявалі тыя песні-малітвы, якія намеціла спн. Вера.

У сярэдзіне дня прыехаў сп. Кебіч. Яго суправаджаў цэлы картэж легкавікоў, у якіх размясціліся ахова і суправаджаючае чыноўніцтва як з Менску, так і з Гарадзенскай вобласці. З прыбыццём высокага начальства пачалася святочная абедня, якая доўжылася больш за дзве гадзіны.

Свята скончана. Філарэт і ягоныя падначаленыя разам з гасцямі высокага рангу пайшлі на трапезу, а мы, гарадзенскія пілігрымы і харысты, наведалі абраз Маці Божай Жыровіцкай, памаліліся на развітанне і едзем у Гародню. У Слоніме не затрымліваліся, а па дарозе на Ваўкавыск хтосьці з харыстаў прапанаваў заехаць і пазнаёміцца з Сынкавіцкай царквой, якая ў сярэднявеччы мела не толькі культавае прызначэнне, але і абарончае. Праз паўгадзіны справа па шляху бачым шыльду — «Сынкавічы». Паварочваем і едзем па ўказальніку.

Праз колькі хвілін бачым з левага боку ад дарогі незвычайнай архітэктуры збудаванне. Падыходзім да гістарычнага храма, а ён зачынены. З мясцовых жыхароў нікога не бачна. Мы спазніліся. Зараз 16 гадзін. Абышлі

вакол царквы, сфатаграфаваліся на яе фоне і паехалі па калдобістай дарозе да шашы.

Пасля таго канфлікту, які меў месца ў Жыровіцкім саборы, у кожнага застаўся нейкі непрыемны асадак у душы.

Аўтобус выехаў на цэнтральную дарогу. Я назіраў, як у гэтую майскую пару зелянеюць палі рознай збажыны. Палеткі жыта набылі цёмна-зялёны колер, рыхтуюцца да таго, каб пачаць каласавацца; іншае адценне (зялёнага, бліжэй да салатавага) маюць палі азімай пшаніцы. Угоддзі гэтых культур розняцца ад яравых (ячменю, аўса) тым, што яны спрэс пакрыты дыванам раслін з рознымі адценнямі зеляніны, а з-пад раслін яравіны яшчэ бачны карычнева-шэры колер глебы. Бульбяныя палі пакуль што яшчэ маюць выгляд ворыва, і толькі на некаторых палетках сям-там можна заўважыць, як з-пад зямлі «выпаўзаюць», нібы жукі, вяршкі каліў бульбы. Сустракаюцца свежаапрацаваныя і засеяныя кукурузай палі. Праплываюць загоны, агароджаныя электрапастухом, з буйнымі статкамі кароў. Радзей бачым загоны, дзе пасуцца коні.

На гарызонце лес, і неўзабаве нас агортваюць сосны і яліны. Едзем нібы ў тунелі, і раптам з левага боку ўзнікае досыць высокая плаціна, засланяючы ад нас люстра вялікага возера. Яно ўзнікла пасля таго, як перагарадзілі раку Зэльвянку. Справа ад шашы — г. Зэльва, у якім апошнія свае гады жыла і на мясцовых могілках знайшла свой вечны спачын паэтка Ларыса Геніюш.

Новая магістраль пралягае ў большасці праз лес. Затрымліваемся, каб пасля доўгага сядзення ў аўтобусе падыхаць такім цудоўным паветрам, насычаным ляснымі водарамі, і слухаем канцэрт птушак — салаўя, зязюлі і іншых. Адпачыўшы, сядаем на свае месцы і без затрымак праз гадзіну спыняемся ў Гародні на Савецкай плошчы. Развітваемся з сябрамі, і кожны самастойна дабіраецца да свайго жылля. На развітанне спн. Вера звычайна папярэджвае нас:

— Увага! Харысты, калі ласка, не забывайцеся, што заўтра ў нас рэпетыцыя!

## *Канцэрты ў мястэчку Парэчча ў 1994 годзе*

Чэрвень 1994 года. Хор «Бацькаўшчына» паехаў па запрашэнні ксяндза касцёла мястэчка Парэчча, каб удзельнічаць разам з каталікамі ў асвячэнні чатырох месцаў, што маюць духоўную каштоўнасць.

Сабралася вялікая група з Парэчча і бліжэйшых вёсак, каля дзвюх сотняў каталікоў: мужчын, жанчын і дзяцей розных узростаў. Узначальваў шэсце да святых месцаў ксёндз местачковага касцёла. Побач з ім ішлі ягоныя памочнікі. Яны неслі ўсё неабходнае для рытуалу асвячэння. Мы,

харысты, ішлі недалёка ад галавы калоны, каб пасля малітвы ксяндза і асвячэння аздобленага вянкамі крыжа па знаку спн. Веры спяваць нашы духоўныя песні. Святочнае шэсце з рытуалам асвячэння, малітвамі і спевамі духоўных песень адбывалася з дазволу мясцовых уладаў і стала магчымым пасля тых пераменаў, што адбыліся ў апошнія гады ў краіне.

Рытуал асвячэння закончаны, і ўсе ўдзельнікі прыйшлі ў касцёл, дзе адбылася імша. У канцы святар зрабіў аб’яву пра выступ хору «Бацькаўшчына».

Значная частка прыхаджан, менавіта сялян, узгадала, што яны позняцца на цягнік і пакінула касцёл. Засталіся вернікі з Парэчча. І мы пачалі спяваць тыя песні, якія не выконвалі пры асвячэнні.

Імша скончана. Мы сабраліся ў двары ля касцёла і на памяць сфатаграфаваліся.

Цікава, што за нашу працу нам касцёл заплаціў пяцірублёвай купюрай, якая ў той час высока цанілася — толькі што з’явілася ў абарачэнні.

У другой палове дня спн. Вера прапанавала нам выступіць з канцэртам у мясцовым санаторыі, карпусы якога пабудаваны недалёка ад касцёла. Ідзём туды. Знаёмімся з культ-арганізатарам Галінай Стасюкевіч і галоўным урачом Міхаілам Адаміным. Канцэрт прайшоў паспяхова.

На чыгуначным вакзале, калі мы прыйшлі, каб ехаць у Гародню пасля нашых выступленняў, заставаўся нейкі час, і мы пачалі спяваць рэлігійны гімн каталікоў «Абба Ойча», які развучылі перад паездкай у Магілёў у мінулым годзе і які стаў модным апошнім часам. Прысутныя ўважліва слухалі і былі задаволены мелодыяй упершыню пачутай песні.

Пасля таго, як наш апякун ксёндз Анатоль Маркоўскі быў пераведзены ў іншую парафію, мы паступова адышлі ад штотыднёвага ўдзелу ў імшы ў Фарным касцёле. Новы пробашч Тадэвуш сказаў нам, што ў паслугах хору «Бацькаўшчына» ён не мае патрэбы і лічыць, што кожны прыхаджанін абавязаны ўдзельнічаць у кананічных спевах. Рашэнне ксяндза Тадэвуша падалося крыўдным усяму нашаму калектыву. Мы ж на грамадскіх пачатках выконвалі тое, аб чым нас прасілі прадстаўнікі каталіцкай суполкі, і ўзамен не прасілі аніякай кампенсацыі. Паразважаўшы, я прыйшоў да высновы, што рашэнне ксяндза Тадэвуша вызваліла нас ад абавязкаў кожную нядзелю наведваць касцёл. З’явілася магчымасць гэты час кожнаму харысту прысвяціць асабістым справам.

Святар Тадэвуш арганізаваў пры дапамозе тэхнічных сродкаў высвечванне на экране песень-малітваў. Цяпер прыхаджане ўважліва глядзяць на экран і пад мелодыю аргана спяваюць самастойна. З гэтага часу хор «Бацькаўшчына» прыходзіць у Фарны касцёл (Малую Базіліку) на вялікія святы па запрашэнні кіраўніцтва.

# Артыкул харысткі

Аднойчы спн. Вера прапанавала ўсім харыстам апісаць свае назіранні за тым, як адбываюцца нашы рэпетыцыі, і, магчыма, лепшыя з іх прапанаваць у газету «Пагоня». У газеце нас чамусьці не надрукавалі. Захаваўся артыкул, напісаны ад душы маёй жонкай, таксама ўдзельніцай хору, Ліляй. Яго, на мой погляд, варта надрукаваць цалкам. Артыкул быў на рускай мове, а я яго пераклаў на беларускую. Прапаную яго на старонках гэтай кнігі.

*Над Гародняй апускаецца блакітнае змярканне, халаднавата і трывожна. Сумам вее ад пакрытых снегам вуліц, слізкіх дарог і тратуараў, журботных твараў гарадзенцаў.*

*Здалёк чутныя спеў і словы: «Натерпевшегося и погребенна», «Верую». Як крывавая рана на целе шматпакутнай Беларусі. Гэта адбываецца рэпетыцыя духоўнага хору «Бацькаўшчына».*

*Паслядоўна за першай выконваецца другая песня «Разбойника благоразумного» — адзін з найбольш любімых намі твораў. Закатаваны целам і духам, церпіць мукі грэшнік, каецца і звяртаецца да ўкрыжаванага побач Хрыста: «...просвети и спаси мя!» Крык чалавека аб дапамозе і паратунку. І нараджаецца думка пра пакутніцкі лёс нашага беларускага народа.*

*Трагічны спеў змяняецца пяшчотнымі, лёгкімі, як белакрылыя птушкі, песнямі аб Маці Божай: «Матачка Божая», «Анёл усклікнуў», «Заступніца духоўная».*

*Маем у нашым рэпертуары канцэрт кампазітара Д. Бартнянскага «Воспойте людие», прысвечаны Хрысту, які выказвае бясконцую любоў і радасць песняй ад услаўлення Яго. «Магутны Божа» М. Равенскага — велічны твор, напісаны на словы Н. Арсенневай, напоўнены глыбокім нацыянальным пачуццём, які да сёння не зацверджаны гімнам Беларусі. Нягледзячы ні на што, усе нашы спевы заканчваюцца гэтым велічным творам. Людзі слухаюць яго стоячы.*

*Шмат мы маем у сваім рэпертуары і народных беларускіх песень. Удзельнічаем у розных святах (Купалле, Калядкі, Вялікдзень, Дзяды, Дзень Волі, Дзень Вайсковай славы і іншыя), дапамагаем тым самым адраджаць забытую беларускую культуру, сапраўдную гісторыю.*

*Цяжка нашаму хору, як і гарадзенцам, жыхарам усёй Беларусі. Аб гэтым не варта шмат гаварыць, але мы не можам не нагадаць, што ў нас няма сталага спонсара, адмысловых касцюмаў; усе нашы канцэрты ў школах, вучылішчах, шпіталях дабрачынныя. Хто спявае ў нашым хоры? Настаўнікі, студэнты, інжынеры, пенсіянеры і іншыя.*

*Нашу мастацкую кіраўнічку спн. Веру Кунцэвіч хочацца параўнаць з палаючай паходняй, якая надае нам, харыстам, энергіі. Як толькі яна прыбягае, у літаральным сэнсе гэтага слова, да нас на рэпетыцыю, то*

*пачынаецца цікавейшая праца над музычнымі творамі. Здзіўляе смеласць спн. Веры ў выбары рэпертуару, яе настойлівасць, вясёлы нораў, вобразная, незвычайная мова, а самае галоўнае — яе адоранасць і майстэрства як мастацкага кіраўніка. Яна па дзесяць разоў настойліва патрабуе паўтору якой-небудзь музычнай фразы, дабіваецца тым самым чысціні гучання, правільнасці артыкуляцыі. Нялёгка ёй з намі: мы ж не прафесіяналы, і праграма ў нас складаная.*

*Усіх нашых харыстаў аб'ядноўвае любоў да песні. Для моладзі — адпачынак пасля цяжкай працы, для сталых — цікавае вяртанне ў наша юнацтва. А для ўсіх — магчымасць падняцца ўвысь ад нашай рэчаіснасці, звярнуцца да духоўнасці высокай, чыстай і светлай. Ці ж не ў гэтым шчасце?*

У другой палове 1994 года хор пачаў рыхтаваць новую духоўную праграму, і гэтаму спрыяла Надзея Емяльянчык. Яна расказала спн. Веры, што яе дачка, студэнтка БДУ Вольга, разам з універсітэцкім хорам пабывала ў Колдзінгу — Дацкае Каралеўства — і расказала аб гэтай цудоўнай краіне, аб яе людзях, аб іх добразычлівасці ў адносінах да нашых людзей і жаданні дапамагчы нам у вырашэнні нашых матэрыяльных складанасцей. І галоўнае, Вольга пазнаёмілася з пастарам адной з лютэранскіх цэркваў г. Колдзінга Эрыкам Ланк'ерам, з якім, па яе меркаванні, варта ладзіць культурныя сувязі. Сп. Эрык вельмі зацікаўлены ў культурным абмене харавымі калектывамі нашых краін. Яму падабаліся беларускія песні ў выкананні хору БДУ, і ён выказаў пажаданне больш глыбока пазнаёміцца з беларускай культурай. Надзея сказала спн. Веры, што трэба прапанаваць сп. Эрыку паездку хору «Бацькаўшчына» з канцэртам у Данію. Аб гэтым стала вядома ўсяму калектыву хору, і мы пачалі рыхтаваць новую праграму. Весці перамовы з Эрыкам наконт магчымай паездкі Надзея даручыла дачцэ Вользе.

Рэпетыцыі хору звычайна пачыналіся з кастрычніка. Заканчвалася праца на нашых летніках-агародах. Лістоты на дрэвах рабілася ўсё менш. З пачаткам кастрычніка з'явіліся начныя замаразкі. Раніцай трава пакрывалася белай «коўдрай», ад якой веяла холадам. Каля клёнаў, каштанаў і іншых шыракалістых парод дрэў пасля марознай ночы было шмат апалай лістоты чырвона-карычневых колераў і іх розных адценняў. У сярэдзіне кастрычніка выпаў снег, а 20-га числа я выпадкова быў на падворку першай паліклінікі і пачуў характэрныя жураўліныя крыкі. Не можа быць, падумаў я, каб у гэты час ляцелі журавы! І вось дзіва! Калі падняў галаву, то заўважыў вялікі клін гэтых птушак, і ляцелі яны чамусьці не на поўдзень, а на захад. І я падумаў: выпаўшы заўчасна снег зблытаў іх напрамак руху. Далейшае назіранне паказала, што птушкі ўсё ж такі павярнулі на поўдзень.

У такую багатую на зямныя шчодрасці восень пачыналася праца хору над новымі творамі беларускай духоўнай музыкі, менавіта над тымі, якія

прыслаў спн. Веры з лонданскай Скарынаўскай бібліятэкі англічанін-беларусіст Гай Пікарда.

Прайшоў нейкі час, і спн. Надзея паведаміла нам, што сп. Эрык згодзен запрасіць хор «Бацькаўшчына» ў г. Колдзінг на гастролі. Ён пажадаў, каб у нашым рэпертуары былі не толькі духоўныя музычныя творы, але і беларускі фальклор, а таксама і духоўныя праваслаўныя песні, якія яму падабаюцца. Гэта спн. Вера ўлічыла. Пачалася праца па падборы песень беларускага фальклору: «Пад гарою каліна», «Гродзенскі вальс», «Колькі ў небе зор» кампазітара Шыдлоўскага, «Бывайце здаровы…» і іншыя. З праваслаўнай музыкі ў канцэртную праграму былі ўключаны «Воспойте людие» кампазітара Д. Бартнянскага, «Верую», «Жертва вечерняя» і іншыя.

У канцы верасня па просьбе гарадзенскай каталіцкай суполкі мы ўдзельнічалі ў зводным хоры Францысканскага касцёла. Там ішла падрыхтоўка да святкавання 100 год з дня нараджэння Максімільяна Кольбэ, які ў даваенныя гады працаваў святаром гэтага касцёла. У часы фашысцкай акупацыі ён быў арыштаваны і пайшоў на смерць замест вязня, якога фашысты прысудзілі да смяротнай кары. Максімільян Кольбэ рашэннем Ватыкана быў залічаны ў лік святых.

1 кастрычніка на адмысловай пляцоўцы побач з каталіцкім храмам, дзе быў збудаваны часовы алтар, адбывалася святочная літургія. Прадстаўнікі нашага калектыву ўдзельнічалі ў зводным хоры, які разам з арганістам Бруна Тэрменам абслугоўваў набажэнства ў гонар святога мучаніка Кольбэ. На гэтае свята прыехала як з Беларусі, так і з замежжа каталіцкае духавенства розных рангаў. Імша ў гонар 100-гадовага юбілею Максімільяна Кольбэ — незвычайная падзея таму, што на ёй прысутнічалі вышэйшыя чыны іншых канфесій. У прыватнасці, праваслаўных Беларусі прадстаўляў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Уладыка Філарэт.

Да юбілею кіраўнік зводнага хору ў гонар святога Кольбэ напісаў песню. Польскі тэкст яе быў перакладзены нашым паэтам-харыстам Юрыям Сіткевічам на беларускую мову, а зводны хор выканаў яе ў імшы. Яе змест і мелодыя нам настолькі спадабаліся, што мы яе выконвалі ў канцэртах духоўнай музыкі неаднаразова.

26 кастрычніка 1994 года нашы харысты Вера Быкоўская і Аляксандр Гашко, настаўнікі СШ № 25, запрасілі хор, каб мы паказалі сваё майстэрства перад калектывам настаўнікаў і вучняў. Выконвалі духоўныя, патрыятычныя песні, і яны, відаць, слухачам спадабаліся, бо пасля канцэрта настаўнікамі быў арганізаваны пачастунак — «шведскі стол». За сталом абмяняліся думкамі адносна канцэрта. Спн. Вера запрасіла прысутных прыйсці да нас на рэпетыцыі і, магчыма, далучыцца да нашага калектыву. Такую прапанову яна заўсёды рабіла, дзякуючы чаму хор вырастаў

колькасна. І ў гэты раз на наступную рэпетыцыю да нас прыйшлі Ганна Траццяк, Галіна Юхневіч і інш.

Наш хор сваімі канцэртамі знаёміў слухачоў з багатай нацыянальнай спадчынай, якая была забытая, а пры мінулай уладзе і забароненая. Слухачы, паслухаўшы нас, разумелі, які пласт культуры ў мінулым быў ад іх схаваны.

Заканчваўся 1994 год. Мы прыйшлі ў Фарны касцёл і дапамагалі арганісту Бруна ў імшы на Дзяды 2 лістапада, а 25-га нас упершыню запрасілі на канцэрт у Бернардынскі касцёл. У сярэднявеччы на гэтым пляцы, па вуглах чатырохкутніка, былі пабудаваны чатыры касцёлы: Фарны (Малая Базіліка), Бернардынскі, Фара Вітаўта і чацвёрты на месцы, дзе зараз пабудаваны Гродзенскі драматычны тэатр. Апошні быў парушаны мінулай вайной. Фара Вітаўта, ці, як яго раней называлі, Вайсковы касцёл, я памятаю, быў у добрым стане, аднак у пасляваенныя часы як святыня не выкарыстоўваўся. І калі пры Хрушчове пачалася кампанія барацьбы з рэлігіяй, Фара Вітаўта была ўзарвана, і гэта нягледзячы на тое, што яе вежы ў Гародні былі самымі высокімі і на яе разбурэнне патрабаваўся спецыяльны дазвол з Масквы…

25 снежня а 15 гадзіне ў дзень Божага Нараджэння мы спявалі на імшы; у канцы нас запрасілі ў закрысце, і ўпершыню там мы віншавалі ксяндза Тадэвуша з Калядамі.

Пачаўся новы 1995 год. Едзем з канцэртам у санаторый Парэчча — мястэчка, пагранічнае з Літвой. Там нас сустрэлі нашы знаёмыя: доктар сп. Адамін і культарганізатар спадарыня Стасюкевіч. Вядуць у спецыяльны пакой, дзе мы пераапранаемся ў сваю канцэртную форму: жанчыны ў белыя блузкі і чорныя спадніцы, а мужчыны ў чорныя касцюмы з белымі кашулямі і чорнымі гальштукамі. Улічваючы тое, што ў нашага хору няма спонсара, мы не маем адмысловых касцюмаў, таму заўважаецца разнабой у нашай канцэртнай форме як у мужчын, так і ў жанчын. Падрыхтаваўшыся, мы ідзём у канцэртную залу, якая насупраць пакоя, дзе нас размясцілі. Падымаемся на сцэну, а за намі спн. Вера; яна сваім уступным словам віншуе праваслаўных з Калядамі і жадае ўсім тым, хто прыехаў на лячэнне, поспехаў.

Пачынаецца канцэрт. Вядучая, Надзея Емяльянчык, абвяшчае па чарзе песні і дае скарочаную характарыстыку іх тэкстам. Канцэрт падыходзіць да канца. Апошнім творам гучыць, па нашай традыцыі, рэлігійны гімн «Магутны Божа».

Канцэрт закончаны. Атрымаўшы падзяку ад слухачоў воплескамі, ідзём у прыёмны пакой, пераапранаемся, а там ужо падрыхтаваны гарбата і кава. Частуемся — і хуценька на чыгуначную станцыю, купляем да Гародні білеты і бачым, што да адпраўлення цягніка чакаць трэба цэлую гадзіну. Мы пачынаем спяваць калядкі ля білетнай касы вакзала. Слухачамі былі

ў асноўным пасажыры, што едуць з намі ў напрамку Гародні. Прысутныя затрымліваліся і здзіўляліся нашай смеласці, дзякавалі за незвычайныя песні і іх цудоўнае выкананне. Неўзабаве сядаем у цягнік і дамаўляемся сабрацца ўсім харыстам у адным вагоне. Ехаць нам застаецца гадзіну часу, і мы зноў пачынаем спяваць, але на гэты раз стыхійна спяваем песні, якія нам больш за ўсё да спадобы. Большасці з нас, у тым ліку і мне, падабаецца песня «Шумяць вербы». У гэтай песні расказваецца аб вербах, якія пасадзіла дзяўчына, што чакае свайго каханага, які паехаў далёка. І заканчваецца спеў тым, што той, каго яна пакахала, вяртаецца, і яе мара ўрэшце збываецца. Вось такі просты яе змест, аднак мелодыя яе, у якую кампазітар уклаў усю сваю душу, кранае любога, хто яе слухае, і, на маю думку, яшчэ большае задавальненне атрымліваюць выканаўцы. Наш дацкі сябра сп. Эрык Ланк'ер выказаў цікавую думку: любая песня, створаная душой чалавека, з'яўляецца духоўнай, і з ім мы не можам не пагадзіцца. Нездарма ж кажуць: песня — душа народа.

Прыехалі дахаты, калі добра сцямнела.

## *Хор едзе калядаваць ў Гудзевічы*

15 студзеня 1995 года нам прыслалі аўтобус з калгаса вёскі Гудзевічы, каб мы выступілі там з калядным канцэртам. Запрашэнне мы атрымалі ад старшыні калгаса М. А. Проньві па ініцыятыве нашага сябра Алеся Белакоза — дырэктара Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея.

Наш аўтобус прыпыняецца насупраць музея, і мы ўсім хорам ідзём у адміністрацыйны пакой. На парозе нас ветліва сустракае дырэктар Алесь Белакоз, заслужаны дзеяч культуры БССР. Знаёмімся. У склад музея ўваходзяць некалькі былых будынкаў Гудзевіцкай школы і драўляная хата з саламяным дахам тыповай забудовы сялян Панямоння канца XIX – пачатку XX стагоддзя. Сп. Белакоз прапануе харыстам пачаць агляд музея менавіта з гэтай хаты, каб паказаць нам, у якіх умовах жылі сяляне, і заадно абвергнуць міф, што яны жылі ў курных хатах да 1917 года. Памеры гэтай забудовы прыкладна 10 на 6 метраў, вышынёй не больш як два метры. Унутры хата падзелена на цэнтральны пакой, сені і камору, дзе захоўваюцца розныя гаспадарчыя прылады: скрыні і корабы для зерня і мукі, дзежкі, балеі, кублы для мясных прадуктаў. Тут жа паліцы, на якіх захоўваюцца збанкі, глячкі, кубельчыкі, корабы з куццёй, гарохам, фасоляй, мукой, крупамі. Ляжаць сельскагаспадарчыя прылады для апрацоўкі глебы і іншыя інструменты, неабходныя ў гаспадарцы. У цэнтральным пакоі ёсць звычайная цагляная печ, якая прызначалася для выпечкі хлеба, а ў святы — пірагоў, прыгатавання ежы сямейнікам, свінням, курам, пойла цялятам і г. д. Печ у зімовы час абагравае дом і вылечвае ад многіх хвароб. На прыпечку і побач з ім

месяцца розных тыпаў патэльні, чыгуны, гаршчэчкі, рагачы і шмат чаго іншага, каб як мага зручней гаспадыні выконваць свае абавязкі.

Падрабязна пазнаёміўшы нас з бытам сялян таго часу і адказаўшы на нашы пытанні, сп. Алесь прапанаваў нам зайсці ў іншае памяшканне — пазнаёміцца з людзьмі, якія ў гэтым незвычайным краі пісалі свае цудоўныя вершы, кнігі. Мы апынуліся ў зале, дзе экспануюцца творы паэтаў і пісьменнікаў Мастоўшчыны.

Сяло Гудзевічы вядома тым, што ў мясцовай школе пры паляках вучылася паэтка Ларыса Геніюш, наш нацыянальны гонар. Яе радзіма непадалёку ад Гудзевіч — фальварак Жлобаўцы. У музеі мы бачылі цікавыя экспанаты, якія адлюстроўваюць яе творчасць.

Спяшаемся — нас ужо чакаюць слухачы ў калгасным клубе, таму коратка знаёмімся з медыцынскім аддзелам музея; даведваемся аб тым, што сп. Алесь, не маючы медыцынскай адукацыі, карыстаючыся парадамі мясцовых траўнікаў, сабраў шмат рэцэптаў, прапануе іх тым хворым, якіх афіцыйная медыцына лічыць невылечнымі.

Пасля павярхоўнага агляду экспанатаў музея (дэталёвае знаёмства пераносіцца на другі заезд) ідзём у клуб, дзе нас ужо чакаюць мясцовыя жыхары. Канцэрт складаўся з калядных песень, якія слухачы старэйшага пакалення пачулі ўпершыню, а былі і такія песні, якія гучалі ў далёкім мінулым, калі ў іх хату прыходзілі калядоўшчыкі. Канцэрт закончаны. На сцэну падымаецца старшыня калгаса М. С. Пронька, звяртаецца да нас з падзякай ад імя ўсіх прысутных за такі незвычайны канцэрт. Па запрашэнні старшыні калгаса мы ідзём у сталоўку на абед, а пасля сядаем у той жа аўтобус і едзем у Гародню.

Ляцяць нам насустрач ялова-хваёвыя лясы — яны захавалі сваё зялёнае ўбранства. На снезе бачны сляды птушак, якія і ў гэты сцюдзёны час засталіся з намі. Няўтульна ў халодную пару лясным жыхарам.

Пазнаёміўшыся з Гудзевіцкім музеем і сп. Алесем Белакозам, мы ўсе зразумелі, што гэтае месца — калыска беларускасці і адраджэння нашай нацыі, і я падумаў: нам туды неабходна будзе яшчэ не адзін раз вяртацца.

# Вясна 1995 года

Вясна 1995 года не спяшалася, каб адарыць нас цяплом. 25 сакавіка мы святкуем Дзень Волі. Гэта той дзень, калі група патрыётаў сабралася ў Менску 77 гадоў таму і абвясціла трэцюю Устаўную грамату аб утварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі (скарочана БНР). Праіснавала БНР менш як адзін год ва ўмовах нямецкай акупацыі кайзераўскімі войскамі, якія неспрыяльна ставіліся да з’яўлення БНР. Нягледзячы на цяжкасці, быў закладзены падмурак нашай незалежнасці, і кожны год 25 сакавіка свядомыя беларусы збіраюцца разам, каб ушанаваць тых, хто пайшоў на такі адважны крок і ахвяраваў сваім жыццём, каб Беларусь стала незалежнай. І вось сёння ўся дэмакратычная грамадскасць Гародні сабралася ў лялечным тэатры. З прамовай да прысутных звярнуўся прафесар Гродзенскага ўніверсітэта Аляксей Пяткевіч. Ён расказаў аб падзеях 1918 года, а хор «Бацькаўшчына» праспяваў патрыятычныя песні і закончыў выступленне гімнам «Магутны Божа».

11 красавіка па прапанове супрацоўніка тэлерадыёкампаніі Валерыя Задалі хор запрасілі ў радыёстудыю па вуліцы Горкага з тым, каб запісаць нас для абласной святочнай радыёперадачы. Запіс песень адбываўся складана: даводзілася па некалькі разоў перапісваць амаль што кожную песню, каб выдаць больш-менш якасную праграму. Урэшце запіс закончаны, і праз нейкі час наш хор прагучаў у адной з перадач абласнога радыё.

Пасля запісу выйшлі ў двор тэлестудыі, а там вярнулася зіма. Блакітныя елкі пакрыліся мяккім пушыстым снегам. Моладзь, убачыўшы перамены ў двары студыі, пачала гуляць у снежкі, а мы пайшлі дахаты.

18 красавіка нас запрасілі ў залу каралеўскага замка, каб запісаць велікодны канцэрт хору на відэакасету і паказаць па праграме абласнога тэлебачання ў дзень Уваскрасення Хрыста. На запіс відэакасеты мы з Ліляй спазніліся. Уліліся ў хор пасля выканання некалькіх песень.

26 красавіка 1995 года па запрашэнні нашых сяброў мы зноў едзем у санаторый Парэчча з канцэртам велікодных песень. У гэты заезд на канцэрт прыйшоў бацюшка праваслаўнай Парэчскай царквы. Перад канцэртам ён павіншаваў усіх пацыентаў і прысутных з вялікім святам Уваскрасення Хрыста, пажадаў дабрабыту ім і іх сем’ям. Хор пачаў канцэрт з велікодных напеваў «Хрыстос уваскрос з мёртвых, смерцю смерць зваяваў…», якія выконваліся на розныя мелодыі: звычайную і гарадзенскую, кожную па тры разы запар. А затым былі песні таксама біблейскага зместу. Упершыню прагучала ў нашым канцэрце песня кампазітара А. Туранкова «Разбойника благоразумного». Прысутныя былі здзіўлены, уважліва слухалі і з удзячнасцю нам пляскалі.

У Гародню ехалі ў цягніку ўсе ў адным вагоне і, як у мінулы прыезд, зноў спявалі песні.

## Мы на юбілеі Мірскага замка

Надышоў чэрвень 1995 года. Тэрмінова на рэпетыцыі развучваем песню Я. Петрашэвіча: «Замак Мірскі — волі калыска», напісаную з нагоды пяцісотых угодкаў Мірскага замка, каб уключыць яе ў склад канцэрта, на які нас запрасілі ў мястэчка Мір Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці. Не паспелі як след развучыць песню, як паехалі раніцай 3 чэрвеня, мінаючы Навагрудак, праз Карэлічы ў Мір. Прыехалі мы туды а 12 гадзіне. Затрымаліся на спецыяльнай, толькі што заасфальтаванай пляцоўцы. Кіраўніком паездкі і адказным за яе быў харыст Вітаўт Парфёненка. Пайшлі знаёміцца з замкам і яго наваколлем.

Вежы замка мы бачым здалёк, пад’язджаючы да мястэчка Мір. У той час, калі святкаваўся пяцісотгадовы юбілей, ён яшчэ не быў поўнасцю адбудаваны. Трэба адзначыць, што было зроблена шмат чаго: вежы замка ўражвалі нас сваёй велічнасцю і незвычайнай архітэктурай. Праўда, не ўсе яны былі поўнасцю даведзены да ладу. Відаць, спатрэбіцца шмат сродкаў і часу, каб архітэктурны помнік сярэднявечча набыў свой арыгінальны выгляд. Так я разважаў, аглядаючы ўсё, што бачыў зараз.

Калі ўсе харысты сабраліся ля калодзежа ў двары замка, то спн. Вера прапанавала падняцца нам на паўднёвую галерэю і праспяваць толькі што падрыхтаваную намі песню «Замак Мірскі — волі калыска». Падымаемся па стромай лесвіцы каля цэнтральнай паўднёва-заходняй вежы, якая поўнасцю адбудаваная, уладкоўваемся — і гучыць песня. Слухачамі былі тыя госці свята, што ў гэты час апынуліся ў двары замка. Пасля спусціліся па той жа лесвіцы, і нам спн. Вера прапанавала адпачываць, знаёміцца як з замкам, так і з ягонымі ваколіцамі, і не забываць, што сёння давядзецца выступаць перад гасцямі, якія прыехалі на юбілей.

Гасцей сабралася столькі, што яны запоўнілі ўсю прастору вакол. Дзень, на радасць усім гасцям, быў сонечным, цёплым. Было шмат бел-чырвона-белых нацыянальных гістарычных сцягоў.

Вакол замка размясціліся гандлёвыя шапікі, дзейнічала выстава былых шляхецкіх брычак. Каля замкавага става былі падрыхтаваны дровы для таго, каб ноччу распаліць вогнішчы.

Пасля 12 гадзіны ўсіх папрасілі пакінуць двор замка, таму што прыехала высокае начальства. Цэнтральныя дзверы ў замак зачынілі і паставілі варту.

Насупраць замка была змайстравана спецыяльная драўляная канцэртная пляцоўка, на якой выступалі мастацкія калектывы Гарадзеншчыны.

Кіраўнікі юбілею склалі план, у адпаведнасці з якім была намечана чарга выступленняў мастацкіх калектываў. Паводле плана, наш хор павінен быў спяваць не раней, як а 17 гадзіне, таму мы мелі значны запас часу, які трэба было чымсьці запоўніць.

На поўначы ад става знаходзіцца вялікіх памераў мазаічная ікона Хрыста, і харысты сабраліся тут, каб сфатаграфавацца. Пазнаёміліся з прадстаўнікамі шляхты і ўрэшце пайшлі пераапранацца. Набліжаўся час нашага выступлення. Падымаемся на пляцоўку і спяваем у асноўным духоўныя песні і абавязкова песню Я. Петрашэвіча «Замак Мірскі — волі калыска». У канцы — гімн «Магутны Божа».

Канцэрт нашага хору прысутныя ацанілі высока менавіта таму, што ён адрозніваўся ад іншых сваёй высокай духоўнасцю.

Набліжалася ноч. Трэба было вырашаць пытанне: дзе і як будзем начаваць? Маладзейшыя харысты пажадалі застацца і спаць у намётах ля замка, а пажылым сп. Талерчык прапанаваў паехаць на начлег у вёску Турэц. Там яго сват Леанід Рыгоравіч Цімошчык працуе святаром мясцовай царквы, і ён абяцаў арганізаваць начлег усім пажылым харыстам. З гэтай прапановай і пагадзіліся. Пакідаем маладзейшым палаткі і едзем у Турэц, які знаходзіцца між Карэлічамі і Мірам. Праз дзесяць хвілін мы ў Турцы. Амаль усіх уладкоўваем на начлег па хатах мясцовых жыхароў, а мне з Ліляй Аляксандр Сямёнавіч прапануе разам з ім і ягонай унучкай Насцяй начаваць у айца Леаніда.

Раніцай пасля снедання пайшлі ўсе ў Турэцкую царкву. Там сабраліся харысты, якія прыехалі разам з намі, у тым ліку і наша спн. Вера. Пачалася абедня, некаторыя нашы харысты ўдзельнічалі ў літургічных спевах. Пасля абедні хор выступіў з канцэртам духоўнай музыкі.

Развітваемся з гасціннымі жыхарамі Турца і айцом Леанідам, пажадаўшы ім многае лета. Едзем, каб выступіць з канцэртам у Мірскім касцёле. Праз дзесяць хвілін наш аўтобус прыпыняецца. Гэта быў год, калі касцёл у Міры пасля бальшавіцкага глумлення над гэтай гістарычнай святыняй пачаў сваю службу. У касцёле яшчэ бачны сляды разбурэння, шмат друзу: рэстаўратары не паспелі яго прыбраць. І вось у такіх незвычайных абставінах нам давялося пасля імшы выступаць з канцэртам. Праспявалі каля дзесяці духоўных твораў-малітваў на беларускай мове. Відаць, упершыню прыхаджане пачулі выкананне малітваў на той мове, на якой спрадвечна яны размаўляюць у сем’ях. Касцельнай мовай раней для іх заўсёды была польская. Пасля канцэрта з падзякай за нашы духоўныя спевы выступіў святар. Ён запрасіў хор «Бацькаўшчына» пры аказіі наведаць касцёл у мястэчку Варонча (там ён таксама па сумяшчальніцтве адпраўляе імшу) з канцэртам, а сябра касцельнай рады дзякаваў нам за нашы спевы на беларускай мове. Запрашэнне святара наведаць з канцэртам Варончу так мы і не скарысталі, таму што не знайшоўся спонсар, які б прафінансаваў

згаданую паездку. Мне асабіста хацелася б пабываць у Варанчанскім касцёле менавіта таму, што там у 1796 годзе хрысцілі пачынальніка беларускай літаратуры Яна Чачота, а на Варанчанскіх могілках пахаваны бацькі і браты Марылі Верашчакі. Наведваў касцёл Адам Міцкевіч.

## *Май–ліпень 1995 года*

Пасля паездкі ў мястэчка Мір рэпетыцыі хору працягваліся па плану ўвесь чэрвень, а 29-га нас запрасілі з канцэртам у Інстытут павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Слухачамі былі настаўнікі, якія прыехалі з розных школ Гродзенскай вобласці на курсы ў час летніх канікул. Канцэрт ім спадабаўся незвычайным рэлігійным зместам песень, пачутых імі ўпершыню па-беларуску.

1 ліпеня 1995 года на беразе Нёмана ва ўрочышчы Кукалі ўжо трэці раз адбылося купальскае свята. Было людна, надвор'е спрыяльнае, пагоднае. Купальскае вогнішча шугала ва ўсю моц. Сабраўшыся вакол яго, удзельнікі спявалі і танцавалі, а хто сядзеў на ўзвышшы — глядзеў на полымя, з замілаваннем назіраў за ўсім, што дзеецца вакол. Усю ноч весяліліся. На золку ішлі на бераг ракі з вянкамі, са свечкамі, замацаванымі на пластыку; дзяўчаты штосьці загадвалі, апускалі іх на ваду пад гукі песень «Ой, рана на Івана жаркае сонца ўставала…», «Купалінка» і інш. А на паўночна-ўсходнім ускрайку неба з'яўлялася ўсё больш святла. Нараджаўся новы дзень. Удзельнікі хору, выканаўшы запланаванае, пайшлі на адпачынак. Глядзелі, як дагараюць дровы вогнішча, самыя маладыя ўдзельнікі. Сярод іх быў мой пятнаццацігадовы ўнук Цімафей Гашко. Яны стаялі, глядзелі на полымя і аб чымсьці марылі — былі шчаслівыя. Пакінулі вогнішча, калі зусім развіднела.

15 ліпеня адбылося адкрыццё помніка Вітаўту, вялікаму князю і палкаводцу шматлікіх ваенных паходаў: кіраваў харугвамі Вялікага Княства Літоўскага ў Грунвальдскай бітве і нейкі час жыў у Гародні. Помнік уяўляе з сябе выразаную з дрэва выяву Вітаўта, ўсталяваную паміж двума замкамі — Новым і Старым. На адкрыццё прыйшло шмат людзей з бел-чырвона-белымі нацыянальнымі сцягамі і гербам «Пагоня». З прамовай аб ролі князя Вітаўта ў гісторыі ВКЛ выступілі старшыня гродзенскай рады БНФ Кастусь Жынь і іншыя. Хор «Бацькаўшчына» праспяваў патрыятычныя і духоўныя песні.

9 жніўня ў чытальнай зале беларускай філалогіі адбылася вечарына з нагоды гадавіны смерці Ларысы Геніюш. Арганізатарам мерапрыемства ў гонар славутай паэткі была Сафія Вараб'ёва-Дольская. Яна прапанавала прысутным прачытаць адзін верш, на свой выбар, са зборніка паэтэсы «Ад родных ніў…». З цікавымі ўспамінамі аб сваёй старэйшай сяброўцы

выступіла Данута Бічэль. Ніна Паўлаўна Міклашэвіч — выкладчыца беларускай мовы ўніверсітэта (Міклашэвіч — дзявочае прозвішча паэткі) — падзялілася ўспамінамі аб сваячцы Ларысе. Прысутныя харысты праспявалі ў гонар паэткі некалькі духоўных песень.

11 верасня хор удзельнічаў ў свяце пісьменства і друку, якое адбылося ў канцэртнай зале Новага замка, — выступіў з вялікім канцэртам духоўных песень. На свяце прысутнічалі вядомыя людзі нашага горада Сямён Домаш і Аляксандр Мілінкевіч.

26 кастрычніка нас запрасілі ў 9 школу ў сувязі са святкаваннем Дзён славянскай культуры. У той час гэтая школа была цалкам беларускамоўнай, і мы там паслухалі цікавыя пастаноўкі вучняў на беларускай мове, а пасля выступілі з канцэртам. Педагагічны калектыў і вучні былі ўдзячны нам, што мы разам з імі адметна ўшанавалі Дні славянскай культуры.

## Восень 1995 года

30 кастрычніка да нас завітаў Мінскі фальклорны моладзевы ансамбль. З ім прыехала ў якасці кіраўніка Вольга Емяльянчык. Незвычайная манера выканання песень гэтага калектыву зацікавіла нас сваёй арыгінальнасцю і блізкасцю да народнага стылю. Праслухаўшы іх, мы былі ім удзячны за смелы эксперымент і цудоўнае выканаўчае майстэрства.

2 лістапада 1995 года на чыгуначным вакзале адбылося адкрыццё памятнай дошкі інсургентам Кастуся Каліноўскага. Сабраліся прадстаўнікі дэмакратычных аб’яднанняў пад кіраўніцтвам БНФ з бел-чырвона-белымі сцягамі. Калонай прыйшлі да паўночнай сцяны вакзала, дзе была замацаваная адмысловая дошка, занавешаная покрывам. З прамовай выступіў прадстаўнік БНФ. Ён расказаў аб змаганні атрада інсургентаў супраць царскіх карных войскаў на гродзенскім чыгуначным вакзале 132 гады таму. І пад гукі патрыятычных песень, праспяваных хорам «Бацькаўшчына» і прысутнымі, апускаецца покрыва. Бачым надпіс: «1863 год. На чыгуначным вакзале 14 сакавіка 1863 года адбыўся бой паміж атрадам гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі і царскімі войскамі».

9 лістапада нас запрасілі на пасяджэнне клуба «Паходня», каб мы выступілі з канцэртам духоўнай музыкі на Дзяды. Гэтае свята ўзнікла ў далёкія дахрысціянскія часы. Беларусы беражліва захоўваюць традыцыю святкавання Дзядоў, якая, па сутнасці, узнікла ў часы паганскіх вераванняў. І па гэтай прычыне хрысціянская царква не лічыць Дзяды сваім святам. У той жа дзень беларусы, як правіла, ідуць на могілкі, каб упарадкаваць магілы сваіх блізкіх, а ўвечары збіраюцца ўсёй сям’ёй дома ля багатага стала, гаспадыня кладзе на покуці дзядам яду і запрашае іх на вячэру. Гаспадар прапануе памаліцца. А пасля частуюць дзядоў і частуюцца самі.

Вось прыкладна такі абрад ушанавання дзядоў існуе і зараз у многіх сем’ях, пераважна ў сельскай мясцовасці.

І вось мы разам з «пахаднянцамі» прыйшлі на святкаванне Дзядоў у Гарадскі дом культуры. Вядучы, старшыня «Паходні» Мікола Таранда, коратка расказаў аб традыцыі ўшанавання дзядоў. Харысты падняліся на сцэну і праспявалі песні-малітвы. Вось так мы ўсе ўспомнілі нашых блізкіх, якія назаўсёды адышлі ад нас.

25 лістапада разам са студэнтамі і выкладчыкамі філалагічнага факультэта прысутнічаем на літаратурнай вечарыне Уладзіміра Караткевіча. Аб жыцці і творчасці пісьменніка расказаў прафесар Аляксей Пяткевіч. Студэнты выступілі з інсцэніроўкамі фрагментаў твораў пісьменніка. Хор выканаў некалькі духоўных твораў і закончыў гімнам «Магутны Божа».

## *Снежаньска-студзеньскія калядныя канцэрты 1995–1996 гадоў*

16 снежня дырэкцыя 15 школы нас запрасіла на літаратурную вечарыну Уладзіміра Караткевіча з нагоды 65-й гадавіны з дня яго нараджэння. Пасля праслухоўвання літаратурных замалёвак з твораў Караткевіча, выкананых вучнямі старэйшых класаў, хор выступіў з канцэртам духоўнай музыкі.

З 25 снежня пачаліся каталіцкія святы Нараджэння Божага Сына Ісуса Хрыста — Каляды. На першы дзень мы па запрашэнні грамадскасці выступілі са святочным канцэртам у былым тэатры А. Тызенгаўза. Канцэрт пачаўся гучаннем песні «Нова радасць стала». Пасля гэтай песні паказаў сваё майстэрства польскі хор. Прагучалі калядныя песні на польскай мове. І як толькі палякі скончылі свае калядкі, мы ізноў падняліся на сцэну і працягвалі спяваць аб незвычайным свяце Божага Нараджэння.

26 снежня нам прапанавалі наведаць музей Максіма Багдановіча. Прыйшлі туды разам з прадстаўнікамі беларускай каталіцкай суполкі. Ветліва вітала прысутных спн. Данута Бічэль. Разам з хорам былі запрошаны музыкі-гітарысты, якія і пачалі святочны канцэрт у цэнтральнай экспазіцыйнай зале сваімі мілагучнымі мелодыямі. У працяг канцэрта выступіла група хору «Бацькаўшчына» з калядкамі.

Пачынаўся 1996 год. Харысты атрымалі адпачынак да 8 студзеня. Ва ўсіх нас з’явілася надзея ў новым годзе паехаць на гастролі ў Дацкае Каралеўства, што натхняла нас рэгулярна наведваць рэпетыцыі. На адну трэцюю частку павялічыўся колькасны склад хору.

8 студзеня прыйшлі на праваслаўныя Каляды ў офіс БНФ разам з нашымі дзецьмі, якія сабраліся вакол ёлкі. Пад кіраўніцтвам нашай спн. Веры ладзілі з імі гульні, танцы і чыталі вершы, спецыяльна падрыхтаваныя да

Каляд. За сваё ўмельства ўдзельнікі атрымлівалі падарункі. Пасля харысты размясціліся паўкругам ля ёлкі і праспявалі калядкі прысутным.

10 студзеня па запрашэнні дырэкцыі вучылішча № 41 выступілі з калядаваннем. Па адпаведным сцэнары група харыстаў, пераапранутых казой, мядзведзем, цыганом, зайцамі і іншымі героямі народных гульняў, паказала калядную інсцэніроўку. У песнях удзельнічалі ўсе харысты. Гаспадары аддзячылі падарункамі.

14 студзеня нас запрасілі пакалядаваць на Станцыі юных натуралістаў па вуліцы Антонава. Там група хору паспяхова правяла калядаванне па тым жа сцэнарыі, што і ў вучылішчы. Калектыў станцыі і тыя юнакі, у каго маецца незвычайная цяга да расліннага свету, прыйшлі ў нядзелю на станцыю, каб паслухаць канцэрт-калядкі ўпершыню ў сваім жыцці. Раней ім гэта катэгарычна забаранялася, а цяпер яны апынуліся на нейкі час у казачным свеце, якога ім не даводзілася чуць. Тэатралізаваная дзея слухачам спадабалася, і калі харысты, спяваючы калядку-шчадроўку «Добры вечар…», праспявалі: «Каляду нам дайце, дайце, не шкадуйце…», то слухачы нам паднеслі падрыхтаваную каляду, хаця ўсе разумелі, што ўсё гэта традыцыйная гульня, якая нікога не абавязвае нечым аддзякаваць.

## *Канцэрты. Люты–красавік 1996 года*

27 лютага нас запрасілі на прэзентацыю мастацкай выставы па вуліцы Ажэшкі. У залі, дзе развешаны палотны гарадзенскіх мастакоў, сабралася шмат прыхільнікаў мастацтва. Вядучы сходу паведаміў прысутным аб тым, што мы сабраліся на прэзентацыю выставы палотнаў. З нагоды гэтай падзеі запрасілі хор «Бацькаўшчына» выступіць з канцэртам духоўных песень. Харысты размясціліся ў самай вялікай зале насупраць слухачоў і праспявалі каля дзясятка твораў-малітваў.

25 сакавіка 1996 года святкуем Дзень Волі. Свядомыя беларусы Гародні сабраліся ў Лялечным тэатры, каб ушанаваць 78 гадавіну БНР і ўспомніць добрым словам тых, хто здзейсніў мару шматлікіх пакаленняў беларусаў пра незалежнасць нашай Радзімы. З канцэртам патрыятычных песень выступіў хор «Бацькаўшчына».

Наступіла вясна 1996 года. Толькі што зямля скінула сваё халоднае покрыва. Сям-там прачынаецца ад зімовай спячкі разнатраўе, з’яўляюцца зародкі будучых раслін, і з кожным днём, з пацяпленнем іх колер становіцца ўсё больш насычана зялёным — напамін неабыякавым людзям аб тым, што трэба рыхтавацца да веснавых работ.

Пасля святкавання Дня Волі працягвалі рыхтаваць велікодную праграму. У пачатку красавіка 1996 года дамовіліся з супрацоўнікамі Музея рэлігіі

па вуліцы Замкавай — правялі там падрыхтоўку праграмы велікодных канцэртаў.

7 красавіка з абноўленай праграмай спявалі на хорах Фарнага касцёла пад акампанемент арганіста Бруна Тэрмена, а ў канцы спусціліся ўніз і, з дазволу святара, размясціліся паўкругам ля Святога алтара і праспявалі велікодныя песні, якія не гучалі ў Святой імшы. Па прапанове каталіцкай суполкі ідзём у закрысце і віншуем святароў з Уваскрашэннем Хрыста.

17 красавіка нас запрасілі супрацоўнікі Музея рэлігіі, каб мы замест нашай рэпетыцыі праспявалі ім велікодныя песні. Пасля канцэрта да спн. Веры падышоў інжынер-электрык музея Антон Васільевіч Амяльянчык і прасіў прыняць яго ў наш хор. З таго часу ён пачаў спяваць у тэнаровай партыі.

20–21 красавіка — жалоба: памёр старэйшы харыст басовай партыі Пётр Сцяпанавіч Башко. 21-га ў першай палове дня хор удзельнічаў у грамадзянскай паніхідзе, якая адбылася ў фае філалагічнага факультэта. Хор перад труной з нябожчыкам выканаў некалькі духоўных песень-малітваў, праспяваў яму «Вечную памяць» на мелодыю Міколы Равенскага і ў канцы «Магутны Божа». Пасля былі ўспаміны сяброў, з якімі Пётр Сцяпанавіч плённа працаваў ва ўніверсітэце імя Янкі Купалы. Выступілі ўдзельнікі хору і гаварылі аб тым, што Пётр Сцяпанавіч быў у ліку тых, хто падтрымаў «Бацькаўшчыну» ў станаўленні яе як калектыву з моцнымі традыцыямі беларускасці. Ён быў шчырым беларусам і заўсёды з сябрамі размаўляў на сваёй роднай мове, меў выдатныя музычныя здольнасці і заўсёды папраўляў тых, хто фальшыва спяваў. Выступалі сябры ад партыі БСДГ, цанілі нябожчыка як прынцыповага грамадскага дзеяча, актыўнага змагара за ідэалы беларускага Адраджэння.

Грамадзянская паніхіда скончана. Труну з целам нябожчыка адвезлі ў Пакроўскі сабор. Там адбылося адпяванне праваслаўнымі святарамі. Ягоныя блізкія: Вольга Якаўлеўна (жонка), сын Арыс і дачка Маргарыта — разам з удзельнікамі хору праводзілі Пятра Сцяпанавіча на могілкі ў мястэчка Парэчча. Прыехалі ў Парэчча, пахавалі, па яго запавеце, на ягонай радзіме, дзе ён знайшоў свой вечны спачын сярод соснаў і бяроз, якія будуць вечна сцерагчы яго спакой. Пры пахаванні на могілках спн. Вера гаварыла аб тым, якога выдатнага чалавека мы страцілі. Успамінала свае першыя сустрэчы з ім і дадала, што ён быў заўсёды выдатным прыкладам здаровых адносін паміж людзьмі. Любіў людзей, і людзі яму плацілі тым жа. І самае галоўнае — ён быў шчырым беларусам.

Таксама сярод развітальных выказванняў узнёсла прагучаў верш Яўгена Петрашэвіча «Хаваюць беларуса»:

Хаваюць сёння беларуса —
Часцінку роду майго.

А колькі ўсіх на свеце палягло!
О, Госпадзе Ісусе!..
Хаваюць сёння беларуса,
Часцінку роду майго.

Хаваюць сёння беларуса,
І стала менш на аднаго.
Паплачуць людзі… Што з таго?
Хаця слязінкі, паўшыя у дол нябожчыка глыбокі,
Уздымуцца і з белых воблакаў высокіх
Паведаюць Ўсявышнему пакутнасці яго.
Хаваюць сёння беларуса,
І стала менш на аднаго.

Хаваюць сёння беларуса,
Як зерне сеюць у раллю.
І як яно пакуль не ўмрэ —
Не ўзродзіцца.
Хаваюць сёння беларуса,
Як зерне сеюць у раллю.

Хаваюць сёння беларуса.
А можа, сеюць на вякі?
І па-славянску з правае рукі
Зямелькі сыпнуць па тры жменькі,
Чатыры у труну заб'юць цвікі.
Хаваюць сёння беларуса.
А можа, сеюць на вякі?

Хаваюць сёння беларуса,
Як пасланца у свет нябачны.
І так ці гэтак, не іначай,
Аддзеліцца душа ад цела,
Як з вогнішча аддзеліцца ахвярны дым.
Наколькі цяжка тут было на свеце белым,
Настолькі лёгка будзе ёй на свеце тым?

О, Госпадзе Ісусе!..
Хаваюць сёння беларуса…
Гасподзь, будзь міласціў,
Дапамажы
Душы яго спакой знайсці.

27 мая мы праводзілі рэпетыцыю, а за сцяной у трэцяй залі філалогіі сабраліся сябры гродзенскай арганізацыі БСДГ з нагоды сарака дзён смерці Пятра Сцяпанавіча Башко і запрасілі хор праспяваць некалькі песень-малітваў на ўспамін былога нашага харыста. Запаліўшы свечкі, разам з сябрамі БСДГ слухалі аб ягонай грамадскай дзейнасці, а ў канцы

харысты праспявалі некалькі песень-малітваў, якія любіў былы сябра хору Пётр Башко.

## *Падрыхтоўка і паездка ў Данію*

У канцы мая 1996 года стала вядома, што наш калектыў у жніўні паедзе з канцэртамі ў Данію. Вольга Емяльянчык атрымала па электроннай пошце ліст ад Эрыка Ланк'ера, у якім гаварылася, што ў сярэдзіне ліпеня кіраўніцтва г. Колдзінга вышле хору афіцыйнае запрашэнне. І спн. Вера пры абмеркаванні будучай паездкі вырашыла пачаць падрыхтоўку новай праграмы, у якой улічыла ўсе пажаданні сп. Эрыка. Харысты з энтузіязмам пачалі рыхтавацца да гэтай паездкі. Прапанова была незвычайнай таму, што наш калектыў упершыню пасля падзення «жалезнай заслоны» мае магчымасць паехаць на Захад. З'явіўся шанс на свае вочы ўбачыць, як там жывуць людзі пры гэтым «гнілым капіталізме» (аб чым пісала ў мінулым савецкая прапаганда). Таму кожны з нас быў незвычайна зацікаўлены ў такой паездцы. Мы з ахвотай пачалі рыхтаваць праграму. Адразу ў чэрвені колькасць харыстаў павялічылася, усе сталі хадзіць на рэпетыцыі больш дысцыплінавана.

Заканчваўся чэрвень. Мы пачалі на рэпетыцыях падрыхтоўку новай праграмы, падзяліліся на дзве групы: жаночую і мужчынскую. З першай працавала хормайстар ансамбля «Нёман» Ірына Давыдзенка, а з мужчынамі наш маэстра спн. Вера.

20 чэрвеня жаночая група хору выступала з канцэртам з нагоды гадавіны дня нараджэння паэткі Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Арганізавалі вечарыну студэнткі і выкладчыкі беларускай філалогіі Гродзенскага ўніверсітэта.

У праграму, якая рыхтавалася ў паездку за мяжу, спн. Вера ўключыла цыкл купальскіх песень, а 29 чэрвеня з гэтымі песнямі і харэаграфічнымі замалёўкамі мы выступілі на Купаллі ва ўрочышчы Кукалі. Адбылося чарговае купальскае свята. Жыхарам летнікаў інсцэніроўка харэаграфічных нумароў спадабалася, яны прасілі хор і ў будучым годзе праводзіць Купалле на гэтым месцы.

Ліпень. На імя хору ад сп. Эрыка Ланк'ера прыйшло афіцыйнае запрашэнне прыехаць з канцэртамі ў г. Колдзінг з 15 па 25 жніўня 1996 года. Спн. Вера сабрала ўсіх і паведаміла:

— Кожнаму харысту цвёрда вырашыць аб тым, паедзе ці не — па-першае, па-другое, згодным паехаць неабходна ўнесці па 150 долараў і, па-трэцяе, з 1 жніўня абавязкова штодзённа быць на рэпетыцыях.

У жніўні пачаліся штодзённыя рэпетыцыі. Спн. Вера прадбачыла ўсё неабходнае, што спатрэбіцца ў нашай канцэртнай працы за мяжой, і нават

запрасіла танцмайстра падрыхтаваць групу дзяўчат з нашага хору, каб яны аздаблялі танцамі некаторыя купальскія песні.

14 жніўня прыкладна а шостай гадзіне раніцы нас чакаў аўтобус на пляцы чыгуначнага вакзала Гародні. Сабралася група ў 39 чалавек. Уладкоўваемся і едзем на мяжу. У душах радасны настрой: збываюцца нашы мары. Упершыню наш хор едзе з канцэртамі ў краіну, аб якой большасць харыстаў ведала мала. Сярод нас шмат тых, каму шанцуе першы раз у сваім жыцці перасякаць былую «жалезную заслону» і на свае вочы бачыць, як на самай справе жывуць людзі там, дзе іншыя ўмовы жыцця, чым у нас. У нашых галовах існавалі недакладныя звесткі аб жыцці людзей пры рынкавай эканоміцы. Цяпер належала ўпэўніцца нам увачавідкі, якая сістэма гаспадарання — сацыялістычная (савецкая) ці капіталістычная (рынкавая) — стварае лепшыя ўмовы жыцця ўсім грамадзянам.

Я ўяўляў сабе, што падвойны кантроль на мяжы ў Брузгах зойме значна больш часу, аднак памыліўся: мы перасякалі яе на рэйсавым аўтобусе, які памежнікі прапускаюць асобна — відавочна, каб не парушаць расклад руху. Прыкладна праз дзве гадзіны мы праязджаем польскае мястэчка Кузніцу і едзем па шашы на Беласток, разглядаем мясцовасць, якая з абодвух бакоў змяняецца новымі краявідамі з сядзібамі польскіх фермерскіх гаспадарак. Набліжаемся да Беластока. Усе больш з'яўляецца шыльдаў, якія паведамляюць пра розныя паслугі і тавары, якія могуць зацікавіць праязджаючых.

Мы ў Беластоку. Там нас чакаў аўтобус, які і павязе нас у Данію. Перш за ўсё ўсіх запрасілі ў офіс фірмы на інструктаж пазнаёмілі з панам Янушам — вадзіцелем, які будзе абслугоўваць харыстаў усе дзесяць дзён і прывязе 26 жніўня ноччу назад у Беласток. Тут нас будзе чакаць аўтобус, які адвязе у Гародню. Акрамя таго, інструктар папярэдзіў, што ў людных месцах Польшчы ўсе павінны быць пільнымі і захоўваць валюту ў спецыяльных гаманцах, якія з грашыма падвешваюцца на шыю, і ўручыў кожнаму па такім палатняным кашальку. Дэманстравалі, як ім трэба карыстацца.

Пасля інструктажу ўладкоўваемся ў аўтобусе пана Януша, на прызначанае кожнаму месца, знаёмімся з апаратамі салона, якімі мы будзем карыстацца ў падарожжы.

Пачалі рухацца. Выехалі з горада на шашу ў напрамку на Варшаву. Надвор'е ў той дзень было цёплым, сонечным. Цікава было назіраць, як хутка пралятаі побач з нашым аўтобусам палі, на якіх фермеры спяшаліся ўправіцца са сваімі летнімі работамі. Заўважалі шыкоўныя дамы фермераў, вакол якіх шмат розных кветак, невялікія гарады, мястэчкі.

Праляцела некалькі гадзін, і мы ўжо ў прыгарадзе Варшавы. Назіраем за дамамі сталіцы Польшчы, а праз паўгадзіны прыпыняемся на плошчы ля Палаца навукі і культуры, пабудаванага Саветамі ў дар палякам у пасляваенныя гады ў стылі маскоўскіх дамоў сталінскай эпохі. Спн. Вера адправілася

ў дацкае пасольства, каб вырашыць пытанні ў сувязі з нашай паездкай, а мы разышліся па розных кірунках. Вярнулася спн. Вера з пасольства і паведаміла: супрацоўнік датчан сказаў, што нам трэба было наняць аўтобус у пасольстве, і нам бы выйшла танней, чым у фірме «Інвентур». Нам толькі заставалася ўспомніць вядомую прыказку: «Век жыві, век вучыся, а дурнем памрэш». Усе спадарожнікі вярнуліся на свае месцы, і а 15 гадзіне выехалі на магістраль у кірунку на Познань. Надвор'е пачало псавацца. У Варшаве прайшоў невялікі дождж. Неба пакрылася шчыльнымі аблокамі, праз іх сонечныя промні не маглі дасягнуць зямной паверхні — адбіваліся ад аблокаў і ўсё сваё цяпло неслі ў касмічную прастору.

Аўтобус адлічвае кіламетры, набліжаемся да Познані. У прыгарадзе горада пачало цямнець. Высветлілася, што пан Януш паехаў не па той вуліцы, каб выехаць на дарогу ў напрамку Свінауйсьця. Давялося разварочвацца і ехаць у адваротным напрамку. Горад Познань — цэнтр ваяводства; з ім мне асабіста належала б пазнаёміцца таму, што тут у другой палове XX ст. жылі са сваімі сем'ямі два родныя браты маёй мамы, і тут яны пайшлі на вечны спачын. Аднак я не мог разлічваць на тое, каб наведаць іх, пабываць на могілках і засведчыць павагу іх памяці. Успамінаў ад г. Познані амаль ніякіх. Што цікавага ў начны час можна атрымаць ад горада, калі ты едзеш у аўтобусе па ягоных вуліцах упершыню?

Страцілі шмат часу, пакуль знайшлі неабходны напрамак руху. Мы мусілі прыбыць на паром у Свінауйсьце не пазней, чым а восьмай гадзіне. Там нам замоўлены білеты да Капенгагена. Спадзяемся, што пан Януш мае карту і больш блукаць не будзе.

А сёмай гадзіне раніцы на ўсходзе пачынае святлець. Надыходзіць новы дзень 15 жніўня. Мы ўжо суткі едзем. Пасажыры аўтобуса прачынаюцца, прыводзяць сябе ў прыстойны выгляд. Пры набліжэнні да Свінауйсьця пачаўся невялікі дождж.

Прыпыняемся ў порце. Выходзім з аўтобуса, бяром усё неабходнае і ідзём на памежны кантроль. Паспяхова праходзім дагляд памежнікамі і падымаемся на паром, які нагадвае вялікі карабель. Па стромай лесвіцы падымаемся і займаем свабодныя месцы. Тут, на пароме, створаны ўмовы не толькі каб ехаць, але і каб прывесці сябе ў прыстойны выгляд, набыць каюту, каб адпачыць, схадзіць у бар ці ў кафэ, абмяняць валюту і г. д.

Плылі мы па Балтыйскім моры. Дзень быў пагодным, сонечным, мора — спакойным. Хто хацеў, мог падняцца на палубу і любавацца марскімі хвалямі, чайкамі, рабіць здымкі на памяць. Углядаючыся, на гарызонце можна было заўважыць іншыя караблі, якія плывуць па сваіх маршрутах. І вось на гарызонце па левым борце парома паказаўся дацкі бераг, на ім шмат збудаванняў, падобных на ветракі, якія ў нашым краі выкарыстоўваліся як млыны.

Назіраючы за ветракрылымі збудаваннямі, я зразумеў, што гэта былі тыя ж ветракі, але яны пераўтваралі механічную энергію ветру пры дапамозе электрагенератара ў электрычную.

Чарговы пераезд заканчваўся. Паром стаў на якар у порце сталіцы Даніі Капенгагена. Збіраемся і ідзём на памежны кантроль ужо на тэрыторыі Даніі. Хутка мы апынуліся на прывакзальным пляцы, дзе нас чакаў пан Януш. (Аўтобус ехаў разам з намі ў труме парома.) Сядаем на свае месцы і чакаем вынікаў перамоў спн. Веры і перакладчыцы Галіны Гашко са служачымі порта, каб высветліць далейшы напрамак руху.

Сталіца Дацкага Каралеўства пабудавана на востраве Зеландыя. Насельніцтва ўсяго каралеўства налічвае каля пяці мільёнаў жыхароў і ў асноўным займае тэрыторыю ля берагоў Балтыйскага і Паўночнага мораў.

Прыехаўшы ў Капенгаген, перш за ўсё пачалі турбавацца: як нам даехаць да месца прызначэння ў горад Колдзінг? Нам растлумачылі: ён пабудаваны на паўвостраве Ютландыя і ў сярэднявеччы быў сталіцай Дацкага каралеўства. Там і зараз захоўваецца каралеўская рэзідэнцыя. Даехаць туды можна па Балтыйскім моры на двух паромах. Спачатку трэба дабрацца да першага парома, а адтуль на востраў Хьюн. Пасля пераезд аўтобусам па востраве да другога парома, які і завязе нас на паўвостраў Ютландыя. Нам нічога не заставалася, як дабірацца ўказаным нам маршрутам. Стартавалі, спадзеючыся на пана Януша, на ягоны вопыт. Сонейка схілялася да захаду. Пачало цямнець, а мы ўсё едзем і едзем, спадзеючыся выехаць на дарогу, якая давядзе нас да першага парома.

Пакуль мы ехалі, нам стала вядома, што сталічны муніцыпалітэт прыняў рашэнне: пачынаючы з 21 гадзіны мясцовага часу рух у горадзе прыпыняецца — жыхары рыхтуюцца да адпачынку, бавяць час у кавярнях, рэстаранах, у сваіх дамах і кладуцца спаць. І вось у гэты час мы, прышлыя з другой краіны, вымушаны былі шукаць дарогу на паром, рухаючыся па горадзе на аўтобусе, і тым самым парушалі ўсталяваны распарадак жыцця гараджан. І заўважце: ніхто нас не затрымаў. Паліцыі за ўвесь час нашага бесталковага блукання мы ўвогуле не бачылі. А першай гадзіне ночы пан Януш вымушаны быў прыпыніць аўтобус. За пошук неабходнага напрамку руху ўзяўся харыст Аляксандр Гашко, ён выпадкова сустрэў гараджаніна і на французскай мове запытаўся ў яго, як нам трапіць на шашу, што вядзе да парома на выспу Х’юн. Атрымаўшы неабходную інфармацыю, Аляксандр вывеў аўтобус на магістраль, якая праз паўгадзіны прывяла нас на прыстань парома. Выходзяць з аўтобуса нашы прадстаўнікі Галіна, Аляксандр і спн. Вера і ідуць у адміністрацыю порта; там ім паведамляюць, што за пераезд на пароме трэба плаціць. Аляксандру давялося збіраць неабходную суму доляраў з харыстаў і аплаціць праезд да выспы Х’юн. Праз гадзіну мы

выгрузіліся на выспу і выправіліся на супрацьлеглы бераг да прыстані другога парома.

Урэшце пасля блуканняў а 5 гадзіне раніцы прыехалі на панадворак сядзібы сп. Эрыка Ланк'ера.

## Хор «Бацькаўшчына» ў Колдзінгу

Развіднела, а ў доме цішыня. Пасля доўгага сядзення і амаль дзвюх бяссонных начэй усе выйшлі з машыны і з цікавасцю пачалі разглядаць незвычайны дом і ўсё наваколле. Неўзабаве ад нашага шуму прачнуўся гаспадар дома і выйшаў нам насустрач. Спн. Вера і Галіна Гашко падышлі першымі да пастара Эрыка Ланк'ера, пазнаёміліся, а пасля коратка пазнаёмілі яго з усімі харыстамі. Усё знаёмства адбывалася так: спн. Вера гаварыла па-беларуску, а Галіна перакладала на англійскую мову. Пастар Эрык свабодна валодае дацкай, нямецкай, англійскай, французскай і ў меншай ступені іншымі мовамі суседзяў. Нашы перакладчыкі Галіна, яе сын Дзіма Гашко, сп. Пад'ельскі і некаторыя іншыя валодалі англійскай мовай. Таму размова са сп. Эрыкам ішла пераважна на гэтай міжнароднай мове. Патрэбна заўважыць, што з датчанамі лёгка паразумецца на англійскай, прынамсі, большасць інтэлігентаў датчан валодаюць ёй.

Пан Януш паставіў сваё аўто на панадворку, пакрытым спрэс круглякамі марской галькі. Перад намі вялікі аднапавярховы жылы дом плошчай у 500 квадратных метраў. З невялікай мансардай. Дах пакрыты чырвонай дахоўкай. З поўначы другі такіх жа памераў гаспадарчы дом, пакрыты трыснягом, дзе месцяцца гараж на некалькі машын, спіжарня з маразільнікамі дзеля захоўвання прадуктаў, складскія адсекі для захоўвання гуманітарнай дапамогі і шмат чаго іншага. З паўднёвага боку спецыяльна перад нашым прыездам сп. Эрык папрасіў сваіх сяброў сканструяваць і пабудаваць сталовую, пакрытую брызентам, не менш як на 50 месцаў.

Пасля знаёмства, перш чым разгружацца, сп. Эрык прапанаваў нам з дарогі папіць кавы, гарбаты. Заходзім першымі ў гэтую нядаўна змайстраваную сталоўку, а там на сталах усё падрыхтавана для добрага пачастунку. Сп. Эрык прапанаваў перад пачаткам запасціся прадуктамі, якія падрыхтаваны на агульным стале, памаліцца і толькі тады пачаць есці. Аляксандр Гашко як прадстаўнік «Царквы Хрыстовай» пачаў уголас маліцца, дзякуючы Усявышняму за тое, што мы паспяхова пераадолелі ўсе дарожныя цяжкасці і прыехалі ў такое цудоўнае месца.

Падсілкаваўшыся, мы па прапанове гаспадара разгружаемся і пасяляемся па розных месцах. У гэтым вялікім доме ўсіх размясцілі, забяспечылі кожнага індывідуальным ложкам з усім неабходным для прыстойнага адпачынку.

Сп. Эрык, святар мясцовай лютэранскай царквы, жыве ў гэтым вялікім доме з жонкай Інгай Лізай на ўскрайку горада Колдзінга ў прыгарадзе Pabby. Маюць двух дарослых дзяцей — сына і дачку, якія ў часы нашага візіту былі ў ад'ездзе. На невялікай адлегласці на пагорку пабудавана лютэранская царква, у якой сп. Эрык працуе святаром. Па нядзелях і розных святах ён апранаецца ў адмысловую сутану з белым гафрыраваным каўняром і, нагадваючы старажытнага гранда, пешкі ідзе ў кірху — праводзіць там літургію. За гэтую асноўную працу дацкая дзяржава аплочвае яму і выдзяляе бясплатна ўсе тыя пабудовы, якімі ён зараз карыстаецца. Сп. Эрык — паважаная ў акрузе г. Колдзінга асоба. Ён на грамадскіх пачатках узначальвае пажарнае таварыства горада. Да ягоных парад прыслухоўваюцца не толькі падначаленыя, але і кіраўнікі горада. Таму ўсё наша жыццё — побыт, канцэрты — было ім спланавана, узгоднена з вышэйшымі ўладамі. Усіх нас, хто прыехаў у Данію з канцэртамі, залічылі стажорамі па пажарнай справе.

Паўвостраў Ютландыя на поўдні мяжуе з Нямеччынай. Яе краявіды, рэльеф нагадваюць мне мясцовасці нашых Наваградскага і Карэліцкага раёнаў. Клімат гэтай краіны больш суровы, чым у Беларусі, менавіта таму, што яна тэрытарыяльна бліжэй да паўночнага полюса. І прыкметна гэта было тым, што ў нас уборка зерневых культур заканчвалася, а ў іх толькі пачыналася. Нягледзячы на суровасць клімату, датчане навучыліся вырошчваць такія ўраджаі ўсіх культур, якія ім дазваляюць забяспечваць прадукцыяй сваё насельніцтва і дзве траціны ўраджаю прадаваць. Данія не мае амаль аніякіх карысных выкапняў, таму яны вымушаны былі шукаць багацце ў нетрах акіяна. У недалёкім мінулым на адлегласці да 100 кіламетраў ад сушы ў Паўночным моры вынайшлі нафту, пабудавалі неабходныя пляцоўкі і здабываюць столькі сырой нафты, што хапае сабе і частка яе ідзе на экспарт. Клімат Каралеўства Данія марскі. Вільготнасць паветра высокая. Калі я падымаўся а шостай гадзіне і хацеў сесці на крэсла, зробленае з пластыку, што стаяла на двары, дык заўважыў: яно пакрыта такой колькасцю вільгаці, што здавалася — яго хтосьці спецыяльна абліў вадой. Высокая адносная вільготнасць паветра, блізкая да 100 %, не дае магчымасці высушыць памытую бялізну на вольным паветры, таму датчане вымушаны сушыць яе ў спецыяльных пакоях з электрычнымі сушылкамі.

Вялікіх лясных масіваў накшталт нашых пушчаў, а таксама рэк, такіх, як у Беларусі, у Даніі мы не бачылі. Сустракалі невялікія лясы, якія праз некалькі хвілін язды на аўто змяняюцца полем. Рэкі нагадваюць нашы ручаі. Датчане спрадвеку былі славутымі мараходамі, першаадкрывальнікамі новых зямель, дабіраліся да Паўночнага полюса. Імем Вітаўта Берынга названы праліў ля берагоў Расіі ў Ціхім акіяне. Малаўрадлівыя глебы, неспрыяльныя кліматычныя ўмовы вымушалі датчан шукаць новыя, больш

багатыя землі, дзякуючы чаму мараходы па суседстве з Аўстраліяй адкрылі востраў, які назвалі Новая Зеландыя…

Уладкаваўшыся, харысты па прапанове сп. Эрыка пайшлі адпачыць пару гадзін, а роўна аб 11-й, згодна з планам, едзем у порт. Там на стаянцы параснікаў прапануюць нам падняцца на палубу карабля «Фрэм» і размясціцца па партыях, каб тут жа мясцовы фатограф зрабіў агульны здымак хору. Гэтае фота пасля змясцілі ў рэкламным раздзеле мясцовай газеты. Сп. Эрык даручыў сваім памочнікам перанесці фотаздымак на спецыяльныя кашулі, каб у канцы нашых гастроляў кожнаму харысту прэзентаваць фотаздымак, кашулю з фотаздымкам і газету, у якой паведамлялася пра нашы гастролі ў Колдзінгу. Перад самым ад’ездам на радзіму кожны харыст атрымаў гэты незвычайны падарунак.

Падымаемся на паруснік «Фрэм» і разам са сп. Эрыкам плывем па затоцы ўздоўж берага напрамкам на Капенгаген. Надвор’е спрыяльнае, цёплае. Знаёмімся з матросамі, іх дасканалымі дзеяннямі. Гэта заўважае капітан і прапануе тым, хто жадае, паспрабаваць кіраваць ветразямі. Сярод нас знайшліся маладзейшыя харысты, якія пажадалі паказаць свой спрыт і ў гэтай справе. Паспрабавалі прыняць удзел у кіраванні ветразямі Аляксандры — барытон Гашко і тэнар Быкоўскі.

Сп. Эрык звяртае нашу ўвагу на супрацьлеглы бераг затокі і расказвае нам пра тыя забудовы, каля якіх мы праплываем. Праз некалькі хвілін з’яўляюцца карпусы нейкага прадпрыемства з высокім комінам. Гэта цэментны завод прыватнай фірмы, пазней бачым прыгожыя дамы мясцовага санаторыя. Даведваемся, што наш паруснік быў пабудаваны ў 1934 годзе, перад Другой сусветнай вайной. Цяпер ён выкарыстоўваецца як судна для турыстычных паездак розных калектываў, каб падыхаць паветрам, насычаным марскімі солямі, і як вучэбны — менавіта для тых, хто жадае набыць навык кіравання ветразямі.

Мы паселі на палубе бліжэй да нашага прамоўцы, які шмат чаго расказваў пра сваю краіну, а ветразі пад подыхам ветру ўсё далей і далей неслі нас на сваіх «крылах». Аповед прыпыніўся. Не памятаю, хто з нашых харыстаў прапанаваў пачаць спяваць. Зразумела, не нашы, падрыхтаваныя для канцэрта песні, а тыя, якія нам хацелася спяваць тым людзям, што былі з намі разам і ва ўсім нам стваралі такі цудоўны адпачынак. І вось наш бас Юрый Сіткевіч пачаў спяваць рускую народную песню «Из-за острова на стрежень», яе падхапілі іншыя. Плыве яна разам з намі і ветразямі карабля па шырокай прасторы затокі, як яна ўжо шмат стагоддзяў гучыць на не менш шырокай прасторы вялікай рускай ракі Волгі. Пасля датчане папрасілі нас праспяваць рускую народную песню «Калінка». Яны ўпершыню пачулі яе ў выкананні расійскага ансамбля, які раней наведаў Колдзінг. Спецыяльна, як і папярэднюю песню, яе мы не рыхтавалі. Аднак знайшлося выйсце: за яе сольнае выкананне ўзялася Ірына Навасадава, якая мае цудоўны голас і неаднойчы выконвала яе на канцэртах. Дапамагаў

ёй наш харыст Аляксандр Ігнаценка і ўвесь хор. Песня прагучала на высокім мастацкім узроўні, і сп. Вера ў далейшым вырашыла ўключыць «Калінку» ў канцэртную праграму. Адным словам, пачаўся канцэрт для тых, хто забяспечыў нам такі цудоўны адпачынак. Паруснік паволі плыў, а ў сярэдзіне дня паказаліся берагі сталіцы Капенгагена. Тады карабель развярнуўся, мы вярнуліся назад у порт. Наша мэта сёння пасля доўгага пераезду — адпачываць, каб у наступныя дні паспяхова выконваць сваю канцэртную праграму.

Падзякаваўшы капітану і матросам за цудоўны адпачынак на караблі, спн. Вера прапанавала заняць нашы месцы ў аўто і ехаць у нашу новую рэзідэнцыю, якую мы раніцай пачалі абжываць.

## Канцэрты на паўвыспе Ютландыя

Другі дзень нашага жыцця ў гэтай казачнай гасціннай краіне здзівіў нас прыемнай традыцыяй простых датчан: з пачаткам новага дня вывешваць на флагштоку ля кожнага дома свой шматвяковы нацыянальны сцяг. Нікому ў галаву не прыходзіць, каб замяніць яго на сучасны.

Сядзіба сп. Эрыка знаходзіцца на паўднёва-заходнім ускрайку Колдзінга і больш нагадвае сельскую, чым гарадскую мясцовасць. Калі мы прыехалі, то я заўважыў насупраць двара сп. Эрыка вялікае даспяваючае жытнёвае поле. Дамы фермераў-суседзяў з усімі забудовамі менш за ўсё нагадвалі горад. Калі бліжэй прыгледзецца да жыцця і побыту, то можна заўважыць, што ў гэтай краіне дасягнуты такі ўзровень развіцця, калі няма істотнай розніцы паміж горадам і сялом. Выдатныя асфальтаваныя дарогі злучаюць не толькі гарады, мястэчкі, але і фермерскія гаспадаркі. Высокі жыццёвы ўзровень жыхароў Даніі дазваляе ім набыць столькі транспартных сродкаў, колькі ім патрэбна. Да таго ж яны карыстаюцца самымі сучаснымі тэхналогіямі ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы і ў тэхнічнай абсталяванасці побыту.

А дзясятай гадзіне пачалі рэпетыцыю і працавалі да абеду ў нашай сталоўцы — мы яе цяпер называлі «буда», таму што яна нагадвала цыганскую буду, толькі што значна большых памераў. Пасля абеду невялікі адпачынак і падрыхтоўка да канцэрта: правяраем стан сваіх канцэртных касцюмаў, прасуем памятае, і а 16 гадзіне ўжо сп. Януш чакае нас на пляцы перад домам. Касцюмы на вешалках пераносім у аўто, займаем свае месцы і едзем на наш першы канцэрт. Па дарозе распытваем сп. Эрыка пра Данію. Мяне, напрыклад, цікавіў лёс дацкай камуністычнай партыі.

— Калі дацкія камуністы даведаліся, што Сталін ліквідаваў некаторых з іх як падасланых у СССР агентаў замежных імперыялістычных

спецслужбаў (а гэта была ягоная хлусня), то яны распусцілі кампартыю. І з тых часоў такой партыі ў нас няма. Зараз Даніяй кіруе адна сацыял-дэмакратычная партыя, — адказаў сп. Эрык.

У Хорстэне нас запрасілі ў спецыяльнае памяшканне, дзе мы пераапрануліся ў канцэртную форму, а пасля пайшлі гуськом уздоўж затокі. Там на якарах стаялі парусткі, якія прыплылі на свята 300-годдзя паруснага флоту. Сп. Эрык растлумачыў, што г. Хорстэнс — радзіма Вітуса Берынга, вядомага дацкага вандроўніка.

Выступаць нам трэба было на караблі «Фрэм». Калі да яго ішлі, не згаворваючыся, пачалі спяваць песню нашага гарадзенскага кампазітара Шыдлоўскага «Колькі ў небе зор». Прысутныя на беразе прыемна былі здзіўлены гучаннем меладычнай песні на незнаёмай ім мове. У песні шмат куплетаў, і калі прагучаў апошні, хор апынуўся ля борта карабля. Падняліся на ягоную палубу і размясціліся па партыях паўколам, а ў цэнтры — наша маэстра спн. Вера. Пачаўся канцэрт песняй «Прыйдзі, Дух Божы». У нашым першым канцэрце выканана не менш як 15 твораў на беларускай мове. Нашымі слухачамі былі гараджане Хорстэнса, маракі, якія прыехалі на свята, і госці ўрачыстасцяў. Яны часткова стаялі на палубе карабля, а большасць слухачоў былі на беразе затокі і адпачывалі: пілі піва, віно, іншыя напоі і слухалі песні выканаўцаў з невядомай краіны.

Прагучала апошняя песня «Магутны Божа». Пакідаем карабель і ідзём праз натоўп датчан, якія сардэчна прапануюць нам пачаставацца півам, віном і бутэрбродамі. А таксама замаўляюць нашым гарманістам за плату выканаць тую ці іншую мелодыю. Урэшце збіраемся вяртацца ў Колдзінг на адпачынак.

Прыехалі на начлег пазнавата, а ранкам сабраліся разам, каб размеркаваць свой працоўны дзень. Сёння нядзеля, ідзём у лютэранскую царкву, у якой сп. Эрык працуе святаром. Кірха знаходзіцца прыкладна за кіламетр ад дома нашага гаспадара. Дарога ад дома да яе выдатна асфальтаваная, і па баках яе расце рознае кустоўе. Побач з будынкам кірхі невялікія мясцовыя могілкі, якія адрозніваюцца ад нашых тым, што надмагільныя мармуровыя пліты невялікіх памераў, з прыгожымі надпісамі і без агароджаў. На магілах пасаджаны вечназялёны кустоўнік. Я не бачыў такога помніка, які б адрозніваўся ад іншых. Відавочна, датчане лічаць, што пасля смерці ўсе грамадзяне роўныя.

У кірсе святар спачатку запрасіў нас заняць месцы бліжэй да алтара з тым, каб хор суправаджаў песнямі на нашай мове богаслужэнне, якое ён адпраўляў. Мы спявалі нашы духоўныя песні «Прыйдзі, Дух Божы…», «Божа, што калісь народы…», «Ойча наш…». Закончылі імшу традыцыйна рэлігійным гімнам «Магутны Божа». Пасля імшы, па просьбе святара, прыхаджанам заспявалі некалькі твораў беларускай нацыянальнай музыкі. Прагучалі «Шумяць вербы» і «Купалінка», мелодыі гэтых песень

спадабаліся датчанам да такой ступені, што пры першых гуках гэтых песень, асабліва «Купалінкі», у іх паляпшаўся настрой, і многія з іх гатовы былі слухаць яе не адзін раз.

Па абедзе таксама выступалі з канцэртам духоўнай музыкі ў кірсе, а на другое аддзяленне нам прапанавалі выступіць у суседнім памяшканні мясцовага клуба. Пасля невялікага перапынку нас адвялі ў памяшканне клуба. Там мы разам з мясцовымі датчанамі пачынаем частавацца, а на сцэне насупраць нас выступае мясцовы музычны ансамбль, у якім прымае ўдзел брат сп. Эрыка. З намі адпачывалі наш пастар сп. Эрык і спн. Эльза. Перад тым ён зняў сваю царкоўную форму і па сваім выглядзе нічым не адрозніваўся ад усіх прысутных. Частаваўся, слухаў музыку, песні ў выкананні хору, танцаваў і г. д. Паводзіны святара так не абмежаваныя, як у праваслаўных ці ў каталікоў. Нам спачатку было незразумелым, што перад алтаром у кірсе дазваляецца выконваць мелодыі, якія ў нас лічацца фальклорнымі, выконваць танцавальныя нумары пад баян. Лютэранская царква прыблізіла свае святыні бліжэй да народнай культуры і дазваляе амаль усё, што адбываецца на сцэне звычайнага клуба, за выключэннем мастацкіх нумароў, якія дэманструюць парнаграфію ці іншыя непрыстойнасці Адным словам, у дацкіх лютэранскіх святынях мы не аглядаліся на тыя забароны, якія існуюць, на жаль, у праваслаўнай царкве і часткова адмененыя ў каталіцкай. Напрыклад, у большасці праваслаўных храмаў нашай краіны абедня выконваецца на стараславянскай мове, а пропаведзі на рускай. Не толькі праз школу, але і праз праваслаўную царкву працягваецца старая палітыка абрусення беларускага насельніцтва. У царкве сп. Эрыка ўсе гэтыя забароны знятыя. Так, перад алтаром размяшчаўся наш хор з баянам і акардэонам, і мы спявалі не толькі духоўныя, але і лірычныя фальклорныя песні, выконвалі танцавальныя нумары з цыкла купальскіх песень. І ніхто з прысутных прыхаджан не выказаў незадавальнення, а наадварот, яны лічаць усё, што створана творчай асобай, духоўным, і не падзяляюць песні на духоўныя і грамадзянскія. Увогуле, калі мы прыехалі ў Дацкае Каралеўства, то сапраўды падалося, што мы трапілі ў казачную краіну. З кожным днём нашага жыцця там гэтае ўражанне знаходзіла пацвярджэнне. Мне асабіста здавалася, што я трапіў разам з хорам «Бацькаўшчына» на нейкую іншую планету. Гасцінныя гаспадары паклапаціліся пра ўсё. Яны ведалі пра нашы фінансавыя цяжкасці, і таму за канцэртную працу датчане шчодра плацілі, стварылі нам бясплатна выдатныя жыллёвыя ўмовы, харчаванне на вышэйшым узроўні і выдатна арганізавалі нашы канцэрты. Больш за тое, сп. Эрык кожнаму ўдзельніку з Беларусі выдаў пэўную суму на кішэнныя выдаткі. Адным словам, мы атрымалі ўсё неабходнае для паспяховай канцэртнай працы. Нашы выступы на канцэртных пляцоўках дапаўняліся штодзённымі паездкамі па розных установах і грамадскіх аб’яднаннях.

# *Знаёмства хору з прадпрыемствамі і мэрыяй Колдзінга*

На наступны дзень мы мусілі ехаць на палігон пажарнікаў г. Колдзінга, дзе нам трэба было прайсці практыку тушэння вогнішчаў. Ідзём на палігон, які забяспечаны неабходнымі сродкамі пажаратушэння і аб'ектамі, што імітуюць розныя перашкоды, якія патрэбна навучыцца пераадольваць у экстрэмальных сітуацыях. Напрыклад, пажарныя шлангі, патрэбныя для тушэння запаленага ў аварыі аўтамабіля. І ў ліквідацыі ўсіх гэтых штучна створаных аварый удзельнічалі маладзейшыя з харыстаў, а астатнія былі назіральнікамі. Усе мы, хто быў на палігоне, лічыліся стажорамі.

Стажыроўка скончана. Гаспадар палігона запрасіў нас на перакус з півам, прапанаваў выпіць шнапсу. Былі некалькі гатункаў рыбы, каўбас і кава. У якасці падзякі нашы маладыя харысты выканалі песню пра ваяроў, а дзяўчаты пад кіраўніцтвам Ірыны Давыдзенкі праспявалі песню з расійскага кінафільма «Дзеці капітана Гранта» «Жил отважный капитан». Пасля мы ідзём на склад, дзе захоўваюцца розныя прыборы і прылады, неабходныя для ліквідавання наступстваў землятрусаў, вулканічных выкідаў, тэхнагенных пажараў у прамысловасці, лясных пажараў, буйных катастроф, у тым ліку справакаваных тэрарыстамі. Там было шмат чаго для выратавання людзей, якія трапілі у бяду: намёты, коўдры, кансервы, розныя механізмы; машыны, неабходныя пры разборцы завалаў. Усё начынне разлічана не менш як на сотню вялікіх грузавых аўтамабіляў.

Пасля нас павялі на склад і паказалі, дзе захоўваюцца тэхнічныя сродкі, неабходныя інвалідам: розныя каляскі, прыстасаванні для хадзьбы, кульбы і шмат чаго іншага. Аказваецца, дацкія ўлады маюць магчымасць забяспечыць інвалідаў усім неабходным бясплатна, за кошт свайго бюджэту. На аўтобусных прыпынках мы часцяком назіралі, як інваліды самастойна, без дапамогі, лёгка ўладкоўваюцца з каляскай на спецыяльнае месца, якое прадугледжана інваліду, і едуць без праважатых туды, куды ім патрэбна. У дацкіх прыбіральнях змайстраваны адмысловыя кабіны так, каб інвалід свабодна, без дапамогі, мог заехаць на калясцы.

Наступным аб'ектам, які мы наведалі, быў пункт грамадзянскай аховы г. Колдзінга. Ён месціцца ў былым нямецкім бункеры часоў Другой сусветнай вайны і быў пабудаваны на паўвостраве Ютландыя як камандны пункт фашысцкай арміі. Падрабязна знаёмяць з цяперашнім функцыянальным прызначэннем аб'екта ў абароне г. Колдзінга. Мне ўспомнілася, што шмат гадоў таму я бачыў такі бункер у Калінінградзе, які быў пабудаваны для Гітлера і насіў назву «Вольфшанцэ» — «Воўчае логава». Такіх бункераў было некалькі (каля Львова і ў іншых месцах).

Апошнім нашым паходам 19 жніўня было наведванне мэрыі г. Колдзінга, куды мы прыйшлі пешшу.

Мы заходзім у галоўнае памяшканне камуніі горада. Пры ўваходзе на самым відным месцы побач з дацкім каралеўскім сцягам — наш гістарычны бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». Гэта нас узрушыла, таму што мінуў год, як пасля рэферэндуму ў Беларусі заменены спрадвечныя нацыянальныя сімвалы на новыя, якія не маюць глыбокіх гістарычных каранёў. Неўзабаве нас запрасілі ў залу, дзе звычайна засядаюць сябры Рады Колдзінга. Перакладаў з дацкай мовы на рускую расіянін, які стала працуе ў Даніі. Перш чым пачаць пасяджэнне, нам прапанавалі выпіць па келіху сухога віна або пепсі-колы, ці іншых напояў па жаданні. Пачалася сустрэча, на якой нам расказвалі пра Колдзінг, Данію і пра саміх датчан, якія больш за ўсё карыстаюцца сваёй мовай, якая бліжэй да нямецкай, аднак яна мае свае асаблівасці. Немцаў недалюбліваюць, таму што ў свой час тыя акупіравалі іх, аднак большасць нямецкай мовай валодаюць. У часы акупацыі гітлераўцы нанеслі вялікую шкоду як людзям, так і эканоміцы краю, і таму датчане не чакалі, пакуль саюзныя войскі вызваляць іх ад фашызму, а вялі змаганне супраць акупацыйнага рэжыму.

Датчане таксама валодаюць англійскай мовай, у большай ступені інтэлігенцыя. І ў той жа час больш за ўсё дбаюць пра сваю мову. Хто валодаў англійскай мовай, мог свабодна паразумецца амаль з любым. Жыццёвы ўзровень адзін з самых высокіх у свеце. Служачыя ў сярэднім атрымліваюць па 6000 долараў штомесячна.

На наступны дзень едзем на супрацьлеглы бераг паўвострава Ютландыя, каб убачыць Паўночнае мора, пры спрыяльных умовах пакупацца і адпачыць. Пасля доўгага пераезду затрымліваемся на паўгадзіны ў г. Этбергу. Заходзім у мясцовую кірху, якая вылучаецца па сваіх памерах і ўнутраным аздабленні сярод тых, што мы бачылі. Наш хор размясціўся перад алтаром і пачаў выконваць свае духоўныя песні без дазволу. І тут жа нас перапыняюць: мы замінаем мясцоваму арганісту ігры на аргане. Свае несанкцыянаваныя спевы спыняем, ідзём да аўтобуса, каб рухацца далей у напрамку Паўночнага мора.

Хутка мы ужо ля дома сябра сп. Эрыка сп. Карла Пака. Ён працуе шафёрам на вялікіх грузавых аўтамабілях. Яму раней даводзілася з грузам гуманітарнай дапамогі бываць у Беларусі. Нас ветліва з лозунгам «Добро пожаловать», напісаным па-руску, сустракае гаспадар дома са сваімі роднымі і запрашае ў свой катэдж. Нас больш за 40. Палове прыбылых гасцей прапануюць зайсці пазнаёміцца з катэджам, а другой ісці ў прыгожы кветнік, які займае значную плошчу вакол дома. Дом, яго панадворак, з майго пункту гледжання, у ідэальным стане. Усё тут зроблена на ўласны густ гаспадароў. І, я ўпэўнены, нідзе такога кветніка і, мабыць, катэджа больш вы не знойдзеце. Па перыметры кветніка пасаджаны розныя дрэвы.

Цэнтральная частка засеяна адмысловай дэкаратыўнай травой, ідэальна падстрыжанай. Па краях кветніка невялікі агарод, дзе растуць цыбуля, морква, пятрушка і усё патрэбнае гаспадыні на стале. Ёсць невялічкі парнік, дзе растуць памідоры на спецыяльнай штучнай глебе. Гатунак памідораў свой, адмысловы. Вакол дома шмат разнастайных прыгожых кветах, дэкаратыўных кустоў. Сярод кветніка выключна для дзяцей зроблена пляцоўка з арэлямі і іншымі прыладамі. Не забыты і дарослыя. Ім у гэтым прыгожым месцы ёсць адмысловы садовы стол, пластыкавыя крэслы, дзе можна ў спрыяльнае надвор'е адпачыць.

Праязджаем паселішча побач з пляжам, якое мае назву, што нагадвае штосьці як месца бога любві і распусты. Пра гэта тлумачыць сп. Эрык, і мы не заўважаем, як апынаемся на беразе Паўночнага мора.

Мора — адна са стыхій свету. Яно бывае лагодным, з невялікімі хвалямі да аднаго метра; неспакойным з хвалямі велічынёй да некалькі метраў і штармавым. Штармавы стан мора — гэта бяда для мараходаў і тых, хто ў гэты час плыве па моры.

Калі мы прыехалі на Паўночнае мора, дык убачылі тое, што трапна ў 8-гадовым узросце апісаў мой малодшы сын Андрэй: калі глядзіш на мора, то наперадзе і па баках скрозь вада, і на цябе наступаюць і адступаюць хвалі.

Прыехалі на Паўночнае мора ўдала, бо стаяла цёплае для гэтай пары года сонечнае надвор'е. Тэмпература вады была няшмат вышэй за 18 градусаў. Большасць удзельнікаў хору апранулі купальнікі, фатаграфаваліся. Самыя смелыя плавалі, рабілі значныя заплывы і тым самым выклікалі трывогу. Астатнія загаралі, лежачы на пяску.

Прыгледзеўшыся, я ўбачыў на гарызонце, як нейкі спартсмен-серфінгіст плыў, і хвалі яго то ўздымалі, то апускалі ўніз; ён нагадваў конніка, які скача на прыгожым і дужым кані.

Разам з намі адпачываў наш шафёр са сваім сямействам, чакаў нас і рыхтаваўся да зваротнага шляху.

Гэты цудоўны адпачынак на Паўночным моры — падарунак нам ад сп. Эрыка. Ён расказаў, што вось за гэтым морам бліжэй за ўсё ад нас знаходзіцца Вялікабрытанія, а на поўдні Нямеччына, побач з ёю Галандыя і Бельгія.

Адпачывалі на моры больш як дзве гадзіны. Выпілі ўсю ваду і піва. Трэба было збірацца і ехаць з канцэртам на радзіму сп. Эрыка. Праз 30 хвілін мы ўжо ў мястэчку, дзе нарадзіўся сп. Эрык. Адпачыўшы, ідзём у кірху на рэпетыцыю, каб удакладніць дэталі канцэрта, успомніць тыя творы, якія будзем выконваць. І раптам на дошцы аб'яваў бачым здымкі нашага хору. Там паведамлялася пра прыезд з Беларусі хору «Бацькаўшчына» з канцэртам — наша рэклама.

Правесці рэпетыцыю ў касцёле, аднак, не ўдаецца: гледачы пачалі прыходзіць раней пазначанага тэрміну.

Гледачоў поўная зала, іх колькасць усё павялічваецца. Не хапае сядзенняў. Маладзейшыя пачынаюць сядаць на падлогу паміж крэсламі. Пераапранаемся ў канцэртную форму і роўна а 19 гадзіне пачынаем спяваць.

Пачалося першае аддзяленне канцэрта. Выконваліся беларускія духоўныя песні і тыя, якія мы падрыхтавалі па замове сп. Эрыка. У другім аддзяленні гучалі розныя песні беларускага фальклору, у тым ліку і песні з купальскага цыклу з харэаграфічнымі нумарамі. У канцы спяваем наша традыцыйнае «Многае лета» і заканчваем песняй «Бывайце здаровы». Нашай канферансье і перакладчыцай з беларускай мовы на англійскую была Галіна Гашко, а на дацкую перакладаў сам сп. Эрык. У канцы кожнага твора слухачы выражалі свае эмоцыі бурнымі воплескамі.

Канцэрт закончаны, а гледачы не спяшаліся дадому. Ім хацелася пагутарыць з намі. Яны задавалі шмат пытанняў. А мы прасілі іх расказаць аб мясцовай эканоміцы, чым яны займаюцца. Адзін з актыўных фермераў расказаў пра поспехі ў птушкагадоўлі. На сваёй фабрыцы-ферме вырошчвае да 100000 птушак, забяспечваючы працай значную частку жыхароў пасёлка. Былі размовы і з іншымі слухачамі. Яны шчыра дзякавалі нам за канцэрт, жадалі поспехаў у нашай далейшай канцэртнай працы.

Скончыліся размовы, і нас запрасілі на вячэру. Як звычайна, на стале меўся багаты выбар прадуктаў, і мы падыходзілі і выбіралі тыя, якія былі больш за ўсё даспадобы. Я абслугоўваў Лілю і сябе. Браў паднос з двума прыборамі, запаўняў прадуктамі і шукаў вольнае месца на бліжэйшым стале, каб іх паставіць і запрасіць Лілю на вячэру.

Пасля вячэры хутка займаем свае месцы ў аўто і едзем адпачываць.

Снеданне сёння а дзевятай, а роўна ў 10 мы едзем у кафэ — Цэнтр рэабілітацыі наркаманаў. Прыехалі ў цэнтр Колдзінга. Перад тым, як ісці ў кафэ, харыстаў раздзялілі на дзве групы. Першая пайшла на сустрэчу з псіхолагамі, якія распавядалі, як яны працуюць з наркаманамі, а наша група павінна была пазнаёміцца з магазінамі цэнтра горада. Я з Ліляй наведаў магазін канцтавараў, дзе мы набылі у якасці падарунка нашым блізкім пару асадак. Зразумелі, што фінансавыя магчымасці не дазваляюць нам набыць больш цікавыя падарункі. Праз гадзіну нас запрасілі ў кафэ. Там прадстаўнік гэтай установы — псіхолаг — расказаў нам аб тых намаганнях, якія ўлада здзяйсняе, каб змагацца з гэтай бядой нашых дзён. Размова са спецыялістамі вялася за кубачкам кавы.

Галоўны напрамак работы з наркаманамі скіраваны на тое, каб дапамагчы ім выйсці са стану наркатычнага ачмурэння. Зразумела, што не заўсёды спецыялістам удаецца паспяхова аздаравіць гэтых хворых людзей. Аднак грамадскасць і дзяржава не пакідаюць іх саміх з сабой, а клапоцяцца пра іх: разам са спецыялістамі ў адмысловым кафэ яны сумесна праводзяць неабходныя аздараўленчыя мерапрыемствы.

У 12 гадзін сп. Эрык адвёў нас у рэстаран. Там нас частавалі піццай і вадой з лёдам. Падсілкаваліся, пайшлі ў Цэнтр рэабілітацыі алкаголікаў «Quo Vadis». Там нас сустракаў гаспадар гэтай установы, які ў свой час таксама быў алкаголікам. Ён расказаў нам аб тым, што стаў алкаголікам ад штодзённага ўжывання не менш як 20 бутэлек піва, а цяпер ён пры дапамозе ўлады дапамагае людзям, якія сталі алкаголікамі па розных прычынах. Яму ў яго нялёгкай працы дапамагае ягоная жонка. І вось яны разам з дзяржаўнымі служачымі-псіхолагамі дапамагаюць хворым на алкагалізм адмовіцца ад ужывання алкаголю. І гэтых няшчасных дацкая дзяржава таксама не пакідае ў бядзе.

## *Пяцідзесяцігадовы юбілей пастара Эрыка*

У другой палове дня, калі мы прыйшлі ў двор сп. Эрыка, заўважылі, што падрыхтоўка да юбілею ідзе паспяхова. На юбілей прыехалі самыя блізкія сп. Эрыка: бацька і маці, браты, сястра, сын. На жаль, адзіная дачка не змагла прыехаць, таму што ў гэты час была за акіянам, у Аргенціне. Прыйшлі павіншаваць самыя блізкія сябры і жаданыя знаёмыя, сярод гасцей былі і мы, хор «Бацькаўшчына». Нас сп. Эрык і запрасіў у Данію з тым разлікам, каб надаць свайму юбілею мастацкую афарбоўку ўпадабанымі яму беларускімі духоўнымі песнямі, фальклорам і рускай духоўнай музыкай. Сп. Эрык лічыў вялікім гонарам, што ў ягоным пяцідзесяцігоддзі прымаў удзел хор «Бацькаўшчына» з Беларусі.

Урачыстае адкрыццё юбілею якраз было нам і даручана. Спачатку мы выканалі некалькі песень купальскага цыклу, а пасля з віншаваннямі ад хору выступіла спн. Вера:

— Паважаны наш юбіляр! Сёння споўнілася Вам паўвека з таго дня, як Вы нарадзіліся. Такая дата бывае раз у жыцці кожнага чалавека, аднак не колькасць пражытых гадоў прыносяць пашану юбіляру, а тыя справы, якія за гэтыя гады ён здзейсніў. Нам вядома, што сп. Эрык паважаная асоба не толькі ў Колдзінгу, але і ў Каралеўстве Данія. Мы больш як год таму пачулі ў Беларусі аб дабрачынных Вашых справах. Знаем Вас як неабыякавага чалавека, гатовага не толькі паспачуваць чужой бядзе, а і ўмела арганізаваць матэрыяльную гуманітарную дапамогу тым, хто ў гэтым мае вострую патрэбу. Вы чалавек вядомы амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах. Вас ведаюць і падтрымліваюць з Вамі розныя кантакты рэлігійныя дзеячы з многіх краін свету. І мы здзіўляемся, як можна справіцца з такой нагрузкай, з такой вялікай колькасцю людзей, якія амаль штодзённа прыязджаюць да Вас. Усіх іх трэба ўладкаваць, даць жыллё, накарміць і, ўрэшце, вырашыць тыя праблемы, з якімі да Вас прыехалі. А колькі клопату мы ўсклалі на Вас

сваімі гастролямі, аднаму Богу ведама. Несумненна, Ваша глыбокая вера ў Бога і служэнне Яму ў якасці пастара спрыяе Вам ва ўсіх Вашых справах. І ў заключэнне дазвольце паднесці наш сціплы падарунак і пажадаць Вам і надалей заставацца такім на многія гады.

Ад хору, акрамя таго, выступіў наш паэт Юрый Сіткевіч. Павіншаваўшы юбіляра, прачытаў яму верш «Пастару Эрыку»:

Ці гэта сон, ці гэта ява —
Дасюль уцяміць я не змог.
Адно ўяўляю я яскрава:
Мы перакрочылі парог.

За межы Беларусі роднай
Хор выехаў упершыню.
Прыемна пасля дзён халодных
Адчуць такую цеплыню.

Яна ў прыродзе, ў атмасферы,
У моцным поціску рукі.
Паміж людзьмі Хрыстовай веры
Мацнее дружба на вякі.

«Быць ці не быць?» — калісь пытанне
Датчанам Гамлет задаваў.
Вядома, быць! І ёсць! Мы ў Даніі,
Сюды нас пастар запрашаў.

Ён нас прыняў тут так сардэчна.
І у ягоны юбілей
Мы скажам: імя Ваша вечна
Жыць будзе ў памяці людзей.

І покуль сэрца будзе біцца,
Пакуль на свеце мы жывём,
Нам будзе Данія ўсё сніцца,
Эліза, Эрык, іхні дом.

Прыблізны пераклад верша на англійскую мову рабіла наша сп. Галіна. Яна была сярод усіх перакладчыкаў самым лепшым знаўцам англійскай мовы, таму ва ўсіх выпадках, дзе патрабаваўся высокакваліфікаваны пераклад, заўсёды спн. Вера даручала ёй.

Шмат было на працягу ўсяго вечара выступленняў блізкіх, родных юбіляра, падносіліся падарункі, і усё гэта адбывалася ў прамежках, калі заканчвалася гучанне чарговай духоўнай ці фальклорнай песні нашага хору. Былі і такія моманты, калі выказваліся віншаванні і падносіліся падарункі, а пасля гучала музыка нашых баяна і акардэона без хору.

Было бачна, што ўсе былі шчаслівымі ад удзелу ў такім мерапрыемстве, у якім прысутнічалі дзве разнамоўныя групы людзей з розных краін і так хораша без ведання моў ладзілі між сабою. Нашы перакладчыкі фізічна не маглі задаволіць патрэбы такой масы людзей. І ў гэты момант падумалася: як важна пры такіх зносінах валодаць мовай міжнароднага паразумення — англійскай.

Усе падзеі адбываліся свабодна, без характэрнага прымусу, уласціваму славянам. Пасля кароткай афіцыйнай часткі сп. Эрык запрасіў усіх гасцей частавацца па прынцыпу «шведскага стала». На стале былі розныя натуральныя і кансерваваныя вырабы з мяса, розныя гатункі рыбы, сыры, печыва, салаты, садавіна, марожанае, напоі, у тым ліку і піва, вялікі выбар якасных вінаградных він. Вось напояў тыпу гарэлкі або каньяку там не было, таму што сп. Эрык, як святар, заўсёды выступае супраць ужывання моцных спіртных напояў, што выклікала незадаволенасць нязначнай часткі нашых мужчын. Больш сталыя тут жа арганізавалі гандаль таварамі: адны прадавалі пейзажныя малюнкі гарадзенскіх мастакоў, іншыя біжутэрыю, а хтосьці — моцныя напіткі. Тут жа мы з Ліляй пазнаёміліся з Кацярынай, рускай па нацыянальнасці, якая з часоў Другой сусветнай вайны жыве ў Даніі. Яна — былая савецкая радыстка, скінутая з рацыяй на парашуце з самалёта ў Нямеччыну для здабычы разведзвестак. Ёй не пашанцавала — трапіла ў палон. Яе адправілі ў канцлагер. Пазнаёмілася з датчанінам, які таксама там сядзеў. Пасля вызвалення з канцлагера саюзнымі войскамі ён прапанаваў ёй выйсці за яго замуж. Адбыўся шлюб, і вось з тых часоў яна жыве ў Даніі і мае вялікую сям'ю. Каця, як завуць яе цяпер тут, расказала нам на рускай мове аб сваім жыцці. У апошнія гады ёй часта прапануюць быць гідам, пераважна з дзецьмі, якія прыязджаюць сюды на адпачынак з чарнобыльскай зоны былога Савецкага Саюза. У яе ёсць сёстры, якія жывуць у Маскве і на поўдні былога Саюза — Украіне. У апошнія дзесяцігоддзі яна з мужам і дзецьмі некалькі разоў пабывала ў Маскве і ў Адэсе — яшчэ за часамі СССР. Цяпер яе сям'я жыве ў 5 кіламетрах адсюль у шыкоўным катэджы. Яе дзеці жывуць асобна з сем'ямі і займаюцца сваімі справамі. Сп. Эрык запрасіў яе на юбілей дзеля таго, каб яна паразмаўляла з намі і не забывала сваю рускую мову. На маё пытанне, чаму Кацярына прыехала на юбілей без мужа, адказала:

— Мой муж пасля катаванняў, перанесеных у канцлагеры, часта хварэў, а зараз ён не ўстае з ложка.

Неўзабаве са мной і маёй жонкай Ліляй пажадалі пазнаёміцца бацькі сп. Эрыка. Я распавёў пра нас, бацькі пастыра ў сваю чаргу пра сябе. Наша дачка Галіна ўсё нам перакладала — добра, што бацькі разумелі англійскую мову.

Юбілейны вечар скончыўся. Госці паступова разыходзіліся на адпачынак.

# *Перасяляемся ў сем'і датчан*

Бліжэй да вечара пачалі прыязджаць у двор сп. Эрыка «купцы» (так хтосьці з нас назваў датчан, якія пажадалі запрасіць па некалькі чалавек нашых харыстаў пажыць у іх, каб бліжэй пазнаёміцца) і пачалі дамаўляцца, забіраць і везці ў свой дом. Так, перад канцэртам большасць харыстаў перасяліліся на новае месца жыхарства. На вечаровы канцэрт іх прывозілі на ўласным аўто новыя гаспадары. Майго сябру Юрыя Сіткевіча і баяніста Алега Альфяровіча прывезла гаспадыня, у якой яны толькі што пасяліліся, і чакала іх да канца канцэртаў.

Праз паўгадзіны мы, ужо апранутыя ў сваю форму, размясціліся насупраць Святога алтара і пачалі спяваць. У вялікай зале кірхі святога Мікалая сабралася прыкладна 700 слухачоў. Сярод іх былі паважаныя асобы горада Колдзінга разам са сваім мэрам. Гэта была бадай самая вялікая колькасць слухачоў, якія наведалі наш канцэрт, таму мы выконвалі песні з асаблівым уздымам і адказнасцю. У першым аддзяленні прагучала да 16-ці твораў духоўнай музыкі, а пасля дзесяціхвіліннага перапынку пазнаёмілі прысутных з беларускім фальклорам. У канцы, як звычайна, выконваем «Магутны Божа» і наша трайное «Многае лета»: беларускае, кампазітара Бартнянскага і маскоўскае. На развітанне з гэтай цудоўнай краінай праспявалі беларускую народную песню «Бывайце здаровы, жывіце багата». Канцэрт закончаны, а прысутныя доўга пляскалі нам і выклікалі на біс. Канцэрт працягваўся больш як 2 гадзіны. Мы развіталіся з такой цудоўнай краінай. Яна дала нам шмат прыемных і незабыўных хвілін.

З падзякай за канцэртную працу хору выступіў прадстаўнік мэрыі Колдзінга. Ён у сваёй прамове высока ацаніў тую работу, якую выканаў хор «Бацькаўшчына» з Беларусі за перыяд гастроляў на паўвостраве Ютландыя Каралеўства Данія і дадаў:

— Хор «Бацькаўшчына» сваімі духоўнымі спевамі паказаў, якой багатай нацыянальнай спадчынай валодаюць беларусы; на мой погляд, у вас вельмі багаты фальклор. Я мяркую, што вы нам паказалі нязначную частку яго, таму што ваш хор спецыялізуецца на творах біблейскага плану. Але ж нават тое, што мы пачулі, сведчыць: беларусы маюць невычэрпную крыніцу свайго нацыянальнага фальклору, які, мне думаецца, трэба беражліва збіраць, захоўваць і прапагандаваць. Я не ведаю, якая нацыя ў Еўропе мае такі багаты фальклор, — закончыў мэр.

У адказ са словамі падзякі за высокую ацэнку працы калектыву хору спн. Вера сказала:

— Паважаны спадар мэр! Я ад імя ўсіх нашых харыстаў шчыра дзякую Вам за запрашэнне наведаць такую цудоўную краіну, якая завецца Дацкім Каралеўствам. У параўнанні з краінамі былога СССР умовы жыцця датчан сапраўды казачныя, гэта мы пабачылі на свае вочы за некалькі дзён нашых

гастроляў. Мы павінны шчыра падзякаваць усім нашым дацкім сябрам і асабліва сп. Эрыку Ланк’еру за ўмела спланаваныя гастролі нашага хору, якія выконваюцца на сто працэнтаў, — закончыла спн. Вера і паднесла мэру кветкі і падарунак. У парыве эмоцый яна на знак удзячнасці па славянскім звычаі пацалавала мэра. Ён разгубіўся, і ад нечаканасці букет кветак упаў на падлогу.

Пасля доўгага стаяння на канцэрце пачалі ацякаць ногі, таму мы былі рады магчымасці прагуляцца і пацікавіцца, як жыхары Колдзінга святкавалі дзень свайго горада. І тут мы прысутнічалі пры здарэнні. Некалькі маладых хлапцоў нападпітку пачалі між сабою бойку і неабачліва разбілі нейкую вітрыну. Тут жа з’явіліся арганізатары свята, далі ім мяцёлкі і прымусілі збіраць разбітае шкло, а мы працягвалі хадзіць і шукаць пляцоўку бойскаўтаў, дзе па плану Эрыка збіраліся выступаць з апошнім канцэртам перад удзельнікамі свята. Канцэрт пачаўся а першай гадзіне ночы і закончаны а палове трэцяй у памяшканні на рынкавай плошчы. На канцэрце ў асноўным выконваліся песні беларускага фальклору. Пасля канцэрта большасць харыстаў паехала па новых адрасах, а я з Ліляй і іншымі, хто не паспеў перасяліцца, адправіліся адпачываць да сп. Эрыка.

Раніцай 24 жніўня мяне і Лілю паклікаў сп. Эрык і пазнаёміў нас са спн. Элізай. Яна сказала, што можа запрасіць не двух, а нават трох чалавек.

Спн. Вера прапанавала паехаць з намі Алегу Грыгор’еву: маўляў, ён валодае англійскай і будзе якраз дапамагаць нам хутчэй паразумецца. А дзясятай едзем на новае месца, і вязе нас утрох на сваёй машыне гасцінная спн. Эліза.

Прыехалі даволі хутка. Дарога да хутара пакручастая і, як усе дарогі ў гэтай краіне, у выдатным стане. Прыехалі. Бачым, што дом, у якім жывуць нашы новыя гаспадыня і гаспадар, амаль такі вялікі, як і ў сп. Эрыка, аднак адрозніваецца ад дома сп. Эрыка: акрамя асноўнага паверха маецца значна большая мансарда з некалькімі пакоямі спецыяльна для гасцей, туалетам і ваннай. Сюды з першага паверха можна падняцца па даволі стромай унутранай лесвіцы. І мы падымаемся па запрашэнні гаспадыні. Яна паказала пакой, дзе мы будзем начаваць. На некаторай адлегласці ад нас спн. Эліза выдзеліла асобны пакой Алегу.

У гэтым вялізным, па нашых мерках, доме зараз стала жывуць спн. Эліза з мужам Эрыхам. Ён акрамя дацкай і нямецкай мовы іншымі не валодае. Таму нам з ім дамовіцца можна толькі праз перакладчыцу — ягоную жонку. Яе муж пенсіянер. Да выхаду на пенсію быў фермерам, а калі стаў пенсіянерам, то зямлю здаў дзяржаве, а ўзамен атрымаў поўнае пенсійнае забеспячэнне і цяпер займаецца бізнесам. Эліза — настаўніца матэматыкі і англійскай мовы ў мясцовай школе. Цяпер час вакацыяў, і яна ў адпачынку. У іх сям’і выраслі дзве дачкі і два сыны і ўсе яны жывуць асобна — маюць

свае сем'і. Гаспадар паказаў мне падвальныя памяшканні і іх функцыянальнае прызначэнне: захоўванне тэхнікі, неабходнай для прыбірання пакояў, пыласосаў найноўшай канструкцыі, памяшканне, дзе сушыцца памытая бялізна, і іншыя каморкі.

Побач з домам гараж на дзве машыны. Адна выязная, якой часцей за ўсё карыстаецца гаспадыня, і двухмесная з адкрытым кузавам — машына гаспадара. Побач з гаражом склад з маразільнікам, у якім захоўваюцца прадукты. Тут другі склад, дзе ўтрымліваюцца розныя садова-агародныя сучасныя машыны для апрацоўкі прысядзібнага кавалка зямлі ў 20 сотак. Гэты ўчастак зямлі яны сабе пакінулі пры доме пасля выхаду гаспадара на пенсію.

Пасля знаёмства з усімі памяшканнямі дома і іх абсталяванасцю сучаснымі машынамі ў мяне ўзнікла рытарычнае пытанне: чаму такіх умоў жыцця няма ў нас? У недалёкім мінулым усяго зараз убачанага ў датчан не было. Аднак тэхнічны прагрэс і палітыка сацыял-дэмакратычнага ўрада гэтай краіны стварылі не на словах, а на справе ўсё неабходнае для прыстойнага жыцця сваім жыхарам. І такія поспехі і іншых заходніх краін у сацыяльным забеспячэнні людзей былі прыкрыты «жалезнай заслонай» ад нас. Усё гэта рабілася для адной мэты: каб мы не даведаліся і не задумваліся аб тым, чаму людзі за мяжой жывуць у дзясяткі разоў багацей за нас. Мы ўбачылі там, што калі ты сам творча працуеш, то тады зможаш здзейсніць свае мары як у набыцці адукацыі, так і ў пакупцы неабходных машын з тым, каб выкарыстаць іх у паляпшэнні свайго побыту. За час нашага візіту мы не бачылі аніводнага выпадку, каб датчане мелі сталых наёмных працаўнікоў. І яны ўсяго гэтага дасягнулі менавіта тады, калі зразумелі, што лепшымі памочнікамі ў гаспадарцы з'яўляюцца сучасныя машыны і тэхналогіі. Усіх, пачынаючы з дзіцячага ўзросту, прывучаюць, як хлапцоў, так і дзяўчынак, каб яны ў першую чаргу засвойвалі навыкі кіравання living рознымі машынамі, у тым ліку аўтамабілем. У нас яшчэ не адмовіліся ад таго, каб у высокага начальства было штатнае персанальнае аўто з вадзіцелем, які аплачваецца дзяржавай ці прыватнай структурай. Я памятаю, як мне мой знаёмы дацэнт аднойчы сказаў, калі стаяла пытанне аб пакупцы ўласнай машыны:

— Навошта мне купляць асабісты аўтамабіль за свае грошы? Ёсць другі спосаб займець персанальны транспарт — заняць наменклатурную пасаду.

У Даніі, і бадай усюды на Захадзе, у высокай ступені развіта структура рамонтных паслуг. Плаці грошы, і табе хутка і якасна спецыялісты выканаюць твой заказ. Чаго, на жаль, у нас пакуль няма і ў бліжэйшы час наўрад ці мы атрымаем. Чаму? Гэта залежыць ад нашага мінулага выхавання. Доўгія гады дзяржаўныя структуры нам недаплачвалі за нашу працу. Мы атрымоўвалі столькі, што хапала, а часцяком і не хапала, каб забяспечыць свае фізічныя патрэбы, а трэба ж было карміць сваю сям'ю. Гэта выму-

шала нас шукаць дадатковыя сродкі забеспячэння, і некаторыя знаходзілі іх у крадзяжы агульнай маёмасці. Менавіта ў гэты час нарадзілася такое выслоўе: не ўкрадзеш — не пражывеш.

Успамінаецца маё дзяцінства. Мы разам з бацькам ездзілі ў Баранавічы на падводзе і адлегласць у 25 кіламетраў пераадольвалі не менш як за 5 гадзін. Гэта было ў 30-я гады мінулага стагоддзя. Цікава: такую адлегласць у тыя гады на конным транспарце пераадольвалі за такі ж час датчане. А сёння спн. Эліза двойчы пабывала ў Колдзінгу (пераадольваючы тую ж адлегласць) у першай палове дня і зрабіла шмат іншых спраў: уладкавала гасцей на начлег, пакарміла пасля першага прыезду нас на кухні, і ўсё гэта адбывалася ў першай палове дня. Пасля другога вяртання з Колдзінгу падрыхтавала багаты стол, за які мы селі пад час абеду ў сталовай. На стале былі мяса з падлівай і бульбай і рознымі закускамі, віно і нават шнапс. Частаваліся і больш дэталёва знаёміліся з гаспадарамі. Праз нейкі час пачалі спяваць. Гаспадар у юнацтве адбываў вайсковую службу ў Аўстрыі, там навучыўся выконваць цірольскія песні і нядрэнна спяваў, акампануючы на акардэоне. Ён ведаў, што мы харысты, і прасіў нас выканаць расійскую народную песню «Из-за острова на стрежень…». Мы яе ў хоры ніколі не спявалі. Праўда, у юнацтве я любіў спяваць, выконваў гэтую песню і спяваў так, як спявалі сяляне там, дзе я жыў, зразумела, не прафесійна. Пазней я чуў гэтую песню неаднаразова па радыё, а апошнім часам і па тэлебачанні. І вось я пачаў спяваць па заказу, а дапамагалі мне Ліля і ўсе, хто быў за сталом. Пасля Ліля саліравала пры выкананні савецкай песні «Кацюша» і іншых. Час прабягаў хутка, і пад канец абеду прыйшла ў нашу кампанію дачка нашых гаспадароў Анна з унучкай. Яна непадалёк ад бацькоў мае свой хутар і прыйшла, відавочна, каб пазнаёміцца з намі — паглядзець на беларусаў.

Алег больш дасканала валодаў англійскай мовай і пастаянна размаўляў са спн. Элізай, перакладаў на рускую. У асноўным мы добра разумелі, аб чым ішла гаворка.

Абед і песні доўжыліся да паловы дзявятай гадзіны вечара. Пасля гаспадар запрасіў нас у тэлевізійны пакой, дзе глядзелі па нямецкім тэлеканале канцэрт, а пасля дацкія навіны. Нам было не вельмі цікава, таму што ніхто з нас не ведаў дацкай мовы. І мы пайшлі адпачываць на мансарду.

Я падняўся а сёмай гадзіне. Спаць не хацелася. Спусціўся на першы паверх і выйшаў. Перад домам толькі што зжатае пшанічнае поле, аб гэтым сведчаць тыя каласы, якія засталіся. Падняў некалькі іх, разгледзеў, зразумеў, што тут атрыманы багаты ураджай. Падышоў да гаража і сустрэў гаспадара, які штосьці мне па-дацку пачаў тлумачыць і запрасіў пайсці з ім у склад-музей, дзе паказваў і тлумачыў. Я нічога не разумеў, але здагадаўся, што ён паказвае мне тыя прылады, якімі ягоныя продкі апрацоўвалі зямлю ў пачатку XX стагоддзя. Ён іх беражліва захоўвае. Сярод іх былі рознай

канструкцыі матыкі, граблі, пілы, сякеры, калуны, вобруць, венікі і ўсё тое, што мы зараз ужываем на нашых летніках, а ў іх ляжыць на музейных паліцах. Для параўнання ён мне паказаў сучасную тэхніку, якой карыстаецца пры апрацоўцы прысядзібных сотак, што засталіся побач з домам. Тут былі сучасны апырсквальнік, электраплуг з усімі навяснымі прыстасаваннямі (барана, культыватар, акучнік, пласкарэз кустарэз з сенакасілкай і г. д.), і ўсе гэтыя прыборы разлічаны на электрапрывад, чым ён ганарыўся.

Я падумаў: вось той шлях, па якім павінна развівацца і наша сельскагаспадарчая вытворчасць. Іншага не бачна.

А дзявятай гадзіне нас паклікалі на снеданне. За сталом я растлумачыў гаспадыні, што ў недалёкім мінулым я працаваў у Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце на кафедры фізікі і знаёмы з працай аграрыяў, таму хацеў бы, калі гэта магчыма, пазнаёміцца з работай фермерскай гаспадаркі. Гаспадар тут жа прапанаваў наведаць ферму свайго сына.

Мяне, як сына былога селяніна-аднаасобніка і выкладчыка сельскагаспадарчага інстытута, цікавіла, як працуюць сяляне ў гэтай краіне. Калі я прыехаў сюды, то заўважыў, што сп. Эрык жыве ў прыгарадзе. Ягоны дом і пры ім некалькі сотак зямлі мяжуюць з палямі суседняй фермерскай гаспадаркі. Насупраць дома поле, на якім расце даспяваючы палетак жыта прыкладна гектараў каля трыццаці. Праз пару дзён раніцай на гэтым полі з’явіўся зернеўборачны камбайн, і да сямі гадзін вечара ўвесь палетак быў зжаты. Зерне тут жа на полі было высыпана на поліэтыленавую плёнку, а ў наступны дзень прыехалі супрацоўнікі спецбрыгад, якія забралі зерне для наступнай прасушкі і ачысткі. Патрэбная колькасць жыта засыпана ў засекі фермера, а астатняе купіла дзяржава, пералічыўшы грошы на ягоны асабісты рахунак. На наступны дзень на жытнёвым полі пачаў сваю справу другі камбайн і за дзень сцюкаваў усю салому, адвёз яе ў сховішча. Праца фермера размеркавана так, каб ён выходзіў да 9 гадзіны і вяртаўся на адпачынак не пазней за сёмую вечара. Такая праца фермераў магчыма дзякуючы таму, што яны маюць сродкі набываць самыя сучасныя машыны.

Прыкладна а 10 гадзіне мяне з Ліляй гаспадар вязе на ферму сына. Едзем у паўночным кірунку. Мінаем палі розных ферм. На некаторых палетках яшчэ сядзіць кукуруза. Дзе-нідзе свежаўзараныя дзялянкі пад азімыя культуры. І не заўважылі, як пад’ехалі да тыповай дацкай фермы. Заехалі ў двор. Забудова фермы складаецца з жылога дома і ўсіх гаспадарчых памяшканняў, якія размешчаны па перыметры квадрата. На поўначы жылы дом гаспадароў, гумно, зернясховішча, хлявы жывёле і птушкам, а пасярэдзіне двор, засыпаны марской галькай.

Значны прыбытак прыносіць фермерскай гаспадарцы норкавая звераферма. Норкі ўтрымліваюцца на тэрыторыі побач з пашай кароў у спецыяльных клетках парамі, і налічваецца іх там каля 3000 галоў. Зияркі

markdown
ознакаляровыя: блакітныя, чорныя, пярэстыя (чорныя з белымі плямамі) і іншых колераў і адценняў. Кормяць іх спецыяльнай рыбнай пастай і зернем. Вырошчваюць да канца восені, а калі трэба атрымаць прадукцыю — мех, то фермер па тэлефоне запрашае спецбрыгаду, якая забірае даспеўшых звяркоў і адвозіць іх для далейшай апрацоўкі на фабрыку. Фермеру на яго асабісты рахунак паступае ад рэалізацыі норак чысты даход у памеры аднаго мільёна крон. У Даніі, як нідзе ў свеце, развіты спецбрыгады розных кірункаў, якія аказваюць, зразумела, за плату, паслугі кваліфікавана і ў дамоўленыя тэрміны. Такія спецбрыгады выконваюць эфектыўна любы заказ. Таму дацкаму фермеру не баліць галава, як яму справіцца з той ці іншай работай. Тэхнічная аснашчанасць фермера нам здаецца фантастычнай. Уявіце сабе гаспадара, які мае 77 гектараў зямлі і адзін з сям'ёй (жонка і трое малых дзяцей дашкольнага ўзросту) апрацоўвае ўвесь гэты палетак і яшчэ працуе некалькі дзён у Колдзінгу на нейкім прадпрыемстве. У ягонай гаспадарцы акрамя легкавых і грузавых машын, неабходных яму, маюцца трактары, камбайны самых лепшых марак. Даходы ягонай гаспадаркі дазваляюць яму набываць самыя новыя высокатэхналагічныя машыны і шырока выкарыстоўваць сучасныя тэхналогіі.

Пасля кароткага знаёмства з гаспадаркай нас запрасілі ў хату на піва. Дом фермера меншы па памерах за бацькоўскі, але не намнога. Абстаўлены сучаснай мэбляй і тэхнічнымі сродкамі, як у прыгатаванні ежы, так і ў прыбіранні памяшкання. А калі і ўзнікаюць такія праблемы, то і па гэтай справе ёсць спецыяльныя брыгады, гатовыя па званку прыехаць на дапамогу. Напрыклад, трэба гаспадыні памыць вокны дома. Яна па тэлефоне дае заказ, назначае тэрмін выканання. Спецбрыгада ў прызначаны час прыязджае і выконвае заказ. За паслугі з разліковага рахунку фермера будзе спісана адпаведная сума. Фермер з банка атрымае квітанцыю з указаннем, за што ён разлічыўся і колькі грошай на ягоным рахунку. Супрацоўнікі спецбрыгад зацікаўлены ў выкананні як мага большай колькасці заказаў. Ад гэтага залежыць іх заробак, таму яны не лічацца слугамі работадаўцаў — яны кваліфікаваныя супрацоўнікі адпаведнай фірмы і выконваюць работу па спецыяльнасці. У Дацкім Каралеўстве абразлівыя словы «служанка» ці «парабак» практычна зніклі. Іх месца занялі спецыялісты адпаведнай кваліфікацыі з высокім заробкам.

У нашым распараджэнні сённяшні светлавы дзень, а ўвечары мы павінны вярнуцца да сп. Эрыка з тым, каб на наступны дзень раніцай ад'ехаць дадому. Таму мы хутка развітваемся з нашымі мілымі маладымі фермерамі. Жадаем ім яшчэ большых поспехаў. Выказваем свае захапленні ад убачанага і едзем да дома спн. Элізы.

Бегла пазнаёміўшыся з тыповай гаспадаркай сына спн. Элізы, едучы ў зваротным напрамку, я яшчэ больш пільна стаў углядацца ў палеткі тых фермераў, якія сваёй працай, вынаходлівасцю і руплівасцю вырошчваюць

у гэтых суровых кліматычных умовах такі багаты плён. Сп. Эрык нам растлумачыў, што такое выдатнае надвор'е, якое было за дні нашага побыту ў Даніі, рэдкасць у гэтай краіне. Нягледзячы на неспрыяльныя кліматычныя ўмовы вядзення сельскагаспадарчых работ, дацкія фермеры вынайшлі такія абарончыя сродкі, якія дазваляюць ім атрымліваць небывала багаты плён усіх культур як у раслінаводстве, так і ў жывёлагадоўлі. За сваю працу дацкія фермеры атрымліваюць высокую ўзнагароду, а дзяржава ў цяжкія часы ім заўсёды дапамагае, падстаўляе сваё плячо, і менавіта тады, калі такая дапамога патрэбна. Я ўбачыў сапраўды свабоднага дацкага селяніна, які ўсе свае праблемы вырашае самастойна, і гэтым ён шчаслівы.

Кожнага жыхара Даніі, па маім назіранні, адрознівае ад нашага ягоная ашчаднасць. Які б прыбытак у яго не быў, ён ніколі не будзе дарма раскідваць сваё дабро. У пачатку мінулага стагоддзя датчане жылі небагата, а магчымасцей паляпшэння дабрабыту нацыі не было такіх, як у славян (шмат багатых зямель, многа лясных угоддзяў). Таму яны бачылі адзіны сродак, каб стаць заможнымі: трэба выхаваць ва ўсёй нацыі ашчаднасць ва ўсім, і ім гэта ўдалося. Мінула паўстагоддзя, і Данія па ўзроўні жыцця займае адно з першых месцаў у свеце — рыса ашчаднасці ўвайшла ў генетычны код датчаніна. Яны зараз маюць магчымасць дапамагаць іншым краінам, якія трапілі ў катастрофу, пастаўкамі гуманітарнай дапамогі, дасылаючы ім адзенне, палаткі, коўдры, інвалідныя каляскі, кансервы і іншае. Не маючы на астравах ні вугалю, ні нафты, ні іншых карысных выкапняў, працавітыя, ініцыятыўныя датчане вынайшлі ў прыбярэжным шэльфе нафту, забяспечылі сябе гэтым палівам і прадаюць частку яе сваім суседзям. Датчане лідыруюць у пастаўцы на сусветны рынак ветраэлектрастанцый.

Па абедзе спадарыня Эліза прапанавала наведаць археалагічны музей і музей сучасных скульптур.

Музей невялікіх памераў, нагадвае наш сельскі клуб. Знаёмімся з экспазіцыяй. Галоўны экспанат — драўляная грабніца, выструганая з суцэльнага кавалка дрэва, і накрыўка. Пры раскопках знойдзена нядаўна. Радыёізатопным метадам устаноўлена, што пахаванне знатнай асобы датуецца пачаткам нашага тысячагоддзя. А побач з труной фатаграфіі астанкаў пахаванага. Вось бадай і ўсё. Пазнаёміўшыся з экспанатамі, мы не ўсё дэталёва зразумелі, таму што не ведалі дацкай мовы.

Ідзём і сядаем па сваіх машынах. Едзем да музея сучасных скульптур, які месціцца ў вельмі цікавай гарыстай мясцовасці, што нагадала мне нашу Наваградчыну. Прыгледзеўшыся, бачым перад намі даволі высокі пагорак, на якім усталяваны нейкія збудаванні з кавалкаў жалезных труб, замацаваных на металічных фермах. Сярод нас не было знаўцы сучасных скульптур, які б растлумачыў сэнс гэтых, таму мы не бярэмся іх хваліць ці ганіць. Той, хто прывёз нас сюды, відавочна, разлічваў, што мы, магчыма,

кампетэнтны, ці, дакладней сказаць, знаёмы з мадэрнісцкім кірункам у мастацтве. Нягледзячы на гэта, мы падняліся на гару, назіралі цудоўную панараму. Унізе дарога, якая пятляе па пагорках паміж лесам, а за ім хутар нейкага фермера ці леснічоўка мясцовага лесніка. Спускаемся да нашых аўто, і спн. Эліза частуе нас выдатным марожаным. Сядаем на нашых «коней» і едзем у адваротным кірунку.

Дома ў спн. Элізы збіраем свае рэчы і абменьваемся падарункамі. Ліля падаравала гаспадыні драўляную каробку, на накрыўцы і бакавушках розныя малюнкі — разьба па дрэве, а спн. Эліза паднесла вялікую каробку шакаладных цукерак і традыцыйную дацкую падстаўку для падагрэву гарбаты свечкамі. Напярэдадні, калі пры ўваходзе ў дом я на вешалцы ўбачыў саламяны капялюш, міжволі ўсклікнуў: «Ох, якое прыгожае самбрэра!», і пачаў падымацца па лесвіцы на мансарду. Пры гэтым прысутнічала гаспадыня і пачула мой воклiч. А калі ёй патрэбна было штосьці мне падараваць — успомніла і палічыла, што лепшым падарункам мне будзе капялюш. Ён калісьці быў набыты яе мужам і мала выкарыстоўваўся з-за таго, што асабліва гарачых дзён у Даніі амаль не бывае. Эльза падказала свайму мужу, каб ён падараваў мне капялюш.

Мінула 30 хвілін, а мы ужо на двары сп. Эрыка. А там толькі што пачалі вяртацца нашы харысты з гасцей і на развітанне са сваімі новымі гаспадарамі арганізавалі провады з музыкай і танцамі. Апоўначы, цёпла развітаўшыся са сваімі гасцямі з Беларусі, паехалі да хаты ўсе нашы датчане. Мы за кароткі час пасябравалі, абмяняліся адрасамі і абяцалі пісаць лісты пасля прыезду на радзіму; шмат чаго карыснага даведаліся ад сваіх гасцінных гаспадароў аб асаблівасцях іх побыту, які, па многіх назіраннях, у лепшы бок адрозніваецца ад нашага. У датчан шмат чаго можна навучыцца. Аднак трэба зазначыць, што знаёмства не заўсёды было поўным — абмяжоўваў моўны бар'ер. Поўную і аб'ектыўную інфармацыю набылі тыя, хто добра валодаў, прынамсі, англійскай мовай.

Провады харыстаў «Бацькаўшчыны» дадому закончаны. Тыя, што прыехалі з гасцей, пайшлі адпачываць. Раніцай спакавалі рэчы, і сп. Эрык разлічыўся з намі за канцэртныя выступы. Кожны атрымаў па 100 даляраў, а каму не хапіла амерыканскіх грошай, то атрымаў заробак у дойч-марках.

Успамінаецца, што ў адзін з апошніх дзён выдаўся вольны час, і сп. Эрык рашыў азнаёміць нас з супермаркетам Колдзінга. Многія з нас упершыню наведалі такі гандлёвы цэнтр, які нагадваў вялізны рынак, размешчаны на плошчы ў некалькі гектараў і пакрыты агульным дахам. У супермаркеце можна набыць і прамысловыя, і харчовыя тавары. Мы з Ліляй пайшлі туды з адзінай мэтай: каб пазнаёміцца з супермаркетам і заадно набыць ёй туфлі. Шмат страцілі часу, перш чым знайшлі аддзел, дзе гандлююць жаночым абуткам. Купілі ёй туфлі. Дома аказалася, што яны ёй не годны — цеснаватыя. Яна іх не насіла. Пасля вядуць нас у магазін для бедных, балазе ён быў недалёка ад супермаркета. Магазін прадае тавары, якія былі ва

ўжытку. Там за невялікія грошы можна было набыць тое, што падабалася. Я купіў тэрмас, а Ліля яшчэ адну пару туфель. Аляксандр Гашко купіў малагабарытны тэлевізар. Увогуле, гэта было гандлёвае прадпрыемства, дзе харысты, па нашых фінансавых магчымасцях, маглі штосьці набыць. Нам стала вядома, што гэтую краму часта наведваюць турысты з былога Савецкага Саюза.

## Ад'езд дадому

Збіраліся хутка. Кожны займаў сваё месца ў аўтобусе. Настаў момант развітвацца з паважанымі спн. Інгай Лізай і сп. Эрыкам. Усе па чарзе падыходзілі да іх, дзякавалі за ўдала арганізаваныя канцэрты, выдатна наладжаны побыт, матэрыяльную дапамогу і адпачынак у гэтым казачным каралеўстве. Урэшце сп. Эрык прачытаў падарожную малітву, пажадаў усім шчасліва даехаць да дому.

Роўна ў 11 гадзін мы пакідаем гасцінны Колдзінг. У адваротны шлях ехаць было прасцей — дарога пану Янушу была ўжо знаёмая, і мы хуценька дабраліся да першага парома. Загружаемся на паром і плывем да вострава Х'юн. Выгружаемся і едзем на ўсходні бераг выспы, дзе сядаем на другі паром, які вязе нас на выспу Зеландыя.

Цікава. Мы пераадольвалі гэты цяжкі шлях, каб даехаць да Капенгагена, і назіралі, як будуецца велічны мост цераз праліў. Гэта бадай што самы працяглы мост не толькі ў Даніі, але і ў Еўропе. Ягоная даўжыня каля 30 кіламетраў. Па ім без праблем можна будзе на аўтамабілі за гадзіну пераадолець той шлях, на які мы зараз трацім больш за шэсць.

Надвор'е ў першай палове дня было пахмурным, а калі мы а 18-й гадзіне прыехалі ў Капенгаген, праяснілася. Неба паспела ачысціцца ад хмар. Перад паромам у дацкай сталіцы ў нас было трохі вольнага часу.

Маем дзве гадзіны ў запасе. Мы з Юрыем Сіткевічам і Алегам Альфяровічам пайшлі знаёміцца з Капенгагенам, а Ліля вырашыла застацца на месцы. Ішлі па адной з цэнтральных вуліц, знаёміліся з дамамі незвычайнай архітэктуры. Юрый Сіткевіч рабіў фотаздымкі. Перш за ўсё мы ўбачылі незвычайна прыгожы фантан, лютэранскую кірху са спічастымі, у гатычным стылі вежамі шэрага колеру і апынуліся ля музея апошняй вайны з фашызмам 1941–1944 гадоў. На жаль, ён быў зачынены. Прайшлі далей, заўважылі прыгожы велічны будынак праваслаўнага сабора і ўрэшце затрымаліся на дварцовым пляцы замка каралевы Маргарэт. Сфатаграфаваліся з каралеўскімі гвардзейцамі, зразумела, з іх дазволу. Каб бліжэй падысці да месца стаянкі парома, выйшлі на ўзбярэжжа Капенгагена і ўбачылі трансатлантычны карабель, які возіць турыстаў у кругасветнае падарожжа. Тут жа мы выпадкова сустрэлі армянскіх студэнтаў, якія жывуць і вучацца ва

ўніверсітэце Капенгагена. Дацкі ўрад выплачвае ім стыпендыю ў адным з універсітэтаў горада. Яны часцяком прыходзяць сюды з надзеяй выпадкова сустрэцца з землякамі ці з кімсьці з турыстаў з былога Саюза, каб пагутарыць і не забываць сваю родную мову і ўвогуле атрымаць звесткі з першых вуснаў аб падзеях у былых савецкіх рэспубліках. Яны на рускай мове расказалі нам аб умовах жыцця і вучобы ў гэтай краіне.

Няўмольна набліжалася 20-я гадзіна. Мы вымушаны ісці да месца стаянкі нашага аўто. Урэшце ідзём да парома і праходзім пашпартны кантроль.

Праз нейкі час падымаемся і заходзім у агульную залу парома, знаходзім вольныя месцы і адразу ж турбуемся аб тым, каб купіць білет на права адпачыць у каюце: усю ноч будзем ехаць да Свінауйсьця. Набыў білет. За двухмесцавую каюту давялося заплаціць 42 долары. Кошт каюты аказаўся прыкладна роўны дзвюм месячным пенсіям, якія мы атрымлівалі на сваёй радзіме ў тыя часы. Спім па чарзе. Спачатку Ліля з Галінай, а праз нейкі час адпачываем мы з Аляксандрам.

З Свінауйсьця мы праселі ў аўтобус пана Януша, каб ехаць у Беласток.

Калі мы ехалі па польскіх дарогах, то ў кожнага з нас узнікалі свае думкі, звязаныя з тым, што мы ўбачылі на свае вочы, што пачулі ад тых людзей, якія жывуць у Даніі. Калі мы аналізавалі ўсё набытае за дзесяць дзён — невялікі адрэзак часу, дык кожны рабіў выснову: ніхто з нас не быў чымсьці пакрыўджаны. І нават тыя, хто ехаў з намі як турыст — ніякай карыснай нагрузкі не нёс. Усім нам датчанамі, і гэта варта падкрэсліць, былі створаны аднолькавыя ўмовы. Тыя, хто спяваў і хто адпачываў, атрымлівалі ўсё пароўну. Заплаціць аднолькава ўсім мог чалавек, які выдатна валодае псіхалогіяй натоўпу. Таму ўсе засталіся бясконца ўдзячныя пастару Эрыку, які ахвяраваў сваім асабістым часам і матэрыяльнымі сродкамі, усім, дзеля таго, каб мы прынеслі максімум карысці сваімі спевамі. І мы, са свайго боку, зрабілі ўсё, на што мы здатныя. Таму, з майго пункту гледжання, мы засталіся не проста задаволены. За 10 дзён атрымалі столькі інфармацыі аб гэтай цудоўнай краіне, што нам хопіць на многія гады, а магчыма, на ўсё жыццё, каб успамінаць убачанае і пачутае намі ў жніўні 1996 года. У дадатак да ўсяго нашымі фатографамі-аматарамі зроблена шмат фотаздымкаў, якія зафіксавалі нейкія імгненні нашага жыцця ў многіх месцах.

## *Хор вярнуўся ў Гародню*

У канцы жніўня сабраліся на агульны сход хору «Бацькаўшчына». Спадарыня Вера выступіла з крытыкай паводзін некаторых харыстаў, якія, нягледзячы на ўсё добрае, што ім было зроблена, стваралі, як яна

сказала, праблемы ёй як арганізатару паездкі. На гэтым сход быў скончаны. Вярнулі касцюмы і дамовіліся аб сустрэчы 16 верасня. Фактычна сустрэліся на рэпетыцыі толькі 7 кастрычніка. Склад хору рэзка скараціўся. У кастрычніку на рэпетыцыі хадзілі больш-менш рэгулярна ўсяго 22 харысты. А ў Даніі было 39 чалавек. Па-першае, адышлі тыя, хто быў спецыяльна запрошаны дзеля паездкі: перакладчыкі, юрысты. А далей колькасць удзельнікаў рэпетыцый заставалася каля 20 чалавек.

Першы канцэрт-вечарына пасля дацкай паездкі адбыўся толькі 21 лістапада з нагоды 90-годдзя газет «Наша доля» і «Наша ніва» ў чытальнай залі беларускай філалогіі. Значэнне гэтых газет, якія вышлі пасля больш як стогадовай забароны царскімі ўладамі беларускай мовы, было неацэнным.

12 снежня ў Гародню прыехаў амерыканскі спявак-беларус Данчык з канцэртам, які адбыўся ў вялікай залі Дома афіцэраў. Я да гэтага не раз слухаў яго спевы ў запісе. На канцэрт мы пайшлі ўсім хорам. Пачуўшы яго ў жывым выкананні пад уласную гітару, мы былі зачараваны падборам народных і сучасных беларускіх песень, яго глыбока насычаным тэнаровым тэмбрам. Пасля канцэрта на сцэне адбылася сустрэча хору «Бацькаўшчына» з Данчыкам. Зроблены на памяць фотаздымкі. Спн. Вера паднесла кветкі і павіншавала яго з цудоўным выкананнем. Наш харыст паэт Юрый Сіткевіч павіншаваў яго і прачытаў верш:

Ад хору «Бацькаўшчына» нізкі
Складаем Данчыку паклон.
Ад нараджэння, ад калыскі
Рос беларусам шчырым ён.

Не разарваўшы пупавіну,
Што родніць з матчынай зямлёй,
Хоць на дзянёк, хоць на хвіліну
Імкнецца зноў сустрэцца з ёй.

Бо дзе так хораша пяецца?
Дзе адчуваеш сіл прыліў?
Дзе так дзяўчына усміхнецца?
Вось тут, на роднай нам зямлі.

Хай злыя сілы водзяць танцы,
Хай пагражае землятрус,
Заўсёды з намі будзе Данчык —
Амерыканскі беларус.

Аднойчы мая жонка Ліля пачула, як адна жанчына спытала вядучага праграмы па заяўках на радыё, як завуць спевака, які так цудоўна выконваў беларускія народныя песні. На жаль, яна не пачула ягонага прозвішча. Гэ-

тым спеваком менавіта быў Данчык (Багдан Андрусішын). Была сярэдзіна снежня. Снег пакрыў зямлю белай коўдрай, і ў гэты час нас запрасілі ў тэлестудыю для запісу Калядак, каб яны загучалі пад час вялікага свята — Нараджэння Хрыста. Сабраліся мы ў студыі радыёвяшчання, дзе было шмат мікрафонаў; яны віселі амаль што над кожным харыстам. Пачаўся запіс. Некалькі разоў мы спявалі адну і тую ж песню. Нас спн. Вера спыняла, прымушала зноў і зноў рабіць новы дубль. Дабівалася дасканалага гучання. Мы працавалі не менш як дзве гадзіны, імкнуліся выправіць хібы. Закончылі. Удалося паспяхова запісаць калядкі «Добры вечар, людзі», «Неба і зямля», «Ой, на моры, моры», «Рэзонэт», «Нова радасць стала» (мінор і мажор), «Учора звячора», «Паказалась з неба», «Батлеемска зорка», «Скінія», «Ціхая ноч», «А ў свеце нам…», «Нараджэнне Тваё», «Дар ныне пребогатый», якія пазней, на Калядныя святы, прагучалі ў эфіры. Кожная з гэтых калядак усхваляе Нараджэнне Хрыста і падзеі, што адбываліся ў сувязі з Ягоным Нараджэннем. Запісана так званая застаўка да каляднай перадачы.

Імкліва набліжалася свята Нараджэння Хрыста. 24 снежня нас запрасілі ў Брыгіцкі касцёл на імшу. Разам з законніцамі мы выконвалі кананічныя песні-малітвы пад акампанемент аргана, перадача трансліравалася на рэспубліку.

Пачаўся 1997 год. Набліжаліся праваслаўныя Каляды. Перад гэтым 3 студзеня арганізавалі вечарыну з нагоды пяцігоддзя хору «Бацькаўшчына». Хор выступіў з канцэртам калядных песень спачатку ў чытальнай зале філалагічнага факультэта, а пасля выйшаў на вуліцу і некалькі песень праспявалі ў двары беларускай філалогіі паміж дрэваў, пакрытых снегам. Канцэрт запісаны на відэастужку спадаром Кітам — амерыканскім грамадзянінам.

16 студзеня разам з літоўскай суполкай «Тэвінэ» ўдзельнічалі ў канцэрце лялечнага тэатра з нагоды Дня незалежнасці Літоўскай Рэспублікі. Свята адкрылася выступленнем літоўскага хору суполкі «Тэвінэ». Ён праспяваў некалькі патрыятычных песень на літоўскай мове. Мы ж выступілі з канцэртам духоўнай музыкі і патрыятычных песень.

22 сакавіка сабралася дэмакратычная грамадскасць горада з нагоды Дня Волі і пяцігоддзя хора. Прышлі ў залу Каралеўскага замка свядомыя беларусы. Хор выступіў з канцэртам духоўных і патрыятычных песень. Прысутныя на пяцігадовым юбілеі выступалі з прывітаннямі, у якіх гучалі цёплыя словы ў адрас юбіляра, падносілі падарункі.

У красавіку выступаем з велікодным канцэртам у Брыгіцкім касцёле. У спадарыні Веры склаліся цёплыя сяброўскія адносіны з законніцамі гэтага касцёла. Спн. Вера як музыказнаўца дапамагала ім, па іх просьбе, у наладжванні кананічных спеваў пад час імшы. І таму гэты касцёл

у сяброўстве з намі займае важнае месца. Мы заўсёды адгукаліся на іх просьбы — удзельнічалі, па іх жаданні, у імшы касцёла. Звычайна на вялікія святы раніцай удзельнічаем у імшы Брыгіцкага касцёла, а ў другой палове дня ідзем у Фарны. Так адбылося і ў гэты дзень Уваскрашэння Хрыстова.

У канцы таго ж дня да нас з грузам гуманітарнай дапамогі прыехаў сп. Эрык Ланк’ер. Была наладжана сустрэча з ім на нашым рэпетыцыйным месцы. Жанчынамі быў арганізаваны «шведскі» стол. З прамовай і падзякай за цёплую сустрэчу яго і ягонай жонкі выступіў сп. Эрык. Пажадаў нам поспехаў у нашай працы, падзякаваў за падарункі, у тым ліку і за дыяфільм з калядным песнямі, які ён нядаўна атрымаў ад нас па пошце. Яму разам з сям’ёй, па яго словах, было вельмі прыемна паслухаць калядныя беларускія песні, пачутыя імі ўпершыню ў выкананні хора «Бацькаўшчына».

## Па запрашэнні беларусаў Літвы едзем з канцэртам у Вільню

13 красавіка 1997 года беларусы Літвы нас запрасілі наведаць Вільню. На аўтобусе разам з кіраўніком гарадзенскай літоўскай суполкі «Тэвінэ» едзем з канцэртам у нашу былую сталіцу. Адлегласць паміж нашымі гарадамі не такая вялікая — усяго 150 кіламетраў. Дарога пралягала ўсё больш па лясістай мясцовасці. Лес уздоўж дарогі выдатна дагледжаны. Праехалі дзве мытні — беларускую, а праз сто метраў — літоўскую. Адна з нашых харыстак, А. І. Траццяк, была затрымана беларускімі памежнікамі з-за таго, што ў яе яны знайшлі недакладнасць у афармленні дакументаў. Ёй давялося вяртацца ў Гародню на спадарожнай машыне, а астатнія харысты ўдала прайшлі мытны дагляд на літоўскім баку і паехалі без усялякіх затрымак. Літва, як і ўсе рэспублікі былога Саюза, шэсць гадоў таму атрымала сваю незалежнасць і пачала наладжваць сваё жыццё. Сп. Дзергінчус, наш суправаджаючы выконваў ролю гіда. Расказваў нам аб той барацьбе, якую літоўцы вялі супраць войскаў НКУС. Паказваў нам мясціны, звязаныя з гэтымі падзеямі. А цяпер літоўцы атрымалі незалежнасць і будуюць сваю ўласную дзяржаву. Спачатку ім было цяжка, таму што яны разбурылі ўсю інфраструктуру СССР — разагналі калгасы, вярнулі зямлю ўласнікам, маёмасць фабрыкантам і пачалі ўводзіць асновы рынкавай эканомікі. Была ў іх халоднай першая зіма незалежнасці, калі цяпла не было, людзі мерзлі, таму што краіна пайшла па шляху шокавай тэрапіі. Зямля апрацоўвалася не ўся, а толькі ў тых гаспадарках, якія мелі сваю цяглавую сілу: коней, трактары. Аднак прайшло не так шмат часу, і мы бачым, як незалежная Літва пачынае адраджацца. Уведзена даволі стабільная валюта — літ, якая

амаль што не змяняецца ў адносінах да долара. І голад ім не пагражае, нягледзячы на скарачэнне пасяўных плошчаў.

Першым крокам літоўцы змянілі назвы вуліц і некаторых гарадоў, мястэчак. Надалі ім назвы сваіх нацыянальных герояў — адбылося тое, што павінна адбыцца пасля распаду «імперыі зла». Пакуль што цяжкавата людзям жывецца, шмат беспрацоўных. Аднак свой выбар — незалежнасць і карыстанне між сабою выключна жмудскай (літоўскай) мовай — Літва зрабіла. Літоўскія дэмакраты, узяўшы ўладу ў свае рукі, не дапусцілі буйных міжнацыянальных канфліктаў — парушэння правоў грамадзян іншых нацыянальнасцяў…

Аўтобус рухаўся, а мы ўсе слухалі сп. Дзергінчуса. На дарозе мала сустрэчных машын. Я падумаў: сёння ж нядзеля, а значыць, непрацоўны дзень, аднак сп. Дзергінчус разважаў інакш. У маладой дзяржавы пакуль што мала сродкаў, каб мець сучасную транспартную аснашчанасць.

У сярэдзіне дня мы ўбачылі, што набліжаемся да вялікага горада. Ім аказаўся спачатку прыгарад Вільні. Прыехалі ва ўмоўленае месца ў цэнтр горада і затрымаліся ля вежы Гедыміна. Чакалі, што нас сустрэнуць нашы сябры, але штосьці, на жаль, здарылася, нас ніхто не сустрэў. Спн. Вера не разгубілася і знайшла выйсце. Мы зайшлі ў бліжэйшы касцёл Святога Духа і там пагаварылі з законніцамі. Яны нам дазволілі ў канцы імшы выступіць з канцэртам духоўнай музыкі.

Пасля канцэрта нас запрасілі літоўцы, з якімі пазнаёміў нас сп. Дзергінчус, і мы пайшлі ў памяшканне, якое нам прапанавалі. Падрыхтавалі каву і гарбату, а перакус мы мелі свой. Так нам няблага ўдалося падсілкавацца, і тут жа гасцінным гаспадарам мы праспявалі ўпадабаныя ім песні. Сярод літоўскіх сяброў быў першы амбасадар у незалежнай Беларусі. Расказаў нам на беларускай мове аб сваёй рабоце там. Галоўнае, мы знайшлі з ім аб чым пагутарыць. Дзень заканчваўся. Нам належала збірацца і ехаць дахаты. Нас чакаў аўтобус. Развітаўшыся з гасціннымі новымі знаёмымі, падзякаваўшы за ўсё, што яны нам арганізавалі, вырашылі прайсціся па крамах Вільні. Пасля гэтага ўрэшце сядаем і едзем. Наш шафёр добра ведаў дарогу, сам ён па нацыянальнасці літовец, але стала жыве ў Гародні; мы без затрымак прайшлі праверкі на памежным пераходзе і а першай гадзіне ночы былі дома.

На адной рэпетыцыі ў канцы мая харыст Антон Амяльянчык паведаміў аб тым, што яго дачка жыве з сям'ёй у Ізраілі і ён гэтым летам збіраецца паехаць да яе ў госці, пазнаёміцца з гэтай краінай. Між іншым, ён лічыць, што было б добра, каб хтосьці з нас напісаў верш — пасланне да Хрыста, і гэты твор ён пакіне ў Сцяне Плачу. І хор папрасіў Юрыя Сіткевіча выканаць такі ганаровы заказ. Пасланне ў вершаванай форме атрымала назву «Пасланне ў Іерусалім»:

Хор «Бацькаўшчына» прыслаў з Гародні
Паклон свой нізкі труне Гасподняй.
Табе хвалу мы спевам прыносім,
Пачуй нас, Божа, Цябе мы просім.

Дай нам здабыткаў у справе гэтай
І моцы сэрцам, Табой сагрэтым.
Падоўж вясну нам, аддалі восень,
Дай нам здароўя, Цябе мы просім.

Хай кожны ласку Тваю адчуе,
У сем'ях нашых спакой пануе.
Імя Тваё мы у сэрцах носім,
Благаславі нас, Цябе мы просім.

А з Беларусі, такой пакутнай,
Здымі навалу хмары атрутнай.
І болей сонца, і неба просінь
Дай, добры Божа, Цябе мы просім.

І гэтае пасланне Антон Амяльянчык зачытаў харыстам перад тым, як адправіцца ў падарожжа. Пасля вяртання ён расказаў хору, што пасланне было змешчана ў шчыліне Сцяны Плачу ў Іерусаліме.

Пачалося лета 1997 года. Хор рыхтаваўся на сваіх рэпетыцыях да ўдзелу ў Купальскім свяце, якое ў гэтым годзе планавалася правесці ў ноч з 27 на 28 чэрвеня. Гэтае, па сутнасці, паганскае свята адбывалася гэтак жа, як і ў папярэднія гады, пачынаючы з 1993-га. Розніца была ў тым, што на гэты раз ініцыятыва арганізацыі Купалля належала моладзі Гародні. Хлопцы прывезлі сучасныя гукаўзмацняльнікі, і нашы песні чаргаваліся з сучаснай музыкай, якая аглушала наваколле, ды так, што не ўсім падабалася, асабліва старэйшаму пакаленню. Працаваў выязны гандаль, можна было купіць напоі, у тым ліку і моцныя, і закуску. Было весела ўсім, хто ўмее весяліцца і хто меў за што. Былі і такія, хто, падвыпіўшы, спрабаваў распачаць бойку, аднак дружына на такіх хутка знаходзіла ўправу. Купалле скончылася на досвітку. Прыехаў заказаны мікрааўтобус, ачысцілі пляцоўку, сабралі бутэлькі і паехалі. Так скончылася свята. Ад вогнішча нічога не засталося. Мясцовыя жыхары разабралі ўвесь попел на ўгнаенне сваіх агародаў. І так — да новага Купалля ў будучым годзе.

15 ліпеня БНФ ладзіў масоўку з нагоды гадавіны Грунвальдскай бітвы. Нас запрасілі паўдзельнічаць у ёй ля знака «Пагоні на Грунвальд», побач з Каложскай царквой. На гэты раз з кароткай прамовай выступіў старшыня БНФ. Распавёў аб гістарычных падзеях у Грунвальдзе. Выступілі барды са сваімі патрыятычнымі спевамі. Самым цікавым быў выступ Віктара Шалкевіча. Хор «Бацькаўшчына» ў перапынках між бардаўскімі спевамі

выканаў некалькі патрыятычных песняў. І як пачало цямнець, дэмакраты разышліся па хатах. У гэтым годзе святкаванне было дазволена ўладамі.

## *Лета 1997. Моладзевы склад хору «Бацькаўшчына» едзе ў Францыю і Нямеччыну*

Пра паездку моладзевага складу хора я папрасіў расказаць спадарыню Веру, нашу кіраўніцу:

— Мы атрымалі афіцыйнае запрашэнне ад арганізатараў фестывалю міжнароднай аркестрады, і мэтай нашай паездкі было паказаць беларускую культуру. Нас запрасілі паўдзельнічаць у малым жанры харавой аркестрады і выдзелілі спецыяльныя нумары ў агульнай праграме. Месца было вельмі прыгожае і добра абсталяванае — вялікая пляцоўка галоўнага храма мястэчка Брыф Лягальярда, якое знаходзіцца ў гарах на адлегласці ста кіламетраў ад горада Ліможа. Спявалі «Багатырскія вароты» М. Рымскага-Корсакава, фінальную песню — гімн аркестрады, а таксама фрагментарна ўдзельнічалі ў некаторых аркестравых нумарах, мелі сольныя выступленні. Удзельнічалі ў вялікім гала-канцэрце, дзе прысутнічала некалькі тысяч слухачоў, а музыкантаў адначасова было больш за восем соцень. Можаце сабе ўявіць, якая гэта была вялізная пляцоўка. Якое гэта было гучанне. Усяго сабралася каля 12 тысяч чалавек пад адкрытым небам. Было вельмі прыгожа, шырока агучана ў прэсе, радыё і тэлебачанні. Гэта была вельмі вялікая падзея. І вось наш хор гучаў на такім прадстаўнічым мерапрыемстве.

А сам фестываль праводзіцца ўжо больш за дзесяць гадоў запар, куды традыцыйна з’язджаюцца музыканты ўсяго свету, каб прадэманстраваць сваё выканаўчае майстэрства.

Было вельмі складана ехаць. На той час у Еўропе былі страшныя прыродныя бедствы. У Польшчы ішлі безупынныя дажджы. Дарогі былі размыты. Паездка падавалася зусім пад пагрозай. Мы дабіраліся на трох легкавых машынах. Уявіце, якая гэта была авантура! У нас двойчы былі аварыі. Мы планавалі заехаць у Парыж і не даехалі туды ўсяго каля ста кіламетраў, бо мелі сур’ёзныя аварыі ў Польшчы і ў самой Францыі. Ехалі па складаных горных дарогах і мелі многа праблем. Прыехалі глыбокай ноччу. Мы ўжо спазняліся на фестываль на зададзены час, на адкрыццё. Але ўсё ж паспелі. Змораныя, стомленыя, але шчаслівыя. Нас прынялі, уладкавалі. Мы мелі галоўнае выступленне ў храме мястэчка. Наша праграма складалася з двух частак: духоўнай і народнай. Выступалі кожны дзень на дзвюх і нават трох пляцоўках. Працавалі звыш плана. Нас прасілі па-за планам выступіць на некалькіх дадатковых пляцоўках. Таму што ўсе прысутныя чулі аркестравае гучанне, а харавое гучанне нашай групы

было рэдкасцю. Дарэчы, і выкананне нашых нумароў было даволі высокага ўзроўню. Нас хвалілі як на канцэртах, так і ў прэсе. За намі хадзілі натоўпы народу. Нас была жменька, а хадзілі натоўпы. У нас была свая шыльда «Беларусь». Людзі чыталі яе зранку ў кавярнях, на пляцоўках і чакалі, пакуль мы выйдзем адтуль да пляцоўкі.

Людзі былі вельмі здзіўлены прыгажосцю нашых саламяных вырабаў. Гэта былі жаночыя ўборы, саламяныя кветкі, розныя саламяныя вырабы. Усё гэта хацелі патрымаць у руках і пыталіся, з чаго гэта робіцца. Прысутныя ўпершыню бачылі вырабы нашых майстроў.

Мелі некалькі цікавых творчых размоў, некалькі запрашэнняў ад музыкантаў з Анкары. На жаль, не можам туды паехаць, бо фінансуемся за свой кошт.

А яшчэ нас запрасілі выступаць у Югаславію і Нямеччыну. Калі ехалі на радзіму праз Нямеччыну, то за намі ўвязалася адна жанчына. Яна суправаджала нас некалькі гадзін і вельмі хацела арганізаваць нашы выступленні ў Нямеччыне.

Туды мы ехалі праз Польшчу і Нямеччыну, назад — праз Нямеччыну і Чэхію. У паездцы туды і назад мы працавалі, таму што самафінансаваліся. Зараблялі сабе на дарогу. А ўтрыманне ў Францыі цалкам было дармовым.

У Нямеччыне таксама выступалі на пляцоўках храмаў. Самае цікавае для нас было тое, што калі вярталіся назад з Францыі, трапілі ў г. Бадэн-Бадэн. Гэта знакаміты горад, які лічыцца месцам згуртавання еўрапейскіх мільянераў. Нам пашчасціла ў тым, што якраз у гэты час там праходзіў трохдзённы парад старадаўніх аўто. Гэта было вельмі прыгожа і цікава, таму што кожны ўладальнік дэманстраваў не толькі сваю машыну, але яшчэ і стыль, адзенне, манеры, размову ў такім стылі, нават гаворку. Вельмі цікава. Мы звярнуліся да арганізатараў аўтафэсту з просьбай пабываць на гэтым відовішчы. Пачуўшы, што мы размаўляем на нейкай цікавай мове, яны зацікавіліся намі. Калі я сказала, што мы артысты і едзем са знакамітага ў Францыі фестывалю, мне адразу паступіла запрашэнне, і мы выступілі некалькі разоў на гэтай пляцоўцы. Атрымалі магчымасць дармова пабываць на экскурсіях па гэтым горадзе, на пляцоўках аўтафэсту і нават харчавацца за іх кошт. Нас прывезлі туды на незвычайна вялікім, высокім адкрытым лімузіне. Расказалі нам пра гэты горад, пра аўтафестываль, пра традыцыі і г. д.

Акрамя таго, мы выступалі на пляцоўках паўднёвай Нямеччыны, бліжэй да Чэхіі. Запомніўся невялікі, вельмі ўтульны горад Уль. Там прыгожы касцёл. Мы былі прыняты духавенствам гэтага касцёла і нам было дазволена праспяваць у касцёле. Людзі з задавальненнем слухалі і тады, калі мы яшчэ двойчы выступалі на пляцоўцы супраць храма.

Частка нашых удзельнікаў паехала ў Чэхію, таму што яны запланавалі там рашаць свае пытанні. Я, на жаль, там не была.

Паездка ў цэлым была плённай, вельмі важнай для нас. Мы ўзважылі свае магчымасці, акрыялі. Адчулі, што мы можам выступаць на такіх буйных еўрапейскіх пляцоўках. Карацей кажучы, годна паказалі сваю культуру, сваё выканаўчае майстэрства. Ганарымся тым, што яшчэ два гады пасля атрымлівалі афіцыйныя запрашэнні быць у якасці гасцей і ўдзельнікаў фестывалю. На жаль, больш мы ўжо не паехалі. Не маглі паехаць з-за нашых фінансавых магчымасцяў.

Хор «Бацькаўшчына» годна ўзнагародзілі. Кожны ўдзельнік фестывалю атрымаў даволі ёмкі падарунак: па дзесяць касет з запісам класічнай музыкі. Была магчымасць здабыць відэаматэрыял, і таму харысты ўсе засталіся задаволеныя; а тое, што адбывалася далей — падарожныя непрыемнасці — з цягам часу забылася. Засталося прыемнае ўражанне ад годна паказаных слухачам нашых канцэртаў. Мы засталіся задаволены сваёй працай. Хачу яшчэ зазначыць, што нам было прыемна бачыць, як жывуць французы, як яны адпачываюць, як яны жывуць паўсядзённа. Мы мелі магчымасць пабачыць культуру гэтага народа, выставы, пахадзіць па гэтым старажытным горадзе, паслухаць іншыя калектывы. Вельмі важна пад час рэпетыцый мець зносіны з музыкантамі розных народаў. Цікава і прыемна было, што ў гэтым фестывалі ўдзельнічала шмат дзяцей. Гэтая публіка, якая ўсё ажыўляе, робіць нас адказнымі, з аднаго боку, а з другога боку, больш разняволенымі. Калі бачыш, як растуць дзеці, як яны высока нясуць сваё мастацтва і як яны яго ўдала выконваюць, то гэта прыемна. Прыехалі дахаты і расказвалі пра гэта сваім дзецям, нашым юнакам, каб і яны верылі ў свае магчымасці, у свае сілы. Вось якая каштоўнасць гэтай паездкі.

## *Выступленні на радзіме Каліноўскіх*

У Гародню 13 кастрычніка прыбывае цэлы караван грузавых машын з гуманітарнай дапамогай датчан. Прыехаў сп. Эрык Ланк’ер з жонкай Лізай і сябрамі. Сябрам хору давялося сустракаць гасцей. Сабраліся мы ў чытальнай зале беларускай філалогіі ўніверсітэта. Арганізавалі «шведскі стол», віталі нашых гасцей, абменьваліся прывітальнымі прамовамі. Былі спевы хору ў якасці падарунка гасцям.

Госці праз пару дзён пакінулі Гародню, а А. Гашко трэба было падумаць, як раздаць гуманітарную дапамогу людзям. У сувязі з цяжкасцю рэалізацыі гуманітарнай дапамогі яму давялося пакінуць хор, каб заняцца гэтай справай. А хор працягваў развучваць новыя творы і ладзіць свае канцэртныя выступленні.

25 кастрычніка 1997 года хор разам з дэмакратычнай грамадскасцю едзе ў мястэчка Свіслач, каб засведчыць, што ля Свіслацкай царквы кавалём з Гародні Юрам Мацко пастаўлены прыгожы металічны крыж на магіле Віктара Каліноўскага, ідэолага паўстання К. Каліноўскага.

Гуртам, з бел-чырвона-белымі сцягамі ідзём на могілкі, Знаёмімся з крыжам. Хор «Бацькаўшчына» выканаў некалькі песень-малітваў. Закончыў гімнам «Магутны Божа». Пасля са сцягамі ідзём у цэнтр мястэчка. Затрымліваемся ля помніка герою паўстання 1863 года Рамуальду Траўгуту, а затым ля помніка Кастусю Каліноўскаму насупраць Свіслацкай школы. Фатаграфуемся.

Сядаем у аўтобусы і едзем у тое месца, дзе бацькі, а значыць, і дзеці Каліноўскіх жылі і працавалі. Узнік цэлы картэж машын. Там на месцы былой хаты Каліноўскіх нічога не засталося, акрамя фундамента дома. Тут у канцы 80-х гадоў XX стагоддзя студэнтамі Гарадзенскага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам прафесара Міхася Ткачова былі праведзены раскопкі, знойдзены каштоўныя знаходкі. Хор «Бацькаўшчына» пад кіраўніцтвам Веры Кунцэвіч выканаў некалькі патрыятычных песняў.

18 снежня нас запрасілі ў канцэртную залу кінатэатра Гродна на вечарыну, прысвечаную паэтцы Дануце Бічэль. З аналізам творчасці паэткі выступілі выкладчыкі Гарадзенскага універсітэта імя Янкі Купалы. Яны гаварылі аб незвычайнай паэтычнасці яе твораў. Пасля выступіла сама спн. Данута, прачытала некалькі сваіх вершаў, з якіх можна было зрабіць выснову, што яна апошнім часам перайшла ад тэмы кахання да вершаў, у якіх услаўляе Бога і тыя цуды, якія Ён здзейсніў на нашай зямлі ў імя нас, людзей. Акрамя прамоўцаў, якія высока ацанілі талент паэткі, у гонар яе выступіў наш хор і праспяваў некалькі духоўных і патрыятычных песень. Танцавальныя нумары выканаў калектыў вучылішча мастацтваў Гародні.

28 снежня а 12 гадзіне ўдзельнічалі ў каляднай імшы Брыгіцкага касцёла па запрашэнні сясцёр назарытанак. А ў 15.00 — у літургіі Фарнага касцёла, пасля якой перад алтаром спявалі песні-калядкі. Затым нас запрасілі ў закрысце касцёла, дзе мы віншавалі святароў са святам Нараджэння Хрыста.

Пачаўся студзень 1998 года. На рэпетыцыю хор сабраўся толькі 5-га, а пачынаючы з 7 студзеня, падзяліўшыся на дзве групы, пайшлі калядаваць па хатах, да тых сем'яў, куды нас запрасілі.

## Канцэрт у гонар кампазітара Міколы Куліковіча-Шчаглова

Усю восень мінулага года і на апошніх рэпетыцыях 1998 года мы рыхтавалі канцэрт духоўных песень Міколы Куліковіча-Шчаглова, які пачаў сваю творчую дзейнасць у Беларусі, а пасля вымушаны быў паехаць у эміграцыю, дзе меў лепшыя ўмовы для складання духоўных твораў. Ён там, на Захадзе, і памёр, а яго спадчына засталася ў Скарынаўскай бібліятэцы Лондана. З гэтай бібліятэкі пры дапамозе беларусіста англічаніна Гая Пікарды гэтыя цудоўныя творы былі прысланы нам з тым, каб мы выкарысталі іх у сваёй канцэртнай дзейнасці. Настаў час, калі нам удалося падрыхтаваць такі цудоўны канцэрт у гонар выбітнага кампазітара выключна з яго твораў. Сабраліся ў былым Новым каралеўскім замку на беразе Нёмана 10 студзеня 1998 года, куды мы запрасілі грамадскасць горада, прыхільнікаў беларускай духоўнай музыкі, каб яны паслухалі боскія творы Міколы Куліковіча-Шчаглова.

Коратка з творчасцю кампазітара і яго біяграфіяй пазнаёміла прысутных спадарыня Вера. Хор «Бацькаўшчына» выступіў з канцэртам, больш як гадзіну выконваў песні кампазітара.

23 студзеня ў Гародню прыехалі пісьменнікі Р. Барадулін, У. Арлоў, Л. Баршчэўскі, іх суправаджаў сп. Шалкевіч. Гасцям і прысутным студэнты беларускай філалогіі паказалі пастаноўкі па матывах творчасці Якуба Коласа. У прамежках выступалі госці з цікавымі прамовамі. Паэт Барадулін чытаў свае вершы, з перакладамі паэм Адама Міцкевіча выступаў Лявон Баршчэўскі — дзеяч БНФ. Вёў імправізаваны канцэрт Віктар Шалкевіч. Ён спяваў свае бардаўскія песні. У канцы выступіў пісьменнік Арлоў, прачытаў урывак са сваёй апошняй кнігі. У той час адчувалася адмоўнае стаўленне ўладаў да такіх нацыянальных імпрэзаў.

## Хор пакідаюць лепшыя харысты

Звычайна пасля Каляд канцэртная дзейнасць хору заціхае. Так было і ў пачатку 1998 года. Здарылася так, што ў лютым моцна захварэў мой лепшы сябра Юрый Сіткевіч і трапіў у шпіталь. Мы, харысты, там яго наведвалі. Нягледзячы на сваё захворванне, Юрый і там працягваў пісаць вершы. І вось адзін з іх на тэму шпітальнага жыцця з назвай «Сабе» мне хочацца прывесці цалкам з дазволу аўтара.

Ляжыш у бальніцы,
Нібыта ў цямніцы,

І марыш аб тым, чалавек,
Каб выйсці на волю,
Надыхацца ўволю,
Дажыць у здароўі свой век.
Не трэба багацця,
Брыльянтаў і шмацця,
Адно толькі трэба яму:
Надзённага хлеба,
Празрыстага неба
І руку б пацiснуць каму.

Калі вы ў шпіталі
Дасюль не бывалі,
Дык цяжка вам тое ўявіць,
Як многа там хворых,
Калечаных, кволых
У розных палатах ляжыць.
З іх кожны надзею
Хавае надзейна
На тое, што будзе ён жыць.

А разам з тым штосьці
Паказвае косці
І ўсіх пагражае скасіць.

Дык прэч адганяйце
З касой! Не давайце
Над вамі ёй злосна кружыць.
Пакуль ты патрэбны
Камусьці і бедны,
Дагэтуль павінен ты жыць.

Вось такі верш адлюстроўвае пачуцці чалавека, які трапіў ў незвычайнае шпітальнае асяроддзе; верш заканчваецца аптымізмам: чалавек, нягледзячы ні на што, не страчвае надзею жыць! Хвароба Юрыя прымусіла яго пакінуць хор. Мы страцілі лепшага харыста басовай партыі. Юрый з хорам сувязяў не парывае, ён паміж прыёмамі пілюль піша свае вершы і большасць з іх прысвячае сябрам, з якімі ён спяваў сем гадоў. Адчуваючы, што яму давядзецца пакінуць хор, ён піша верш, які так і называецца «Развітанне з хорам».

Бывай, мой хор, табе я ўдзячны
За тыя некалькі гадоў,
Што для мяне перыяд значны —
Паразуменне тут знайшоў.

Мяне тут падвучылі нотам,
Дыханне правільна трымаць.
Я ж дылетант быў, але потым
Пачаў пакрыху патрапляць.

Няма цяпер таго дыхання,
Каб разам з вамі заспяваць.
Я буду цешыцца чаканнем,
За вамі з боку назіраць.

І буду спеў сугучны слухаць
(Ён без мяне не горшы стаў).
Жадаю хору моцы духу,
Каб Бацькаўшчыну праслаўляў.

Нот «Вечнай памяці» ніколі б
Вам не прыйшлося даставаць.
Мне ж па сканчэнні зямной долі
Не адкажыце праспяваць.

Наш хор з 1998 года пакінулі такія ўдзельнікі, якія ў свой час зрабілі значны ўнёсак у ягоную дзейнасць — гэта Юрый Сіткевіч, Аляксандр Гашко, Аляксандр Ігнаценка і іншыя. У гэтым годзе паехала ад нас на радзіму і Кацярына Адамчук. Яна была не толькі добрай харысткай, але і выдатнай салісткай. Пасля таго, як нас пакінула салістка Ірына Андронава, Каця яе замяніла. І спявала да сакавіка 1998 года.

У маі 1998 года на рэпетыцыю збіраліся ўсяго чатыры разы, віншавалі з днём нараджэння ўсіх гуртам у канцы месяца, сабраўшыся на маім летніку. Віншавалі мяне, Лілю, спн. Веру і Ніну Шаставіцкую.

Уручылі падарункі, арганізавалі адпачынак на прыродзе. Спявалі песні, тыя, якія нам больш за ўсё падабаюцца. А ўвечары сабраліся і пайшлі на аўтобус у паселішча Зарыца — едзем адпачываць.

24 чэрвеня сабраліся на рэпетыцыю, каб падрыхтавацца да Купалля. Праспявалі купальскія песні. Свята вырашылі праводзіць на традыцыйным месцы ў Кукалях.

27 чэрвеня раніцай з’явілася моладзь, якая падрыхтавала купальскую пляцоўку: выраўняла яе, пакасіла траву, усталявала слуп, назапасіла сухадрэвінаў для купальскага вогнішча. Падрыхтавалі сімвалічнае кола і замацавалі яго на цэнтральным слупе, а вакол аблажылі сушняком. Напракат узялі ў мясцовага жыхара лодку князю Купалішу і дружыне. Падрыхтавалі ўсё да купальскіх дзеяў, якія звычайна пачынаюцца тады, калі сонца хаваецца за небасхіл.

Спецыялістам па падрыхтоўцы купальскага вогнішча ў нас лічыцца харыст Ігар Лапеха. Ён улічвае, каб вогнішча знешне было прыгожым, каб

полымя не гасла, а гарэла прыгожа, вогненныя языкі падымаліся высока і радавалі тых, хто сочыць за імі. А дзеля гэтага трэба прадугледзець, каб цэнтральны слуп быў свайго роду комінам, у якім утвараецца полымя; каб яно выштурхоўвала іскрынкі, якія б маляўніча ляцелі ўвысь па розных траекторыях.

Купалле, як заўсёды, скончылася спяваннем на беразе Нёмана купальскіх песень у 4 гадзіны раніцы. Тыя, што засталіся і не паехалі на адпачынак, прыйшлі з вянкамі і свечкамі да ракі. Пад гукі песні «Ой, рана на Івана» апускаюць на ваду вянкі, якія адзін за адным плывуць у напрамку літоўскай мяжы. А песні змяняюцца адна другой, і іх гучанне разносіцца далёка ў ранішняй цішы. І тыя прысутныя, хто не спіць у гэты час, зачараваны гэтым цудам — гучаннем працяглых мілагучных песень. Абуджаецца прырода — гэта фінал свята.

## *1998–1999. Сезон рэпетыцый і канцэртаў*

З верасня 1998 года сабраліся на першую рэпетыцыю. Мы працавалі над вядомымі песнямі, рыхтавалі новыя, пачалі развучваць песню «О Беларусь, мая шыпшына». Музыку напісаў Мікола Куліковіч-Шчаглоў на верш паэта Уладзіміра Дубоўкі. У гэтай песні Дубоўка параўноўвае Беларусь з калючай шыпшынай, якая мае «чырвоны цвет, зялёны ліст». У вершы гаворыцца пра тое, што якая б ні была варожасць у адносінах да Беларусі, яна «шляху» да яе «не зачыне», таму што ў перашкодах ў людзей «дух расце». З гэтай песняй мы выступалі на канцэртах, і не толькі на патрыятычных святах, такіх, як гадавіна Слуцкага збройнага чыну, Дзень вайсковай славы, Дзень Волі, але і ўключалі яе ў касцельныя канцэрты — пашыраўся рэпертуар.

Заканчваўся 1998 год. У снежні былі звычайныя рэпетыцыі, падрыхтоўкі да калядных святаў. Пасля канцэрт у Тэатры лялек з нагоды Раства Хрыстова 25 снежня. У канцэрце ўдзельнічалі не толькі хор «Бацькаўшчына», але і другія калектывы горада. Мы пачалі выступленне, як звычайна, песняй «Нова радасць стала». Гэтая песня прыйшла да нас з Піншчыны, з вядомага мястэчка Моталя — беларускага Палесся. Мова палешукоў блізкая да ўкраінскай. А змест песні просты. Расказваецца аб цудзе нараджэння Хрыста, і кожны год гэтае паведамленне прыносіць радасць людзям менавіта ў гэтыя святочныя дні. У тых, хто слухае мелодыю, сапраўды ўзнікаюць светлыя пачуцці радасці ад нараджэння Збавіцеля.

Пачынаўся новы 1999 год. Нас запрасілі выступіць 5 студзеня з канцэртам у Таварыстве сляпых па вуліцы Дзяржынскага. Мы з Ліліяй удзельнічалі таксама і ў хоры сляпых «Ручаінка». І, відавочна, таму Таварыства сляпых прасіла мяне, каб я арганізаваў выступленне хору «Бацькаўшчына» з калядным канцэртам. Канцэрт быў пад час экзаменацыйнай сесіі студэнтаў, таму

харысты-студэнты не прыйшлі на яго. Давялося спяваць без іх, і гучанне хору было не з лепшых. Аднак і пры няпоўным складзе хору слухачам наш канцэрт спадабаўся.

7 студзеня Таварыствам вышэйшай школы быў арганізаваны канцэрт хора «Бацькаўшчына» ў Тэатры лялек. А пасля пачалося калядаванне па адмысловых запрашэннях. Выступалі ў розных раёнах горада.

У канцы студзеня і ў лютым працавалі на рэпетыцыях, а ў сакавіку выступілі з канцэртам у Брыгіцкім касцёле. Спявалі на хорах толькі што адрэстаўраванай святыні.

Увесь красавік 1999 года рыхтаваліся да вялікага свята — Уваскрашэння Хрыста. 25-га выступалі з канцэртамі ў Фарным касцёле, а пасля наведалі закрысце, дзе віншавалі святароў, спявалі ім песні.

14 мая быў адметным маім днём. Мне споўнілася 70 гадоў. На маім летніку ў Кукулях быў наладжаны канцэрт хору «Бацькаўшчына». Упершыню выконвался песня-малітва «Ойча наш» на мелодыю М. Куліковіча-Шчаглова. Яна гучала ў гонар аднаго з прысутных гасцей. Кожны з запрошаных на юбілеі атрымаў персанальны падарунак — сваю песню. Сам канцэрт і ўсе гэтыя падзеі адбываліся 15 мая. З віншаваннямі юбіляру звярнулася мая старэйшая дачка Галіна Гашко. Яна ад сваёй сям'і склала мне віншаванне, якое мяне ўсхвалявала.

Мой малодшы сын Андрэй зняў відэафільм, пасля чаго арганізавалі пачастунак. Пасля былі віншаванні юбіляру ад хору, родных і ўсіх прысутных. Адпачынак працягваўся да вечара. Вечарам адбываліся віншаванні з днём нараджэння і іншых харыстаў, што нарадзіліся ў гэтым месяцы. Віншавалі харыстку сапранавай партыі Ніну Шаставіцкую падарункам і песняй «Многае лета».

У маі мы ад спадарыні Веры атрымалі падарунак — пайшлі ў адпачынак з умовай, што ў канцы чэрвеня хор збярэцца на Купалле.

У 1999 годзе ўсю арганізацыю па падрыхтоўцы Купалля ўзялі на сябе маладзёжныя суполкі Гародні. Харысты «Бацькаўшчыны» былі запрошаны як госці. Выступілі з канцэртам.

Скончыліся летнія канікулы. Рэпетыцыі пачаліся з 4 кастрычніка.

## *На святкаванне Дзядоў едзем у Гудзевічы*

Нас запрасілі паўдзельнічаць 2 лістапада ў святкаванні Дзядоў у вёсцы Гудзевічы. Перш чым выступіць з канцэртам, мы дэталёва азнаёміліся з экспанатамі музею. Канцэрт мы спалучылі з аповедам сп. Белакоза. Нас слухалі наведвальнікі музея з розных месцаў Беларусі. Спявалі ў залах. Так мы ў перапынках паміж апавяданнямі, пры пераходзе з адной залы ў другую, дапамагалі супрацоўнікам музея, надавалі аповеду сп. Алеся Бела-

коза музычнае афармленне гучаннем духоўных песень. Пасля сп. Белакоз прапанаваў нам пайсці на Гудзевіцкія могілкі, дзе мы праспявалі «Вечную памяць» ля помніка ваярам, якія загінулі ў Другую сусветную вайну (музыка гэтага твора напісана кампазітарам Міколам Равенскім). Наведалі магілы бацькоў Алеся Белакоза, магілу паэткі Тарасевіч, якая складала вершы, калі прала кудзелю ці выконвала іншую работу, і іншых мясцовых людзей, якія пахаваны там. Ім усім мы праспявалі «Вечную памяць».

4 лістапада нас запрасілі інваліды па зроку, якія жывуць у доме па вуліцы Фамічова Кастрычніцкага раёна. Сустрэлі нас ветліва на другім паверсе пяціпавярховага ўзорнага дома, які пабудаваны па спецыяльным праекце накшталт інтэрната сем'ям інвалідаў. Там ім прапаноўваюцца розныя дадатковыя паслугі: напрыклад, у доме ёсць шматасабовы ліфт, які абслугоўвае спецыяльны ліфцёр, так, як у шпіталях. На кожным паверсе рэкрэацыя, дзе суседзі могуць сабрацца і праводзіць свае мерапрыемствы. Такіх наваўвядзенняў няма ў звычайных жылых дамах. У рэкрэацыі мы выступілі з канцэртам духоўных песень. Слухалі нас жыхары, якія прыйшлі на канцэрт з розных паверхаў дома. Там жывуць некалькі сем'яў, якія ўдзельнічаюць у хоры «Ручаінка». Яны з'явіліся ініцыятарамі, каб запрасіць нас выступіць з канцэртам духоўных песень. На канцэрт мы з Ліляй запрасілі ў якасці слухача Таццяну Вянско — мастацкага кіраўніка хору «Ручаінка». Яна дала высокую ацэнку нашаму выканаўчаму майстэрству.

Пачалася падрыхтоўка да Каляд 2000 года.

## Едзем у Ліду па запрашэнні БСДГ

11 снежня 1999 года едзем з канцэртам у горад Ліду па запрашэнні лідскіх сацыял-дэмакратаў. Прыехалі прыгарадным цягнікам. Там на чыгуначнай станцыі нас сустрэлі, адвялі ў памяшканне дэмакратычных партый БНФ і БСДГ. Абагрэўшыся і адпачыўшы, мы пайшлі ў ГДК. Нам прапанавалі месца, дзе пераапрануцца, і ў сярэдзіне дня мы пачалі сваё выступленне. Каментарыі пад час канцэрта давала спн. Вера. Наш канцэрт мясцовыя аматары здымалі на відэастужку. Пасля канцэрта знаёміліся з гістарычнымі мясцінамі: Лідскім замкам, помнікам Скарыну і іншымі. Бліжэй да вечара ідзём на чыгуначную станцыю і прыгарадным цягнікам едзем дахаты.

З 13 снежня рыхтуемся да гала-канцэрта, які павінен адбыцца ў педагагічным каледжы.

15 снежня гала-канцэрт. Нам даручана выканаць тры песні: «Ціхая ноч», «А ў свеце нам» і «Нараджэнне Тваё, Хрысце Божа наш». Нашы спевы

прызнаны лепшымі сярод усіх іншых, таму што яны гучалі на беларускай мове, а дзве апошнія песні выконваліся ўпершыню.

17 снежня 1999 года едзем цягнікам у Парэчча. Нас запрасілі супрацоўнікі санаторыя. Спявалі тым, хто там лячыўся. Склад песень — духоўныя і патрыятычныя. І прысвяцілі мы іх памяці Максіма Багдановіча. Усяго выканалі сямнаццаць песень.

20 снежня ўдзельнічалі ў літургічных спевах Фарнага касцёла. На імшы прысутнічаў амерыканскі пасол.

25 снежня калядавалі ў Брыгіцкім касцёле а першай палове дня, а ў 15 гадзін у Фарным.

## *Хор упершыню едзе ў Навагрудак*

26 снежня хор упершыню едзе праз Слонім у Навагрудак. У Слоніме затрымаліся. Ігар Лапеха знаёміць нас з цэнтрам горада, разбуранымі сінагогай і замкавым комплексам забудоў уладальнікаў Агінскіх. Пасля павярхоўнага знаёмства з гэтымі гістарычнымі мясцінамі і гадзіннага адпачынку, едзем праз мястэчкі Казлоўшчына, Дзятлава і Новаельня, апынаемся ў Навагрудку. Спачатку наведваем Навагрудскі этнаграфічны музей. Экскурсавод музею знаёміць харыстаў з гісторыяй узнікнення Навагрудка і з тымі экспанатамі, якія сабраны там. Тут жа выступілі з канцэртам духоўнай музыкі.

Наведалі музей Адама Міцкевіча ў адрэстаўраваным пасля Другой сусветнай вайны будынку. У гэтым доме жыла сям'я паэта, калі ён вучыўся ў Навагрудку. Падрабязна на беларускай мове знаёміць нас экскурсавод з усімі памяшканнямі і экспанатамі дома. У канцы яна адказала на нашы пытанні.

Сп. Лапехам была арганізавана экскурсія на пляц Навагрудскага замка і на курган Адама Міцкевіча. Мы ўпершыню з хорам наведалі гэтую старажытную сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Агледзелі ўсе гістарычныя мясціны, набылі сяброў, паехалі ў Гародню.

27 снежня 1999 года нас запрасіла Данута Бічэль, каб мы ў сяброўскіх абставінах у музеі Багдановіча правялі калядкі. Сабраліся не ўсе харысты, а тыя, хто меў вольны час. Нас гасцінна сустракала гаспадыня. Былі там не толькі удзельнікі хору «Бацькаўшчына», але і іншыя музыкі — гітарысты, якія выконвалі свае творы.

У адной залі чалавек з 15, не болей, харыстаў сталі паўколам і праспявалі калядкі. У першую чаргу калядку «А ў свеце нам» Міколы Кулінковіча, якую мы нядаўна вывучылі. Пазней, у снежні, я даведаўся, што на той жа тэкст калядкі напісаў сваю музыку і Мікола Равенскі. Упершыню я пачуў

гучанне гэтай калядкі ў Фарным касцёле ў выкананні гарадзенскага хору «Дойлідства».

Выканаўцы калядак, харысты і музыкі былі запрошаны на пачастунак. Вярнуліся дахаты позні́м вечарам.

Пачаўся 2000 год. Першая рэпетыцыя — 5 студзеня, а 7-га нас запрасілі з канцэртам у Каложскую царкву. Стала традыцыяй штогод у гэтай царкве, якая пакуль што поўнасцю не адрэстаўраваная, выступаць 7 студзеня перад прыхаджанамі з вялікім калядным канцэртам. Нягледзячы на холад у царкве, большасць прыхаджан заставаліся пасля ранішняй абедні і чакалі нашага выступлення, таму што ім хацелася паслухаць гучанне калядак на беларускай мове. Першынство ў выступленні з калядкамі мелі дзеці нядзельнай школкі, і чамусьці яны выступалі на рускай мове. Пасля пачаўся спеў калядных песень хору «Бацькаўшчына» і доўжыўся не менш як гадзіну. У канцы святар падзякаваў нам за тое, што мы віншавалі прыхаджан з Божым Нараджэннем. Пачалася гутарка і падзяка гараджан, пасля чаго ўсе пайшлі дахаты.

У другой палове таго ж дня харысты дзяліліся на дзве групы і ішлі калядаваць па запрашэннях.

8 студзеня адправіліся ўсім хорам у санаторый Парэчча па запрашэнні нашых знаёмых. Правялі там канцэрт-калядаванне перад людзьмі, якія лячыліся. Канцэрт ім спадабаўся — для іх незвычайна было тое, што ўсе песні-калядкі гучалі на беларускай мове. Пасля канцэрта мы спяшаліся, каб як мага хутчэй паехаць у Гародню, куды нас запрасілі на калядаванне ў грамадскае аб’яднанне «Бацькаўшчына». Мы хуценька пасля канцэрта адправіліся на цягнік. Да прыбыцця цягніка заставаўся нейкі запас часу. Сабраўшыся гуртам, пачалі спяваць калядкі ў памяшканні вакзала. Гэтак мы рабілі заўсёды, каб марна не траціць час і каб прынесці прысутным пасажырам падарунак каляднымі песнямі

Прыехалі ў Гародню а другой палове дня і пайшлі на «Бацькаўшчыну». Там нашы харысты пад кіраўніцтвам спн. Веры ладзілі з дзецьмі гульні вакол елкі, адорвалі дзетак за выкананыя імі вершы, песні. Падарункі ім уручаў Святы Мікалай. У канцы вечара дзеткі пайшлі дахаты, а хор запрасілі на пачастунак за «шведскі стол», дзе гучалі калядкі.

16 студзеня ў памяшканні ГДК Мікола Таранда наладзіў прэзентацыю кнігі «Ніколі болей» былых вязняў ГУЛАГу. Па просьбе Міколы хор праспяваў некалькі песень духоўнага і патрыятычнага зместу. Мне ўдалося набыць кнігу аб пакутах тых, хто выжыў у нечалавечых умовах.

На наступны дзень пасля рэпетыцыі віншавалі з днём нараджэння «казярогаў» — Ганну Гашко, Ганну Трацця́к і Тамару Эльяшэвіч. А 19 студзеня на Вадохрышча па прапанове спн. Веры закончылі калядаванне на яе кватэры.

У лютым 2000 года былі звычайныя рэпетыцыі, а 6 сакавіка нас запрасілі выступіць з канцэртам віншаванняў прафесара беларускай філалогіі Паўла Сцяцко. Калі мы прыйшлі ў залу, там ішло пасяджэнне, прымеркаванае да ягонага юбілею. Нам прапанавалі выступіць, і мы з гонарам праспявалі вядомаму навукоўцу, прыхільніку беларушчыны, некалькі духоўных і патрыятычных песень.

Наступала вясна 2000 года, апошняга года другога тысячагоддзя ад Нараджэння Хрыста.

У пачатку вясны мы традыцыйна віншуем жанчын з днём 8 сакавіка. Адбываецца гэтая падзея пасля 8-га ці напярэдадні гэтай даты. У гэтым годзе на рэпетыцыі 6 сакавіка мы віншавалі нашых жанчын, успомнілі напісаны раней нашым паэтам Юрыем Сіткевічам верш «Жанчынам хора», і ўсе мужчыны дружна яго праспявалі на матыў савецкай песні «Идём, идём, весёлые подруги». Да таго ж наш тэнар Антон Амяльянчык заказаў вялікі торт, і пасля віншаванняў пілі гарбату. У канцы хор праспяваў жанчынам пажаданне «Многае лета».

## *Нас запрасілі ў Альбярцін*

26 красавіка 2000 года па запрашэнні грэка-каталікоў Слоніма арганізавалі паездку ў Альбярцін. У тутэйшым касцёле адбылася святая літургія, якую служыў святар з Брэста Ігар Кандрацьеў. Пасля літургіі выступілі з канцэртам перад алтаром касцёла. Як стала пазней вядома, аб нашым удзеле ў літургіі святар паведаміў у Ватыкан. Ён пахваліў наша выкананне духоўных песень, у тым ліку са спадчыны грэка-каталіцкага царквы. З тых часоў аб нашым хоры стала вядома ў Ватыкане. Аб нашым выступленні нават быў надрукаваны артыкул у часопісе «Ave Maria».

Пасля канцэрта мы сабраліся ля былой уніяцкай царквы, што побач з касцёлам, якая зараз перабудаваная ў праваслаўную. Каля крыжа, зусім нядаўна усталяванага вернікамі гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі ў памяць айцоў-езуітаў усходняга абраду, якія працавалі ў Альбярціне ў 20–30 гады XX стагоддзя, мы выканалі некалькі духоўных песень.

У другой палове дня паехалі ў Жыровічы, былы уніяцкі манастыр. Наведалі царкву, дзе захоўваецца ікона Божай Маці Жыровіцкай. Тлумачэнні даваў адзін з навучэнцаў Жыровіцкай духоўнай семінарыі. Па сканчэнні экскурсіі мы паехалі да святой крыніцы, агледзелі яе і запасліся святой вадой. Калі ехалі ў адваротным напрамку, у канцы мястэчка Жыровічы паламаўся аўтобус. Шафёр пачаў займацца рамонтам машыны, а мы, група харыстаў, пайшлі хто куды, адны ў лес, які ўжо вызваліўся ад снегу, а другія наведалі блізкія дамы. Дзень быў пагодны. Паломка здарылася каля

15 гадзін. Рамонт цягнуўся некалькі гадзін. Так што нам можна было добра пазнаёміцца з наваколлем. Па абодва бакі шашы стаялі сялянскія дамы з забудовамі. Мы з Ліляй і Антонам Амяльянчыкам зайшлі ў даволі заможны дом, які быў насупраць нашага аўтобуса. Гаспадар расказаў нам, што яго сям'я перасялілася з Польшчы, пераехалі спачатку ў Гародню, жылі там на Азёрскай вуліцы, а пасля пераехалі сюды, пабудавалі дом і зараз жывуць удвох з жонкай. Жонка вельмі хворая, а дзеці жывуць у іншых гарадах.

Пачало шарэць, і нас запрасілі ў аўтобус. Ехаць заставалася каля двухсот кіламетраў. Ехалі праз Слонім. Дарога добрая, асфальтаваная. Шафёр стараўся наганяць страчаны час. Так скончылася наша паездка той нядзелі. Пасля канцэрта ў Альбярціне мы сталі вядомымі як адзіны хор у Беларусі, што спявае духоўныя песні па-беларуску.

## *Едзем у Маладзечна з канцэртамі ў мадэрнавым касцёле і грэка-каталіцкай царкве*

30 красавіка едзем у горад Маладзечна. Запрасілі нас грэка-каталікі. Спачатку трапляем у мадэрнавы касцёл непадалёку ад чыгуначнай станцыі і чакаем заканчэння імшы. Наша спадарыня Вера пайшла дамаўляцца з кіраўніцтвам касцёла, каб у канцы імшы выступіць там з канцэртам.

Урэшце нас запрашаюць у касцёл, размяшчаемся насупраць алтара і спяваем духоўныя песні велікоднага цыклу. У канцы прысутныя просяць нас выканаць песню «Матачка Божая, Матачка добрая…». Канцэрт закончаны, ідзём у грэка-каталіцкую царкву, якая толькі што пабудавана на адлегласці паўтара кіламетра ад чыгуначнай станцыі.

Ідзём туды пешшу і праз некаторы час бачым дом незвычайнай архітэктуры з некалькімі памяшканнямі, капліцай, у якой літургію штонядзелю служыць грэка-каталіцкі святар з Менску Андрэй Абламейка. Сабраліся, пераапрануліся і ўдзельнічалі ў літургіі. Само памяшканне чалавек на пяцьдзесят, акрамя таго, ёсць яшчэ некалькі пакояў. Вось і ўся царква. Літургія доўжылася каля паўтары гадзіны, у канцы святар аб'явіў, што з Гародні прыбыў хор «Бацькаўшчына», які выступіць з канцэртам велікодных песень. У гэтай невялікай зале сабралася больш за сотню чалавек. Людзі стаялі ў праходзе і слухалі нашы песні з вялікай цікавасцю. У канцы праспявалі «Многае лета». Канцэрт закончаны. Нас запрасілі ў трапезную, дзе мы падсілкаваліся разам з усімі вернікамі. Развітваемся з нашымі новымі знаёмымі. Перад гэтым нас запрасілі на асвячэнне гэтай царквы, якое плануецца на будучы год.

У наступным годзе ў красавіку мы яшчэ раз прыязджалі ў Маладзечна ў грэка-каталіцкую царкву. Там былі не толькі святары – грэка-каталікі

з усіх суседніх парафій, але і каталіцкія святары лацінскага абраду. Там і адбылося асвячэнне царквы, дзе мы выступілі з вялікім канцэртам духоўных песень.

20 мая 2000 года нас запрасілі ў Ліду. Там сабраліся ўпершыню лідчукі, якія зараз жывуць па ўсім свеце. Іх параскідала мінулая вайна. І вось яны ўрэшце сабраліся на сваёй радзіме, каб правесці канферэнцыю-сустрэчу, расказаць аб сваім жыцці, падзяліцца ўспамінамі. Мясцовыя ўлады вырашылі даць ім канцэрт. Мы былі запрошаны выступіць там з двума песнямі: «О Беларусь, мая шыпшына» і «Магутны Божа». Пазней мы выступілі з канцэртам у Лідскім музычным вучылішчы, а ўвечары паехалі ў Гародню.

У канцы мая мы запрасілі хор «Бацькаўшчына» на юбілей маёй жонкі Ліліі. 22 чэрвеня ёй спаўнялася 70 гадоў. Сабраліся ў маім летніку ва ўрочышчы Кукалі. На святкаванне гэтай падзеі былі запрошаны нашы дзеці, унукі, блізкія сяброўкі Лілі, з якімі яна працавала ў школе, і нашы агульныя сябры. Пагодны майскі дзень. Выключнай падзеяй на свяце было тое, што ў нас з Ліляй існавала магчымасць запрасіць ўвесь калектыў хору на юбілей таму, што выхадцы з майго роду (былі такія моманты) складалі шостую частку ўсяго хору «Бацькаўшчына».

Сталы з прыгатаваным размясцілі ў садзе пад ценем алычы. Былі віншаванні ад дзяцей, унукаў, ад хору — песні. Мы з унукам Дзімам праспявалі ў гонар юбіляркі песню: «Толькі з табою мне хочацца быць», песню, якую я пачуў у пасляваенныя гады ў выкананні Шыманскага і Юневіча. Яны абодва спявалі ў хоры Рыгора Шырмы. Шыманскі жыў у адным доме з намі на вуліцы Леніна.

У той дзень мы добра адпачылі, аддалі пашану Ліліі. Аб яе ролі ў хоры сказала спадарыня Вера Васільеўна. Было шмат цёплых выступленняў ад дзяцей, унукаў. Са словамі ўдзячнасці меў слова унук Міхась — студэнт Гродзенскага медінстытута. Ён расказаў прысутным аб той дапамозе ў ягоным жыцці, якую пастаянна аказвала і аказвае яму ягоная бабуля Ліля. З цікавай віншавальнай прамовай выступіла калега Лілі па працы Лена Чэкіна. У прамове яна дала ацэнку Лілі, яе былой працы як спецыяліста па рускай мове. Падкрэсліла, што Ліля была, бадай, адной з самых аўтарытэтных спецыялістаў і любіла грамадскую працу. Яе заўсёды калектыў настаўнікаў вылучаў на кіруючыя грамадскія пасады. Так, яна працяглы час ўзначальвала Таварыства кнігалюбаў і на гэтай пасадзе паказала сябе адказным і справядлівым чалавекам. І яшчэ дадала, што з Ліляй яна заўсёды дзеліцца шчырымі думкамі аб сваім жыцці. Тамара Талерчык падкрэсліла глыбокія веды юбіляркі ў галіне рускай мовы: «Аўтарытэт Лілі ў рускай мове быў настолькі вялікі, што калі ўзнікала прафесійная спрэчка між настаўнікамі, то яе слова было канчатковым».

Віншаванні з месцаў працягваліся, а ў прамежках гучалі песні ды так, што суседзі з бліжэйшых летнікаў мяне назаўтра пыталі: «Скажыце, з якой такой нагоды вы ўчора так прыгожа спявалі?»

Былі не толькі віншаванні, але і падарункі. Ад хора спн. Вера ў знак павагі за яе грамадскую дзейнасць падарыла Лілі карону з залацістай саломкі, выкананую мастакамі Блудавымі.

## Паездка на рыцарскі турнір у Навагрудак

Чэрвень 2000 года быў прыкметны тым, што ўвесь калектыў хору разам са сваімі сябрамі паехаў на рыцарскі турнір у Навагрудак. Прыехалі даволі рана. З цяжкасцю знайшлі ў самым цэнтры мястэчка месца аўтобусу. Усе гуртам пайшлі да знаёмых спн. Веры ў камяніцу беларускіх грамадскіх арганізацый Навагрудка. Там і затрымаліся. Усярэдзіне першага дня на цэнтральнай плошчы Навагрудка адбылося адкрыццё турніру. Удзельнікам адміністрацыяй турніру загадзя было выдзелена месца, дзе яны фармавалі свае каманды па абласцях: апраналіся ў свае строі, узбройваліся шчытамі і мячамі часоў крыжацкіх паходаў.

На інсцэніроўку бітвы прыбылі каманды амаль з усіх краін СНД. Падрыхтаваліся. Строіліся ў шыхты і ішлі па чарзе ля трыбуны прадстаўнікі абласных каманд Беларусі і іншых краін і займалі свае месцы. Як толькі яны праходзілі насупраць цэнтральнай трыбуны, вядучы абвяшчаў, хто яны такія і адкуль прыехалі на турнір. І такім чынам шматлікія прысутныя на гэтай старажытнай плошчы знаёміліся з усімі камандамі-ўдзельнікамі турніру. Сярод гледачоў былі і мы.

Закончаны агляд каманд. З аднаго боку абаронцы навагрудскага замка, якім належыць утрымаць замак, а з другога — крыжацкія шыхты, роля якіх — захапіць замак. Размежаваліся. Падрыхтаваліся да бою.

Абаронцы размяшчаліся на Замкавай гары, а іх «ворагі» — ля падножжа гары. Крыжакі вялі наступленне на замак. Абаронцы ад іх адбіваліся. За гэтымі падзеямі, што адбываліся ў Сярэднявеччы, назіралі мы, прысутныя. Гэтая бойка была тэатралізаванай пастаноўкай сапраўднай сярэдневяковай бойкі. Кіраваў абаронцамі замка ў той час вядомы князь па прозвішчы Давыд Гарадзенскі. Яму, як вядома з гісторыі, удалося абараніць Навагрудак і іншыя гарады, у тым ліку і Гародню, ад крыжацкай навалы.

У канцэртнай зале, дзе мы затрымаліся, спн. Вера разам з кампазітарам Петрашэвічам ладзілі канцэрт. Акрамя нас у канцэрце ўдзельнічаў і наш гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч. Канцэрт вялі Вера Кунцэвіч і Яўген Петрашэвіч.

Бліжэй да вечара перад намі паўстала пытанне, дзе нам начаваць. Прапанавана мне, як старшыні хору, паехаць на легкавіку і падрыхтаваць

месца адпачынку на возеры Свіцязь. Аднак хтось з прысутных сказаў, што трэба паслаць маладзейшага. Я не пярэчыў і не паехаў. Адправілі кагосьці з хлопцаў берасцейскага аўтобуса.

Як стала шарэць, нас пасадзілі ў аўтобус і павезлі на базу адпачынку, якая месціцца побач з вёскай Валеўкай. Мы там з цяжкасцямі размясціліся. Мне амаль не давялося адпачываць. Раніцай, як толькі пачало світаць, я і сп. Жынь пачалі знаёміцца з ваколіцамі. Заўважылі на захадзе невялікае праточнае азярцо, парослае аерам, дзе я ўбачыў вадзяных курачак. Гэта не першая мая сустрэча з гэтымі птушкамі. На маёй радзіме ў Баранавіцкім раёне была штучная сажалка, на ёй выспа, парослая алешнікам і аерам. На той выспе я назіраў такіх жа вадзяных курачак. Па аповеду маёй бабулі, да гэтай выспы быў калісьці пракладзены прыгожы драўляны масток, а мясцовы пан Эдуард Слізень, апошні з роду бортніцкіх памешчыкаў Слізняў, у пагодны дзень сенакоснай пары любіў на гэтай выспе піць гарбату, назіраць, як працуюць на сенакосе ягоныя прыгонныя сяляне, і заадно глядзець на вадзяных курачак. У часы бальшавіцкай калектывізацыі выспу разабралі на ўгнойванне палёў. Пасля чаго і вадзяныя курачкі зніклі. І вось я з гэтымі незвычайнымі птушкамі сустрэўся зноў праз шмат гадоў.

Бліжэй да дзявятай гадзіны пачалі прачынацца астатнія харысты, прыводзіць сябе ў належны выгляд. І ў гэты час пайшоў дробны дождж, стаў сыпаць як з сіта. Мы схаваліся ў памяшканне. Падсілкаваліся там, селі ў аўтобус і паехалі на возера Свіцязь, якое ляжыць на ўзвышшы на адлегласці пяці кіламетраў ад нашага начлегу.

Возера амаль круглае, у перыметры каля 5 кіламетраў, з чыстай празрыстай слаба мінералізаванай вадой. Берагі ягоныя парослыя дрэвамі розных пародаў. Возера з'яўляецца адным з цудаў не толькі Гарадзеншчыны, але і Беларусі. Яно апетае Адамам Міцкевічам, Янам Чачотам і іншымі паэтамі. На паўночным беразе возера пабудаваны дом адпачынку «Свіцязь». Затрымаліся ля возера. Надвор'е было халаднаватым. Калі-нікалі ішоў дождж. Нягледзячы на холад, некаторыя маладзейшыя купаліся ў возеры, відавочна, для таго, каб было што ўспомніць: «Я быў на Свіцязі і нават купаўся».

Была сярэдзіна дня. Мы набылі бутэрброды ў мясцовых шапіках, падсілкаваліся і а першай гадзіне паехалі на працяг рыцарскага турніру ў Наваградак. Праехаць трэба было каля дваццаці кіламетраў. Дабраліся туды, на жаль, калі турнір скончыўся. Пайшлі ў касцёл, дзе ўдзельнічалі ў вянчанні адной пары ўдзельнікаў турніру і нават спявалі літургічныя песні. Касцёл вядомы тым, што там вянчаўся кароль Ягайла з Сафіяй Гальшанскай, у XVIII стагоддзі ахрышчаны Адам Міцкевіч.

Вярнуўшыся да камяніцы, пачалі развітвацца з нашымі знаёмымі. Кожны з нас выказаўся аб сваіх уражаннях ад убачанага і перажытага за гэтыя два дні.

Прыехалі ў Гародню, калі пачало цямнець.

# Паездка ў Свіслач у 2000 годзе

На чарговай рэпетыцыі ў кастрычніку спн. Вера паведаміла, што 22-га адбудзецца паездка ў мястэчка Свіслач з тым, каб ушанаваць памяць братоў Кастуся і Віктара Каліноўскіх. Арганізатары паездкі запрасілі хор «Бацькаўшчына» паехаць разам з групай сяброў БНФ на спецыяльным аўтобусе. У гэтым падарожжы, па-першае, планавалася наведаць могілкі і асвяціць крыж, усталяваны на магіле Віктара Каліноўскага — ідэолага паўстання Кастуся Каліноўскага, заўчасна памерлага ад сухотаў. Па-другое, наведаць помнікі героям паўстання 1863–1864 года, Кастусю Каліноўскаму ля свіслацкай школы, у якой ён вучыўся, і Рамульду Траўгуту. Помнік апошняму ўсталяваны палякамі ў мінулым стагоддзі.

Усе, хто прыехаў, пакінулі свае аўтобусы на цэнтральнай плошчы мястэчка Свіслач і пайшлі спачатку пад нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі на могілкі ля свіслацкай царквы. Там, пад гукі рэлігійнага гімна «Магутны Божа», які выканаў хор, адбылося асвячэнне крыжа на магіле Віктара Каліноўскага святаром народнай царквы Іванам Пасюком.

Крыж асаблівай мастацкай каштоўнасці зроблены ў майстэрні каваля Ю. Мацко. Тут жа на магіле адбыўся мітынг, на якім выступіў былы старшыня гарсавета Гародні сп. Домаш. У канцы хор выканаў некалькі духоўных песень, і ўсе прысутныя накіраваліся да помніка Р. Траўгуту. Ля помніка з гістарычнымі даведкамі выступіў з Гародні Аляксандр Талерчык, а дапоўніў яго прафесар з Менска Юры Хадыка. Пасля прысутныя накіраваліся да бюста помніка К. Каліноўскаму і сфатаграфаваліся. А потым паехалі да таго месца, дзе жыла сям'я бацькоў Каліноўскіх. Тут жа быў усталяваны памятны крыж, які належала асвяціць. Спачатку адбыўся кароткі мітынг, на якім выступіў старшыня гарадзенскай рады БНФ і прадстаўнік беларускай шляхты з Менску. Па ініцыятыве спн. Веры хор «Бацькаўшчына» выканаў некалькі духоўных песень, а святар І. Пасюк асвяціў крыж.

Зноў сядаем па сваіх аўтобусах і едзем на фестываль бардаўскай песні па запрашэнні мясцовых патрыётаў, які адбыўся на ўскрайку Белавежскай пушчы. Ехала калона аўтобусаў, з вокнаў якіх былі бачныя бел-чырвона-белыя сцягі.

На месцы гаспадары згатавалі юшку і частавалі ўсіх гасцей. Елі пад гукі гумарыстычных бардаўскіх песень. Сярод бардаў вёў рэй наш гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч. Выступалі знаёмыя і незнаёмыя нам барды. Было весела. Фестываль працягваўся да вечара. Надвячоркам паехалі дахаты.

29 кастрычніка нас запрасілі на канцэрт-абедню, якая праводзілася ў памяць нашай слыннай паэткі Ларысы Геніюш. У Каложскай царкве сабраліся прыхільнікі незвычайнага таленту Ларысы, якая ў свой час напісала шмат выдатных вершаў. Яна вядомая таксама як мужная пакутніца ГУЛАГа.

У часы сталінскага чырвонага фашызму была асуджана да вышэйшай меры пакарання — 25 гадоў лагераў на поўначы Расіі. Да такога ж тэрміну пакарання быў асуджаны патрыёт Беларусі Ян Геніюш — муж Ларысы Геніюш. Трэба зазначыць жорсткасць існаваўшага рэжыму і ў тым, што адбываць пакаранне ім разам было недазволена. Іх пакаралі толькі за тое, што яны бясконца любілі сваю радзіму. Геніюш пісала выдатныя вершы пра тыя мясціны, дзе нарадзілася і правяла свае дзіцячыя і юнацкія гады, а пра свае пакуты напісала кнігу «Споведзь», у якой як бы падвяла вынік свайго літаратурнага і грамадскага жыцця. У дзесяцігоддзе з дня смерці Геніюш мы разам з усімі, хто прыйшоў у гэтую старадаўнюю святыню нашай радзімы, успаміналі святога мужнага чалавека, аддавалі павагу яе памяці, чыталі яе вершы. Хор выканаў чатыры песні: «Заступніца духоўная» (песня, датаваная XVI стагоддзем), «Божа, што калісь народы…», рэлігійны гімн Беларусі «Магутны Божа» і «Многае лета».

## *Едзем у Полацк і Віцебск. Лістапад 2000 года*

Заканчваецца другое тысячагоддзе хрысціянства. Наш хор стаў знакамітым не толькі ў Гародні і ў Беларусі. Удалыя канцэрты пасля грэка-каталіцкай літургіі ў Альбярцінскім касцёле ля Слоніма сталі вядомымі ў Ватыкане. У сувязі з гэтым хору «Бацькаўшчына» грэка-каталіцкім кіраўніцтвам даверааны спевы пад час святкавання Беларускай грэка-каталіцкай царквой дзвюхтысячагоддзя Нараджэння Хрыста ў Полацку і Віцебску. Пра гэта нам паведаміла спн. Вера. Пагадзіліся паехаць харысты і грэка-каталікі Гародні. Паехалі 10 лістапада. Едзем спачатку па трасе Гародня–Менск, павярнулі на Валожын. Затрымаліся. Там сп. Лапеха пазнаёміў нас з замкавым комплексам былых уладанняў магнатаў Паскевічаў. Праехалі Маладзечна і затрымаліся ў раённым цэнтры Глыбокае, дзе таксама знаёміліся з мясцовымі святынямі — царквой і касцёлам. Апошні адрэзак шляху да Полацка ехалі без затрымак, і калі пачало вечарэць, прыехалі ў горад. Затрымаліся ля драўлянай уніяцкай царквы Святой Параскевы. Адтуль нас накіравалі ў гатэль «Дзвіна», дзе мы і пасяліліся. У рэкрэацыі аднаго з паверхаў гатэля пасля вячэры пачалі рэпетыцыю. Неўзабаве да нас прыйшоў архімандрыт Сяргей Гаек. Ён цікавіўся нашай гатоўнасцю да літургіі. Літургія ў царкве Святой Параскевы пачалася ў 12 гадзін 11 лістапада. На літургію прыехалі святары з усіх грэка-каталіцкіх парафій Беларусі. Невялікія памеры царквы стваралі цеснату. Нас запрасілі на хоры, дзе мы спявалі літургічныя песні. Царква па памерах хутчэй нагадвала капліцу. Літургія працягвалася каля дзвюх гадзін. Пасля літургіі на прыступках царквы адбылася цёплая сустрэча з біскупам Уладзіславам Блінам, з ім сфатаграфаваліся. З біскупам Уладзіславам мы пазнаёміліся

на Першым Магілёўскім фестывалі «Магутны Божа». У той час ён быў пробашчам Магілёўскага касцёла Святога Станіслава.

У другой палове наступнага дня нас адвезлі на абед, пасля якога мы з маім сябрам Амяльянчыкам пайшлі знаёміцца з Полацкам — самым старажытным горадам Беларусі. Мінулая вайна нанесла значную шкоду разбурэннем шматлікіх забудоў, цэркваў, і ў той жа час захавалася самая старажытная царква — полацкая Сафія, у якой нам, хору «Бацькаўшчына», выступіць з канцэртам духоўнай музыкі не дазволілі. Сафія — наша нацыянальная святыня, там знаходзіцца зала арганнай музыкі, дзе людзі могуць слухаць канцэрты. У сярэдзіну царквы мы не трапілі, агледзелі звонку яе велічнае збудаванне, успомнілі, што гэты храм як нацыянальную святыню Беларусі ворагі не аднойчы хацелі знішчыць. Аднак гэты Божы храм існуе і, спадзяемся, будзе існаваць вечна. Я звярнуў увагу на тое, што ў Полацку шмат каталіцкіх храмаў і яны знаходзяцца ў добрым стане. Праўда, не ўсе яны дзейнічаюць.

Вярнуліся ў гатэль і пасля вячэры адпачывалі. Назаўтра пасля снедання едзем у Віцебск — самы паўночны цэнтр адной з абласцей Беларусі. Там у нядаўна адрэстаўраваным касцёле адбылася святая літургія ў гонар дзвюхтысячагоддзя хрысціянства. Касцёл нядаўна прыведзены ў належны стан, у ім адбываюцца набажэнствы для каталікоў лацінскага абраду. З дазволу біскупа Бліна грэка-каталіцкая літургія ў гонар юбілею адбылася менавіта ў гэтым храме. Мы таксама ўдзельнічалі ў літургіі — выконвалі кананічныя спевы.

У гэтым горадзе быў забіты Язафат Кунцэвіч — полацкі архібіскуп грэка-каталікоў.

Пасля літургіі ў другой палове дня, калі пачало цямнець, нас запрасілі на трапезу ў рэстаран Віцебска. Падчас трапезы па просьбе архімандрыта Сяргея Гаека на сцэну падняўся хор «Бацькаўшчына» і выканаў некалькі духоўных песень. Трапеза скончана. Сядаем у аўтобусы і едзем у напрамку на Менск. Сталіцу праязджаем і без затрымак едзем у Гародню. Так скончылася наша падарожжа, якое засталося ў памяці кожнага харыста. Мы ўсе духоўна ўзбагаціліся.

18 лістапада 2000 года канцэрт у Тэатры лялек у сувязі з дзвюхтысячагоддзем хрысціянства. А 19-га — канцэрт у Фарным касцёле з гэтай жа нагоды. У далейшым адбываліся рэпетыцыі па падрыхтоўцы да Калядаў 2000–2001 года.

## *Паездка ў Кодынь. 2001 год*

У маі Вера Васільеўна разам з харысткай Верай Ярошынай упершыню наведалі мястэчка Кодынь. Пра гэтую паездку распавядала Вера Васільеўна:

— У апошнія выходныя дні мая традыцыйна ў Польшчы ў мястэчку Кодынь (як вядома, гэта былая сядзіба нашых беларускіх магнатаў Сапегаў) праводзяцца Дні малітвы за еднасць хрысціян, званыя таксама Кодынькімі экуменічнымі днямі. Упершыню на гэтае спатканне былі запрошаны грэка-каталікі Гродна. Мне як кіраўніку хору «Бацькаўшчына» было прапанавана туды паехаць. Мы з Верай Ярошынай паехалі на гэтыя спатканні. Мы прадставілі Беларусь толькі ў нашых асобах. На жаль, было вельмі мала нас. Былі людзі з усіх рэгіёнаў Польшчы і з іншых краін: Нямеччыны, Францыі. Усю гэтую справу ладзіць Ордэн Святога Крыжа, а займаецца ёю ксёндз Караль Ліпінскі. Менавіта ён колькі год запар праводзіць гэтыя сустрэчы дзеля таго, каб людзі разважалі, адкуль яны, якія іх карані і чаму падымаецца пытанне наконт аб'яднання цэркваў. Было вельмі цікава таму, што чыталі Біблію. Гэта, безумоўна, там праходзіць традыцыйна: выступленні аматарскіх калектываў, сольных спеваў і вернікаў Кодыні. Мерапрыемствы праводзяцца ў сядзібным касцёле Льва Сапегі (касцёл Святога Духа), касцёле Святой Ганны, праваслаўнай царкве. Тады яшчэ была старая праваслаўная Міхайлаўская царква.

У Кодыні ёсць вельмі цікавыя паселішчы татараў, а таксама вялікія татарскія могілкі. Мы наведалі гэтае месца, дзе пачулі вельмі цікавыя аповеды пра змаганні татар. Вы ведаеце, што татары былі запрошаны нашым князем Вітаўтам дзеля таго, каб Вялікае Княства Літоўскае было больш моцнае; яны тут аселі і засялілі літоўскія землі, ёсць цэлыя паселішчы, дзе яны жывуць і зараз. Шлюбы іх, безумоўна, змешаныя. На жаль, храма іх мы не бачылі, не было. А вось месца, дзе яны жывуць, і іх могілкі мы бачылі. Я некалькі слоў расказала пра тое, якія адносіны паміж рэлігійнымі канфесіямі ў Беларусі. Як вядома, на Гарадзеншчыне бытуе многа канфесій.

Мы з Верай Іванаўнай праспявалі некалькі твораў. Праслухаўшы нас як прадстаўнікоў хору «Бацькаўшчына» прадстаўнікі аргкамітэту запрасілі наш хор на наступныя сустрэчы з вялікай канцэртнай праграмай.

## Ліпень 2001 года. Паездка ў Беласток на рэкалекцыі

Прыехалі ў Беласток на месца прыкладна ў 10 гадзін. Прывялі нас у жаночы манастыр па вуліцы Сталэчнай. Завялі ў адно з памяшканняў манастыра, пазнаёмілі з законніцамі, і мы сталі чакаць, куды нас паселяць. Урэшце аргкамітэт выдзеліў аўтобус і нас адвезлі ў інтэрнат нейкай тэхнічнай ВНУ, дзе і пасялілі. Там вечарам адбылася генеральная рэпетыцыя. Мне і Лілі выдзелілі асобны двухмесны пакой з усім неабходным. У гэтым пакоі жылі студэнты беластоцкай палітэхнікі. Раніцай нас адвезлі ў манастыр, пакармілі, адвялі ў капліцу манастыра, дзе мы слухалі выступы каталіцкіх і праваслаўных святароў на розныя тэмы каталіцтва і праваслаўя. Былі там тэмы пра іконы ў праваслаўнай царкве, стаўленне хрысціянства да магіі і варажбы і іншыя. Пасля заканчэння рэкалекцыі нас прасілі праспяваць духоўныя песні, што мы і рабілі. У другой палове дня мы накіраваліся ў праваслаўны сабор Святога Духа. Доўга сядзелі на панадворку, а пасля зайшлі ўнутр сабора, там ішла служба. Хацелі дамовіцца, каб выступіць там з канцэртам, але нам адмовілі.

8 ліпеня ўдзельнічалі зноў у рэкалекцыях, набажэнстве, і пасля тым жа аўтобусам, які быў да нас прыкамандзіраваны, увечары нас адвезлі ў мадэрнавы касцёл, дзе мы выступілі з вялікім канцэртам. Канцэрт можна было лічыць удалым, прысутнічала ў вялікай зале касцёла дзесьці больш за пяцьсот чалавек.

9 ліпеня слухалі ў рэкалекцыях лекцыю праваслаўнага святара на польскай мове аб праваслаўных іконах, пасля былі дыскусіі, пытанні і ад'езд хору ў Гародню.

## Жнівень 2001 года. Другая паездка ў Данію групы хору «Бацькаўшчына»

Пра другую паездку ў Дацкае Каралеўства напісала Святлана Маразевіч, удзельніца нашага хору. Тут я цалкам цытую яе ўражанні.

— Вандроўка «Бацькаўшчыны» ў Каралеўства Данія ў жніўні 2001 года адбылася паводле прымаўкі: чалавек прапакуе, Бог выракуе. Хор рыхтаваўся да паездкі ў іншае каралеўства — Вялікабрытанію, адкуль падрыхтоўкай візіту займалася наша былая суайчынніца Таццяна Акунёва (зараз Халідэй), родная сястра беларускага кампазітара Віктара Войціка. Пасля канцэртаў харавой групы з Саюзу палякаў Беларусі, якая выконвала рускую духоўную музыку, англічане былі настроены пачуць і калектыў бе-

ларускай духоўнай музыкі. Але па пэўных прычынах візіт з патэнцыяльнага стаў немагчымым. Хор падрыхтаваўся да замежнага турнэ, быў у вельмі добрай форме — рэпетыцыі адбываліся амаль штодня, дзянькі сапраўды былі гарачымі. Расчараванне ж ад англійскай навіны хутка змянілася натхненнем ад навіны дацкай: пастар Эрык Ланк'ер, залаты юбілей якога ў 1996 годзе адзначаўся спевамі беларускай «Бацькаўшчыны», прыняў рашэнне аздобіць нейкім чынам юбілей сваёй палавінкі, спадарожніцы жыцця, каханай жонкі, аднадумцы і сяброўкі Інге-Лізе. Нябесная канцылярыя спрацавала надзіва спрыяльна для хору: літаральна адразу амбасада Каралеўства Даніі ў Маскве выдала спевакам і спявачкам візы. Новы загадчык візавага аддзелу, для якога культурны праект «Бацькаўшчыны» быў першым на новым месцы працы, нечакана выказаў асабістую зацікаўленасць да хору і яго спраў. Мабыць, пашэнціла нам напаткаць яшчэ аднаго аматара духоўнай спадчыны беларусаў.

Суботнім жніўеньскім днём два аўтобусы праехалі мяжу з Польшчай і рушылі на паўночны захад. Не затрымаўшыся ноччу на мяжы Нямеччыны з Даніяй, мы хутка пачулі за сабой «пагоню» — з сігналамі і мігалкамі нас прыпыніў паліцэйскі бус дзеля высвятлення асобаў, якія з начным візітам едуць у Данію. Калі ліхтар асвяціў паперы з запрашэннем святара, мы атрымалі ўсмешкі і пажаданні поспехаў (як бы благаславенне) — дазвол ад вартавых на права ўступіць на дацкую зямлю і болей за тое — паспяхова выступіць на ёй. На падворак да пастыра бусікі завярнулі глыбокай ноччу. Да раніцы харысты атабарыліся на свежым паветры пад зорным небам — мабыць, наканавана было пахадзіць на гэтай зямлі не толькі нагамі, але і адчуць яе ўсім целам.

Раніцай, пасля бурнага вітання з сям'ёй Ланк'ер, нас чакаў дзень адпачынку на марскім узбярэжжы, на дачы гаспадароў, з подыхам мора і бясконцымі размовамі. Мы таксама наведалі мясціны, дзе знаходзіцца Музей нацыянальнага руху і даліну з помнікамі грамадскім і культурным дзеячам, якія фармавалі дацкую нацыю ў XIX стагоддзі. На высокай каменнай стэле лунаў нацыянальны сцяг — Данебры, а на круглай пляцоўцы, складзенай з валуноў, стаяў вялізны камень з двума ільвамі з нацыянальнага герба. Там хор правёў рэпетыцыю — даў першы імправізаваны выступ, мабыць, для аднадумцаў, душы якіх віталі ў паветры разам з гукамі спеваў.

На наступны дзень Інге-Лізе павезла нас на Поўнач — даць некалькі запланаваных канцэртаў ў кірхах Oester Joelby і Sjoerring.

Па дарозе мы заехалі яшчэ ў адну незвычайную мясціну, дзе пабудавана вежа ў гонар дацкай Канстытуцыі 1866 года, па якой краіна жыве і зараз. На гэтым шляху, у адным з гарадоў, здаецца, Віборгу, стаіць цікавы па сваім выхаваўчым імпульсе помнік: каралева Маргарэта І, пры якой Данія квітнела, стаіць побач з малым сынам, якога яна паставіла на высокі камень,

каб будучы кароль адчуў у сабе ўпэўненасць і адказнасць за краіну, якую атрымае з пяшчотных, але моцных рук маці.

Далей у нас адбылася хвалюючая сустрэча з Паўночным морам. І гэта ўвогуле асаблівая старонка адчуванняў, якія не паддаюцца апісанню словамі.

Харысты былі пад уражаннем аповеду Эрыка — добрага знаўцы роднай культуры і гісторыі — пра навукоўца-тэолага Грундтвіга, які ў пачатку XIX стагоддзя развіў новую, вольную ад дагматызму форму хрысціянства, узараную на каштоўнасцях (персаніфікаваных у культурных героях легендаў, паданняў, міфаў Скандынавіі).

Не менш станоўчых пачуццяў выклікала ў харыстаў сустрэча з сям'ёй Карла Пака — старога сябры хору «Бацькаўшчына», удзельніка гуманітарных паездак у Польшчу і Беларусь, шафёра па прафесіі, глыбокага верніка і аматара музыкі. Яго гасціннасць, сад-парк з сажалкай і залатымі рыбкамі былі складнікамі натхнення, з якім хор выступаў у кірхах Поўначы.

Наступны тур-этап гастролей нам забяспечваў ужо сам Эрык. Ён павёз нас да сваёй сястры Ганны-Крысціны, якая працуе вікарыем у кірсе ў мястэчку Колінд. Перад канцэртам Ганна-Крысціна прадставіла хор сваёй пастве, прыхаджанам у вельмі жывой, непасрэднай манеры, з гумарам і жартамі. І калі публіка была ўжо разагрэтая — у свае правы ўступіў хор. Усё атрымалася на адным духу, узнёсла і ўрачыста. Увогуле, канцэрт «Бацькаўшчыны» складаўся з дзвюх частак: рэлігійныя спевы і народныя песні, ужо з саламянымі каронамі на спявачках. Другая частка адбылася з воклічамі «біс» і «брава». Пасля канцэрта яшчэ доўга ля муроў кірхі адбываліся людскія ўзаеміны. У гэтых успамінах немагчыма не сказаць асобна пра нашага патрона. Вёў рэй у дыялогу культур Эрык Ланк'ер. Лютэранскі пастыр, ён адрозніваецца ад многіх сваіх калег-святароў. Характарызуецца шырокім кругаглядам, адсутнасцю зашоранасці, разуменнем глыбокай узаемасувязі паміж усімі пластамі назапашанай чалавецтвам культурнай спадчыны. Ён навуковец, аўтар вялікай кнігі па міфалогіі, у якой шукае адказ на пытанне, як склалася вера. Кніга «Паходжанне нашай веры ў Бога» — цэлы фаліянт, выдадзена і на дацкай, і англійскай мовах.

Эрык — сын Георга і Ганне-Лізе. Яго бацька — вядомы грамадскі і рэлігійны дзеяч Даніі, пра жыццё і дзейнасць якога напісана цэлая кніга. Маці — прыгожая статная жанчына, якая ўсё жыццё называла свайго мужа «мой мілы»… Па завядзёнцы, Эрык адвёз гасцей да сваіх бацькоў, якім таксама даспадобы харавыя спевы па-беларуску. Канцэрт пад небам ля ялінкі сабраў многіх суседзяў і атрымаўся асабліва шчырым, нават трохі шчымлівым. Нездарма: хутка бацькі Эрыка, адзін за адным, каб быць зноў разам, адышлі на той свет, пакінуўшы аб сабе добрую светлую памяць на гэтым свеце…

Яшчэ дзве кірхі адчынілі для канцэртаў свае дзверы — Toemmerby і Vonsild. У адной з іх праходзіла тэалагічную практыку беларуская дзяўчына родам з Бабруйска Зіна Быльская, таму ўяўленне аб Беларусі ў мясцовых людзей склалася аднабаковае. Пасля нашых выступленняў, якія дырыжорка суправаджала словамі аб багацці і ўзроўні беларускай культурнай спадчыны, бабруйская госця з удзячнасцю сказала: «Вы сапраўды здолелі сваёй творчасцю паказаць і даказаць годны ўзровень нашай культуры». Пачуць такое на чужыне — гэта вартая адзнака!

Адзін з сыноў Эрыка стажыраваўся ў «Дыялог-цэнтры» ўніверсітэта г. Охуса (Архуса). Ён вывучае новыя рэлігійныя плыні пад кіраўніцтвам прафесара Асгардзя, з якім калісьці супрацоўнічаў і зараз сябруе сам Эрык. Пайшоў па слядах дзеда і бацькі і прысвяціў сябе рэлігійнаму служэнню. Знаёмства з гэтай даследчай установай таксама ўвайшло ў нашы планы, як і горад, музей і батанічны сад горада.

Пабыць у краіне Андэрсэна і не наведаць яго радзіму, дом-музей казачніка у г. Одэнсе, было б памылкай. Эрык і гэта ўлічыў, і сустрэча з вялікім казачнікам у яго «сядзібе» адбылася змястоўнай і насычанай. Хору дазволілі праспяваць у круглай зале з празрыстым купалам — і хваласпеў Багародзіцы (адпявалі самога Андэрсэна ў храме Дзевы Марыі ў Капенгагене), здавалася, ляцела ў само неба…

Яшчэ адна сустрэча хору з неўміручым духам Андэрсэна адбылася ў атмасферы гонару за братоў-беларусаў каля казачнага дрэва ў выглядзе герояў казак самога аўтара, якіх выразалі разбяры з Гомеля. Да слова, аб гонары за беларусаў: у двары Эрыка стаіць вялікі пень, які з 1999 года пад рукамі і майстра, і музыкі Я. Петрашэвіча стаў сімвалам беларуска-дацкага сяброўства. Кожнае лета туды прыязджаюць дзеці з Чарнобыля.

Сяброўству беларусаў Гародні з датчанамі спрыяла наша былая гарадзенка, сяброўка спн. Веры спн. Давыдзенка, якая працяглы час была хормайстрам ансамбля «Нёман» . Потым яна пераехала жыць на радзіму да свайго мужа Анаса, а пазнаёмілася з ім пад час гастроляў хору «Бацькаўшчыны» ў 1996 годзе. Што робіць гэтая сям’я для Беларусі — асобная размова, вартая цэлай кнігі. Іх хата адчыніла свае дзверы-браму ў беларуска-дацкую сям’ю, з прысмакамі і песнямі — аддалі ўсё. Віншаванне гаспадыні адбылося сардэчным і сімвалічным. Ёй, каб нам падкрэсліць яе маладжавасць, падарылі карціну мастака Кейко «Раніца». На карціне прыгожы твар маладой жанчыны. І суправадзілі тлумачэннем, што багіня зары Аўрора-Эос была такой жа прыгожай і прывабнай, як скандынаўская Ідуп, якая валодала маладзільнымі яблыкамі і ведала сакрэт прыгажосці. Карагоды з беларускімі песнямі прыйшліся дарэчы пасля смачнай трапезы.

Развітальная вячэра падабралася незаўважна і прыпала на Успенне Божай Маці па юліянскім календары. Мы ўслых адзначылі, што прывітальны сняданак адбыўся.

Са словамі шчырай падзякі «Бацькаўшчына» ўзнагародзіла галоўных «вінаватых» свайго турнэ Эрыка і Інге-Лізе беларускімі саламянымі каронамі за развіццё між культурамі дыялогу і народнай дыпламатыі. Каранацыя адбылася пад бурныя воплескі ўсіх гасцей. Безумоўна, апошнім, завяршальным акордам былі нашы народныя песні. Прыедзем дадому-дахаты з прыпынкам у Берліне з яго адрэстаўраваным рэйхстагам і калонай з крылатай жанчынай, у горадзе, які стаўся мяжой, за якой дацкая казка стала быллю.

Сваімі ўражаннямі ад гэтай паездкі ў Данію я папрасіў падзяліцца і спадарыню Веру, кіраўніцу нашага хору.

— Наша творчае жыццё наладзіла добрыя творчыя сувязі з Даніяй. Мы можам ганарыцца тым, што ўсталяваліся трывалыя сяброўскія сувязі з айцом пратэстанцкай царквы Эрыкам Ланк’ерам. Пазнаёміліся мы з ім ў 1996 годзе, калі прыехалі па запрашэнні датчан поўным складам хору. Творчыя сувязі між намі працягваюцца і па сёння. Другі раз мы былі запрошаны ім і ягонымі памочнікамі ў творчую паездку невялікай групай хору «Бацькаўшчына» ў жніўні 2001 года. Там чакаў вельмі цёплы прыём. Датчане чакалі нас і з задавальненнем прыходзілі на нашы канцэрты. Айцец Эрык Ланк’ер прадумваў кожны дзень падарожжа, каб гэта было духоўным набыткам для нас і датчан, каб мы маглі шчодра падзяліцца сваёй творчасцю, з аднаго боку, а з другога, каб мы маглі наталіць нашу памяць, наша ўспрыняцце іх культуры. Нам было паказана многа цудоўных мясцін, помнікаў. Наведалі вялікую колькасць гарадоў. Мелі цікавыя сустрэчы з дацкімі жыхарамі. Вельмі кранальна было тое, што Эрык Ланк’ер арганізаваў нам некалькі дабрачынных канцэртаў для старых людзей, а таксама для інвалідаў. Мы пабачылі, як датчане пяшчотна адносяцца да людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі, як яны прымаюць іх у сваіх сем’ях, як ладзяць ім вечарыны. Якая там апека, як яны клапоцяцца пра новае пакаленне — дзяцей. У нас была забаўная сустрэча ў школе. Там прысутнічала некалькі соцень дацкіх дзяцей. З якой цікаўнасцю гэтыя дзеці глядзелі на нас. Нам рабілася вельмі прыемна, што, не ведаючы мовы, мы абыходзіліся без перакладчыка. Мы разам гулялі, танцавалі, выконвалі беларускія песні. Яны нас слухалі, быццам бы яны ўсё разумелі і ведалі. Іх зацікаўленыя вочкі стаяць і цяпер у маіх вачах. Я думаю, што ўспаміны аб гэтых падзеях застануцца ў нашай памяці на ўсё жыццё, дарэчы, бацькі дзяцей выказвалі падзяку святару, што ён так усё ўдала арганізаваў.

Адбыліся некалькі выступаў у мясціне, дзе знаходзіцца ягоны прыход на ўскрайку горада Колдзінга.

Эрык наладзіў паездку на поўнач да свайго сябра Карла, памочніка ў валанцёрскіх справах. Яго мы лічым і нашым сябрам. Мы там сустрэліся з творчымі людзьмі і далі ім вялікі канцэрт. Яны зацікавіліся намі. Гаварылі з

імі аб жыцці, спявалі песні: дацкія, рускія, беларускія. Бавілі час на вялікай выдатнай пляцоўцы сада. Мы бачылі, як яны ахоўваюць тое дарагое, што маюць. Дацкая зямля вельмі дарагая. Яны клапоцяцца пра сад, кветкі.

Была ў нас сустрэча ў прыходзе, дзе яго сястра працуе святаром. У Даніі жанчына, якая скончыла вышэйшую духоўную ўстанову, можа быць рукапакладзена ў святары і весці святарскую дзейнасць. Ягоная сястра Крысціна прымала нас у сваім храме. Яна мае вялікую сям'ю. У іх многа дзетак. Прыгожы, вельмі гасцінны дом. Мы заўважылі, як пяшчотна прыхаджане адносяцца да гэтай жанчыны. Да свайго святара. Як яны яе вельмі любяць. З якім задавальненнем і любоўю яны адносяцца да яе. Як яны прыходзяць да яе. Як яны яе сустракаюць. Абдымаюцца. Якія прыгожыя іх усмешкі і радасныя твары. Мы там атрымалі вялікі зарад энергіі, добрай шчырай энергіі. Выдатны чалавечы прыём са свечкамі, размовамі. Яны ганарацца, што маюць магчымасць паразмаўляць з людзьмі з іншых краін. Гэта вельмі ўзбагачае людзей. Абмен культурамі, абмен гісторыяй. Таксама мы наведвалі цікавыя ўстановы, дарэчы, адну з школ, дзе вучаць на святароў.

Было вельмі цікава адзначыць тое, што мы бачылі плады сваёй працы, бо людзі згадвалі тую першую нашу паездку. Успаміналі людзей, якія не паехалі ў нашу паездку, цікавіліся іх жыццём. Як здароўе нашага шаноўнага спадарства Амялішкаў, як яны жывы, здаровы. Прыемна сказаць, што яны спяваюць у хоры. Перадалі ім вялікае прывітанне. Было прыемна бачыць плады нашай працы яшчэ ў тым, што мы ездзілі з ранейшымі творчымі нашымі беларускімі людзьмі — з Петрашэвічам, які, дарэчы, пакінуў вельмі шчодры след. Ён майстар не толькі пісаць вершы і складаць музыку, але рабіць выдатную разьбу па дрэве. І вось яго творы — выдатны Вікінг, які быў зроблены з вялізнага пня і пастаўлены на адным з двароў святара і зараз там. І там быў закладзены парк. У стварэнні парку працавалі ўсе харысты — па ачыстцы пляцоўкі ад травы, смецця. Абадралі кару гэтых пнёў. І зараз на гэтым месцы з задавальненнем гуляюць дзеткі. Прыходзяць яны туды амаль на цэлы дзень. Месца, дзе яны гуляюць, зараз называюць Паркам беларусаў. Гэта настолькі кранальна.

Хачу адзначыць святара Эрыка Ланк'ера, які ўсталёўвае сувязь дацка-беларускага сяброўства. Колькі ён і ягоная жонка Інге-Лізе трацяць часу на гэтую справу! Дарэчы, яна мае таксама святарскую адукацыю. Яна не працуе святаром, а выкладае ангельскую мову для эмігрантаў. Дапамагае мужу ў яго святарскай справе, таму што яна вельмі адукаваная, руплівая жанчына, сапраўдны памочнік свайму мужу. Гэта можа служыць для нас вялікім прыкладам — як у сям'і належыць ладзіць адносіны. Мы мелі магчымасць сустракацца з яго дзяцьмі, адукаванымі хлопцам і дзяўчынай, з іх суседзямі. Я хачу зазначыць, што ў Эрыка заўсёды ў ягоную хату адчынены дзверы. Фактычна яны не зачыняюцца. Туды прыязджаюць людзі

з усяго свету. Гэта гаворыць пра тое, што ён выдатны дзеяч, выдатны місіянер. Ён праводзіць вялікую асветніцкую дзейнасць. Праз рэлігію, праз святарскі погляд.

Вельмі ганаруся, што наш калектыў мае такія выдатныя сувязі з Даніяй. Гэтыя сувязі захоўваюцца да сёння. Мы перапісваемся, віншуем адно аднаго са святамі, і шчыра хачу зазначыць, што дзякуючы нашай першай паездцы 1996 года вялікая колькасць дацкіх людзей, простых людзей, дапамагаюць беларусам, дапамагаюць шчыра, аддана, дапамагаюць інвалідам, дапамагаюць людзям, якія цярпяць нястачу, дапамагаюць сем'ям матэрыяльна. Яны збіраюць рэчы. Ёсць людзі, якія па некалькі разоў на год за свой уласны кошт, за свой уласны час дапамагаюць беларусам і не шкадуюць гэтага, бо ведаюць, што робяць Божую справу. Таму я адчуваю вялікую адказнасць, і калектыў мне ўдзячны за тое, што мы як можам падтрымліваем гэтыя сувязі. Мы шчодра дорым тое, што можам.

Хацелася б, каб гэтыя сувязі наладжваліся і надалей. Таму што Беларусь не павінна быць абмежаванай краінай. Яна павінна мець стасункі з краінамі, якія жадаюць ведаць пра Беларусь, пра нашу культуру, якія жадаюць з нашымі людзьмі весці размову. Гэта па-людску, гэта Божая справа. Хай яна адбываецца заўжды.

Трэба абавязкова адзначыць канцэрт, з якім мы выступілі ў бацькоў сп. Эрыка. Я гэтым людзям вельмі ўдзячна. Сталыя людзі, яны прынялі нас з задавальненнем і не маглі не скарыстаць момант, каб паказаць сваім аднавяскоўцам і падзяліцца радасцю, што прымаюць гасцей з Беларусі. Быў канцэрт на лугу каля іх хаты. Паклікалі ўсіх сяброў, суседзяў, дзяцей, маладых людзей, каб яны пабачылі, якія госці да іх завіталі. Гэта так усіх узрушыла. Мы зрабілі фотаздымкі. Мы бачым на фотаздымках іх твары, якія свецяцца радасцю, шчасцем, усмешкамі. Яны ганарыліся, што іх сын мае магчымасць шчодра дзяліцца з людзьмі. Гэта проста падкупае — вялікі ўрок нам шчодрасці, дабрыні.

## Паездка на сёмую міжнародную ружанцовую пілігрымку ў Крылас

6–7 кастрычніка 2001 года ў Крыласе адбылася VII Міжнародная ружанцовая пілігрымка. З місійнага Таварыства святых Кірыла і Мефодзія ў Львове спн. Вера атрымала па тэлефоне паведамленне пра пілігрымку ў Крыласе (Івана-Франкоўская вобласць, Галіцкі раён). Знаёмая спн. Веры Алеся паведаміла пра тое, што 7 кастрычніка хор «Бацькаўшчына» будзе спяваць на беларускай мове акафіст Багародзіцы. Расказвае Вера Кунцэвіч:

— Гэта такія міжнародныя сустрэчы «вервіцы» — ружанцовыя сустрэчы, ружанцовыя малітвы — замацаваныя на вервіцы, або на вяроўцы, на роўных адлегласцях пацеркі. Пацерак 58. Кожнай пацерцы адпавядае свая малітва, усе яны прысвечаныя Маці Божай. Туды былі запрошаны прадстаўнікі ад Беларускай грэка-каталіцкай царквы і хор «Бацькаўшчына» для таго, каб заспяваць акафіст да Маці Божай перад цудатворным абразам мястэчка Крылас. Уражанне вялікае, таму што нашы спевы былі на месцы з'яўлення Маці Божай людзям. Туды сцякаюцца пілігрымы, і ў большасці з Заходняй Украіны, вернікі грэка-каталікі з іншых краін свету, якія моляцца да Маці Божай па-грэка-каталіцку. Наш калектыў, наша «Бацькаўшчына» гучала там, на гэтай святой галіцкай зямлі, упершыню — і па-беларуску. Трэба было там быць і бачыць рэакцыю людзей, якія слухалі наш акафіст амаль гадзіну на адкрытым паветры, глыбокай ноччу пры запаленых свечках у глыбокім, малітоўным стане, узнёслым духу. Гэта не забудзецца ніколі. Гэта застанецца на ўсё жыццё.

Пры той стомленасці, якую людзі перанеслі за доўгую дарогу, нікому не было дрэнна і ніхто не змерз, і нікому не было кепска, што ён недаеў, ці недаспаў, ці не адпачыў. Сапраўды, дзіўлюся гэтаму святому месцу. Адкуль браліся тыя сілы і адкуль браўся такі голас? Спявалі так прыстойна, чыста, так малітоўна, так гучна ля той крынічкі і капліўчкі. Людзі хацелі пабыць там хвіліну, бо сапраўды адбываліся там нейкія цуды. Адкуль бралася гэта жыватворчая энергія, каб жыць, а не проста спяваць? А як прасвятляўся розум, як сэрцу было лёгка? Гэта тлумачыць і каментаваць я не бяруся. Я проста сведчу гэты факт, што ў такім святым месцы, пры такой колькасці людзей усе былі шчаслівыя, усе задаволеныя, радасныя. Ва ўсіх светлыя лікі. Варта было пабываць там, каб адкрыць сабе вось такія цуды, якія робяцца на гэтай зямлі. З ласкі Божай, з апекі Маці Божай. Гэта ж сапраўды з'яўляецца сведчаннем таго, што сілы нябесныя апякуюцца людзьмі. Я ўпэўнілася, што вось гэтыя нашы паездкі, нашы выступы, наша ахвярная праца, прысвечаная адраджэнню беларускай духоўнай музыкі, матэрыялізуецца. З цягам часу мы проста маем падарункі. Не маючы ні сродкаў, ні падтрымкі дзяржаўных структур. На адным энтузіязме жыве калектыў аматараў, і ўвесь час мы маем нейкія сродкі. Яны проста падаюць нам з неба на нашы патрэбы. І дзякуй Богу, і ў добры час будзе сказана, хай так будзе надалей. Тая крылаская паездка паказала для мяне асабіста, што ў нас удала ідуць справы нашай працы. Я проста не перастаю здзіўляцца. Я ўдзячна лёсу, таму што калектыў мае магчымасці спяваць у такіх месцах, у такіх храмах і рабіць такую справу. Адна вялікая падзяка за наша прызнанне ў свеце.

*— А памятаеце, Вера Васільеўна, як мы сядзелі на схіле такой вялізнай гары перад часовым алтаром і слухалі ранішнюю літургію?*

— Так, памятаю. Удзельнічалі ў літургіі на вялізным полі. Прычашчаліся. І ўсё гэта нам дапамагала. Як гэта людзі па поклічы духа і сэрца рабілі такія вялікія падарожжы, менавіта каб адчуць тое, што мы адчувалі з вамі.

*— А памятаеце, як у другой палове дня быў агульны абед у клубе мястэчка Крыласа?*

— Гэта было. Справа ў тым, што вернікі тых мясцін прымалі гасцей з іншых дзяржаў, і з далёкіх месцаў. Гэта была такая апека аб пілігрымах, яны рабілі такую трапезу. На пачатку трапезы гучалі малітвы, дзяліліся сваімі перажываннямі. Там адбываліся цікавыя размовы і мы, канешне, там выступалі. Спявалі і духоўныя, і лірычныя песні. Выступалі з кавалкам праграмы, якую не спявалі ноччу, калі скончылі спяваць акафіст на агульнай пляцоўцы. Спявалі там і Багародзічныя творы. Нам не было шкада ні часу, ні сілы. Дзеля чаго ж мы ездзілі туды. Каб паказаць, што мы маем і што мы хочам паказаць тым, хто нас запрасіў.

*— Але там прыкарпацкі рэгіён. Цудоўны край. Такога ў нас не ўбачыш.*

— Безумоўна, гэта падарожжа было цудоўным падарункам нам, харыстам, і тым, хто быў з намі. Акрамя таго, там у пачатку кастрычніка прырода яшчэ прыгожая. Прыгажосць невымерная. Людзі, канешне, атрымалі багата небывалых уражанняў ад усяго ўбачанага.

## *Каляды-2001*

Рэпетыцыі хору адбываліся рэгулярна. Рыхтавалі новыя калядкі і ўспаміналі раней засвоеныя. Рыхтаваліся да юбілею.

20 снежня запрасілі нас праспяваць духоўныя песні перад навучэнцамі вучылішча бытавікоў па вуліцы Сухамбаева. Канцэрт пачаўся ў 19 гадзін і выклікаў зацікаўленасць у слухачоў тым, што яны ўпершыню чулі канцэрт на рэлігійную тэматыку і да таго ж на беларускай мове. Канцэрт слухачам спадабаўся. Яны аддзячылі нам воплескамі.

З 25 снежня пачаліся калядныя канцэрты. Спн. Вера разам з грэкакаталікамі запрасіла некаторых харыстаў прыйсці ў грэка-каталіцкую капліцу, каб павіншаваць з Божым Нараджэннем прыхаджан, з якімі харысты неаднойчы падарожнічалі як па нашай краіне, так і за яе межамі. Запрасіць усіх не было магчымасці таму, што памяшканне грэка-каталіцкай капліцы недастатковае, каб размясціць увесь хор. Перад слухачамі выступіла група хору «Бацькаўшчына» з канцэртам.

25 снежня 2001 года у 15 гадзін хор быў у поўным складзе запрошаны для ўдзелу ў літургіі і на канцэрт у Фарным касцёле, а пасля канцэрта мы пайшлі ў закрысце, каб павіншаваць святароў з Божым Нараджэннем.

Вечарам праз рэчку Гараднічанку адправіліся калядаваць да спадарства Маліноўскіх. Мы з Ліляй падняліся па стромай лесвіцы і чакалі прыбыцця асноўнай групы хору разам са спн. Верай. Калі ўдзельнікі хору сабраліся, то нас пасадзілі за стол, і там, паміж пачастункамі, мы выконвалі калядныя песні. Было весела. І ў той жа час мы ведалі, што нам яшчэ трэба пайсці ў адну сям'ю — да спадарства Мацко. Ідзём да іх. Праходзім па мосце праз Гараднічанку і па Савецкай плошчы. Нас запрасілі за стол, і пачаліся песні-калядкі. Усе засталіся задаволеныя. У гэты дзень мы прыехалі дахаты ў адзінаццатай гадзіне вечара.

29 снежня хор быў запрошаны мастакамі Гародні на калядаванне ў выставачную залу па вуліцы Ажэшкі. Там была арганізавана прэзентацыя карцін, скульптур гарадзенскіх мастакоў. Арганізатары — спадарства Мацко — прыбралі навагоднюю елку да нашага прыходу. Калі мы прыйшлі, то спн. Вера арганізавала прысутных дзяцей, харыстаў гуляць у розныя гульні вакол елкі і спяваць калядныя песні. Галоўную ролю ў гэтым свяце адыгрывалі спадарства Марыся і Юрась Мацко. Пасля канцэрта нас запрасілі за стол, які тут жа быў арганізаваны мастакамі.

## *Святкаванне дзесяцігадовага юбілею хору «Бацькаўшчына» ў студзені 2002 года*

***— Спн. Вера, раскажыце, калі ласка, як хор святкаваў дзесяцігадовы юбілей.***

— Святкаванне юбілею адбывалася 10 студзеня 2002 года. Ведаеце, калі я пачынала працаваць, у мяне ніякіх перспектыў не было. Як ствараўся калектыў, гэта ўжо намі сказана, і я, калі рыхтавалі дзесяцігоддзе, падумала: «Госпадзі Божа мой!» Дзесяць гадоў для калектыву — гэта значны кавалак часу. Асабліва ў тыя часы, калі ўсё руйнавалася, калі змяняліся ўстоі дзяржаўнасці, калі развальваўся Савецкі Саюз. Калі ўсё раптам трэснула. І ў гэты час мы павінны былі нарадзіцца. І нарадзіліся ў тыя часы перабудовы. І што дзіўна: таксама з нічога. Толькі некалькі чалавек аматараў; і дзіўна тое, што калектыў за гэты час стаў як калектыў. Набраў моцы. Падрыхтаваў некалькі праграм, мае свайго слухача. Ужо многа дзе пабываў, многа куды ездзіў. З таго часу мы больш як 200 канцэртаў далі. Гэта вялікая лічба для такога калектыву. Наш хор «Бацькаўшчына» аматарскі, яму ніхто, шчыра кажучы, не дапамагае і не дапамагаў. Мы самі гэтую справу рабілі.

***— Але ж пакрысе нам дапамагаў кіраўнік грамадскага аб'яднання «Бацькаўшчына» сп. Мікола Маркевіч.***

— Не, я маю на ўвазе дзяржаўныя структуры. Мы нарадзіліся і, дзякуй Богу, жывем. Калі дзяржава падтрымлівае калектыў, то яму лягчэй, а калі не,

людзі спадзяюцца толькі на саміх сябе. Гэта даволі складана, і тым не менш, мы дажылі да дзесяцігоддзя. Дасць Бог, дажывём да пятнаццацігоддзя. Мая думка: хай хор жыве.

Пра наша дзесяцігоддзе. Гэта быў студзень 2002 года, мы мелі вельмі многа гасцей. Наш юбілей адбыўся ў Гарадскім доме культуры. Прыйшлі заўсёдныя гледачы, людзі, якія былі зацікаўлены паслухаць наш калектыў, як мы будзем адзначаць свой юбілей. У нас у гасцях былі калектывы, з якімі мы мелі творчыя сувязі. Гэта «Гасцінец», «Нёман», польскі хор «Глос з-над Немна». Прыемна. Былі грамадскія аб'яднанні, творчая інтэлігенцыя, студэнты, пенсіянеры. Былі простыя жыхары нашага горада, нашы прыхільнікі і слухачы. Вечарына была вельмі прыгожа аздоблена, многа падарункаў. Харысты засталіся задаволенымі. Безумоўна, я была шчаслівая на той момант. Я да хору ставілася як да свайго дзіцяці, параўноўвала яго з уласным сынам маленькім; і так увесь час параўноўваючы, кладучы на шалі, што для мяне першаснае, я, шчыра кажучы, сына свайго недзе абдзяляла ўвагаю, таму што яго гадаваў хор «Бацькаўшчына». Таму хор для мяне жывая істота, нейкая асабліва вялікая Бацькаўшчына. Я цешылася тым, што мы годна паказалі сваю праграму. Мелі вельмі многа прыемных водгукаў, добрых слоў, запісаў, якія кудысьці зніклі. Шкадую пра гэта вельмі. Да дзесяцігоддзя мы добра падрыхтаваліся. Наглядна паказана геаграфія нашых паездак: харысты зрабілі такую карту, дзе былі паказаны паездкі хору. Людзі дзівіліся іківалі галовамі: ой-ой-ой, як многа промняў у розныя бакі свету: Еўропы, блізкага замежжа, Прыбалтыкі, Украіны і Польшчы. І нашы сляды былі на тых шляхах. Было вельмі прыемна, што людзі здзіўляліся таму, як змог калектыў непрафесіяналаў даць столькі канцэртаў за гэты час, улічваючы тое, што ўсе канцэрты былі дабрачынныя. Прысутныя задумваліся, які гэта пласт работы. Колькі людзі ахвяруюць свайго часу, здароўя. Я была вельмі ўдзячна харыстам і казала са сцэны іх блізкім аб тым, што яны церпяць ад таго, што харысты адрываюць свой час ад сям'і, прыходзяць і аддаюць свой Божы дар — голас, каб спяваць у калектыве. Гэта дарагога каштуе. Для мяне гэта вельмі важная падзея. Было вельмі прыемна чуць водгукі прафесіяналаў аб нашым калектыве. Ад гэтага мы не сталі горшымі — сталі лепшымі. Мы вельмі ўдзячны шаноўнаму кампазітару сп. Яўгену Петрашэвічу за творы, якія ён нам падараваў. За эксклюзіўныя творы, напісаныя спецыяльна для нашага калектыву да дзесяцігоддзя на словы шаноўнага сп. Ю. Сіткевіча. Гэта прысвечаны нам твор «Багаслаўлёнае імгненне», які стаў застаўкай на нашых канцэртах.

# Паездка ў Брэст 9 сакавіка 2002 года

Збор, як заўсёды, адбываўся на Савецкай плошчы ля Палаца культуры тэкстыльшчыкаў. Выязджаем зранку і едзем праз мястэчка Лунна. Наш гід Лапеха ў часе руху расказвае аб цікавых мясцінах, якія мы праязджаем, аб вёсцы Квасоўка — цэнтры калгаса «Кастрычнік», аб вёсцы Свіслач, аб палацы ў гэтай вёсцы. Пра мястэчка Лунна з царквой і касцёлам у цэнтры. Далей мы накіраваліся па спрошчанай дарозе, якая мінае амаль усе буйныя вёскі, у тым ліку Рось, раённы цэнтр Ваўкавыск, што значна скараціла наш шлях, і трапілі на дарогу да мястэчка Ружаны. Трэба заначыць, што мікрафон, якім карыстаўся Лапеха, пастаянна псаваўся і яго расказ часцяком нагадваў камічную балбатню. 10 гадзін — і мы ўжо ў Ружанах. Гэта мястэчка цікава тым, што там у XVI–XVII стагоддзях жылі вядомыя беларускія магнаты Сапегі. Усе тыя архітэктурныя каштоўнасці, якія захаваліся да нашых дзён, цяпер амаль у руінах. Мы бегла агледзелі іх, напаўразбураную сінагогу, былую ўніяцкую царкву, перабудаваную ў канцы XIX стагоддзя пад праваслаўную (цяпер яе назва — Петрапаўлаўская царква). Наведалі яе, пазнаёміліся з архітэктурай літаральна за 5 хвілін, затым падышлі да пружанскага касцёла, насупраць якога знаходзіцца герб горада, замацаваны на пастаменце. Гэта выява караля Казіміра ў абрамленні руж.

Пасля паехалі аўтобусам і затрымаліся ля велічнага замка Сапегаў. Памеры яго ўражваюць; па словах гіда, замак дзейнічаў як велічнае культурнае збудаванне яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя. З ліквідацыяй ВКЛ замак прыйшоў у заняпад, а затым быў зруйнаваны, і цяпер нават няма планаў яго адбудовы. Пасля едзем у Косава — гэта ўжо Івацэвіцкі раён. Мне там і раней даводзілася неаднойчы бываць і бачыць замак магнатаў Пуслоўскіх, які сваёй велічнасцю ўражвае. Пачулі, што гэты замак будзе рэстаўрыравацца. Ён быў разбураны ў 1943 годзе партызанамі, як і большасць замкаў Беларусі. І ўсё гэта апраўдвалася тым, што там жылі немцы. Непадалёку ад замка на паўночным баку хутар Марачоўшчына, дзе нарадзіўся вядомы змагар за ідэалы ВКЛ, Польшчы, Амерыкі Тадэвуш Касцюшка. Ад месца яго нараджэння застаўся толькі камень з памятнай дошкай.

Далейшы наш шлях пралягаў праз раённы цэнтр Івацэвічы ў Бярозу. Раней, пры Польшчы, мястэчка называлі Картуз Бяроза. Праехалі каля прыгожай Петрапаўлаўскай царквы з пазалочанымі купаламі і прыпыніліся ля Картэзіанскага кляштара — вядомай турмы, дзе ўтрымліваліся заходнебеларускія палітзняволеныя, у тым ліку і былы старшыня Вярхоўнага Савета БССР Сяргей Осіпавіч Прытыцкі. Па яго гісторыі ў свой час быў зняты мастацкі фільм «Кленовые листья». Бегла агледзелі кляштар і едзем у горад Кобрын. Прыпыняемся а першай гадзіне і ідзём на экскурсію —

знаёміцца з некаторымі архітэктурнымі збудаваннямі, перабудаванымі ўніяцкімі цэрквамі і Картэзіянскім кляштарам.

У 16 гадзін мы ўжо ў Брэсце. Нас сустракае там ля гатэля «Веста» Алена Беркут, старшыня аб’яднання жаноцкіх арганізацый Брэста. Па яе запрашэнні мы і прыехалі. Нас размясцілі ў шыкоўных нумарах гатэля і тут жа запрасілі на абед. Пасля да 18 гадзін адпачываем, а затым у фае 5 паверха — перадканцэртная рэпетыцыя, якая закончылася а 19.00. Ідзём у галоўны касцёл горада на плошчу Леніна, дзе а 19.30 адбыўся канцэрт духоўнай музыкі. Выканалі там больш за 15 духоўных і патрыятычных песень. На канцэрце прысутнічала прыкладна каля ста слухачоў, у асноўным кіраўнікі грамадскіх арганізацый горада і вобласці. Арганізатарам была ўсё тая ж Алена Беркут. Пасля канцэрта быў наладжаны ў фае гатэля фуршэт. Разам з гаспадарамі ўдзельнікі хора «Бацькаўшчына» частаваліся і спявалі розныя песні да першай гадзіны ночы. Раніцай пасля снедання была арганізавана прэс-канферэнцыя, якую вяла Алена Беркут на ўкраінскай мове. Выступілі Вера Кунцэвіч, Міхась Амялішка, Святлана Маразевіч, кіраўнік рускай абшчыны Брэста, прадстаўнік польскага хору і іншыя.

У 12 гадзін сядаем у аўтобус і едзем у Брэсцкую крэпасць. Гэта зусім недалёка ад гатэля. У крэпасці аглядаем тэрыторыю помніка, затрымліваемся ў рэстаўрыраванай былой гарнізоннай царкве, апускаемся ў яе скляпенні і там выконваем чатыры песні-малітвы, з іх тры па-беларуску, чацвёртую на старaславянскай мове. Мы там убачылі вельмі цікавы алтар і іканастас з розных каштоўных парод дрэў. Пасля група ўдзельнікаў хору пазнаёмілася з раскопкамі старажытнага паселішча Бярэсця, якое датуецца IX стагоддзем. Раскопкі размяшчаюцца за ракой Буг. Уважліва разглядаем, знаёмімся з раскопкамі паселішча і вяртаемся да аўтобуса.

У 16 гадзін едзем у напрамку на Камянец, дзе знаёмімся з Белай Вежай і прыгожай камянецкай царквой. Пасля трапляем у горад Пружаны, затрымліваемся ля пружанскай царквы. Пачынае цямнець, і мы едзем у напрамку Гародні.

14 сакавіка хор удзельнічае ў пасяджэнні «Паходні» з нагоды памяці Міхася Ткачова. Пасяджэнне праводзілася а 19 гадзіне ў ГДК. Выступалі ўдзельнікі «Паходні», якія сустракаліся з Ткачовым. З вялікай прамовай выступіў прафесар Пяткевіч. Хор праспяваў некалькі патрыятычных і духоўных песень у гонар Ткачова.

4 красавіка хор удзельнічаў у пасяджэнні клуба «Паходня», якое адбылося з нагоды гадавіны нараджэння Браніслава Тарашкевіча. З прамовай выступілі сп. Пяткевіч і група студэнтаў. Хор «Бацькаўшчына» выканаў некалькі духоўных песень.

6 чэрвеня адбыўся канцэрт хору «Бацькаўшчына» на выставе мастакоў у гонар вядомага беларуса, сябра Адама Міцкевіча Ігната Дамейкі. Гэты чалавек паходзіў з вядомага шляхецкага роду Дамейкаў. Нарадзіўся ў

1802 годзе ў вёсцы Мядзведка непадалёку ад мястэчка Паланэчка ў радавым маёнтку Дамейкаў. Гэтая мясціна непадалёку ад маёй радзімы — усяго 10–15 кіламетраў. На такой жа адлегласці яго радзіма знаходзіцца ад Туганавіч, дзе ён і яго сябра Міцкевіч сустракаліся ў маёнтку Верашчакаў. Адам Міцкевіч пакахаў на ўсё жыццё Марылю Верашчаку і прысвяціў ёй шмат вершаў. Трэба дадаць, што Ігнат Дамейка гасцяваў у памешчыкаў Слізняў у вёсцы Бортнікі ў доме, які існуе да сёння. У свой апошні заезд на радзіму, а гэта адбылося ў канцы XIX стагоддзя, ён не абмінуў Бортнікі. У памешчыкаў Слізняў быў самым дарагім госцем. Дачка Яна Слізня Юзэфа была замужам за ягоным старэйшым братам. Яна сустракалася з Янам Чачотам у той час, калі ён гасцяваў у маёнтку Бортнікі. Захаваўся ліст Яна Чачота да Юзэфы Дамейкі, напісаны ім 9 лютага (каля 1933–1939 гадоў), у якім ён просіць Юзэфу сабраць бортніцкія песні (дажынкавыя, купальскія і г. д.) і выслаць яму гэтыя «простанародныя песні, мала кім чутыя і заўважаныя, вельмі прыгожыя і дзівосныя». Ян Чачот — вядомы збіральнік песень, першы паэт, які пісаў свае вершы на беларускай мове, у юнацтве часцяком сустракаўся з Ігнатам Дамейкам.

І вось у 2002 годзе 6 чэрвеня хор «Бацькаўшчына» праспяваў тры песні ў гонар вядомага беларуса, чалавека, які ўвесь свой талент аддаў чылійскаму народу. Ён быў першым рэктарам ва ўніверсітэце Сант'яга, сталіцы Чылі. Пасля смерці Дамейкі чылійцы ўшанавалі ягоную памяць. Назвалі яго імем адзін з гарадоў, горны хрыбет, фіялку, і нават зараз чылійцы лічаць яго «grande adukator»— вялікім педагогам, які зрабіў шмат добрых спраў у падрыхтоўцы кадраў вучоных гэтай краіны. На жаль, ягоная мара здзейснілася не на радзіме, а ў Чылі, краіне, куды ён прыехаў па рэкамендацыі Адама Міцкевіча на пяць гадоў, а пражыў усё сваё жыццё. Чаму ён не на радзіме пражыў усё сваё свядомае жыццё? На гэтае пытанне можна даць дакладны адказ, калі вывучыць ягоную біяграфію. Самы малодшы з сяброў філаматаў-філарэтаў, ён — удзельнік гэтага руху, які ставіў мэтай пашырэнне адукацыі мясцовага люду, а ўрэшце і ліквідацыю прыгоннага права, а гэта не падабалася царскім уладам. Філаматаў-філарэтаў арыштоўваюць і адпраўляюць у Сібір. У ссылцы быў і Адам Міцкевіч. Ігната Дамейку адправілі на высылку пад нагляд паліцыі ў Лідскі павет. У 1830–1831 гадах ён далучыўся да паўстання Якуба Ясінскага. Пасля паразы паўстання апынуўся ў Прусіі, а адтуль паехаў у Францыю. Там сустрэўся з Адамам Міцкевічам, з якім стала сябраваў. Ігнат Дамейка застаўся жыць у Парыжы і вучыўся ў Каледж-дэ-Франс. Набыў спецыяльнасць геолага-мінеролага і паехаў па прапанове Адама Міцкевіча ў Чылі. Там ён арганізуе ўніверсітэт па тыпу віленскага. Царскі ўрад не мог даравацъ яму ягоныя рэвалюцыйныя настроі, а тым больш дазволіць вярнуцца ў больш раннія тэрміны на радзіму. Вярнуўся толькі тады, калі

стаў заслужаным дзеячам навукі з сусветным імем, ды і то на кароткі час, каб развітацца з радзімай.

11 чэрвеня ў Гародні прайшоў фестываль нацыянальных культур. Хор «Бацькаўшчына» афіцыйна ў ім не ўдзельнічаў, аднак Вера Кунцэвіч запрасіла 7 чэрвеня прыйсці на сустрэчу са спн. Беркут а 19 гадзіне на Савецкую плошчу насупраць Фарнага касцёла. Там быў мой унук Дзіма, які расказаў мне, што ўдалося выступіць хору і праспяваць некалькі духоўных песень. На гэтай пляцоўцы выступалі і іншыя мастацкія калектывы. Па яго словах, спевы хору «Бацькаўшчыны» адрозніваліся значна лепшым майстэрствам.

## З канцэртамі ў Літву па запрашэнні ксяндза Анатоля Маркоўскага

4 мая 2002 года мы з Ліляй прыйшлі на прыпынак «Фіялка» па вуліцы Горкага, дзе было нам сказана чакаць аўтобуса. Тут быў Ігар Лапеха, які рыхтаваў рыштунак, што патрэбна было ўзяць з сабою, каб па магчымасці выкарыстаць для начлегу. Мы рыхтаваліся і да такога варыянту, таму што спн. Вера сказала, што магчыма нам давядзецца начаваць у палатках. У прызначаны час па нас прыехаў аўтобус. На беларускім баку мяжы нас доўга не затрымалі.

Каля 11 гадзіны паехалі ў напрамку мястэчка Тракай, дзе ёсць адрэстаўраваны замак XIII стагоддзя. Замак бачны здаля і месціцца на выспе, што знаходзіцца на возеры, якое цягнецца далёка за далягляд. Да замка збудаваны драўляны мост, па якім можна падысці да сцен гэтага велічнага збудавання. З замкам звязаны імёны нашых продкаў: Кейстута, Вітаўта і Ягайлы. У замку ёсць музей. Пасля прагляду музея выходзілі і аглядалі яго звонку, а іншыя з адлегласці з паўкіламетра, з пляцоўкі, на якой стаяў наш аўтобус. Аўтобус стаяў на ўзвышшы, з якога замак бачны як на далоні. Пасля агляду пачалі рухацца ў напрамку Вільні.

А 15 гадзіне дня прыехалі ў Вільню, паставілі аўтобус на адной з цэнтральных вуліц і гадзіны дзве хадзілі па горадзе. Экскурсію праводзіў харыст Лапеха. У вызначаны час вярнуліся, поўныя ўражанняў, у аўтобус і па лабірынтах віленскіх вуліц рушылі ў напрамку полацкай шашы. Вільня размяшчаецца на пагоркавай мясцовасці. Яе перасякае рака Вілія, якая нясе свае воды ў Нёман.

Далей мы рухаліся па краі, дзе ўсе мясцовыя рачулкі ўпадаюць у Вілію і маюць назвы, сугучныя з назвай Віліі. Праехалі мястэчка Новая Вільня і неўзабаве апынуліся ў вёсцы Лаварышкі. Там нас ужо чакаў ксёндз Анатоль і запрасіў у панадворак сваёй плябаніі на кубачак кавы.

Добра падсілкаваўшыся, мы пачалі рыхтавацца да канцэрта, які павінен быў адбыцца ўвечары. На канцэрт нас прывезлі ў мясцовую школу, дзе ў спартыўнай зале мы выступілі з вялікім рэпертуарам як духоўных, так і патрыятычных песень. На канцэрце прысутнічалі святар Анатоль і жыхары вёскі Лаварышкі. Канцэрт меў добры поспех і закончыўся тым, што спн. Вера пазнаёміла прысутных з харыстамі. Аб кожным з нас штосьці сказала.

Пасля канцэрта нас павезлі ў вёску Кена, дзе меліся начаваць. Калі мы прыехалі ў вёску, якая месціцца на поўдні ад Лаварышкаў, то нас чакалі сяляне, якія па просьбе святара Анатоля прыйшлі, каб запрасіць нас на начлег у свае хаты. Калі выйшлі з аўтобуса, а было зусім цёмна, да Лілі падышла мясцовая жыхарка Яніна і запрасіла нас да сябе. Яна прапанавала мне і Ліліі сесці ў аўто і сказала, што яна гатова ўзяць не двух, а чатырох чалавек. Мы прапанавалі спадарам Сіткевічам паехаць начаваць разам з намі. Селі ўсе ў аўто і праз пару хвілін прыехалі на панадворак Велічанскіх. На парозе нас сустракала дачка гаспадыні Яніны Алена. Нас прывялі ў вялікі пакой аднапавярховага дома, дзе мы і размясціліся. Вёска Кена з невялікім прыгожым драўляным касцёлам населена пераважна каталікамі, якія перасяліліся сюды з розных месцаў Беларусі, больш за ўсё з Астравецкага раёна. Яны лічаць сябе палякамі бадай таму, што касцёл вядзе службу на польскай мове. І ў той жа час у сям'і размаўляюць па-беларуску.

Раніцай 5 мая пасля адпачынку ў Велічанскіх пайшлі пехам разам з гаспадыняй Янінай і яе дачкой Аленай у касцёл, які носіць імя Божай Маці Вострабрамскай. Сям'я Велічанскіх змешаная: Яніна лічыць сябе полькай, а яе муж Ібрагім — мусульманін. Маюць двух сыноў і дачку. Адзін ужо служыў у войску. Дачка вучылася ў той час у адзінаццатым класе, малодшы сын — у пятым ці шостым. Пры выхадзе з дому сфатаграфаваліся. Каля касцёла ўжо чакалі нас нашы харысты, віталі воклічам «Хрыстос уваскрос!». Хрыстосаваліся па праваслаўным звычаі.

У 10 гадзін пачалося набажэнства. Нам прапанавалі падняцца на хоры касцёла разам з мясцовымі харыстамі, каб удзельнічаць у імшы. Ксёндз Анатоль вёў імшу на польскай мове і калі-нікалі рабіў неабходныя тлумачэнні на беларускай мове. Інфармаваў прыхаджан, што ў імшы ўдзельнічае хор духоўнай музыкі з Гародні. Мы ўдзельнічалі ў імшы і спявалі на польскай, лацінскай мовах, але ў асноўным па-беларуску. Па імшы на адыход праспявалі па-беларуску некалькі духоўных песень.

Пасля хроснага ходу вакол касцёла едзем у Лаварышкі — цэнтральны парафіяльны касцёл, каб удзельнічаць там у імшы. Прыехалі. Падымаемся на хоры велічнага касцёла. Імша працягваецца больш за гадзіну. Заканчваем імшу выкананнем духоўных песень.

Зноў сядаем у аўтобус разам са святаром Анатолем, едзем на цэнтральную шашу і рухаемся на ўсход у касцёл Масцішкі, які знаходзіцца прыкладна за 7 кіламетраў ад парафіяльнага касцёла. Гэты касцёл нагадвае

вялікіх памераў збудаванне накшталт нашага клуба. Хор «Бацькаўшчына» прывялі і размясцілі з левага боку ад алтара. У гэтым касцёле мы выконвалі асноўную ролю ў спяванні кананічных песень. У канцы святар Анатоль расказаў прыхаджанам, хто мы такія, і прапанаваў ім паслухаць фальклорныя і патрыятычныя песні на пляцоўцы перад уваходам у касцёл. Надвор'е ў той час было цудоўным. Мы выйшлі на прыступкі касцёла і пачалі перад прыхаджанамі спяваць песню «О Беларусь, мая шыпшына». Наступную песню прапануе праспяваць святар Анатоль «Ой, хацела ж мяце маці…», якую мы экспромтам праспявалі разам з прыхаджанамі. Пасля спявалі песню пра прымака — салісты Лапеха і Кунцэвіч. Прагучала «Многае лета», а нарэшце беларускае «Бывайце здаровы, жывіце багата». У канцы мясцовы хор у падзяку нам выканаў песню на польскай мове. Выступленне ўзнагароджана бурнымі воплескамі.

Развіталіся і паехалі ў Лаварышкі, дзе чакаў нас абед у гасцінным пакоі ксяндза Анатоля. Спачатку айцец Анатоль падзякаваў хору «Бацькаўшчына» за тую работу, якую ён выканаў ва ўсіх трох касцёлах. Падзяліўся з намі сваімі планамі, сказаў, што ён мае намер працаваць у гэтай мясцовасці не менш як пяць гадоў, а пасля збіраецца падаваць прашэнне Папу Рымскаму, каб яго перавялі ў святары грэка-каталіцкай царквы і дадаў, што яму падабаюцца спевы гэтай царквы і ўвогуле спевы праваслаўнай царквы. Далей ён зазначыў, што восенню, 8 верасня, у вёсцы Кена ў касцёле будзе вялікае свята — асвячэнне іконы Божай Маці Вострабрамскай. На гэтым свяце будуць прысутнічаць біскуп віленскі і шмат духавенства, прыхаджан, у сувязі з гэтым святар запрасіў хор «Бацькаўшчына» прыехаць на гэтае свята. У якасці падарунка ксяндзу Анатолю і тым жанчынам, якія рыхтавалі абед, хор праспяваў вядомую беларускую народную песню «Шумяць вербы». Святар у сваю чаргу праспяваў перакладзеную ім самім з літоўскай мовы на беларускую песню-гімн. Выкананне было на высокім мастацкім узроўні і так цудоўна прагучала, што мы ўсе былі ўражаны майстэрствам выканаўцы. Па прапанове пробашча жанчыны, якія рыхтавалі абед, выканалі па-беларуску некалькі калядак, якія яны спявалі раней, калі ўдзельнічалі ў мясцовым хоры.

## *Другая паездка хору «Бацькаўшчына» ў Кодынь. Май 2002 года*

Пасля цёплага прыёму ў Кодыні нашай кіраўніцы спадарыні Веры Кунцэвіч і спн. Веры Ярмошынай вясной 2001 года хор у поўным складзе запрасілі афіцыйна для ўдзелу ў канцэрце ў касцёле Святога Духа. Пра паездку расказвае Вера Васільеўна:

— У наступным годзе мы прыехалі жаданымі гасцямі ў Кодынь з вялікай праграмай, у якую ўваходзілі творы каталіцкія, грэка-каталіцкія і праваслаўныя. Удзельнікам рэкалекцый — каталіцкаму духавенству, жыхарам мястэчка Кодынь — было вельмі прыемна быць на канцэрце, дзе амаль усе песні гучалі па-беларуску. Яны такога выканання на блізкай ім мове раней ніколі не чулі. А там прагучаў цэлы пласт твораў беларускіх аўтараў па-беларуску. Такі поспех нас натхніў, і мы сталі рыхтавацца яшчэ больш, і праз год былі таксама жаданымі гасцямі.

25 мая прыехалі на мяжу ў пасёлак Пагранічны, які размяшчаецца за Бераставіцай па дарозе на Беласток. Праехалі польскую мытню. Спазняемся. Едзем ад Баброўнікаў па шашы на Беласток і праз нейкі час паварочваем на Гарадок. Наш шафёр упершыню едзе па гэтым маршруце, таму было некалькі такіх выпадкаў, калі аўтобус прыпыняўся і ехаў у адваротным напрамку. Дарогі выбранага маршруту аказаліся не з лепшых, таму нам удалося прыехаць у Кодынь толькі пасля 18 гадзіны. На абед мы спазніліся. Наш канцэрт па плану павінен быў пачацца ў сапегаўскім касцёле Святога Духа а 20 гадзіне, а пачаўся са спазненнем і доўжыўся больш як дзве гадзіны. Прысутныя аддзячылі нам бурнымі воплескамі і асабліва былі задаволены, калі мы пачалі на польскай мове выконваць песню, прысвечаную Папу Яну Паўлу II «Абба Ойча». Прысутныя ў залі, пачуўшы гэтую песню-гімн чалавеку, якога яны любяць і паважаюць, спявалі разам з намі. Трэба было быць у гэты момант у залі касцёла, каб адчуць еднасць усіх прысутных. Канцэрт закончваўся а першай гадзіне ночы нашым гімнам «Магутны Божа». Усе прысутныя ўсталі і былі ўдзячны нам за тое, што мы, беларусы, паказалі ім, якім музычным багаццем валодаем. Яны зразумелі, што нам удалося захаваць і зберагчы значную частку культурнай спадчыны, нягледзячы на той пераслед рэлігіі пры бальшавізме, і ўрэшце паказаць яе суседзям; гэта яны пачулі ўпершыню.

Першая гадзіна ночы. Мы разам з людскім натоўпам ідзём ад славутай нашай агульнай святыні праз мост над невялікай ракой Каламанкай, якая ўліваецца тут жа ў больш шырокую раку Заходні Буг, і чуем, як адзін паляк са шкадаваннем сказаў: «Czemu nasze kobiety nie umieją tak ladnie spiewać?» Гэтае выказванне для мяне было самай вялікай пахвалой нашаму канцэрту.

Позні час. Харысты сядаюць у аўтобус, і мы едзем адпачываць у прызначанае нам месца, на адлегласці ад мястэчка Кодынь каля дзесяці кіламетраў. Спераду наша аўто суправаджае ксёндз Караль на сваім легкавіку да самага месца адпачынку; упэўніўшыся, што мы добра ўладкаваліся, пакідае нас, едзе на адпачынак.

Мы з Ліляй размясціліся на канапе ў пакоі аднаго з дамоў, прызначаных для пілігрымаў. А больш маладыя разам з нашай Верай у двары разлажылі свае прыпасы, пачалі частавацца. Запрашалі нас. Аднак, спасылаючыся на

позні час, мы адмовіліся. Яны сядзелі там, пакуль не развіднела. І тады пайшлі спаць. Я падняўся рана і пайшоў знаёміцца з той мясцінай, куды нас прывезлі познім вечарам. Комплекс дамоў быў добра дагледжаным. Мне падалося, што тут клімат значна цяплейшы, чым у нас, растуць дрэвы і кветкі, якія на Гарадзеншчыне не часта ўбачыш. Уся тэрыторыя абсаджана грэцкімі арэхамі. Расліны і дрэвы больш развітыя, чым у нас. Я пайшоў па сцежцы, выкладзенай пліткай, і ўбачыў там штучнае азярцо, якое акалялі незнаёмыя мне кветкі. Вярнуўшыся назад, сустрэў Івана Мармыша, і мы разам зайшлі ў капліцу. Маладыя харысты яшчэ спалі.

Неўзабаве мы едзем па той дарозе, па якой ноччу ехалі на адпачынак. Прыехалі ў Кодынь і затрымаліся там, дзе ўчора стаяў наш аўтобус. Вышлі з аўто і сфатаграфаваліся на памяць.

Перад снеданнем заставаўся нейкі час, і мы пайшлі да сапегаўскага касцёла Святога Духа, каб перад сваім ад’ездам дахаты падрабязна пазнаёміцца з ягоным наваколлем. Убачылі там выкананы скульптарамі крыжовы шлях Хрыста, які заканчваецца месцам пахавання Хрыста ў скляпенні пад сапегаўскай збройняй. Зрабілі некалькі здымкаў і пайшлі на сняданак.

Па плану мы тут жа павінны ад’ехаць дахаты, а па дарозе заехаць у мястэчка Кастамлоты і наведаць грэка-каталіцкую царкву, якая цудам захавалася дзейснай да нашых дзён. Развітаўшыся з Кодынем, едзем у Кастамлоты і прыкладна ў 11 гадзін прыпыняемся на пляцоўцы ля царквы. І бачым сапраўдную грэка-каталіцкую царкву невялікіх памераў з характэрнымі ўніяцкімі купаламі. Знаёмімся. На першым плане бачым званіцу, якая пабудавана ў дзесяці метрах насупраць фасада царквы. Увайшоўшы ў царкву, можна ўбачыць іконы з лікамі Хрыста і Божай Маці, намаляваныя іконапісцамі на дошках з адмысловых парод дрэў.

Тут жа неўзабаве пачалі падыходзіць прыхаджане. Яны ўжо ведалі, што да іх сёння на літургію прыедзе хор духоўнай музыкі з Беларусі. І таму яны пачалі збірацца ля нас, знаёміцца. Спн. Вера арганізавала спевы народных песень ля званіцы. Мы спявалі, а паступова да нас далучаліся прыхаджане. Колькасць прыхаджан павялічвалася. Літургію вырашылі правесці насупраць капліцы, якая ўваходзіць у комплекс забудоў уніяцкай царквы. Пакуль хор займаў прыхаджан песнямі, мясцовыя, пераважна мужчыны, прынеслі на пляцоўку неабходную колькасць крэслаў для таго, каб арганізаваць літургію на паветры. Алтаром паслужыла капліца, дзе размясціліся святары.

Хор «Бацькаўшчына» пасадзілі на першым радзе крэслаў. Надвор’е было цёплым. Неба бязвоблачным. Сонца пякло неміласэрна. Тэмпература да гэтай пары сягнула звыш 30 градусаў. Харысты былі апрануты ў чорныя пінжакі. Цяжка было трываць такую спёку. Спн. Вера дазволіла мужчынам зняць свае чорныя пінжакі і спяваць у белых кашулях. Калі ўсе месцы былі

заняты, святар Кодынскага касцёла айцец Караль абвясціў прысутным, што ў сённяшняй імшы будзе ўдзельнічаць хор з Беларусі «Бацькаўшчына».

Пачалася літургія малітвай «Дай, добры Божа». Беларускамоўную службу ўзначаліў архімандрыт Сяргей Гаек, апостальскі візітатар для грэка-каталікоў Беларусі, а хор «Бацькаўшчына» сумесна з мясцовым кастамлоцкім царкоўным хорам выконваў літургічныя спевы-малітвы. Літургія доўжылася паўтары гадзіны. Пасля хор «Бацькаўшчына» выступіў з невялікім канцэртам. Выканаў тыя духоўныя песні, якія не прагучалі ў святой літургіі. Закончыў песняй-гімнам «Магутны Божа» і на развітанне з гэтымі гасціннымі грэка-каталікамі праспяваў ім «Многае лета».

Літургія скончана. Нас запрасілі ў мястэчковую сталовую на абед. А пасля развітання з праважаючымі нас грэка-каталікамі сядаем у сваё аўто і праз пару дзясяткаў хвілін выязджаем на трасу Брэст–Варшава. Пасля зварочваем на беластоцкую дарогу і ў 20 гадзін затрымліваемся каля супермаркета ў Беластоку.

## *Паездка ў Будслаў 1 ліпеня 2002 года*

Увесь май і чэрвень харысты наведвалі рэпетыцыі, а ў канцы чэрвеня спн. Вера паведаміла нам, што грэка-каталікі запрасілі нас у Будслаў, дзе кожны год адбываецца святкаванне іконы Божай Маці Будслаўскай. Нам запланавалі праспяваць акафіст да Божай Маці 1 ліпеня а 21 гадзіне. Адправіліся мы туды, як звычайна, з Савецкай плошчы. У гэтай паездцы я заняў месца за столікам, каб на прыпынках пісаць. Едзем у Будслаў з хорам другі раз. Упершыню мы былі там у такую ж летнюю пару яшчэ ў 1993 годзе і выконвалі там літургічныя спевы на імшы, якую адпраўляў біскуп Казімір Свёнтак. Гэтае мястэчка вядомае сваім касцёлам і цудатворным абразам Маці Божай Будслаўскай.

Прыехалі ў Будслаў а 20 гадзіне. Знаёміліся з мясцовасцю. Перад нашым прыездам ля касцёла ў некалькі гектараў разраўнялі, засыпалі пяском і засеялі адмысловай травой пляцоўку на беразе балоцістай ракі Сэрвечы. На флагштоках пляцоўкі былі развешаны сіня-белыя сцягі. Мы павінны спяваць акафіст Божай Маці а 21 гадзіне, а фактычна пачалі спяваць у 21 гадзіну 30 хвілін. Сапсавалася надвор’е, пачаўся моцны дождж. На сцэне, дзе мы павінны былі выступаць, выступаюць польскія моладзевыя гурты. Не зважаючы на інтэнсіўны дождж, яны не саступаюць нам пляцоўку. Іх спевы адрозніваюцца ад нашых тым, што яны выконваюць рэлігійныя песні на сучасныя мелодыі і рытмы. Іх выступ зацягнуўся амаль на 20 хвілін, таму спяванне акафіста пачалося са спазненнем. Свята пачалося 1 ліпеня ў 12 гадзін літургіяй і працягвалася да абеду другога дня.

Касцёл, які будаваўся ў XVI–XVII стагоддзях, мае велічны выгляд. Калі пад'язджаеш да Будслава, то яго вежы ў пагоднае надвор'е можна ўбачыць на значнай адлегласці. Касцёл быў сведкам шматлікіх падзей. З надыходам савецкай улады быў зачынены. Аднавіў сваю дзейнасць як святыня ў канцы XX стагоддзя. Ікона Божай Маці Будслаўскай пацярпела здзекі бязбожнікаў. Па ёй стралялі з аўтамата. Аднак зараз яна адрэстаўравана і захоўваецца ў касцёле на самым пачэсным месцы. Калі-нікалі яе вывозяць як вялікую святую рэліквію ў іншыя раёны Беларусі. Размяшчаюць яе ў цэнтры мясцовага касцёла, куды прыходзяць вернікі, каб пакланіцца, памаліцца да Маці Божай Будслаўскай. І так яна вандруе па ўсёй Беларусі. Сталае ж яе месца ў Будслаўскім касцёле, які пабудаваны манахамі-езуітамі. Яны прыбылі сюды на распрацоўку лесу, які сплаўлялі па рацэ Сервэч.

Акафіст доўжыўся каля гадзіны. У канцы мы сышлі з прыступкаў сцэны і хацелі ісці адпачываць, але айцец Зміцер Грышан, які апекаваўся грэка-каталікамі, якія прыехалі на свята, вярнуў нас і прапанаваў праспяваць у дадатак некалькі духоўных песень там, дзе мы выконвалі акафіст. Мы зноў падняліся на сцэну і пачалі спяваць песні з нашага рэпертуару. Гэта доўжылася каля 20 хвілін. Пасля ўсе мы пайшлі хто куды, ў асноўным да нашага аўтобуса, які размясціўся на абочыне дарогі ля старога млына, які зараз не дзейнічае. Калі мы агледзелі яго, то заўважылі перад ім каменныя жорны, якія ў беспарадку ляжаць насупраць будынка. Выгляд млына і ўсяго, што размяшчаецца каля яго, не з прыемных. Відаць, калісьці гэты млын быў неабходны людзям: малоў зерне, рабіў муку, крупы, пытляваную муку — вышэйшага гатунку. Усе механізмы млына прыводзіла ў рух энергія падаючай вады, якая пастунала з запруды ракі. Утваралася невялікіх памераў возера, вада падымалася на некаторую вышыню і падала на лопасці турбіны, круціла яе, а яна прыводзіла ў рух гэтыя жорны, якія валяліся зараз як штосьці непатрэбнае. Відаць, млынароў рэпрэсіравалі, а млын без гаспадароў прыйшоў у заняпад. Былая савецкая дзяржава палічыла нерэнтабельным мець такі млын, таму што з'явіліся новыя магчымасці — электрычнасць, а танную энергію вады палічылі драбязой — млын псаваў сацыялістычны размах пабудовы камунізму…

А выкананне праграмы свята працягвалася. Мы — гэта я і яшчэ адна жанчына з грэка-каталіцкай царквы з Гародні — стаялі ў чарзе, каб паспавядацца ў царкве ў айца Зміцера, святара адной з парафій Віцебска, які спавядаў насупраць касцёла ў мікрааўтобусе. Святар Зміцер быў прызначаны служыць у Віцебску. Ён вельмі сур'ёзна аднёсся да споведзі і кожнага, хто да яго прыходзіў, спавядаў не менш як 20 хвілін.

Калі мы вярнуліся да аўтобуса, то харысты і пілігрымы рыхтаваліся, каб далучыцца роўна а 24 гадзіне да хроснага ходу, які планавалася правесці са шматлікімі пілігрымамі. Хросны ход узначаліў біскуп Свёнтак з іконай Божай Маці Будслаўскай. Роўна апоўначы паднялі абраз Маці Божай

Будслаўскай святары і пад гукі спеваў-малітваў, якія гучалі з дынамікаў, пачалося шэсце.

Мы з Іванам Мармышам, харыстам, які нядаўна далучыўся ў наш хор, дамовіліся пайсці разам. Купілі свечкі і ўліліся ў калону, ішлі з іншымі пілігрымамі. Спевы выконваў менскі хор з Чырвонага касцёла. Спевы былі запісаны спецыяльна да гэтага шэсця. Начное шэсце са свечкамі расцягнулася не менш як на два кіламетры і накіроўвалася па чатырохкутніку мястэчка пры добрым цёплым надвор'і. Увесь натоўп, прыкладна 14 тысяч пілігрымаў, ішоў з запаленымі свечкамі і на вялікай адлегласці пасярод ночы было бачна, як рухаецца плынь агню пад гукі дынаміка. Калі-нікалі ў розных пунктах гэтага руху агню наглядалася запавольванне і нават прыпынак, а затым зноў пачыналася плынь. Гэтае шэсце працягвалася амаль да дзвюх гадзін ночы. І ўрэшце галава калоны са святарамі і іконай Маці Божай Будслаўскай вярнулася ў касцёл, прымацаваўшы абраз Маці Божай Будслаўскай да часовага алтара. А ўсе пілігрымы прыйшлі са свечкамі на пляцоўку насупраць алтара — пачалася літургія, якая працягвалася ўсю ноч і ўвесь наступны дзень да 15 гадзін.

Мы па плану павінны былі ўдзельнічаць а 2 гадзіне ночы 2 ліпеня ў грэка-каталіцкай літургіі ўнутры касцёла, якую адпраўляў айцец Зміцер з Віцебска. Перад гэтым была невялікая замінка: мы згубілі сваю Веру Васільеўну. І ўрэшце, калі мы ўвайшлі ў касцёл, то ўбачылі яе побач з галоўным алтаром. У гэты момант каталікі натоўпам ішлі на каленях да абраза Маці Божай, і айцец Зміцер вымушаны быў прыпыніць рух вернікаў, бо яны не давалі магчымасці пачаць літургію.

Пачалася грэка-каталіцкая літургія. Хор «Бацькаўшчына» суправаджаў яе спевамі ўсходняга абраду, якія адрозніваюцца ад рыма-каталіцкіх. Людзі ў касцёле былі здзіўлены незвычайнай імшой з невядомымі раней ім спевамі. У канцы літургіі быў выкананы рэлігійны гімн «Магутны Божа». Трэба адзначыць, што на гэтым святце больш за ўсё гучала беларуская мова. Рыма-каталікі з Менску служылі імшу таксама на беларускай мове і ў апошні час любая каталіцкая імша на беларускай мове заканчвалася гімнам «Магутны Божа», як гэта звычайна заўсёды робяць грэка-каталікі.

Пасля літургіі харыстам прапанавалі адпачываць. Моладзь недалёка ад стаянкі аўтобуса пад кіраўніцтвам Лапехі паставіла намёт і адпачывала ў ім да ранку, а астатнія спалі ў аўтобусе на сваіх месцах. А некаторыя з харыстаў і гарадзенскія грэка-каталікі ўсю ноч слухалі планавыя выступы, якія працягваліся без перапынку на паўднёва-заходняй частцы Будслаўскага касцёла, а мы, хто сядзеў у аўтобусе, спалі не больш як гадзіну-дзве. Спаць седзячы на крэсле аўто было нязручна, таму калі стала світаць, то пайшлі гуляць у напрамку касцёла. У гэты ранішні час гандляры ладзілі свае працоўныя месцы, раскладалі намёты ўздоўж дарогі, якая праходзіць поруч з касцёлам. Пачынаўся рух і гандаль. Ластаўкі пачалі лётаць на ўзроўні

вяршынь касцёла, а гэта па народнай прыкмеце азначала, што ў бліжэйшы час дажджу не чакаецца. Ціск атмасферы павялічыўся, і машкара, якою кормяцца ластаўкі, паднялася на ўзровень вежаў.

Набліжалася дзявятая гадзіна. Міліцыя пачала наводзіць парадак з аўтобусамі, якія размясціліся ўздоўж дарогі. Нашаму шафёру прапанавалі з’ехаць на пляцоўку, якая наспех была падрыхтавана ў балоцістай мясціне. Наш шафёр сказаў міліцыянту, што яго шматтонная машына засядзе ў гэтым балоце і давядзецца яе выцягваць трактарам. Так яно і адбылося. Калі шафёр з’ехаў на пляцоўку, дык машына забуксавала — ні ўзад, ні ўперад. Матор працаваў цэлую гадзіну, шафёр рабіў спробы, каб самастойна выехаць, а колы аўто глыбей і глыбей зарываліся у балотную глебу — аўтобус стаяў нерухома. Урэшце шафёр звярнуўся да таго міліцыянта, які прымусіў яго заехаць у балота: «Што ж вы нарабілі? Вы ж мяне прымусілі загнаць шматтонную машыну ў балота. Цяпер патрэбны трактар, каб выцягнуць маю машыну на дарогу». Шафёру давялося звярнуцца да трактарыста мясцовага калгаса, каб выцягнуць аўтобус з гіблага месца. Пасля гэтага здарэння міліцыя ўжо больш шафёра не турбавала: аўтобус заняў сваё былое месца на абочыне дарогі.

Мы з Мармышам вырашылі паснедаць: узялі свае прыпасы і пайшлі да млына, селі на бетонную пляцоўку, разлажылі свае пажыткі, выпілі па сто грамаў, закусілі і зноў вярнуліся да аўтобуса. Харысты адпачывалі да 12 гадзін, адны цікавіліся мясцовасцю, мы ж з Іванам Мармышам вырашылі прайсціся па мястэчку. Прайшлі па тым шляху, па якім ішоў натоўп ноччу са свечкамі. Зразумела, што днём гэты шлях не даваў такога ўражання, як уначы, калі рухаўся шматтысячны натоўп. Мы пераадолелі гэты шлях даволі хутка. Вярнуліся на пляцоўку, дзе ішла каталіцкая імша на польскай мове.

Набліжалася 12 гадзіна, а гэта значыць, мы павінны ўдзельнічаць у святой імшы, якую адпраўляў кардынал Свёнтак. Вера Васільеўна сабрала нас. Імша, якую адпраўляў біскуп на беларускай мове, завяршала свята ў гонар цудатворнага абраза Маці Божай Будслаўскай. На імправізаваным алтары звонку касцёла размяшчаліся ўсе святары, якія прыехалі на свята. Па цэнтры сядзелі каталіцкія біскупы, з правага боку святары, а з левага боку хоры менскіх святыняў — Чырвонага касцёла і іншых. Яны спявалі літургічныя песні-малітвы, неабходныя ў гэтай святочнай імшы, якая працягвалася не менш як дзве гадзіны.

Імша скончана, мы ўсе, харысты і пілігрымы, сабраліся ля нашага аўтобуса, павіншавалі з днём нараджэння і ўручылі падарункі нашым сябрам Дзіму Гашко і Аляксандру Жуку. Праспявалі ім «Многае лета» і паехалі дахаты. Ехалі хутка, падоўгу не затрымліваліся, пагода ўсталявалася. Сустракалі зялёныя палі, лясы, розныя вёскі. Пачыналася гэтак званае

«зялёнае лета». Інтэнсіўнасць спеваў птушак памяншалася… Праехалі Вілейку, Маладзечна і на 20 хвілін затрымаліся ў горадзе Валожыне.

Падарожжа нашых часоў адрозніваецца ад пераездаў у пачатку XIX стагоддзя ў часы Міцкевіча і Чачота. Тэхнічны ўзровень нашага часу сігануў так далёка, што мы за пяць-шэсць гадзін з прыпынкамі, экскурсіямі праязджаем такую адлегласць, на праезд якой раней патрабаваліся тыдні, а то і месяцы. Каб паехаць у Амерыку, цётцы з маёй роднай вёскі ў 1927 годзе мінулага стагоддзя спатрэбілася плыць цэлы месяц на параходзе, а зараз мае ўнукі лятаюць у Штаты за адны суткі з пасадкай у Лондане.

## Паездка ў Чарнаўцы ў кастрычніку 2002 года

11 кастрычніка 2002 года група спадарожнікаў — 20 чалавек з хору «Бацькаўшчына» і 20 грэка-каталікоў — едзе аўтобусам, аплачаным грэка-каталіцкім кіраўніцтвам, на фестываль у горад Чарнаўцы (Украіна). З намі едуць уніяты са Слоніма. За імі нам належыць заехаць, а таксама па дарозе прыхапіць некалькі грэка-каталікоў з Кобрына. З Гродна выехалі а 17 гадзіне. Вялі аўтобус маладыя вадзіцелі, якія былі ўпэўнены, што яны добра ведаюць маршрут, па якім нам трэба было рухацца. Гэтая ўпэўненасць прывяла да таго, што яны часта блудзілі, заязджалі не туды, куды трэба было ехаць, вярталіся, ехалі ў адваротным кірунку. Адным словам, накручвалі лішнія кіламетры. І самае цікавае, што блыталіся не толькі па Украіне, але і на Беларусі. Таму праехалі, па маіх прыблізных падліках, прыкладна 1000 кіламетраў замест 750. І гэта, мне здавалася, адбываецца з-за таго, што яны вельмі ганарлівыя, саманадзейныя. Я сядзеў на пярэднім сядзенні і не бачыў, каб яны затрымліваліся і ў кагосьці пыталіся, ці правільна мы едзем. Адно іх выручала, што яны рухаліся з хуткасцю не менш як 100 кіламетраў у гадзіну.

Планавалася выехаць з Гродна а 16 гадзіне, а фактычна ад’ехалі а17.00. Таму і ў Слонім прыехалі са спазненнем на гадзіну, калі ўжо пачало шарэць. Нас там чакалі слонімскія грэка-каталікі. Я сустрэў знаёмага па мінулай паездцы ва Украіну Мікалая Іванавіча Ракевіча. Ён у мінулым быў старшынёй слонімскай Рады БНФ, шмат чаго цікавага расказваў аб сваім горадзе і працы на пасадзе старшыні. Пры размове з ім знайшлі шмат агульных знаёмых па сельскагаспадарчым інстытуце. Я яго спытаў, ці ведае ён сп. Талерчыка, які паходзіць з Парэчча Слонімскага раёна. На што ён мне расказаў, што знаёмы з ім. Аляксандр Талерчык прыслаў яму ў падарунак сваю кнігу аб Парэччы.

Большасць шляху ў Чарнаўцы, як і ў адваротным напрамку, давялося ехаць ноччу. Прыехалі ў Кобрын дзесьці а першай гадзіне ночы, затрымаліся і чакалі аўтобус з Менску, каб ехаць разам. У дзве гадзіны ночы прыехалі

на мытню Макраны. Цікава, што ў нас там нават не правяралі пашпарты, а толькі глядзелі дакументы шафёраў. Праехалі мяжу. Едзем у напрамку на Ковель, дарога ўся ў выбоінах. У мяне склалася ўражанне, што ўкраінскія дарожныя службы мала ўвагі ўдзяляюць дарогам. З Ковеля мы павярнулі крута на ўсход і доўгі час ехалі па розных дарогах. Калі пачало світаць, то я заўважыў, што мы пад'язджаем да горада Тарнопаля.

Мы ўбачылі за Тарнопалем тыповае ўкраінскае перадгор'е. Сям-там з'яўляліся такія пагоркі, якія ў Беларусі не ўбачыш. І самае цікавае, што яны ўсе парослыя лесам, пераважна шыракалістымі дрэвамі: грабам, букам, дубам. Дарога пралягала на такой вышыні і мела такія высокія абрывы, што многім было жудасна глядзець уніз. У такіх мясцінах ехалі павольна, за акном бачылі шырокія палі, дзе-нідзе ўзараныя дзялянкі, падрыхтаваныя да сяўбы наступнай вясной. Зямля чорная, урадлівая, аднак у гэтым годзе там, як і ў нас, была засуха, і ўсё засохла, нават больш, чым у Беларусі.

Адчувалася, што мы набліжаемся да сваёй мэты — Чарнаўцоў. Усё больш станавілася на шляху ўзвышшаў — на 100–200 метраў і болей над узроўнем дарогі. Дарога была то пакручастая, то роўная, як струна. А ў іншых месцах яна крута спускалася ўніз. І вось спускаемся на адным такім спуску на мост ракі Днестр. Днестр у гэтым месцы даволі шырокі і хуткаплынны. Пасля падымаемся на гару і бачым на значнай вышыні цэрквы і манастыры. Пад'язджаем да перакрыжавання, дзе ўказальнік: управа Івана-Франкоўск, а ўлева — Чарнаўцы. Застаецца ўсяго 30 кіламетраў да месца прызначэння. У гэты час Вітаўт Парфёненка прапануе нам памаліцца. Ён бярэ мікрафон і чытае набор ружанцовых малітваў, прысвечаных Маці Божай. Гэта працягваецца хвілін трыццаць. Неўзабаве абласны цэнтр. Усё больш і больш сустракаем дамоў своеасаблівай архітэктуры, цэркваў розных канфесій. І вось на гарызонце відаць вялікія дамы. Спускаемся ўніз на мост цераз раку Прут. Яна ў гэтым месцы шырокая і хуткаплынная. З вады сям-там выступаюць каменныя глыбы, а гэта сведчыць аб тым, што дно ракі спрэс камяністае. Калі ехаць па дарозе ў Закарпацце, дык добра бачны слаістыя каменныя глыбы па ўсім шляху ад Ябланіцкага перавалу да Вінаградава.

А 12 гадзіне хор «Бацькаўшчына» і грэка-каталікі пераехалі мост праз Прут, падняліся па стромай вуліцы і наўпрост рушылі да мэты — стадыёна. Прыпыніліся. Убачылі нас мясцовыя валанцёры, падышлі і правялі да гатэля «Турыст». Размясцілі нас па два ў адным нумары на пятым паверсе гатэля. Спачатку па пашпартах усіх прыбыўшых перапісалі і сказалі, што трэба плаціць кожнаму па 41 грыўне за суткі. Наш «гід» Парфёненка дамовіўся з адміністратарам, што за нас усіх заплаціць аргкамітэт фестывалю. Пасля чаго ўсе атрымалі квіткі з указаннем нумара пакоя, і мы разам з Іванам Мармышам падняліся на ліфце на пяты паверх у трынаццаты пакой.

Надвор'е было не з лепшых, ішоў дождж. Гатэль «Турыст» знаходзіцца на значнай адлегласці ад цэнтра горада, а цэнтрам была Тэатральная плошча, на якой знаходзіцца Тэатр оперы і балета імя В. Кабылянскай. Перад гэтым тэатрам на час фестывалю быў пабудаваны часовы алтар. Праводзілася а 19 гадзіне архірэйская літургія, якую адпраўляў архірэй Бучацкай епархіі УГКЦ (Украінскай грэка-каталіцкай царквы) епіскап Ірынэй Білык. Сыпаў даволі густы дождж. Гледачы прыкрываліся парасонамі.

Нашаму хору належала а 21 гадзіне спяваць акафіст Маці Божай. Гарадзенцы стаялі ў цэнтры плошчы пад бел-чырвона-белым сцягам. Побач з Тэатральнай плошчай знаходзіцца гастраном, і мы, каб не мерзнуць, хадзілі туды грэцца, знаёміліся з таварамі, куплялі, што нам было даспадобы, а пагрэўшыся, ішлі на плошчу і слухалі літургію.

А 20.30 ад спн. Веры атрымалі загад: ісці праз натоўп да падмосткаў, каб заняць свае месца на прыступках алтара, і падрыхтавацца да спеваў. Праціскаліся да належнага месца праз натоўп разам з іншымі спевакамі, пакуль не апынуліся на сцэне — сталі па партыях. І вось хор «Бацькаўшчына» і некалькі харыстаў з іншых месцаў Беларусі сталі з левага боку на пляцоўцы часовага алтара. Дырыжыравала хорам спн. Вера Кунцэвіч — мастацкі кіраўнік хору «Бацькаўшчына». Спевы працягваліся 40 хвілін. Акафіст служыў святар з Віцебску айцец Зміцер Грышан. Калі скончыліся спевы акафіста і невялікага канцэрта з песняў хору «Бацькаўшчына», нас віншаваў прадстаўнік міжнароднай арганізацыі «За адзінства царквы» заснавальнік і старшыня місійнага аб'яднання Святых Кірыла і Мефодзія сп. Ёзэф Марыя дэ Вольф. Ён шчыра дзякаваў хору беларусаў за выкананне акафіста і за тыя песні-малітвы, якія мы ў канцы праспявалі. У сваёй наступнай прамове ён сказаў, што яго праца накіравана на тое, каб аб'яднаць каталіцкую і праваслаўную цэрквы. Яго марай з'яўляецца дабіцца таго, каб Папа Ян Павел ІІ сустрэўся ў Крамлі з прадстаўніцтвам праваслаўнай Царквы, з Алексіем ІІ і прэзідэнтам Пуціным з тым, каб дамовіцца і аб'яднаць каталіцкую і праваслаўную Царкву. І акрамя таго, ён дадаў, што яму спадабаліся нашы спевы і ён марыць аб тым, каб у будучым годзе прыехаць ва Украіну, адзначыць свае сямідзесяцігоддзе і запрасіць наш хор на гэтае мерапрыемства. А ў мінулым 2001 годзе мы з ім сустракаліся ў Крыласе.

А 22 гадзіне на Тэатральным пляцы пад праліўным дажджом працягвалася выкананне праграмы фестывалю. У гэты час адбывалася «братанне» хрысціянскіх народаў, запальванне агню міру, малітоўнае звяртанне да народаў: украінцаў, румын, яўрэяў, аўстрыйцаў, немцаў, македонцаў, сербаў, харватаў, літоўцаў, эстонцаў, беларусаў, рускіх — дзеля выканання кожным народам на сваёй мове малітвы «Ойча наш».

А 23.30 адбылася працэсія са свечкамі і факеламі ўдзельнікаў фестывалю вуліцамі горада да мясцовага парку імя Тараса Шаўчэнкі.

У апошніх дзеях хор «Бацькаўшчына» не ўдзельнічаў з-за таго, што ліў дождж, і мы прыкладна а 22 гадзіне адправіліся ў гатэль, каб падсушыцца і адпачыць. Адпачыўшы, ранкам наступнага дня а 8.30 паспелі далучыцца да вынасу цудатворнай іконы Божай Маці Чарнавіцкай з сабора на Тэатральную плошчу і ўдзельнічалі ў хросным ходзе з харугвамі разам з усімі ўдзельнікамі фестывалю. Пасля адбылося спяванне ружанцовых малітваў, а з 10 гадзін — архірэйская служба і пропаведзь. Узначальваў архірэй Каламійска-Чарнавіцкай епархіі епіскап Павал Васылык, прысвячалася літургія Беззаганнаму Сэрцу Марыі. Затым слова ўзяў ініцыятар міжнароднага аб’яднання за адзінства царквы, заснавальнік і старшыня місійнага аб’яднання Святых Кірыла і Мефодзія сп. Ёзэф Марыя дэ Вольф. У сваёй прамове Вольф распавёў аб сваёй працы на карысць тых канфесій, якія лічацца ў дзяржаве дысідэнцкімі. Яго арганізацыя ўзяла на сябе спансіраванне ўсіх мерапрыемстваў, якія ставяць сваёй мэтай адраджэнне грэка-каталіцкай царквы.

У канцы мы ўсе, у тым ліку і хор «Бацькаўшчына», сабраліся ў аўтобусе, які нас чакаў ля Тэатральнай плошчы, і рыхтаваліся да трапезы ў гатэлі «Турыст». Там нас чакалі валанцёры, якія накіравалі ўдзельнікаў хору «Бацькаўшчына» ў малую залу мясцовага рэстарана. Пачалася трапеза з малітвы «Ойча наш», якую прачытаў адзін са святароў на ўкраінскай мове. Пасля афіцыянты прынеслі булён у кубках і другую страву: мяса з бульбай. Затым да нас падышоў архімандрыт Сяргей Гаек і прапанаваў хору праспяваць некалькі духоўных твораў. Пачалі мы спяваць гімн «Магутны Божа». Пасля праспявалі духоўны гімн «Божа, што калісь народы…» і закончылі песняй «Матачка Божая, Матачка добрая».

Калі мы скончылі, то да нас зноў падышоў архімандрыт Сяргей і прапанаваў харыстам ісці ў вялікую залу рэстарана, дзе сабралася асноўная маса гасцей, каб прадоўжыць спевы там. Мы пагадзіліся і неўзабаве сталі паўколам перад прысутнымі той залы і праспявалі яшчэ некалькі песняў. Па заканчэнні папрасіў слова спадар Вольф. Ён высока ацаніў нашы спевы і паўторна запрасіў хор «Бацькаўшчына» на святкаванне, якое адбудзецца ў будучым годзе на поўдні Украіны, і сказаў, што ён вышле нам запрашэнне. З кароткім прывітальным словам да сп. Вольфа звярнулася старшыня слонімскай суполкі ТБМ, якая вітала яго, склала яму падзяку ад імя сланімчан, запрасіла прыехаць на Беларусь. З прывітальным словам да Вольфа звярнулася Вера Кунцэвіч. У канцы яна прапанавала хору выканаць у гонар сп. Вольфа і прысутных трайное «Многае лета»: беларускае, расейскае і ўкраінскае. З заключным словам выступіў архімандрыт Сяргей Гаек. Ён падзякаваў хору «Бацькаўшчына» за ахвярную дзейнасць і благаславіў нас, каб мы шчасліва дабраліся дахаты. Усім ён сказаў, што хор спяшаецца ад’ехаць, таму што харыстам трэба пераадолець шмат кіламетраў. Пасля ён цёпла развітаўся з кожным гарадзенцам.

Перад ад'ездам нам прынеслі трохлітровыя слоікі з бульбай і мясам, з разлікам, каб мы падсілкаваліся ў дарозе. Ад'ехалі з месца стаянкі аўтобуса каля 16 гадзін.

Калі мы ад'ехалі, то ўсталявалася цёплае сонечнае надвор'е, урэшце з'явілася магчымасць разгледзець цэнтр Чарнаўцоў, які забудаваны дамамі ў розных стылях: барока, готыка, класіцызм і іншых. Дарэчы, горад Чарнаўцы адрозніваецца ад нашых гарадоў тым, што мала ў ім дамоў-каробак, якія запаланілі нашы гарады ў пасляваенныя часы. Адрозніваецца гэты горад і тым, што яго дамы пабудаваныя большасцю за часамі ўладарання аўстрыйцаў, румынаў і іншых. Гэтым можна патлумачыць разнастайнасць архітэктурных стыляў.

Калі я прыязджаю ў горад, з якім я амаль не знаёмы, і мне дазваляе час, я абавязкова наведваю мясцовы кірмаш ці крамы. І справа не ў тым, што я маю патрэбу набыць штосьці экзатычнае, але галоўным чынам, каб пазнаёміцца з іх зместам. Кірмаш, а па-ўкраінску базар, сведчыць аб багацці яго краю і, урэшце, аб дабрабыце яго жыхароў.

І вось раніцай 13 кастрычніка мы з Іванам Мармышам пайшлі шукаць, як нам дабрацца да бліжэйшага базару. З гэтым пытаннем я звярнуўся да мясцовага паліцыянта, і ён ветліва мне растлумачыў, што трэба пайсці ад Тэатральнай плошчы па вуліцы Занкавецкай да царквы, а затым павярнуць управа, і там будзе бліжэйшы базар. Мы так і зрабілі. Калі прыйшлі туды, то гандаль на базары толькі пачынаўся. Гандляры раскладалі свае тавары. Мы адразу заўважылі, што кошты на большасць тавараў не проста меншыя, чым у нас, а ўдвая меншыя.

Зваротны шлях дахаты спачатку быў такім, які мы пераадолелі два дні таму. Ехалі да абласнога цэнтра Тарнопаля, павярнулі на іншую дарогу, якая ідзе з Кіева на Луцк, і недзе на сярэдзіне гэтага шляху ў якімсьці мястэчку збочылі ўправа і заблудзіліся. Прыехалі ў цэнтр і прыпыніліся. Пабачылі там трагедыю: на вуліцы ляжала збітая машынай жанчына. Пасля паехалі па дарозе на Дубна, мінулі яго і паехалі на Ковель. У Ковелі апынуліся апоўначы. А адтуль да мяжы заставалася прыкладна паўгадзіны дарогі. Калі мы прыехалі на мяжу, то пахаладала — ішоў снег з дажджом. На мяжы нас затрымалі на тры гадзіны. Пакуль мы стаялі, адбылася непрыемная сітуацыя: адна з жанчын, калі ўсе спалі, пачала голасна на ўвесь аўтасалон тлумачыць, чаму ўкраінцаў завуць хахламі. Тут хтосьці з прысутных заўважыў, што гэтая гісторыя вядомая, аднак яна не ўціхамірвалася і працягвала ва ўвесь голас бударажыць прысутных. І таму мне давялося зрабіць заўвагу, каб прыпыніць гэтую размову. Пасля чаго ўсе сціхлі, а наш аўтобус імчаў нас нейкі час па дарозе. Я лічыў, што вось цяпер мы ў Беларусі і, прынамсі, да Слоніма можна паспаць, а там прачнуцца, каб развітацца з нашымі сябрамі. Я заснуў. І тут раптам будзіць мяне Іван Мармыш і кажа: «Міхась Васільевіч, а ведаеце, куды мы заехалі? Гэта ж мястэчка Глыбокае. Адсюль да Брэста 20 кіламетраў». Шафёр зразумеў,

што ён памыліўся, і яму нічога не заставалася, як развярнуць аўтобус у зваротных шлях.

У Слонім прыехалі пад раніцу. І тут жа шафёры пачалі блукаць, аднак хтосьці са санімчан падказаў ім, дзе трэба прыпыніцца. Сланімчане пацíху пакінулі аўтобус, таму што гарадзенцы спалі, і мы далей паехалі па дарозе Слонім–Ваўкавыск. А восьмай раніцы мы прыехалі ў Гародню.

Я папрасіў Веру Васільеўну падзяліцца ўражаннямі ад гэтага фестывалю:

— Там быў дождж і было вельмі холадна. Жылі у гатэлі, які не ацяпляецца. Стаялі мы гурбой на вялізнай плошчы пад парасонамі перад часовым алтаром, толькі што зробленым. Слухалі ўсё тое, што рабілася на падмостках гэтага імправізаванага алтара. Мы спявалі на гэтай накрытай тэнтамі сцэне. Я дзіўлюся, што ніхто з нас не захварэў. І зноў жа кажу, што гэта была нейкая апека, проста нейкае ачышчэнне.

*— Але ж я павінен дадаць, што я якраз і захварэў.*

— І тым не менш, нейкіх цяжкіх складанасцей мы мінулі. Будзем лічыць, што гэта было ваша ачышчэнне. Вы скінулі тыя хваробы, якія ў вас спелі. Мне там расказвалі, што горад Чарнаўцы ў вайну не быў зруйнаваны. Стары горад са сваім адметным тварам. Горад, дзе прыгожая архітэктура, забудовы цікавыя. Людзі ветлівыя. Само тое, што тут адбылася такая знакамітая падзея, як фестываль, ахоўвае гэты горад ад розных нягод, якія могуць упасці на людскую галаву. У такіх агульных малітвах людскія грахі адмоленыя безумоўна. Гэтым дажджом Гасподзь іх змыў.

На развітанне сп. Кунцэвіч сказала нам, што наступная рэпетыцыя адбудзецца 21 кастрычніка на нашай базе, і прасіла, каб усе харысты прысутнічалі. Будзе сход з падвядзеннем вынікаў паездкі ў Чарнаўцы.

## Паездка ў Полацк. Лета 2003 года

Пра канцэрт у полацкай Сафіі расказвае спн. Вера Кунцэвіч:

— Выступіць з канцэртам менавіта ў гэтым саборы было вельмі важна для нас. Па-першае, таму, што гэтая паездка задумвалася ўжо два гады, і нам было вельмі важна выступіць у гэтым храме. Полацкая Сафія — галоўны храм, у якім адбываліся грэка-каталіцкія маленні да тых часоў, пакуль ён належаў уніятам. Пры Саветах там ніколі не гучала музыка, скажам, каталіцкая ў выкананні самадзейных калектываў, а тым больш уніяцкая. А ў нашым выкананні прагучала некалькі твораў уніяцкіх. Для нас гэта вельмі важна таму, што вернікі ўжо колькі год дамагаюцца таго, каб ім былі вернуты правы праводзіць службы ў гэтым храме, які належаў раней уніятам. Таму па просьбе уніяцкага святара архімандрыта апостальскага

візітатара Папы мы атрымалі запрашэнне выступіць з ахвярным канцэртам у 2003 годзе ў гэтай беларускай святыні.

Было лета. Мы спявалі там духоўную праграму. У нас быў надзейны духоўны слуп. Было вельмі многа вернікаў. Гэта якраз супала з пілігрымкай уніяцкіх вернікаў, якія наведалі якраз гэтую святыню, ведаючы, што мы выступаем. Сафія была перапоўнена. Акрамя мясцовых жыхароў многа было вернікаў, менавіта ўніятаў, з розных мясцін Беларусі і нават з Украіны і Расіі. Таму што ўніяцкая вера не толькі ў Беларусі, а ва Украіне і ў Польшчы ёсць. Асабліва многа ўніятаў у Берасцейскай вобласці. Людзі нам былі ўдзячны. І мы былі ўдзячны ім як слухачам за добры прыём. Зноў жа ўпэўніліся ў тым, што можам спяваць музыку і на такіх пляцоўках духоўных, як знакаміты Сафійскі сабор.

*— А якое убранства Сафійскага храма?*

— Пра гэты храм многа напісана. Ён вельмі ілюстраваны. Пад час нашага выступу там ішоў касметычны рамонт. Будынак звонку і ўнутры рэстаўрыруецца. Справа ў тым, што ўніятам вельмі складана. Сабор належыць не толькі духавенству. Пад час службы ён працуе як храм, а пасля службы — як звыклы грамадзянскі загс, дзе рэгіструюць шлюбы маладыя сем'і. Таксама працуе, але ў меншай ступені, як канцэртная пляцоўка. Я не ведаю, ці гучыць там арганная музыка? Храм, безумоўна, велічны, прыгожы, убранства багатае. І дзяржава таксама ўкладала сродкі для рэстаўрацыі храма, але не на 100 %. Палачане ганарацца гэтым храмам. Гэты храм аднаўляўся таксама з нагоды дажынак, таму што там патрэбны былі вельмі вялікія выдаткі. Мы маем некалькі фотаздымкаў. Ганарымся, што выступалі на пляцоўцы гэтага храма, атрымалі добрыя водгукі, пажаданні творчасці, плёну. Спадзяёмся, што мы трапім сюды з новай праграмай.

## Паездка ў Познань, Обру, Уроцлаў

У красавіку 2004 года наш хор у чарговы раз наведаў Рэспубліку Польшча. Напісала пра гэта наша харыстка Алена Уфімцава па маёй просьбе, таму што я па сямейных абставінах у гэтай паездцы не ўдзельнічаў. Яе апавяданне было на рускай мове. Я пераклаў яго на беларускую.

*Падарожжа адбылося прадуктыўным, насычаным. Наша турнэ пачалося з вялікай экскурсійнай праграмы па горадзе Познань. Мы пазнаёміліся з гісторыяй горада, наведалі некаторыя храмы, пахадзілі па вузкіх старажытных вуліцах. Асабліва запомнілася галоўная гарадская плошча, дзе ў поўдзень на вежы з'яўляюцца два драўляныя казлы і сутыкаюцца рагамі роўна дванаццаць раз.*

*Мы былі запрошаныя вышэйшай духоўнай семінарыяй місіянераў Облатаў Бязгрэшнай Марыі і наведалі мястэчка Обра, якое знаходзіцца ў*

*200 кіламетрах ад Уроцлава, слыннае цыстэрсамі і облатамі. Цыстэрсы зрабілі свой унёсак сваім рэлігійным жыццём — гаспадаркай і культурай. Облаты былі капеланамі-місіянерамі. Пасля ўтварэння ў 1231 годзе грашовага фонду цыстэрсы ў 1238 годзе прыбылі ў Обру і ўжо ў 1244 годзе адчынілі манастыр. У снежні 1835 года пруская ўлады зачынілі манастыр і праз год выгналі адтуль манахаў, а маёмасць канфіскавалі. Манастыр апусцеў. І толькі ў 1926 годзе пусты манастыр пераўтвораны ў вышэйшую духоўную семінарыю. Семінарыя ўсебакова развівалася. Цяпер тут маем капліцу, дзе адбываюцца набажэнствы, кухню і вялікую сталовую, актавую залу, пакоі выкладчыкаў і семінарыстаў. Тут жа месціцца музей місіянераў, наведванне якога выклікала вялікую зацікаўленасць. Так мы пазнаёміліся з місіянерскай дзейнасцю облатаў Польшчы — айцоў і братоў, раскіданых па ўсіх кантынентах. У музеі шмат экспанатаў з Афрыкі і Мадагаскара, паўночнай Канады, Паўднёвай Амерыкі, Азіі, Еўропы…*

*Каля музея ёсць сховішча, дзе можна ўбачыць творы мастацтва са шкла XV–XIX стагоддзяў. Асаблівую цікаўнасць у нас выклікала новая бібліятэка з раскошнай залай і вялікай колькасцю кніг і часопісаў.*

*Многія гады Обраўская семінарыя — Альма Матэр Обрэнсіс — нараджае місіянераў не толькі дзеля Польшчы, але ўсяму свету. Нашаму хору выпаў вялікі гонар — менавіта ў гэтай зале выступіць з вялікай духоўнай праграмай. У Обры мы пражылі два дні — 16–17 красавіка 2004 года.*

*На гэтым наша падарожжа не скончылася. Наперадзе быў Уроцлаў. Па запрашэнні Марыяна Пухалы, выкладчыка семінарыі, хор «Бацькаўшчына» наведаў храм Каралевы Сусвету ва Уроцлаве. Касцёл пабудаваны нядаўна па сучасным тэхнічным праекце, уражвае сваёй веліччу. Некалькі вялікіх залаў, разлічаных на некалькі тысяч чалавек, мноства дапаможных памяшканняў раскошна спалучаюцца з духоўным убраннем. З пачуццём адказнасці мы праспявалі тры службы, кожная па 50 хвілін з перапынкам на 15 хвілін. А пасля гэтага, нягледзячы на стомленасць, далі канцэрт для прыхаджан. Збор ад канцэрта быў ахвяраваны на дабрачынныя мэты — хворым і пажылым людзям.*

Заканчваўся наш візіт ва Уроцлаў. Хістаючыся ад стомленасці, але з пачуццём гонару і годнасці за зробленую работу мы вярталіся дахаты.

Уражаннямі ад паездкі дзеліцца і спадарыня Вера Кунцэвіч:

— На Кодыньскіх сустрэчах завязаліся добрыя кантакты. Нас слухалі ксяндзы з розных рэгіёнаў Польшчы, і адзін з іх быў Мар'ян Пухала. Ён прыехаў з семінарыі, якая знаходзіцца ў Познаньскім ваяводстве, мястэчка Обра. Ён настолькі захапіўся нашымі спевамі, нашай шчырасцю, жаданнем спяваць, што мы атрымалі запрашэнне, ужо не чакаючы якіх-небудзь фэстаў, а менавіта ён запрасіў нас у духоўную семінарыю на міжнародную сустрэчу, якую ладзіла гэтая семінарыя. Там быў рэлігійны міжнародны сімпозіум, дзе выступалі высокаадукаваныя духоўныя асобы, якія маюць

званні. Падарожжа было выдатным, добра арганізаваным. Усе выдаткі ўзялі на сябе вернікі, семінарысты, адміністрацыя і духавенства гэтай вялікай семінарыі. Яна, дарэчы, з’яўляецца самай вялікай у Еўропе каталіцкай семінарыяй. Нам было прыемна даведацца, што там вучацца на ксяндзоў нашы беларускія хлопцы. Яны апекаваліся намі, былі перакладчыкамі, падарожнічалі разам з намі. Рабілі нам выдатную асветніцкую справу. Яны паказалі музей семінарыі, мястэчка Обра, зрабілі нам падарожжа ў Познань.

Я ўдзячна харыстам, што яны вытрымалі гэтае падарожжа, якое было вельмі цяжкім, таму што мы праспявалі сольны канцэрт у самой семінарыі, потым сольны канцэрт у касцёле мястэчка Обра. Затым у нас былі выступленні ў вялікім горадзе Уроцлаве. Мы там адспявалі запар тры каталіцкія службы ў самым вялікім касцёле горада. Адну з гэтых службаў вёў ксёндз Мар’ян Пухала, які і рыхтаваў гэтае падарожжа. І ў канцы гэтых службаў харыстам хапіла сілаў, з Божай дапамогай, адспяваць сольны канцэрт духоўнай музыкі. Прагучалі каталіцкія, грэка-каталіцкія, праваслаўныя творы. Прыемна тое, што ў зале гэтага велізарнага касцёла было вельмі многа людзей. Дарэчы, хачу заўважыць, што там было шмат людзей, якія з’ехалі з Беларусі ў даваенныя і пасляваенныя гады — нашы беларускія каталікі, і не толькі каталікі, якія пераехалі сюды на пастаяннае месца жыхарства.

Калі мы спявалі, у іх блішчалі вочы, яны былі поўныя слёз. Праз шмат гадоў пачулі сваю родную мову, што іх шчыра кранула, зашчаміла сэрца ад успамінаў пра маладосць. Яны з замілаваннем слухалі нас. Пасля канцэрта яны падыходзілі да харыстаў, паціскалі рукі, абдымалі і шчыра дзякавалі нам. І гэта была такая кранальная сустрэча, якая сапраўды дае нам сілы, натхненне на тое, каб быць згуртаваным калектывам далей, як бы ні было цяжка. Трэба развучваць новыя, больш складаныя творы. Спяваць і радаваць і нашых слухачоў, і слухачоў за мяжой, якія з задавальненнем прымаюць нас і слухаюць духоўную беларускую музыку.

Я вельмі ўдзячна людзям, што воляй лёсу апынуліся ва Уроцлаве, каб несці сваю духоўную культуру за мяжу. Каб людзі, якія з’ехалі з Беларусі па розных прычынах, маглі і ў розных храмах, і на свецкіх пляцоўках слухаць тое роднае, што ў іх, па волі лёсу, было адабрана. На тое Божая воля, каб наш хор аматарскі, які не мае сродкаў, і людзі, якія, скажам шчыра, не маюць вялікіх сродкаў, таму што гэта выкладчыкі, студэнты, пенсіянеры, жыў. Бог дае так, што яны аддаюць свой час, сваю энергію і маюць за гэта добрую ўзнагароду. Вось такія душэўныя сустрэчы. А я вельмі рада, што працую з такімі людзьмі, якія не шкадуюць ні часу, ні сіл, шчыра нясуць нашу музыку ў свет.

Мы мелі сустрэчу, прыём у фондзе Войцеха Папялеўскага. Ён адміністратар, галоўны кіраўнік гэтай духоўнай семінарыі ў Обры.

# *Кастрычнік 2004 года. Паездка ў Бучач*

1 кастрычніка еду на Савецкую плошчу, а там ужо Валянціна Красоўская з мужам. Праз некалькі хвілін прыйшлі нашы грэка-каталікі і астатнія харысты. Мы ўсе збіраемся ехаць на адным аўтобусе, заказаным грэка-каталіцкім кіраўніцтвам. Дзесяць месцаў выдзелена ўніятам Гародні.

Адпраўляемся, як заўсёды, са спазненнем. Едзем напрамкам на Слонім па Індурскай шашы. За акном цемень. Ля горада шмат ліхтароў, там, дзе людскія паселішчы, прадпрыемствы, заводы. Чым шпарчэй мы рухаемся, тым хутчэй святло ад населеных пунктаў застаецца ззаду нашага аўтобуса і знікае са зроку. І чым далей мы ад'язджаем ад горада, тым менш мы бачым ліхтароў — набліжаецца поўнач. Позні час. Пакуль што чутны прыглушаныя размовы некаторых пасажыраў, якія праз нейкі час сціхаюць. А аўтобус адлічвае кіламетры. Яму за гэту ноч трэба пераадолець каля 300 кіламетраў па тэрыторыі Гарадзенскай і Берасцейскай абласцей. У салоне аўтобуса цішыня. Праз нейкі час прыпыняемся. Усе прачынаюцца. Выходзім на вуліцу. Мы ўжо прыехалі ў Слонім. На гэтай вуліцы, я ўспомніў, мы не першы раз сустракаем знаёмых грэка-каталікоў. Да мяне падыходзіць знаёмы сланімчанін, з якім мы разам трэці раз едзем ва Украіну:

— Добрай ночы, Амялішка!

Мы цёпла вітаемся, абдымаемся.

— Скажы, Міхась Васільевіч, а як пажывае твая жонка?

— Мая жонка, на жаль, памерла пяць месяцаў таму.

Мікалай Іванавіч выказвае мне спачуванне і стандартнае ў гэтым выпадку:

— Трымайся!..

Адпачывалі ў Слоніме хвілін трыццаць. За гэты час падселі да нас каля дзесяці грэка-каталікоў, і а першай гадзіне ночы мы рушылі ў напрамку Івацэвічаў. Большасць пасажыраў спяць, у тым ліку і я. Прачынаемся, калі кіраўнік нашага калектыву выходзіць з аўтобуса, каб сустрэць грэка-каталікоў з Івацэвічаў. Наш калектыў папоўніўся. Едзем наўпрост на Пінск. Другая палова ночы. Усе спяць. Прачынаемся на мяжы.

Праз дзве гадзіны дазволена праехаць нейтральную паласу — пераехаць украінскую мяжу. Перасякаючы яе, мы чытаем шыльду «Гарадзішча», і там паўтараюцца тыя працэдуры кантролю, што і на беларускім пераходзе, за выключэннем таго, што ўкраінскія памежнікі карыстаюцца не рускай мовай, а сваёй нацыянальнай. Кантроль закончаны. Нам усім дазволена выйсці з аўтобуса, памяняць нашы грошы ў спецыяльным абменным пункце на ўкраінскія грыўны. Такі абмен нашых рублёў я сустракаю ўпершыню. Магчыма, штосьці змянілася ў заканадаўстве абедзвюх краін.

Пратрымаўшы нас на ўкраінскай мяжы, мытнікі дазволілі ехаць далей па маршруце. Паступова сталі праступаць абрысы прыдарожных дамоў.

Пачало днець. Наш аўтобус павялічваў хуткасць і вёз нас па дарозе роўнай, як струна. За акном праплывалі тыповыя сялянскія вёскі ўкраінскага Палесся. Дамы мала чым адрозніваюцца ад нашых, беларускіх. Сям-там зелянеюць палеткі азімых культур.

Нашы вадзіцелі, а іх у нас два, дакладна не ведаюць, па якой дарозе нам ехаць, каб трапіць на стадыён. Менавіта там павінен адбыцца фестываль грэка-каталікоў. Едзем наўгад. На ўзбочыне ўказальнік: круты спуск з паваротамі. Вадзіцель зніжае хуткасць. Гамуе. Мы заўважаем, як паверхня дамоў паступова нарастае пры набліжэнні да цэнтра мястэчка. Калі наш аўтобус затармазіў, то мы прыпыніліся ў самым нізкім месцы схілу гары. Убачылі багата прыгожых шматпавярховых дамоў незвычайнай архітэктуры. Сярод іх вылучаліся ўніяцкія, каталіцкія і праваслаўныя храмы. На пляцы, на якім мы затрымаліся, было шмат людзей у чорных сутанах. Яны, відавочна, рыхтаваліся да фестывалю, на які нас і запрасілі. Сп. Вітаўт Парфёненка выйшаў з аўтобуса, каб спытацца, як нам праехаць да стадыёна, дзе павінен адбыцца міжнародны фестываль грэка-каталікоў. Вярнуўшыся, ён пачаў даваць указанні вадзіцелям, і мы рухаемся па пятляючай дарозе. Праз вокны аўтобуса знаёмімся з праплываючымі міма дамамі, якія пабудаваны на стромкім схіле гары; фасады іх у большасці аздоблены гуцульскім арнаментам. Падымаемся ўсё вышэй і вышэй. Праз нейкі час на ўзбочыне дарогі бачым шыльду, на якой напісана, што на гарадскім стадыёне адбудзецца «X Міжнародна проща вервиці за єдність церкви». Цяпер мы ўпэўнены, што едзем да нашай мэты. Па ўказальніку зварочваем управа і выязджаем на дарогу, якая прыводзіць нас да мясцовага стадыёна. На гадзінніку роўна 15. Прыехалі на гадзіну пазней спланаванага. Бачым: перад стадыёнам арганізаваны міні-рынак, на якім можна набыць як харчовыя, так і прамысловыя тавары, іконы. Цікава, што іконамі гандлявалі пераважна глуханямыя. Калі мы павярнулі да стадыёна, то да нас падышоў паліцыянт. Ён прапанаваў шафёру паставіць аўтобус на спецыяльна адведзенае гасцям месца, насупраць уваходу на стадыён.

На стадыёне пакуль што людзей небагата. Застаецца гадзіна часу да афіцыйнага адкрыцця міжнароднай сустрэчы, якая адбудзецца тут, на стадыёне. Наш гід Вітаўт Парфёненка атрымаў інфармацыю:

— Сябры, наш аўтобус будзе стаяць на гэтым месцы. На абед мы спазніліся, перакусіць можна тымі прыпасамі, якія мы маем. Вячэраць будзем у сталоўцы ў 20 гадзін. А наш хор а 21 гадзіне, пасля выступу расійскіх грэка-каталікоў, праспявае акафіст Божай Маці. Як толькі скончым спевы, паедзем у турыстычны лагер і там заначуем. Раніцай там паснедаем і вернемся ў Бучач у 10 гадзін на архірэйскую службу.

За 20 хвілін да шаснаццатай гадзіны стадыён пачаў запаўняцца месцачкоўцамі. Уражанне было такое, што ўсе жыхары Бучача ідуць сюды. Роўна ў 16 гадзін пачалося адкрыццё міжнароднай сустрэчы. Стадыён

быў перапоўнены ўніятамі. Мы з Антонам Амяльянчыкам, на жаль, на адкрыцці фестывалю не прысутнічалі. Ад нашага гарадзенскага аўтобуса на адкрыццё фестывалю пайшла з бел-чырвона-белым гістарычным сцягам група грэка-каталікоў Гародні. Арганізатарамі фестывалю ім былі выдзелены адмысловыя месцы на стадыёне.

З акна аўтобуса я назіраў, як на пляцоўку пад'ехаў на легкавіку архімандрыт айцец Сяргей Гаек. Сустракаць яго пайшлі Вітаўт Парфёненка, Аляксандр Шаўцоў і іншыя.

Адпачывалі мы да самага вечара. Хто хацеў, выходзіў з аўтобуса, ішоў на стадыён, слухаў прамовы афіцыйных асоб і мастацкія нумары, якія пачаліся пасля адкрыцця фестывалю.

Потым падышоў Вітаўт і сказаў, што ўсе едзем на вячэру.

Паступова аўтобус запаўняецца, і ў 20 гадзін мы едзем. Аўтобусы прыпыняюцца на пляцоўцы. Ідзём у сталовую. На сталах расстаўлены сталовыя прыборы з салатамі, закускамі. Сядаем за стол. Архімандрыт Сяргей Гаек прапануе ўголас памаліцца. Усе ўстаюць, і на розных мовах прысутных гучыць малітва «Ойча наш».

Вячэра скончана. Вяртаемся на сваю стаянку ля стадыёна і рыхтуемся да запланаванага выступу хору з акафістам Божай Маці. І зноў мы чуем ад сп. Парфёненка:

— Выступ нашага хору пераносіцца на 22 гадзіну.

Пакуль мы чакалі, надвор'е сапсавалася — пачаўся дождж. Спн. Вера раіць харыстам апрануцца цяплей. Праз нейкі час харыстаў запрасілі ў палатку ля алтара. Алтар, дзе выступалі святары, быў на хуткую руку збудаваны на стадыёне для фестывалю, і побач з ім палатка з мікрафонамі. Заходзім туды па адным, а насустрач нам выходзяць удзельнікі-харысты з Расіі. Мы іх змяняем. Перад намі выступаў расійскі ўніяцкі хор, які сваімі песнямі-малітвамі дапамагаў расійскім грэка-каталіцкім святарам весці грэка-каталіцкую службу.

На алтар падняліся святары-беларусы. Яны каротка паведамілі на нашай мове, хто мы такія і адкуль мы. Пачалі прамаўляць па чарзе ўступныя словы акафіста, а абавязак хору быў у тым, каб меладычнай песняй узбудзіць радасць Маці Божай. Спевы пачыналіся словам «Радуйся…», якое паўтаралася шмат разоў. Выкананне акафіста працягвалася каля сарака хвілін. Нягледзячы на позні час і імжысты дождж, на плошчы стадыёна было людна. Слухалі спевы хору «Бацькаўшчына» з Гародні ўважліва і маліліся кожны на сваёй мове.

Акафіст закончаны. Пакідаем палатку. Мясцовыя выказваюць нам задавальненне нашымі спевамі, дзякуюць. А мы ідзём у сваю «хату», сядаем на свае месцы, і як толькі ўсе сабраліся, Вітаўт Парфёненка паведаміў:

— Шаноўныя пілігрымы і харысты, мне толькі што ў аргкамітэце паведамілі: на турбазу запрашаюць толькі 40 чалавек. Таму я прапаную паехаць усім харыстам і пажылым пілігрымам, а астатнія будуць спаць да раніцы ў аўтобусе.

Прайшло з паўгадзіны. Мы сабраліся ехаць. Стаім ля аўтобуса і чакаем, калі нас павязуць на адпачынак. Рыхтуемся. Бяром свой багаж. Я выпадкова заходжу ў аўтобус, а там Вітаўт робіць новую аб’яву:

— Увага! З аргкамітэту толькі што паведамілі: усе пілігрымы і харысты паедуць адпачываць на турбазу сваімі аўтобусамі. Аднак можа стацца, што аўтобусы туды могуць не даехаць — усім, магчыма, давядзецца ісці пешкі тры кіламетры да турбазы.

Усе сядаюць. І мы цугам едзем па пятляючай дарозе за паліцэйскай машынай. У кожным аўтобусе не менш як 40 чалавек пілігрымаў, а час позні — дванаццатая гадзіна ночы. Караван машын рухаецца павольна. З хваляваннем чакаем, калі пярэднія машыны прыпыняцца і нам аб’яцяць: «Увага! Далей не паедзем. Бярыце свой багаж і ідзіце пешшу».

Аднак павольна едзем, назіраем, як святло фар папярэдніх аўто аказваецца то злева, то справа ад дарогі, а гэта азначае, што перад намі суцэльныя павароты. Чым вышэй падымаемся па пятляючай дарозе, тым усё большае хваляванне агортвае нас, думаем, як мы будзем ісці ў цемры па невядомай камяністай дарозе… Пакуль рухаемся без затрымкі. Прыкладна праз гадзіну картэж прыпыняецца. Нам паведамляюць, што прыехалі на турбазу «Лісова».

Бяром свае сумкі, выходзім. Стаім ля свайго аўто гуртам, скрозь цемру бачым сілуэты нейкіх карпусоў. Здагадваемся: відавочна, гэта дамы турбазы, у якіх мы будзем начаваць. Вакол некалькі шматпавярховых карпусоў, скрозь цемру бачны сілуэты гор, парослых лесам. Цішыня. Першая гадзіна ночы. Яе парушаюць прыглушаныя размовы паўсонных пілігрымаў, якія стаяць групамі ля сваіх аўто. Чакаюць далейшай каманды адказных.

Праз нейкі час прыходзіць сп. Вітаўт, кажа:

— Гарадзенцы, ідзём у бліжэйшы корпус.

І мы, захапіўшы свае сумкі, ідзём, падымаемся на другі паверх, дзе размяркоўваюць пакоі. Мне з Антонам Амяльянчыкам выдзелілі пакой з двума ложкамі, запраўленымі свежай бялізнай. У пакоі халаднавата і вільготна. Непрыемна класціся ў пасцель, малавата коўдраў, каб абараніць сябе ад холаду. За акном цемень. Заканчваецца першая гадзіна ночы. Калі мы ішлі сюды, дык з правага боку заўважылі ў паўзмроку яшчэ два такія карпусы. Я падумаў: «Вось і добра, усім пілігрымам хопіць месца, каб прыстойна адпачыць».

Праспаў каля пяці гадзін, чую стук у дзверы. Гэта ж Аляксандр Шаўцоў:

— Прачынайцеся! У 8 гадзін мы павінны быць у сталоўцы, якая знаходзіцца ў тым корпусе, каля якога стаіць наш аўтобус.

Снеданне скончана. Бяром свае пакеты, сумкі і ідзём як мага хутчэй, каб заняць свае месцы ў аўтобусе. Выйшлі на ганак, бачым, што ўжо добра развіднела. Агледзеўся, бачу ўсе карпусы турбазы, якія, па маіх назіраннях,

пабудаваны на значнай вышыні над узроўнем мора. Блізка ад іх досыць высокія горы, парослыя шыракалістымі дрэвамі: букам, грабам, дубам. Здагадваюся, чаму гэтую мясцовасць завуць букавінай. Прыгожая мясцовасць. Ноччу, калі мы ехалі сюды, было цёмна — мы не бачылі той прыгажосці, якая адкрылася нам са з'яўленнем святла. Нездарма на значнай вышыні над узроўнем мора знойдзена цудоўная мясціна з такім багатым падборам дрэў і пабудавана турыстычная база. У кожнага, хто яе наведаў, убачанае надоўга застаецца ў памяці як штосьці рэдкае і непаўторнае.

Аўтобусы запаўняюцца пілігрымамі. Спяшаемся хутчэй ад'ехаць ў Бучач. Едзем той жа калонай. Наперадзе паліцэйская машына. І толькі цяпер мы бачым дэталёва тую дарогу, па якой мінулай ноччу ехалі на адпачынак. Справа і злева ад дарогі такія абрывы, ад якіх кружыцца галава ў тых, хто іх бачыць упершыню. А калона, пятляючы, апускаецца ніжэй і ніжэй. Дзенідзе па дарозе сустракаюцца сядзібы гуцулаў і побач з імі палеткі ўзаранага чарназёму, дзялянкі, на якіх засталося бадыллё кукурузы. Яго гуцулы выкарыстоўваюць як паліва для абагрэву дамоў. Цікава разглядаць такія краявіды, якіх ў нашым краі не ўбачыш. Праехалі з дзясятак кіламетраў, назіраем больш шырокія ўзараныя палі чарназёму на менш крутых склонах. Аднак відаць шмат зямлі, якая не ўзарана. Не настаў яшчэ час, каб выкарыстаць яе. Я падумаў: «Якія патэнцыяльныя магчымасці тояць гэтыя землі. Багацце ўкраінскага чарназёму здольна накарміць значна большую частку людзей, калі яго апрацаваць належным чынам».

Пад'ехалі да стадыёна па вуліцы імя Бандэры і ўладкаваліся на сваім месцы. Мы з Антонам вырашылі не ісці на архірэйскую імшу, а схадзіць на рынак і набыць там штосьці такое, чаго ў нас не купіш. Ідзём. Звяртаемся да сустрэчнага з пытаннем, як нам прайсці на базар. Але пачулі, што па нядзелях базар не працуе. Заходзім у бліжэйшы магазін і знаёмімся з мясцовымі коштамі. Заўважаем, што яны ў гэтай краме амаль такія, як і ў нас. Прадавец нам тлумачыць, што вэнджаная скумбрыя ў іх нядаўна была 16 грыўнаў, а літаральна за тыдзень цана падрасла. Калі пералічыць на нашы рублі, то атрымліваецца, што і ў нас, і ў іх кошты амаль аднолькавыя. Нам растлумачылі:

— Кошты падняліся для таго, каб гэтыя тавары не перацякалі з адной краіны ў другую.

Выйшлі з магазіна, сустрэлі харыстку нашай партыі Вольгу Ежык і разам пайшлі ў цэнтр Бучача не па акружной пятляючай дарозе, а наўпрост. Спыталі ў сустрэчнай жанчыны, як прайсці да цэнтра.

Ідзём гуськом па вузкай пятляючай, выкладзенай камянямі сцежцы, дакладней, спускаемся ўсё ніжэй і ніжэй. Справа бачым даволі вялікі абрыў, па краі якога пралягае сцежка. Трэба было акуратна ступаць, а не балансаваць, не глядзець уніз, каб выпадкова не закружылася галава і не паляцець у прорву. Прайшлі яшчэ некалькі хвілін, бачым разбураны замак

XIV стагоддзя, які ахоўваецца законам — чакае сваёй чаргі на рэстаўрацыю. Чым ніжэй апускаемся, тым усё больш здзіўляемся мясцовым жыхарам, іх працавітасці: як на такім стромым спуску знайсці месца і «прыляпіць» прыгожыя дамы з агародамі?

Нарэшце сцежка прывяла нас у цэнтр Бучача, які пабудаваны ў Сярэднявеччы на самым нізкім месцы падножжа гары, па якой мы толькі што спусціліся. На першы погляд можа здацца, што вуліцы цэнтра Бучача вузкія і хаатычна размеркаваны. Прыгледзеўшыся ўважліва, зразумеў: усе дамы і вуліцы цэнтра ўмела спланаваны і пабудаваны на самым нізкім месцы ўпадзіны ў адпаведнасці са складаным рэльефам мясцовасці.

А мы з Антонам мелі меркантыльную мэту: купіць тое, чаго ў нас не набудзеш па нашых фінансавых магчымасцях. Мы спадзяваліся, што ў гэтым краі, дзе шмат пасадак грэцкіх арэхаў (яны вырошчваюцца нават у прыдарожных палосах), магчыма купіць іх значна танней, чым у нас. Калі мы наведалі некалькі магазінаў, дык зразумелі, што ў нядзелю адчынены толькі прадуктовыя, а тыя, дзе прадаюцца сельскагаспадарчыя тавары, на жаль, зачынены. Наведалі некалькі такіх магазінаў, набылі сваім блізкім падарункі і пайшлі з Антонам да свайго аўтобуса. Пры гэтым зразумелі: набыць арэхаў у горадзе Бучач не ўдасца. На зваротным шляху бегла агледзелі грэка-каталіцкія, каталіцкія і праваслаўныя храмы і ідзём па дарозе, па якой мы ўчора ехалі аўтобусам.

— Скажыце, калі ласка, ці далёка нам яшчэ ісці да стадыёна? — спыталі ў гараджаніна, які ішоў побач з намі.

— Не, недалёка, я якраз іду туды.

І мы ўтрох ідзём, размаўляем. Наш спадарожнік, калі даведаўся, што мы прыехалі на фестываль грэка-католікаў з Беларусі, расказаў: ягоная дачка выйшла замуж за беларуса, і яны паехалі на радзіму мужа. Вось хутка выбары і рэферэндум. І калі адбудуцца змены, то тады ён наведае іх.

— Бачыце, вунь партрэт нашага кандыдата ў прэзідэнты Віктара Юшчанкі, мы яго паважаем і спадзяёмся, што ён пераможа Віктара Януковіча, — паказаў рукой.

Мы спыталі:

— Чаму не бачым аніводнага партрэта Януковіча?

— У нашым заходнім рэгіёне адносіны большасці выбаршчыкаў да яго адмоўныя. Агітацыйныя партрэты прем’ер-міністра невядомыя паганілі. З рэзідэнцыі прэм’ера паступіла распараджэнне: каля кожнага партрэта Януковіча выставіць паліцэйскую ахову. Уяўляеце, колькі дадатковых сродкаў спатрэбіцца толькі на адно гэтае мерапрыемства?

Пакуль мы ішлі да стадыёна, архірэйская служба скончылася. Мы ўладкаваліся на свае месцы ў аўто і адпачывалі.

Набліжалася 14 гадзіна. Прыйшлі ўсе пасажыры, занялі свае месцы. Едзем на развітальны абед у тую сталоўку, дзе мы надоечы вячэралі. Абе-

дам распараджаўся архімандрыт Сяргей Гаек. Ён, як і ў мінулы раз, перад абедам прапанаваў памаліцца. Стол быў багата сервіраваны.

Пасля першай стравы, па просьбе Сяргея Гаека, спн. Вера сабрала ўсіх харыстаў, размясціла паўкругам перад залай, дзе мы абедалі, і мы праспявалі некалькі духоўных песень-малітваў: «Прыйдзі, Дух Божы…», «Дай, добры Божа…» і іншыя. Закончылі беларускім рэлігійным гімнам «Магутны Божа», а на развітанне спн. Вера падышла да кіраўніка Таварыства Кірыла і Мяфодзія з Бельгіі, спонсара дзясятай міжнароднай сустрэчы грэка-каталікоў сп. Ё. М. Вольфа, падзякавала яму за выдатна арганізаваны фэст. Пасля хор для ўсіх прысутных выканаў «Многае лета» ў трох розных музычных варыянтах. Вярнуўшыся на свае месцы, працягвалі абед.

Абед закончаны. Мы з Антонам выйшлі ў двор і бачым, як у чарзе стаяць грэка-каталікі, падыходзяць да айца Сяргея Гаека. Ён цёпла з імі развітваецца. Кожнага абдымае, тры разы цалуе і бласлаўляе.

Антон кажа:

— Давай, Міхась, і мы папросім у архімандрыта бласлаўленне на развітанне.

Становімся ў чаргу і, як і ўсе, атрымліваем цёплае бласлаўленне.

Больш мы на стадыён не вярталіся, а паехалі напрамкам на Тарнопаль і пры выездзе з мястэчка затрымаліся на акраіне, каб даць магчымасць нашым пілігрымам наведаць магазіны, набыць штосьці на памяць ад паездкі ў такі гасцінны горад.

Стаялі прыкладна з гадзіну. Чакалі ўсіх. Мне падказалі:

— Паглядзіце, вунь там ля нашай шашы стаіць грузавая машына з поўдня Украіны і даволі танна прадае кавуны.

Я хуценька знайшоў неабходны пакет і літаральна за 10 хвілін да адпраўлення аўтобуса за адзін даляр набыў кавун вагой каля 6 кілаграмаў.

16 гадзін. Праз тры гадзіны ўжо сцямнее. А нам трэба пераадолець значную частку дарогі па Украіне. Усе сабраліся. Ад’язджаем. А мяне трывожыць адна думка: «Дзе ж мне набыць у якасці прэзента маім блізкім грэцкіх арэхаў? Гэта ж той край, дзе іх танна можна купіць, таму што яны тут растуць без асаблівага догляду на гэтых багатых землях у спрыяльных кліматычных умовах».

Стартуем і едзем хутка. Цяпер шафёрам дарога знаёмая. Не паспелі азірнуцца, як мы ўжо мінаем Тарнопаль. Праязджаем яго без затрымак. Хтосьці прапанаваў у Тарнопалі затрымацца на рынку, каб пілігрымы маглі набыць падарункі. Аднак на затрымку Вітаўт не пагаджаецца:

— Прыпынак тут пагражае тым, — кажа ён, — што мы затрымаемся надоўга і давядзецца ў асноўным ноччу ехаць па тэрыторыі Украіны.

А пакуль ішла дыскусія, мы апынуліся на шашы ў напрамку на Роўна. Праехалі з дзясятак кіламетраў, аўтобус з’язджае на абочыну і

затрымліваецца. Наперадзе жанчына з вёдрамі, прадае яблыкі і грэцкія арэхі. Я выйшаў з аўтобуса, набыў малое вядро арэхаў за 3 даляры. Падумаў: мне такой колькасці будзе мала, і, вярнуўшыся, купіў дадаткова вялікае вядро за 4 даляры. Паклаў набытае ў багажнік і супакоіўся.

Аўтобус пачынае рухацца пасля таго, як усе, хто жадаў, скончылі свае закупкі. Едзем, і праз сто метраў зноў затрымка: вадзіцелі зразумелі, што і ім патрэбны арэхі. За імі пацягнуліся і астатнія, якія лічылі раней: «Глупства, а навошта мне патрэбныя гэтыя арэхі». Сп. Вітаўт нервуецца, таму што мы яшчэ далёка ад беларускай мяжы, а сонца схіляецца да захаду. Вечарэе. Урэшце ўсе жадаючыя набылі ўдосталь таго, чаго хацелі, і далей едзем без гандлёвых прыпынкаў.

Далейшае падарожжа адбывалася без значных затрымак, і мы прыехалі на ўкраінскую мяжу апоўначы; пратрымалі нас там столькі ж часу, як і ў суботу. Без канфліктаў прайшлі кантроль на абодвух пераходах.

Традыцыйна сваімі ўражаннямі ад паездкі я папрасіў падзяліцца Веру Васільеўну:

— Горад Бучач — гэта раённы цэнтр Тарнопальскай вобласці. Фундатарам усіх паездак на ўкраінскія грэка-каталіцкія фестывалі з’яўляецца кіраўнік місійнага цэнтра бельгійскі грамадзянін Ёзэф Марыя дэ Вольф, нямецкага паходжання. Чалавек сталага ўзросту. Ён настолькі любіць Бога, Маці Божую, што ўсклаў на свае плечы такі груз. Гэта ж уявіце сабе: колькі ж трэба правесці працы, колькі знайсці грошай, бо дарма ж ніхто нічога не дае, і зноў жа яму дае Бог. І як яму было нязмерна цяжка, але ён зрабіў гэтую справу. Яму дапамагае Бог і сіл дадае. Дапамагае знайсці сродкі. Дапамагае быць заўсёды на гэтых мерапрыемствах. І памятаць пра нас. Мы ўразілі яго вельмі. Я бачыла яго вільготныя вочы, калі ён без перакладчыцы дзякаваў нам за наш удзел і казаў, што мы запрошаны быць пастаяннымі ўдзельнікамі гэтых малітваў на вервіцы. Я шчыра ўдзячна гэтаму чалавеку.

Цяпер Бучач. Безумоўна, кожны раз гэтыя мерапрыемствы становяцца усё больш важнымі, больш арганізаванымі. Так што людзі самі адчуваюць патрэбу ў гэтым і самавызначаюцца нейкім чынам, каб кожнаму больш годна правесці такія мерапрыемствы. На гэты раз была сустрэча на стадыёне. Добра арганізаваная ў сэнсе аховы. Падключаны дзяржаўныя і моладзевыя арганізацыі. Выдатна прадуманы пытанні пражывання, харчавання. Гэта ж такая маса людзей. Ніхто не быў абдзелены ўвагай, ніхто не быў незаўважаны. Былі адказныя валанцёры, якія апекаваліся кожнай дэлегацыяй і пілігрымамі з розных мясцінаў. Прыемна тое, што мы мелі магчымасць, як і іншыя, дарэчы, правесці імшу па-беларуску. Усе людзі маглі чуць і далучацца да гэтай малітвы.

Надвор’е на гэты раз у цэлым было спрыяльнае нашаму падарожжу. Я хацела падзякаваць Вітаўту Парфёненку. Менавіта ён наладзіў паездку

ў Бучач. Ягоная заслуга — арганізацыя падарожжа, транспарт, інфармацыя аб правядзенні мерапрыемства. Ніхто, па вялікім рахунку, не быў абдзелены ўвагай.

## Чэрвень 2005 года. Канцэрт у грэка-каталіцкай катэдры г. Уроцлава

Ад'язджаем з пляцоўкі чыгуначнага вакзала. Так сказала спн. Вера на апошняй рэпетыцыі. З набліжэннем 22 гадзіны колькасць нашага спеўнага калектыву павялічвалася, уладкоўвалі свае сумкі ў багажнае аддзяленне аўтобуса, займалі свабодныя месцы ў салоне і развітваліся з праваджаючымі. Як заўсёды познімся, ад'язджаем на гэты раз на 15 хвілін пазней за пазначанае.

Да паездкі сабралася разам з нашым мастацкім кіраўніком спн. Верай 17 харыстаў. Нас запрасілі ў польскі горад Уроцлаў на фестываль беларускай культуры і ўключылі ў праграму наш выступ 11 чэрвеня з канцэртам духоўнай музыкі ў грэка-каталіцкай катэдры Уроцлава а 18 гадзіне.

Ехалі праз Брузгі. Затрымаліся на мяжы больш як гадзіну і паехалі напрамкам на Беласток. У сувязі з уваходам Польшчы ў еўрапейскую супольнасць змяніліся правілы праезду праз мяжу ў лепшы бок. Калі паказалі дакумент, што мы едзем на фестываль беларускай культуры, дык нас амаль не правяралі. На абноўленым пагранічным пераходзе Брузгі (я ехаў першы раз пасля капітальнай яго рэканструкцыі) памежнік сабраў нашы пашпарты, аднёс для дэталёвай праверкі ў свой офіс і праз дзесяць хвілін вярнуў праштампаванымі. Пераадолеўшы ўсе праверкі на польскім участку мяжы, едзем без затрымкі ноччу праз Беласток і Варшаву. Ад Гародні да Уроцлава, як лічыць Лапеха, увесь шлях складае каля шасцісот шасцідзесяці кіламетраў. Ад Варшавы да Уроцлава гэты адрэзак дарогі пралягае праз мястэчкі, вёскі, невялікія паселішчы. Да таго ж дарога на значнай частцы рамантуецца, змяняецца асфальтавае покрыва. На некаторых участках на сустрэчнай паласе накладалі асфальт, і там рух па гэтай паласе прыпыняўся. Дарожныя службы па чарзе прапускалі нейкі паток машын па нашай паласе, а мы стаялі і чакалі сваёй чаргі. Перад самым Уроцлавам быў вялікі аб'езд.

Прыехалі ва Уроцлаў а дзявятай гадзіне. Затрымаліся ў цэнтры. Нашы кіраўнікі спн. Вера і Ігар Лапеха пайшлі ў аргкамітэт на вуліцу Калбаснічую, а аўтобус пакінулі на стаянцы насупраць канала. Закончылі перамовы з аргкамітэтам, паведамілі, што маем вольны час дзеля знаёмства з цэнтрам горада. Жадаючым пазнаёміцца з Уроцлавам прапанавалі пайсці з Ігарам Лапехам, каб ён пазнаёміў іх з самымі цікавымі мясцінамі.

Мы павінны абавязкова вярнуцца на стаянку не пазней за 13 гадзін, каб ехаць у прызначаны гатэль і пасяліцца там на пару дзён, пакуль будзе працягвацца фестываль.

Пачалося знаёмства з горадам. Уроцлаў уразіў мяне прыгажосцю сваіх дамоў, пабудаваных пераважна ў гатычным стылі. Бачылі шмат дамоў з вузкімі вуліцамі, дзе захаваліся трамвайныя лініі. Цікава тое, што ва Уроцлаве я не бачыў тралейбусаў. Там перавозяць пасажыраў у асноўным трамваямі і аўтобусамі, нягледзячы на тое, што Уроцлаў прыкладна ў два разы большы па колькасці насельніцтва за Гродна. Ігар нам паведаміў, што ў Другую сусветную вайну Уроцлаў быў амаль не разбамбаваны.

Знаёмімся з цэнтрам горада і не забываем, што трэба вярнуцца да аўтобуса ва ўмоўлены час, каб ехаць у гатэль, які месціцца на ўскрайку горада. Туды мы прыехалі своечасова. Наведала адміністрацыю гатэля «Орбіс» спн. Вера. Прынесла кашулі-футболкі з надпісам: «2 czerwca 2005 Drugi Festiwal Kultury Bialoruskiej» і ўручыла кожнаму харысту, дадала, што ўдзельнікам фестывалю кашулі будуць пропускам на ўсе яго мерапрыемствы.

Пасялілі нас па два харысты ў пакоі ў шыкоўных нумарах, якія абсталяваны ўсім неабходным дзеля нармальнага адпачынку. Нам паведамілі, што на абед мы спазніліся. Абедаць давядзецца за свой кошт. Расклалі свае рэчы і адразу пакладаліся спаць, таму што папярэднюю ноч нармальна не спалі. Увечары нас адвезлі ў цэнтр горада на вуліцу Шэўскую, каб мы наведалі дыскусію «Беларусь — забыты край», дзе будуць выступаць Павал Мажэйка з Гродна і Ян Чурыловіч з Бруселя. Прыехалі туды са спазненнем на 40 хвілін, аднак удалося паслухаць і выступленне Паўла Мажэйкі на польскай мове. Ён расказаў аб цяжкіх умовах працы карэспандэнтаў Беларусі і як гэтыя складанасці пераадольваюцца. У канцы пачалася дыскусія. Было шмат выступленняў з месца. Цікавымі паведамленнямі падзяліліся тыя палякі, якім удалося наведаць Беларусь апошнім часам. Адзін з іх расказаў, што ён наведаў знаёмую па даваенных часах сям'ю ў Ашмянах. Размаўляў са знаёмай жанчынай каля дзвюх гадзін, і яна яго нават не запрасіла ў сваю кватэру — саромелася сваёй беднасці.

Ад хору «Бацькаўшчына» ўзяла слова спн. Вера і гаварыла пераканаўча аб праблемах беларускай мовы, культуры і патрыятычных спеваў.

Пасля таго, як наш аўтобус адвёз нас на дыскусію, шафёр вярнуўся на стаянку ў гатэль «Орбіс», пакінуў нас у цэнтры горада. Перад гэтым ён растлумачыў: заставацца ў цэнтры і чакаць нас яму небяспечна, таму што цяжка знайсці прыпынак, на якім дазвалялася б чакаць працяглы час, а паставіць аўтобус у невядомым месцы рызыкоўна. Новае заканадаўства Еўрасаюза патрабуе, каб шафёр няўхільна выконваў правіла — быць за рулём за суткі не больш як 15 гадзін. Калі ж вадзіцель парушае гэты распарадак, то на яго накладаецца штраф да тысячы еўра. Растлумачыўшы гэта,

дадаў, што дабірацца ў гатэль нам давядзецца самастойна. Мы засталіся без аўтобуса, а нас было каля 20 чалавек. Я падумаў, што будзе з намі, калі мы спознімся — давядзецца самастойна дабірацца ў незнаёмым горадзе. А мы ж не паспелі нават абмяняць валюту на злоты. Тады трэба будзе ісці пешшу. А гэта ж ноч. Ды і горад нам незнаёмы. Я вырашыў пасля першага праграмнага мерапрыемства ехаць трамваем у матэль, аднак мае сябры мяне ўгаварылі схадзіць у 21 гадзіну ў Klub Muzyczny Lykend на рок-канцэрт гурту «Крама» з Менска. Нягледзячы на тое, што клуб быў перапоўнены пераважна моладдзю, нам як прадстаўнікам хору «Бацькаўшчына» знайшлося месца. Нас пасадзілі і мы мелі магчымасць слухаць рок-канцэрт.

Рок-гурт пачаў свой канцэрт на фоне бел-чырвона-белага сцяга. Слухачы сядзелі ў асноўным за сталамі, а тыя, каму не хапіла месца, сядалі на падлогу, пілі піва, напоі, палілі, а аматары танцавалі пад музыку цяжкага року. Гарачыня, дым ад цыгарэт, гучная музыка з такімі ж спевамі вядучага перад мікрафонам стваралі ўдзельнікам выдатны настрой. Яны выражалі свае эмоцыі напоўніцу: танцавалі, спявалі разам з вядучым знаёмыя ім песні. Нам, прысутным харыстам старэйшага ўзросту, пенсіянерам, было весела паглядзець і паслухаць, каб мець уяўленне, што ж такое цяжкі рок. А таксама задумацца: чаму так прыхільна да яго моладзь? Мне асабіста не падабаецца вельмі гучнае выкананне песень ад мікрафона. Можа быць, выканаўцы разлічваюць на тое, каб слухачы засяроджваліся толькі на іх песнях. Гэта з аднаго боку, а з другога — адчуваўся эмацыянальны пратэст, выказаны мастацкімі сродкамі супраць усяго таго, што дзеецца ў новым тысячагоддзі.

Канцэрт скончаны. Мы з Верай Іванаўнай Ярмошынай першымі з нашых харыстаў пайшлі на выхад. Дзяжурныя хлопцы, мабыць, з абслугі, калі мы падымаліся па лесвіцы, спыталі нас: «Ці спадабаўся вам канцэрт?» Мне нічога не заставалася як сказаць: «Канцэрт быў вельмі цікавы, незвычайны. Ён выклікаў у мяне шмат пытанняў, думак. І, відаць, таму, што на такім канцэрце я быў упершыню. Я не шкадую аб патрачаным часе».

Пасля такога гучна-душнага асяроддзя мы ўрэшце выйшлі з гэтага падвала на свежае паветра, некалькі хвілін чакалі, пакуль збяруцца нашы харысты, і пайшлі на прыпынак трамвая. Там чакалі трамвая, які прывязе нас у гатэль «Орбіс». Праз хвілін 20 хтосьці з нашых сказаў, што мы можам сесці на трамвай, які набліжаўся да прыпынку. Дружна сядаем і едзем. Праехалі прыкладна тры трамвайныя прыпынкі, даведаліся ў пасажыраў, што мы селі не на той трамвай. На прыпынку выходзім і вяртаемся пешшу туды, дзе мы сядалі. Праз паўгадзіны прыйшлі. На прыпынку Ігар Лапеха разгаварыўся з мясцовым жыхаром (яму таксама патрэбны трамвай таго ж напрамку), і ён вырашыў дапамагчы і нам, і сабе. Па сотавым тэлефоне пазваніў у аўтабазу, расказаў, што група ўдзельнікаў фестывалю з Беларусі трапіла ў цяжкае становішча і не можа дабрацца да гатэля «Орбіс» і папрасіў, каб

нам выслалі дадатковы аўтобус. Праз нейкі час прыбыў аўтобус і адвёз нас у матэль. У якасці падарунка шафёру аўтобуса мы праспявалі некалькі песень. Прыехалі на месца а другой гадзіне ночы.

Рэпетыцыя раніцай пачалася ў прызначаны спн. Верай час. Яна перад адказным канцэртам нервуецца. Выбірае, якія песні будзем выконваць, а якія можна ў сённяшнім канцэрце апусціць. Рэпетыцыя працягвалася больш за гадзіну, а пасля спн. Вера нас, старэйшых, адправіла на адпачынак, і працягвала рэпеціраваць з маладзейшымі.

На абед едзем у цэнтр Уроцлава. Пакідаем аўтобус ля канала на вуліцы князя Вітаўта — там дазволена стаянка аўто.

Харыстаў перад абедам па просьбе спн. Веры сп. Лапеха адвёў для азнаямлення з кафедральным грэка-каталіцкім саборам. Там нам растлумачылі, што прыхаджанамі сабора ў асноўным сталі грэка-каталікі, якія перасяліліся ва Уроцлаў з Заходняй Украіны пасля Другой сусветнай вайны. Іх святар расказаў мне, што ў ягоным прыходзе налічваецца да пяці тысяч чалавек. Такога велічнага ўніяцкага храма няма не толькі ў Гародні, але і ва ўсёй Беларусі. Храм — гэта былая лютэранская кірха, перададзеная грэка-каталікам у 1956 годзе. Архітэктура ягоная ўражвае сваёй велічнасцю, памерамі, цудоўнай акустыкай і сціплым убранствам алтара і сцен. Не назіраецца таго мноства залачоных ікон, якое мы бачым у праваслаўных храмах.

Калі мы ўвайшлі ў храм, то нас ветліва сустрэла дзяжурная законніца. Прадстаўніцы аргкамітэта Караліны тут мы не знайшлі, відаць, таму, што спазніліся. Законніца дазволіла нам правесці пробную рэпетыцыю. Спн. Вера правяла скарочаны варыянт рэпетыцыі, дабівалася аптымальнага гучання нашых твораў, размясціла ў адпаведных месцах мікрафоны, і толькі пасля гэтага мы пайшлі ў сталоўку на абед.

Абед адбываўся так: станавіліся ў чаргу, бралі падносы, а спн. Вера раздавала нам талоны коштам па 10 злотых. Кожны ў чарзе глядзеў у меню і выбіраў тое, што хацеў.

Пад час абеду з нашай харысткай, салісткай Верай Ярмошынай, адбылася непрыемнасць — хтосьці з прысутных у абедзенным зале скраў у яе сумку з грашыма, якую яна павесіла на спінку крэсла, дзе сядзела за абедам разам з харысткай Святланай Маразевіч. Такая непрыемнасць ускалыхнула наш калектыў. І здарылася ж гэта ў той дзень, калі Ярмошына збіралася выконваць сольны нумар на канцэрце а 18 гадзіне. Калектыў быў узбуджаны, пачалі вылучаць розныя версіі таго, як такое магло здарыцца. Сп. Лапеха разам з Верай Ярмошынай пайшлі ў адміністрацыю сталовай, а пасля і ў паліцыю. Нягледзячы на ўсе непрыемнасці, нам неадкладна трэба было ехаць у гатэль, каб пераапрануцца, падрыхтавацца да выступлення. Спн. Веры патрэбна было ўнесці змены ў праграму канцэрта, знайсці вядучага праграмнага выступлення. І ўсё гэта рабілася наспех. Пакуль ехалі

на канцэрт, наша маэстра дыктавала нам спіс твораў і паслядоўнасць іх выканання, выбрала вядучую канцэрта Лану Руднік і давала ёй інструкцыі, а мы пайшлі на канцэрт і чакалі спн. Веру ля ўвахода ў катэдру. Прыехалі са спазненнем на 15 хвілін.

Зала была амаль запоўнена прыхаджанамі. Канцэрт пачаўся песняй «Прыйдзі, дух Божы…». Пераклад на польскую мову рабілі па чарзе прысутныя ў зале два перакладчыкі.

На канцэрце духоўныя песні выконваліся ўперамешку з патрыятычнымі. Праз нейкі час нас, харыстаў сталага ўзросту, пасадзілі, а моладзевая група хору выконвала цыкл песняў, якія яны звычайна спяваюць самастойна. Пазней мы зноў далучыліся да хору і спявалі да канца канцэрта.

Пасля кожнай песні зал адгукаўся воплескамі. Асабліва былі бурныя воплескі, калі мы выканалі песню на польскай мове «Wieczur zapada». Канцэрт закончылі нашым рэлігійным гімнам «Магутны Божа», а на развітанне выканалі трайное «Многае лета». Тут жа працавала група мясцовага тэлебачання. Спн. Веру запрасілі на інтэрв’ю. А мы затрымаліся, каб пагутарыць з прысутнымі, якія дзяліліся з намі сваімі ўражаннямі аб нашым канцэрце, задавалі свае асабістыя пытанні. Спн. Веры паднеслі вялікі букет чырвоных руж.

Канцэрт скончаны. Ідзём у сталовую на вячэру. Павячэраўшы, сядаем у свой аўтобус разам з прадстаўніцай аргкамітэту Каралінай і едзем у бліжэйшы паліцэйскі пастарунак, пакідаем там нашых Веру Ярмошыну і Веру Кунцэвіч разам з Каралінай і Ігарам Лапехам, а астатнія едуць у гатэль «Орбіс» на адпачынак. Прыехалі на месца прыкладна ў 22 гадзіны. Я вырашыў, што для мяне будзе лепш за ўсё легчы адпачываць. Праз гадзіну да мяне пагрукаў у дзверы Алёша, сын спн. Веры. Ён сказаў добрую навіну — сумка спн. Ярмошынай з дакументамі знайшлася.

Пасля такога паведамлення трывога ў калектыве была знята. А каб дакументы не былі знойдзены, то давялося б ехаць зранку ў Варшаву ў наша пасольства і там атрымаць часовы дакумент Ярмошынай, каб ёй быў дадзены дазвол праехаць праз мяжу. На гэта спатрэбіўся б час, і немалы, бо наперадзе была нядзеля.

Раніцай развітваемся з гатэлем, едзем у цэнтр горада на сустрэчу з Каралінай. Аўтобус застаецца на вуліцы Князя Вітаўта, а мы ідзём у цэнтр на рынкавую плошчу з прыгожым фантанам. Там частка харыстаў застаецца са сп. Верай. Яна пойдзе ў аргкамітэт на развітанне з адміністрацыяй фестывалю, а другая частка харыстаў сядае ў аўтобус і едзе па пакупкі ў супермаркет. Суправаджала гэтую групу харыстаў Караліна.

Даволі доўга мы дабіраліся да супермаркета. Выехалі ў заходнім кірунку і праехалі, па маіх назіраннях, не менш як дваццаць кіламетраў. Калі мы выехалі за горад, то ўбачылі на гарызонце ў шэра-сіняй дымцы некалькі вялізных гор, я падумаў, што гэта, відавочна, перадгор’е Карпат. Гэтым не-

звычайным відовішчам зацікавіліся і іншыя харысты. Тамара Яраславаўна папрасіла мяне, каб я ёй паказаў гэтыя горы.

Набліжаўся час ад’езду з супермаркета, і ва ўмоўлены час усе сабраліся. Ад’язджаем. Праз паўгадзіны мы ўжо на вуліцы Князя Вітаўта. Неўзабаве прыйшла спн. Вера, коратка расказала аб сваім паходзе ў аргкамітэт на вуліцу Калбаснічую. Аргкамітэт выдзеліў хору «Бацькаўшчына» талоны, і мы ідзём на абед у сталовую, абедаем, вяртаемся на прыпынак. Сядаем у аўтобус і па вуліцах Уроцлава едзем на паўночны ўсход, напрамкам на Варшаву. Ад’ехалі а 18 гадзіне.

Зваротны шлях быў даволі хуткім, рухаліся амаль без прыпынкаў і аб’ездаў. Прыпыніліся толькі адзін раз на нейкай заправачнай станцыі. Праз Варшаву праехалі каля поўначы і на ўскрайку яе, ужо на беластоцкай шашы, затрымаліся ля нейкай бензакалонкі.

Мясцовасць ад Беластока да Гародні пагорыстая. Там пралягае Гарадзенскае ўзвышша, якое займае значную тэрыторыю Беластоцкага ваяводства і Гарадзенскай вобласці. І калі наш аўтобус апынуўся на трасе напрамкам на мяжу, я заўважыў, што палатно дарогі апускаецца то ўніз, то падымаецца ўгару. Тыя, што прачнуліся, не маглі не заўважыць, як хутка станавілася перад усходам сонца святлей. І са з’яўленнем першых промняў стала зусім відно.

Наступіў дзень 13 чэрвеня. Было добра бачна, як па нізкіх месцах плылі клубы туману. І як толькі мы апускаліся ў нізіну, то аўтобус акунаўся ў туманнае воблака. Шафёру даводзілася памяншаць хуткасць руху. Праехалі мястэчка Сакулка, а пасля Кузніцу. Затрымаліся на абодвух памежных пераходах усяго 30 хвілін.

Я папрасіў спн. Веру распавесці гісторыю нашай паездкі ва Уроцлаў.

— Гісторыя кароткая, яна імкліва развівалася і скончылася выдатнай паездкай ва ўсіх адносінах. Адразу хачу зазначыць, што ў арганізацыі гэтай паездкі мая роля малая. Вялікі дзякуй хачу выказаць маладому журналісту Паўлу Мажэйку за яго прапанову польскаму боку запрасіць наш калектыў на Другі фестываль беларускай культуры ва Уроцлаве.

Дзякуй грамадскаму аб’яднанню «Трэці сектар» пад кіраўніцтвам Вітаўта Рудніка за інфармацыйную і камунікацыйную падтрымку, а Лане Руднік, нашай харыстцы і супрацоўніцы «Трэцяга сектара», за арганізацыю гэтай паездкі. Яна зрабіла вялікі плакат-абвестку, каб паездка такой колькасці людзей была ўдалай і камфортнай.

Хачу яшчэ падзякаваць Ігару Лапеху, гісторыку і краязнаўцу па пакліканні ўласнага сэрца, за тое, што зрабіў гэтую і шматлікія нашы паездкі цікавымі з боку гісторыі, культуры і архітэктуры мясцін, дзе мы бываем.

***— Спн. Вера, як Вы ацэньваеце наша выступленне ў кафедральным грэка-каталіцкім храме Уроцлава?***

— Тое, што мы мелі магчымасць спяваць у галоўным грэка-каталіцкім храме г. Уроцлава, не выпадкова. Наш калектыў зрабіў вельмі многа для адраджэння ўніяцтва на Беларусі. І гэты выступ стаў як бы адной з дамінантных кропак у нашай справе адраджэння беларускай духоўнай музыкі розных рэлігійных канфесій, існуючых у нашай краіне. Так гістарычна склалася, што наша Беларусь — цэнтр Еўропы, і тут перамяжоўваюцца і мірна ўжываюцца паміж сабою розныя культурныя плыні, розныя рэлігійныя канфесіі на працягу многіх стагоддзяў. Беларусы — мірны, працавіты, спагадлівы, разумны народ, і не важна, да якой канфесіі хто належыць: у нас ва ўсіх адзін Бог і ва ўсіх адна Бацькаўшчына. Нездарма ў нашым рэпертуары ёсць рэлігійны гімн, а ў ім такія радкі:

Божа, што калісь народы
На асобкі падзяліў,
І хацеў, каб народ кожны
Мовай роднай гаварыў.

Мы гаворым, спяваем песні і славім Творцу на матчынай мове, шануем традыцыі свайго народу. І таму маем і атрымліваем такія падарункі, як гэтая і іншыя паездкі. Усё гэта ўпэўнівае мяне ў тым, што наш калектыў абраў для сябе правільны творчы шлях. Хай так і будзе надалей.

*— Як ацанілі выступ хору «Бацькаўшчына» арганізатары фестывалю?*

— Наш выступ быў высока ацэнены арганізатарамі фестывалю, а канкрэтна яго дырэктарам Андрэем Дамброўскім, які сказаў: «У вас надзвычайны калектыў. Я рады, што меў магчымасць слухаць вас і ганаруся тым, што запрасілі такі калектыў на фестываль і такім чынам далі магчымасць шматлікім людзям атрымаць асалоду ад вашых спеваў». Дарэчы, шматлюдны мясцовы храм быў поўным пад час нашага выступу.

Мы атрымалі падзяку ад міністра культуры Уладзіміра Дамброўскага, патрона гэтага фестывалю, за высокі ўзровень выканаўчага майстэрства і адданасць служэнню сваёй бацькаўшчыне. Вось такая ацэнка і такі рэзананс нашага выступу.

Шырокі рэзананс меў наш выступ у СМІ: наш канцэрт здымала група тэлебачання. Былі зроблены перадачы, якія трансліраваліся па цэнтральных каналах: TVP2, TVP3, польскае радыё SA Program 1, Program 2, радыё Polonia, The Warshaw Voice, Panorama Kultur, радыё і тэлебачанне Уроцлава.

# *Харысты*

У маі 1996 года пад час выступлення ў Каложскай царкве з нагоды велікодных свят харыст «Бацькаўшчыны» Міхась Слесарчук, звяртаючыся да нашага паэта Юрыя Сіткевіча, сказаў яму:

— Паглядзі, Юры, якая прыгожая ды стройная наша маэстра Вера.

Гэтыя словы запалі ў душу паэту, і ён піша верш:

Паглядзіце на стройную, белую, русую,
Для якой усе справы пасільны.
Ва ўсім свеце ці знойдзеш больш беларускую,
Чым яна, наша Вера Васільеўна.

Пазайздросціць па-добраму хочацца ёй,
Яе здольнасцям, спрыту, натхненню.
Сябе ўсю аддае яна справе святой —
Нашай Бацькаўшчыны адраджэнню.

Камертон у руцэ, партытура ў другой,
Ад напружання сціснуты вусны.
І, агледзеўшы ўсіх, узмахнула рукой —
Мы цяпер яе волі паслушны.

Колькі траціць і часу, сілы
(З ёю часта сынок яе родны).
Веру, прыйдзе нарэшце чаканы той час,
Калі звацца хор стане «народны»!

Хор наш слухалі Вільня, Будслаў, Магілёў,
Не гаворачы ўжо пра Гародню.
Дабяромся да дацкіх і іншых краёў,
Як на то будзе воля Гасподня.

Паглядзіце на стройную, белую, русую,
Зазірніце вы ў вочы ёй пільна.
Перад намі мадонна стаіць беларуская,
Наша мілая Вера Васільеўна.

Яшчэ адзін верш Юры Сіткевіч напісаў з нагоды 50-гадовага юбілею Веры Васільеўны. Лічу правільным прывесці на старонках кнігі пра хор «Бацькаўшчына».

### *В. В. Кунцэвіч (Додзік)*

Вам пяцьдзесят? Цяжка паверыць,
Вы ж маладзенькая зусім!
Аднак у нашай мілай Веры
Сягодня юбілей, між тым.

Вы пражылі ўжо паўстагоддзя,
Ды час над Вамі не ўладар.
Бо Вы — у творчым асяроддзі,
Музычны маеце Вы дар.

Вакол сябе Вы згуртавалі
І маладых, і пажылых,
Нераўнадушных да вакалу,
Напоўнілі натхненнем іх.

Вы — педагог, музыказнаўца,
Таленавіты дырыжор.
Ачольваеце год дванаццаць
Пад назвай «Бацькаўшчына» хор.

Вера Васільеўна, прыміце
Ад сэрца шчырага любоў,
На радасць нам усім жывіце
Ў здароўі моцным сто гадоў!

*22–26.05.2004, Гродна*

Я папрасіў Веру Васільеўну сказаць колькі слоў пра нашых харыстаў:

— Усё, што звязана з выступленнямі хору, заўсёды выклікае ў мяне моцныя пачуцці рознага кшталту — пачуцці еднасці, роднасці, калі можна так сказаць, мацярынскія пачуцці, як да свайго дзіцяці; радасна цёплыя, пяшчотныя. Гэта маё роднае, мною народжанае ў цяжкіх муках і перашкодах, складанасцях станаўлення і росту, росквіту творчасці і правільнага выбранага шляху.

Я не магу, шчыра кажучы, вылучыць кагосьці з удзельнікаў хору. Усе яны працуюць добра па меры сваіх магчымасцей. Хтосьці з іх прыносіць большую, а іншыя меншую карысць. Але кожны харыст укладае ў наш калектыў тое, на што здольны.

***— Сп. Вера, у гэтай кнізе шмат месца ўдзяляецца тым харыстам, якія былі першымі — пачынальнікамі, якія разам з Вамі і ўтварылі хор. Мне хочацца, каб Вы ўспомнілі Кастуся Жыня і расказалі аб той карысці, якую ён прыносіў і прыносіць як харыст***

*амаль што з пачатку канцэртнай працы «Бацькаўшчыны». Вядома, што яшчэ ў самым пачатку канцэртнай дзейнасці Кастусь Жынь, калі ўзніклі складанасці з памяшканнем, дзе б можна было праводзіць рэпетыцыі, дапамог хору. Хор па пратэкцыі Кастуся каля года працаваў у канцэртным зале Гроднаэнерга.*

— **Кастусь Жынь** — гэта асоба, — кажа спн. Вера, — якая заслугоўвае не тое што некалькіх радкоў у гэтай кнізе, а хутчэй цэлай кнігі аб сваёй плённай дзейнасці і яркім жыцці.

Але пра яго як пра харыста. Па-першае, Кастусь адзін з першапачынальнікаў дзейнасці і станаўлення хору «Бацькаўшчына».

*— Спн. Вера, дазвольце дадаць. Кастусь Жынь прыйшоў у хор з той кагорты пахаднянцаў, якія падтрымалі нас у часы станаўлення хору як калектыву, і застаецца разам з намі да сёння.*

— Да таго ж, — працягвае спн. Вера, — гэта найактыўнейшая асоба: амаль ні адна справа не абыходзіцца без яго ўдзелу, заўсёды з дзейснай прапановай.

Па-другое, Кастусь вельмі ахвярны. Не лічыцца ні з часам, ні з сілай, ні са сродкамі. Па-трэцяе, творчая артыстычная асоба: барытон хору, шматпланавы актор-камедыянт, князь Купаліш, Святы Мікалай — упрыгожванне калядных свят і шмат чаго іншага.

Наогул, Кастусь — першы ў любой справе: арганізацыя і падрыхтоўка калядных свят, Вялікадня, Купалля, культурных вечарын і іншых мерапрыемстваў. Неацэнны яго клопат у пераадольванні цяжкасцей падарожжаў. Таксама ён умее выдатна арганізаваць побыт, ды яшчэ з камфортам. Ён як вартавы, як анёл-ахоўнік заўсёды падставіць плячо і працягне руку дапамогі. Ён мае шчырае, добрае сэрца, і я вельмі рада, што ў нашым хоры ёсць такі Кастусь, што ў нашым грамадстве ёсць такі Жынь, што ў маім жыцці ёсць такая асоба.

**Галіна Міхайлаўна Данілевіч** мой настаўнік. Яна як асоба і чалавек навучыла мяне шмат чаму. І ўсё гэта я аддаю харыстам. Яна падтрымлівала мяне, калі я пачынала працаваць у «Бацькаўшчыне». У 1992 годзе яна была маім хормайстрам. Потым на працягу чатырнаццаці гадоў не ўдзельнічала ў хоры па сямейных справах — гадавала дачушку. А зараз вярнулася ў калектыў і робіць грунтоўны ў яго ўнёсак як дарадца, выкладчык і чалавек. Мае выдатны альт. Дакладная. Я вельмі ўдзячная ёй таму, што яе парады грунтоўныя. Дай Божа ёй здароўя і плённай работы ў нашым калектыве.

**Святлана Маразевіч (Іоська)** прыйшла ў хор з першых дзён яго арганізацыі. Быў значны перапынак, калі яна не наведвала хор па асабістых прычынах. Таму яна не ўдзельнічала ні ў выступе ў Магілёве, ні ў першай канцэртнай паездцы хору ў Данію. І ўрэшце зразумела, што шмат страціла, і пасля нашых замежных поспехаў вярнулася ў хор. Святлана мае

музычную падрыхтоўку і актыўна ўдзельнічае ў хоры ў якасці харысткі альтовай партыі. Першая мая памочніца. Яе прафесійныя веды патрэбны хору, асабліва пры паездках за мяжу — яна спецыяліст англійскай мовы. Святлана валодае паэтычным дарам, яна многім харыстам да дня нараджэння ў вершаванай форме складае віншаванні, яе эрудыцыя заслугоўвае самай высокай пахвалы.

Святлана вельмі ахвярны чалавек. Я ёй удзячна за яе працу. Яна, папершае, шмат асабістага часу аддае гэтай цяжкай справе. Мы спяваем, а пасля адпачываем. Яна перакладае і перакладае. Мала таго, яна не дае сабе адпачынку, бо яе цікавіць розная інфармацыя, якую яна хоча данесці да нас. Па другое, яна вядзе перапіску з нашымі сябрамі-датчанамі, не прапускае ніводнага моманту, ніводнай магчымасці, каб мы больш ведалі пра гэты край. А той бок ведаў пра наш край. Таму што яна як гісторык па адукацыі і творчы чалавек не марнуе дарэмна час. Яна кожную хвіліну нешта шукае, выпісвае, сочыць за літаратурай, прэсай. Яна ўважліва сочыць за культурным і палітычным жыццём нашых краін — гэтым жыве і дыхае. Яна стараецца як мага больш данесці інфармацыі да нашых людзей, якія не маюць такой магчымасці — шчодра з намі дзяліцца. А што тычыцца арганізатарскай дзейнасці адносна нашых далёкіх паездак на канцэрты за межы рэспублікі, то Святлана вельмі шмат робіць, каб адбыліся гэтыя паездкі.

**Ігар Лапеха**. Я яму вельмі ўдзячна за тое, што ён такі неўтаймаваны ў тым сэнсе, што хоча даказаць, што Беларусь — гэта годная краіна з выдатнай гісторыяй.

**Святлана Руднік** — гэта нястомная «дынама-машына». Мы яе называем не Святлана, а Лана (Ланачка). Гэта чалавек цалкам бескарыслівы, адданы беларускасці. Яна вельмі загружана працай, а на яе ж руках сям'я і грамадскія справы. Не мае часу чалавек, бо гэта такое маладое жыццё. І столькі часу яна аддае нам. У яе выдатны голас, цудоўны тэмбр. Яна ніколі не падвядзе. Калі яна сказала: «Зраблю» — абавязкова выканае, не падвядзе, нават калі яна вельмі занятая, таму што мы ўсе залежныя ад працы, ад сітуацыі. А тое, за што яна бярэцца, зробіць заўсёды дастойна. Яна не лічыць, што гэта для яе занадта многа. Яна разважае: трэба зрабіць — значыць, трэба зрабіць, напрыклад, «Бацькаўшчыне» ксеракопію, значыць, трэба. Трэба нейкі файл падарыць — падорыць, трэба нешта арганізаваць — арганізуе, надрукаваць — надрукуе. Яна вельмі многа нам арганізоўвала разам з яе мужам. Хачу падзякаваць яе мужу Вітаўту Рудніку і ягоным сябрам з грамадскага аб'яднання «Цэнтр "Трэці сектар"» і за ўдзел у святкаванні дзесяцігоддзя хору. А якія падарункі яны наладзілі! Падарылі нам папкі для файлаў і не толькі. Арганізоўвалі некалькі мерапрыемстваў, нават нас трошкі матэрыяльна падтрымлівалі.

Чалавек Святлана проста незвычайны. Шчыра скажу: я ёй вельмі ўдзячна як чалавеку і як харыстцы.

**Антон Амяльянчык —** чалавек ва ўзросце. Але ён такі шчыры беларус, не лічыцца ні з часам, ні са сродкамі. Ён стараецца быць завадным. У дарозе апякае жанчын. Дарэчы, яны з Кастусём так апекаваліся жанчынамі, што мы адчувалі ў дарозе сябе камфортна. Не адчувалі ніякіх дарожных праблем. Дзякуй гэтым мужчынам за вялікі клопат пра ўсіх нас. Антон Васільевіч у побыце чалавек незаменны. Жвавы такі.

**Тамара Яраславаўна Эльяшэвіч** прыйшла ў наш калектыў пасля паездкі хору ў Данію і спявае ў альтовай партыі. Удзельнічала з моладзевай групай у 1997 годзе з канцэртамі ў Францыі і Нямеччыне. У паездках акрамя спеваў дапамагае Святлане Маразевіч у перакладчыцкай справе. Каштоўна тое, што яна вельмі шчырая, не лічыцца з часам, уважлівая да нашых спраў. Мае музычную адукацыю. Грае на баяне. Прывяла ў наш хор дачку Ірыну, каб яна дзялілася сваімі ведамі як музыказнаўца-харавік на карысць нашай агульнай справе — адраджэнню мовы і беларускай культуры. Тамара Яраславаўна таксама прывяла ў наш калектыў сваіх сяброўак — Веру Сцяпанаўну Раманчук і Алу Віктараўну Чучву.

**Вера Ярошына —** салістка нашага хору. Такая завадная. Чалавек безадказны, прафесіянальны, адукаваны. Я вельмі ёю задаволена.

**Наталля Карчагіна —** харыстка са стажам. Нарадзіла дзіцятка. У нашым хоры ўжо амаль дзесяць гадоў. Вельмі актыўная харыстка. Мае добрую памяць. Спявала спачатку ў альтах, а зараз яна спявае ў «пашане» — у тэнарах. Жанчына зацікаўленая, ахвярная. Калі нарадзіла дзіцятка, то, натуральна, быў перапынак у яе ўдзеле ў хоры. Яе дзяўчынка Аляксандра падрасла і зараз ездзіць з намі як анёл-ахоўнік амаль з пялюшак. І гэта не перашкаджае нам. Харысты апякуюцца дзіцяткам. Наталля адчувае чалавечую дабрыню і цеплыню, ласку і ўвагу. Такім чынам яна робіць добрую справу ў нашым хоры — выхоўвае сваю дачушку і спявае. У сэнсе чалавечым — уважлівая, тактоўна выхаваная. Вельмі акуратная да партытур. У яе заўсёды ўсё ёсць. Працуе з вялікім жаданнем, аддана. Хачу выказаць ёй шчырую падзяку за актыўны ўдзел у хоры «Бацькаўшчына», за дапамогу ў адраджэнні беларускай духоўнай музыкі.

**Жанна Салама** — гэта падарунак лёсу нам. Ведаеце, калі гэтая жанчына да нас прыйшла, спыталася: «А ці можна я да вас пахаджу?» Сціпла так. Ёй захацелася менавіта ў наш хор прыйсці

«Па рэкамендацыі, я ўжо не памятаю ад каго. Сказалі, што ёсць такі хор духоўнай музыкі і ў ім варта ўдзельнічаць», — сказала Жанна.

Ёй захацелася ў наш калектыў прыйсці, менавіта ў хор беларускай духоўнай музыкі. Яна вельмі сціплая па натуры сваёй, мае выдатны голас, які ўпрыгожвае сваімі спевамі ўсю сапранавую партыю. Саліруе некалькі твораў. Вельмі ўтульная жанчына, уважлівая, прыветлівая, спагадлівая, з

пачуццём гумару, актыўная ўдзельніца. Я ёй вельмі ўдзячна. Я ўдзячна яе мужу і сям'і за тое, што яны апякаюць яе і самі прымаюць удзел у нашых мерапрыемствах. Яе муж Віктар дапамагае нам у гэтай справе. Вельмі каштоўна тое, што яны далучаюць да нашых мерапрыемстваў сваіх дзетак, далучаюць да беларускіх традыцый. Яна ўпрыгожвае наш калектыў як харыстка, як чалавек. Дзякуй ёй вялікі ад калектыву. Яна працуе ў нашым калектыве гадоў сем.

**Юры Седзянеўскі** — чалавек, які мае неабмежаваныя здольнасці. Гэта фізік, праграміст, камп'ютаршчык і выдатны тэнар. Калі ён прыйшоў сюды, дык сказаў: «Спн. Вера, чым мы тут будзем займацца?» І ён не адстане ад мяне, пакуль я яму ўсё дасканала не растлумачу. Гэта ў яго характары — дасціпнасць і дасканаласць. Ён любое заданне прывык выконваць на сто працэнтаў. Да таго ж ён Грамадзянін з вялікай літары ў нашым горадзе. Пяшчотна ставіцца да нашай мінуўшчыны, гісторыі Гародні. Чалавек, якому баліць, каб не страчана, каб адроджана было. Каб усё было дасканала рэстаўрыравана. Напрыклад, калі ён развучвае харавую песню, дык ён зробіць усё, каб яна гучала дасканала. Ён не шкадуе свайго часу. Вельмі дакладны, пунктуальны. Ніколі не адмовіцца выканаць любую просьбу калектыву. Ён сапраўдны майстар. Адданы і ахвярны. І да таго ж у яго ўсё наперадзе. Я ганаруся, што такая асоба спявае ў нашым калектыве.

**Святлана Каткова** прыйшла да нас з прозвішчам Кузняцова. Святлана маладая, прыгожая. Мае вышэйшую музычную адукацыю. Жанчына з выдатным голасам. Працуе з дзецьмі. Яна прыйшла да нас, каб спяваць па-беларуску, бо мае высокую свядомасць — не дзеля цікаўнасці, а дзеля таго, каб цікаўнасць пераўтварыць у справу. Святлана вельмі адказны чалавек. Многа выступала на канцэртах. Чалавек, які аддае людзям тое, што мае — па-сапраўднаму дапамагае іншым. Удзельнічае ў моладзевай харавой суполцы. Выступае ў дадатковых канцэртах, калі мае магчымасць. Гэта паказвае на тое, што яна мае каштоўныя чалавечыя якасці. Сапраўды важна, калі ў нашым калектыве маем такіх выдатных людзей.

**Аляксей Міневіч —** наш бас. Ён прыйшоў да нас параўнальна нядаўна з кастрычніка дзвюхтысячнага года. Яго прывяла ў хор Святлана Каткова. Чалавек ён у музычным плане вельмі адукаваны, музыкант-ударнік, выдатна валодае рытмам, зацікаўлены ў поспехах калектыву. У апошні час ходзіць на рэпетыцыі рэдка, аднак, калі калектыў мае вострую патрэбу, скажам, у выступленнях на канцэртах, ён знаходзіць час і ніколі не падводзіць. Калі да нас прыходзяць такія маладыя музычна адукаваныя людзі, то ёсць будучае калектыву. У мінулым годзе дапамог хору ў наладжванні калядных імправізацый. Ягоныя веды, музычны вопыт, праца і хобі турыстычных вандровак па многіх краінах свету захапляюць. Многа ездзіць за межы нашай краіны. На свае вочы бачыць і чуе, што дзеецца вакол. Робіць цікавыя

здымкі і расказвае нам пра кожную сваю паездку. Алёша Міневіч маладая, перспектыўная, шматгранная асоба. Я вельмі ўдзячна за шматлікія рэзюме. Поспеху гэтай асобе ў асабістым жыцці і нам на карысць.

**Вера Сцяпанаўна Раманчук**. Яна прыйшла да нас у «Бацькаўшчыну» не выпадкова. Гэта была адданая слухачка на ўсіх нашых канцэртах. Душа яе так жадала спяваць. Ёй вельмі хацелася стаць харысткай, але яна палохалася, бо лічыла, што мы спяваем надта складаныя творы ды яшчэ па нотах, а нот яна не ведала. Ёй падавалася, што мы ўсе надта разумныя, а ў нашым калектыве яна будзе сябе няёмка адчуваць. Аднак яна была апантанай слухачкай. Прыходзіла да нас на ўсе канцэрты, імпрэзы, вечарыны і паступова станавілася сябрам хору. А потым у кастрычніку 2004 года прыйшла ў наш калектыў. Мае выдатны голас, дакладна і акуратна выконвае ўсе ўказанні дырыжора, харыстка сапранавай партыі. Стараецца, каб не зрабіць памылкі. Што не ведае — запіша. Спытае, што не зразумела. Трошкі асмялела. Восенню таго ж года паехала з намі ва Украіну — спявала там акафіст. Яна спела і выспела як каштоўны плод. Яна чалавек кампанейскі, камунікатыўны. Я вельмі рада, што яна прыйшла да нас, і задаволена тым, што ў нашым калектыве ёсць такія шчырыя людзі. Можна сказаць, што яе голас — як праменьчык адзінага нашага калектыўнага жыцця. Яна, як зорачка, у адзіным нашым суквецці заняла дастойнае месца.

**Ала Віктараўна Чучва —** выкладчыца нямецкай мовы ў адным з гарадзенскіх каледжаў. Раней спявала ў іншым хоры, дзе набыла навык харавых спеваў. Мае выдатны слых і жаданне спяваць у духоўным хоры. Калі даведалася ад сваёй сяброўкі Тамары Эльяшэвіч, што ёсць хор духоўнай музыкі «Бацькаўшчына», з задавальненнем пасля цяжкай працы ў каледжы пачала наведваць хор, задаволена тымі спевамі, якія спявае гэты хор. Ала Віктараўна прыйшла ў наш калектыў і паспяхова ўдзельнічае ў ім.

**Ірына Апалайка** — мая калега, была студэнткай маіх сяброў. Па іх прапанове знайшла мяне і папрасілася ў хор. Ірына музычна адукаваная асоба. Яна да працы ставіцца вельмі сур'ёзна. Адна справа любіць спяваць і зусім іншая ўмець данесці людзям, як трэба спяваць. Ірына добра валодае сваім голасам. Зараз яна гадуе дачушку Анастасію, а потым, я думаю, вернецца ў калектыў.

**Вікторыя Баранава** — гэта не выпадковы чалавек. Яна, па-першае, спявала і спявае ў храме. А па-другое, аддае свой талент спявачкі нашаму духоўнаму хору. Яна мае выдатны слых і прыемны тэмбр. Калі ў яе ёсць магчымасць, то яна прыходзіць да нас і дапамагае нашаму калектыву бескарысліва.

**Алег Завадскі —** малады спецыяліст. Атрымаў адукацыю ва ўніверсітэце Янкі Купалы на гістарычным факультэце. Спачатку працаваў настаўнікам у Іўеўскім раёне, а зараз працягвае вучобу ў Менску на курсах. Гэта малады чалавек, якому заўсёды было мала — ведаў, рэпетыцый,

канцэртаў і г. д. І гэта добра, таму што чалавек заўсёды перапоўнены жаданнем даведацца больш. Хачу сказаць пра Алега таму, што ён спяваў у хоры «Бацькаўшчына», мае выдатны бас і слых. Ён кампанейскі чалавек і вельмі сяброўскі. Задаваў мне цікавыя пытанні. Прыгожа выглядаў на канцэртах.

**Валянціна Красоўская** — гэта жанчына, якая, можна сказаць, кумір, таму што ў яе чыстыя і заўсёды светлыя ўсмешлівыя вочы. Вочы з'яўляюцца адлюстраваннем душы. Жанчына, якая заўсёды абагравае, ціхая, сціплая. Колькі ў яе дабрыні, глыбіні, шчырасці! Сталы ўзрост у чалавека, праблемы са здароўем, але яна не раз казала: ведаеце, калі я схаджу ў хор, дык лепей сябе адчуваю. Значыць, хор лечыць, і за гэта я ёй вельмі ўдзячна. А з другога боку, я думаю: а што ж я пасеяла? Зярняткі сеяла, а зараз пажынаю плады. І дай Бог, каб яна хадзіла да нас столькі, колькі Бог адмерае ёй часу. Каб была разам з намі. Я вельмі шчыра дзякую гэтаму чалавеку за тое, што яна спявае.

Спадарыня Вера ў сваёй характарыстыцы кожнага ўдзельніка хору праўдзіва ацэньвае і паказвае, што мы наведваем хор не па прымусу, а па пакліканні сваёй душы.

Пра іншых дазволю сказаць колькі словаў сабе.

**Вольга Ежык** прыйшла ў хор у пачатку 1998 года. Яна мае добрую музычную падрыхтоўку, дапамагае тэнарам-мужчынам вытрымліваць належную танальнасць пры развучванні песні, спрыяе больш плённай працы нашай спн. Веры.

Харыст **Віктар Парфёненка** валодае выдатнымі музычнымі здольнасцямі. Ён з моманту арганізацыі хору спявае ў тэнаровай партыі. Калі мы былі ў Даніі, то ён выконваў сольную партыю ў некаторых народных песнях. Паспяхова арганізуе паездкі за межы горада і рэспублікі, удала знаходзіць спонсараў, якія фінансуюць нашы паездкі. Яму не заўсёды ўдаецца наведваць рэпетыцыі. Добрыя, Богам дадзеныя музычныя здольнасці дапамагаюць яму ўлівацца ў нашы канцэрты без праблем.

З першых дзён арганізацыі хору актыўны ўдзел у сапранавай партыі прымае **Ніна Шаставіцкая**. Працуе фінансавым супрацоўнікам. Яе веды ў галіне бухгалтэрыі дапамагаюць спн. Веры ў фінансавых пытаннях. Ніна чалавек сціплы, дысцыплінаваны, абавязковы.

**Алена Уфімцава** — гэта вельмі шчодры чалавек, мае двух прыгожых дзяўчынак. Яна ў нашых паездках ніколі не лічылася з часам, дапамагала нам у побытавых справах. Гэтая прыгожая жанчына апекавалася ў дарозе сябрамі па-жаноцку, каб ніхто нічога не забыў, не праспаў. Падстаўляла сваё маленькае худое плячо, калі ў дарозе ўзнікалі нейкія праблемы: стомленасць, нейкая разгубленасць, бо людзі ёсць людзі. Заўсёды шчодра падзеліцца тым, што мае. Яна з сабою ў падарожжа ўзяла відэакамеру, і

дзякуючы гэтаму нам удалося зняць галоўныя нашы падзеі. Гэта была вялікая справа для нас у Даніі ў 2001 годзе. Мы мелі магчымасць зняць на відэа ўсе нашы паездкі па Даніі з разлікам, каб паказаць тым харыстам, якія не ўдзельнічалі ў гэтай паездцы. Здымкамі займаўся Кастусь Жынь, які рабіў відэафільм аб падарожжы і мерапрыемствах, якія мы праводзілі.

2008 год для харыстаў «Бацькаўшчыны» быў незвычайным таму, што мы амаль дзевяць месяцаў не збіраліся на рэпетыцыі. Такі доўгі перапынак быў спадарыні Веры неабходны па яе уласных і сямейных справах, як здараецца ў жыцці кожнага чалавека.

* * *

Мы стварылі духоўны хор, які за 15 год з гакам падараваў людзям каля трох сотняў канцэртаў. Такую працу маглі выканаць нашы харысты без матэрыяльнай падтрымкі дзяржаўных структураў. Хор жыве, спявае на сваёй мове, на якой тысячы год гаварылі нашы продкі, і выконвае Боскае прызначэнне выхоўваць людзей у духу высокіх маральных прынцыпаў.

# *Удзельнікі хору «Бацькаўшчына» за 15 гадоў яго працы*

Ададурава Святлана
Адамчук Кацярына
Альфяровіч Алег
Андрэйчанка Тамара
Амялішка Лілія
Амялішка Міхась
Амяльянчык Антон
Андронава Ірына
Андронаў Кірыл
Апалайка Ірына
Баранава Вікторыя
Барысік Алесь
Барысік Ганна
Барадаўка Наталля
Башко Пётр
Бірыла Кацярына
Брага Зоя
Бублевіч Вольга
Буканава Наталля
Булавіна Наталля
Булаўская Вольга
Быкоўская Вера
Быкоўскі Аляксандр
Быкоўскі Андрэй
Ван Наталля
Ван Аляксандра
Вераб'ёва-Дольская Сафія
Варкулевіч Анатоль
Васіленка Антаніна
Ваўчак Андрэй
Васільчык Марына
Высоцкая Святлана
Галубовіч Таццяна
Галубовіч Ганна
Ганец Лізавета
Гашко Аляксандр
Гашко Зміцер
Гашко Цімафей
Гольга Раман
Данілевіч Галіна
Давідовіч Генадзь
Давыдзенка Ірына
Давыдзенка Надзея
Даўкша Святлана
Ежык Вольга
Емяльянчык Надзея
Еслікова Людміла
Жук Аляксандр
Жыгуліна Ірына
Жынь Кастусь
Завадская Ірына
Завадскі Алег
Закрэўская Ірына
Зароўскі Анатоль
Заяц Алег
Заяц Віталь
Іванчык Ігар
Ігнаценка Аляксандр
Кабярда Слава
Казлова Алена
Казакевіч Антаніна
Каманоўская Алена
Кануннікаў Глеб
Карчагіна Наталля
Каспяровіч Таццяна
Каткова Святлана
Князева Таццяна
Кравец Кацярына
Красоўская Валянціна
Краўчык Таццяна
Краўчык Уладзімір
Крэмко Яраслаў
Кузьмініч Ігар
Кульмачэўская Іна

Кульніс Галіна
Кульціясаў Аляксандр
Кунцэвіч Вера
Кухарава Людміла
Крыжэўскі Генадзь
Лапко Галіна
Лі Ганна
Лышчык Ірына
Майсяёнак Людміла
Макарчык Пётр
Макоўская Галіна
Маліноўская Наталля
Малюкевіч Алег
Маразевіч Святлана
Мармыш Іван
Мароз Дзіма
Міневіч Аляксей
Несцерава Аксана
Нудноў Уладзімір
Палякова Людміла
Палянская Алена
Парманчук Алена
Парфёненка Віктар
Пархімовіч Ала
Петруцы Вольга
Пікаловіч Святлана
Плаўская Галіна
Пракаповіч Святлана
Пякарская Альжбета
Рабрына Наталля
Раманчук Вера
Распапова Алена
Руднік Святлана
Рышкевіч Інга
Саковіч Марыя
Саковіч Сямён
Салама Жанна
Сапажэнкава Таццяна
Седзянеўскі Юры
Сіманава Наталля
Сіткевіч Юры
Слесарчук Міхась
Смірнова Таццяна
Станавоў Андрэй
Станчык Марына
Сяцько Таццяна
Талерчык Аляксандр
Таранда Мікалай
Тарасевіч Юры
Ткацэвіч Алена
Траццяк Ганна
Туйкіна Антаніна
Уфімцава Алена
Ушакова Антаніна
Фамін Віктар
Фамін Уладзімір
Федасюк Алена
Халько Юля
Хартановіч Віктарына
Чайко Юры
Чарнушэвіч Ала
Чарнэль Дзіма
Чучва Ала
Чырыбулка Святлана
Шаўцоў Аляксандар
Шаўцоў Аркадзь
Шапавалава Людміла
Шаставіцкая Ніна
Шчарбакова Вольга
Шчыглінская Таццяна
Эльяшэвіч Тамара
Юхневіч Галіна
Юхневіч Ірына
Ярашэўская Галіна
Ярошына Вера
Ячкоўскі Аляксандр

Пабласлаўлёнае імгненьне

Словы Ю. Сіткевіча Музыка Я. Петрашэвіча

Акорды музыкі духоўнай
Узлятаюць нам у цішы.
Гучыць наш хор і так цудоўна
Бо льецца сьпеў з глыбінь душы.

Паблаславёнае імгненьне,
Як споведзь прад Сьвятым Айцом.
Душы стамлёнай адраджэньне
Інтэлектуальны унісон.

Акорды музыкі духоўнай
Узлятаюць нам у цішы.
Гучыць наш хор і так цудоўна
Бо льецца сьпеў ад ўсёй маёй душы.

# *Змест*

Аўтар шчыра ўдзячны спадарыні **Веры Кунцэвіч**, заснавальніцы хору «Бацькаўшчына», нязменнай мастацкай кіраўніцы яго, за яе бескарыслівую высокакваліфікаваную працу ў якасці мастацкага кіраўніка, за тыя інтэрв'ю, якія ўзбагацілі змест кнігі.

Выказваю падзяку харысту-паэту **Юрыю Сіткевічу** за дапамогу ў рэдагаванні рукапісу гэтай кнігі, за ягоныя вершы, якія аздобілі яе змест, непасрэдна звязаныя з нашым хорам.

Вялікая падзяка харысткам за артыкулы: **Святлане Маразевіч** аб паездцы ў Данію групы хору ў жніўні 2001 года, **Алене Уфімцавай** аб канцэртах у Познані, Обры і ва Уроцлаве ў красавіку 2004 года.

Складаю шчырую падзяку былой удзельніцы хору «Бацькаўшчына» **Надзеі Емяльянчык** за рэдагаванне тэксту і за яе парады ў афармленні кнігі «Гучыць наш хор».

Слушныя заўвагі і дапаўненні зроблены **Вікторыяй Тарасевіч** у раздзеле «Гісторыя ўзнікнення нацыянальнага хору ў Гародні», за што я ёй удзячны.

Шчыра дзякую **Алесю Белакозу**, заслужанаму дзеячу культуры БССР, за ўважлівае прачытанне тэксту гэтай кнігі, заўвагі, рэцэнзію.

Прыношу шчырую падзяку **супрацоўнікам літаратурна-краязнаўчага музею ў Гудзевічах** за заўвагі па ўдасканальванні тэксту рукапісу гэтай кнігі.

Шмат карысных парад зрабілі мне мае сыны **Міхась** і **Андрэй** пры афармленні рукапісу. І асабліва я ўдзячны ім за камп'ютарнае забеспячэнне працы над кнігай.

Прыношу падзяку майму сябру **Сяргею Зылькову** за разнастайную дапамогу па выданні кнігі.

Асабліва ўдзячны кампазітару-паэту **Яўгену Петрашэвічу** за ўсебаковае супрацоўніцтва з хорам.

Пад час стварэння кнігі «Гучыць наш хор» шмат працы ўклалі мае юныя сябры **Юрый Седзянеўскі** і **Алеся Бяленік**, за што я ім бясконца ўдзячны.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Амялішка** Міхась Васільевіч

*Гучыць наш хор*

*Аб дзейнасці Гродзенскага хору
беларускай духоўнай музыкі «Бацькаўшчына»*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Валянціна Аскерка*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Аскерка*

Падпісана да друку 14.10.2009. Фармат 60х84 $^{1}/_{16}$.
Друк на рызографе. Папера афсетная. Гарнітура Times.
Ул.-выд. 10,27 арк. Ум. друк. 10,58 арк.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 900.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні
ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
Ліцэнзія № 02330/0150482 ад 25.02.09.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.